АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА імя ЯКУБА КОЛАСА

# ДЫЯЛЕКТАЛАГІЧНЫ АТЛАС БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

## УСТУПНЫЯ АРТЫКУЛЫ ДАВЕДАЧНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ І КАМЕНТАРЫІ ДА КАРТ

*Пад рэдакцыяй*
*члена-карэспандэнта АН СССР Р. І. Аванесава,*
*акадэміка АН БССР К. К. Крапівы*
*і доктара філалагічных навук Ю. Ф. Мацкевіч*




ВЫДАВЕЦТВА АКАДЭМІІ НАВУК БССР
МІНСК 1963

«Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» змяшчае звесткі, якія дазволяць у радзе выпадкаў па-новаму ставіць і вырашаць складаныя праблемы ўсходнеславянскага і наогул славянскага мовазнаўства. Разам з тым ён з'явіцца верагоднай крыніцай для вывучэння гісторыі і этнаграфіі беларускага народа, высвятлення этнагенезу ўсходніх славян. Акрамя таго, Атлас мае вялікае агульнакультурнае значэнне як багатая скарбніца народнай беларускай мовы, якая захаваецца для будучых пакаленняў.

Атлас беларускіх народных гаворак разлічан на моваведаў-славістаў, аспірантаў і студэнтаў-філолагаў, а таксама на спецыялістаў, якія займаюцца вывучэннем гісторыі, этнаграфіі беларускага народа і этнагенезу ўсходніх славян.


Аўтарскі калектыў:

*Член-карэспандэнт АН СССР Р. І. Аванесаў, доктар філалагічных навук Ю. Ф. Мацкевіч, кандыдаты філалагічных навук А. У. Арашонкава, М. В. Бірыла, Н. Т. Вайтовіч, І. М. Гайдукевіч, А. П. Груцо, А. А. Крывіцкі, А. Р. Мурашка, Я. М. Рамановіч, малодшыя навуковыя супрацоўнікі З. Ф. Краўчанка, А. І. Чабярук, В. М. Шэлег.*

## ПРАДМОВА

«Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» складае неад'емную частку атласаў усходнеславянскіх моў — рускай, украінскай і беларускай. Усходнеславянскія атласы змяшчаюць навуковае абгрунтаванне для пастаноўкі і вырашэння цэлага рада агульных праблем усходнеславянскага і агульнаславянскага мовазнаўства, а таксама прыватных праблем рускай, украінскай і беларускай моў.

Важнае значэнне мае «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» як атлас гаворак заходняй часткі ўсходнеславянскай моўнай тэрыторыі, што мяжуе з іншымі славянскімі і неславянскімі моўнымі тэрыторыямі, паколькі змешчаныя ў ім карты даюць новыя звесткі не толькі аб групоўцы беларускіх гаворак, але і аб іх узаемаадносінах з рускімі, украінскімі і іншымі славянскімі і неславянскімі мовамі. Разам з тым карты атласа з'яўляюцца верагоднай крыніцай для вывучэння гісторыі і этнаграфіі беларускага народа, высвятлення этнагенезу ўсходніх славян.

Атлас складаецца з дзвюх частак. Адна з іх уключае дапаможныя карты (гістарычныя і адміністрацыйныя, якія адносяцца да розных перыядаў гісторыі Беларусі) і 338 лінгвістычных карт, якія адлюстроўваюць моўныя з'явы сучасных беларускіх гаворак у іх тэрытарыяльнай разнастайнасці і ўзаемаадносінах. Гэтыя з'явы адносяцца да ўсіх узроўняў моўнай сістэмы — фанетыкі, флексіі, словаўтварэння, сінтаксісу, лексікі і семантыкі. Другая частка Атласа змяшчае ўступныя артыкулы, даведачныя матэрыялы і бібліяграфію, а таксама каментарыі да лінгвістычных карт.

У Атласе картаграфуюцца матэрыялы 1027 населеных пунктаў. Матэрыялы сабраны ў асноўным на працягу 1950—1955 гг. паводле «Праграмы па вывучэнню беларускіх гаворак і збіранню звестак для складання Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы», выдадзенай у 1950 г.

Побач з супрацоўнікамі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР у гэтай рабоце на працягу дзесяці год прымалі самы актыўны ўдзел выкладчыкі, аспіранты і студэнты філалагічных факультэтаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна і ўсіх педагагічных і былых настаўніцкіх інстытутаў рэспублікі.

Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР выказвае глыбокую падзяку Міністэрству вышэйшай і сярэдняй, спецыяльнай і прафесіянальнай адукацыі БССР, а таксама Міністэрству асветы БССР за вялікую дапамогу, аказаную ў справе арганізацыі ў рэспубліцы масавага і сістэматычнага збірання дыялектных матэрыялаў шляхам прыцягвання да гэтай работы навуковых калектываў Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна, педагагічных і былых настаўніцкіх інстытутаў, якія з'яўляліся непасрэднымі выканаўцамі работы па збіранню фактычных звестак для «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы».

Разам з тым Інстытут мовазнаўства глыбока ўдзячны выкладчыкам універсітэта, педінстытутаў і студэнтам філалагічных факультэтаў, а таксама настаўнікам і ўсім тым, хто прымаў удзел у дыялекталагічных экспедыцыях або даслаў у Інстытут матэрыялы аб мясцовых гаворках па сваёй уласнай ініцыятыве.

Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа выказвае глыбокую падзяку навуковым супрацоўнікам Інстытута рускай мовы Акадэміі навук СССР — В. Г. Арловай, С. У. Брамлей, Л. М. Булатавай, С. С. Высоцкаму, Е. А. Камшылавай, Ф. П. Філіну, А. П. Яўгеньевай, якія сваім багатым вопытам дапамагалі ў разгортванні дыялекталагічнай работы ў рэспубліцы.

Асабліва вялікая дапамога ў падрыхтоўцы Атласа аказана членам-карэспандэнтам АН СССР Р. І. Аванесавым, які, пачынаючы ад складання беларускай Праграмы, на працягу ўсяго паследуючага перыяду ажыццяўляў агульнае навуковае кіраўніцтва работамі па Атласу, падрыхтаваў кадры складальнікаў Атласа і прарабіў выключна вялікую працу па рэдагаванню карт і каментарыяў Атласа. Інстытут мовазнаўства выносіць Рубену Іванавічу Аванесаву глыбокую падзяку.

# ДА ТЭАРЭТЫЧНЫХ ПЫТАННЯЎ ЛІНГВІСТЫЧНАЙ ГЕАГРАФІІ

## 1. УСТУПНЫЯ ЗАЎВАГІ

Лінгвістычная геаграфія, якая ўзнікла ў апошняй чвэрці XIX ст., на працягу XX ст. дасягнула вялікіх поспехаў. За гэты час былі створаны нацыянальныя атласы рада еўрапейскіх моў. Складаліся таксама шматлікія спецыяльныя атласы асобных абмежаваных тэрыторый. За апошняе дзесяцігоддзе зроблены значныя зрухі ў лінгвістычным вывучэнні славянскіх моў. Ва ўсіх славянскіх краінах у цяперашні час праводзіцца работа па складанню нацыянальных атласаў. Вялікая работа вядзецца ў Савецкім Саюзе па дыялекталагічнаму атласу рускай мовы: адна з яго частак — «Атлас русских народных говоров центральных областей к востоку от Москвы» — выйшла з друку ў 1957 г. Складаецца атлас украінскай мовы.

У гэтым выданні публікуецца «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы».

Вядома, што за час свайго існавання паралельна з мовазнаўствам наогул развівалася і лінгвістычная геаграфія.

Сучасныя лінгвістычныя атласы па тым, што і як у іх картаграфуецца, істотна адрозніваюцца ад першых спроб лінгвістычнай геаграфіі, калі картаграфаваліся асобныя словы як назвы таго ці іншага прадмета або з'явы рэчаіснасці, прычым на адной карце адным і тым жа спосабам даваліся словы розных кораняў, іх фанетычныя, марфалагічныя і словаўтваральныя варыянты. Нават у тых выпадках, калі складаліся карты фанетычнага або марфалагічнага характару, гэта звычайна былі карты вымаўлення ці граматычнай формы данага слова. Падагульняючы сказанае, можна канстатаваць, што прадмет картаграфавання раней вызначаўся безадносна да мовы як сістэмы. Фанетыка і марфалогія побач з індывідуальнымі асаблівасцямі гукавога афармлення і ўтварэння граматычных форм вызначаюцца перш за ўсё паслядоўнымі заканамернасцямі моўнай сістэмы, а таксама характарызуюць многія элементы сінтаксічнага ладу мовы.

Істотнае адрозненне сучаснай лінгвістычнай геаграфіі якраз і заключаецца ў тым, што мова разглядаецца як сістэма і што асноўным прадметам картаграфавання з'яўляюцца пэўныя элементы моўнай сістэмы, а іменна тыя, у якіх праяўляецца спецыфіка дыялектнай мовы, інакш — адметныя элементы сістэмы мовы як адзінага цэлага. Апошнія могуць

адносіцца да любога ўзроўню сістэмы данай мовы (фанетычнай сістэмы, флексіі, словаўтварэння, сінтаксічнага ладу, фразеалогіі, лексікі, семантыкі). Займаючы ў ёй рознае месца, яны могуць прадстаўляць асобнае слова, групу граматычна аднародных слоў, а таксама неабмежаваны рад канкрэтных фактаў, што характарызуюць той ці іншы элемент моўнай сістэмы (напрыклад, фанетычнай сістэмы або марфалагічнага ладу).

Адметныя ў тэрытарыяльных адносінах элементы сістэмы мовы ў розных канкрэтных мовах могуць быць больш або менш глыбокімі, яны могуць датычыцца гукавога афармлення адных і тых жа агульных для мовы граматычных катэгорый або закранаць увесь склад граматычных катэгорый, адрозніваецца граматычнымі катэгорыямі і г. д. У залежнасці ад гэтага змяняецца характар атласа ў адносінах да розных моў, а гэта ў сваю чаргу не можа не накласці свайго адбітку на тэорыю лінгвістычнай геаграфіі. У сувязі з гэтым неабходна падкрэсліць, што ніжэй будзе ісці гутарка не аб агульнай тэорыі лінгвістычнай геаграфіі, а толькі аб асноўных пытаннях гэтай тэорыі ў прыстасаванні да беларускага дыялекталагічнага атласа, а таксама да Атласа рускай мовы. Пры гэтым неабходна падкрэсліць, што па сваіх тэарэтычных асновах Атлас беларускай мовы не адрозніваецца ад Атласа рускай мовы. Тэарэтычныя асновы ствараліся на працягу многіх год у працэсе разгортвання работы над атласам рускай, а затым і беларускай мовы. Яны знайшлі сваё адлюстраванне ўжо ў суправаджальных артыкулах да «Программы собирания сведений для составления диалектологического атласа русского языка» (1-е выданне выйшла ў 1945 г.) і ў самой гэтай «Программе», а таксама ў «Праграме па вывучэнню беларускіх гаворак і збіранню звестак для складання Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы», выдадзенай у 1950 г.

Пытанне аб мове як сістэме прыватных сістэм і тэорыі дыялектных адрозненняў на фанетычным матэрыяле было пастаўлена ў артыкуле Р. І. Аванесава «Вопросы фонетической системы русских говоров и литературного языка» (Изв. АН СССР, Отделение литературы и языка, т. VI, вып. 3, 1947). Асноўныя пытанні тэорыі рускага лінгвістычнага атласа адлюстраваны ў яго працы «Очерки русской диалектологии» (ч. I, 1949), дзе паказана сувязь паміж лінгвагеаграфічным вывучэннем мовы і вывучэннем мовы як сістэмы, указана, што ў рускім атласе побач са словам як адзінкавым фактам «картаграфуецца моўная з'ява як цэлае звяно, элемент моўнай сістэмы» (стар. 314), а таксама вызначаецца задача лінгвістычных карт, якая заключаецца ў тым, каб living рознымі графічнымі сродкамі паказаць структурныя сувязі паміж разнаякаснымі агульнымі і прыватнымі з'явамі, што сустрэліся ў картаграфуемых дыялектных фактах (там жа). Нарэшце, больш поўна прынцыпы Атласа былі выкладзены ва ўступных артыкулах да «Атласа русских народных говоров центральных областей к востоку от Москвы».

Больш поўна тэарэтычныя асновы лінгвістычнай геаграфіі вызначаюцца ў спецыяльнай рабоце «Вопросы теории лингвистической географии» пад рэдакцыяй Р. І. Аванесава (Изд. АН СССР, 1962).

## 2. ДА ПЫТАННЯ АБ СТРУКТУРЫ МОВЫ ЯК ЦЭЛАГА

Сучасная беларуская мова, як і іншыя нацыянальныя мовы, па сваёй структуры з'яўляецца вельмі складанай і разнастайнай. У розных сферах свайго ўжывання яна шмат чым адрозніваецца, але ў той жа час заўсёды застаецца самой сабою. Яе асноўныя элементы — літаратурная мова з яе рознымі функцыянальна-стылістычнымі адгалінаваннямі, пісьмовай і вуснай формамі і дыялектная мова ў яе мясцовых разнавіднасцях. Паміж імі знаходзяцца разнастайныя формы народна-дыялектных гаворак, адны з якіх у большай або меншай ступені набліжаюцца да літаратурнай мовы, другія значна адрозніваюцца ад яе.

Нягледзячы на істотныя адрозненні асобных (функцыянальна-стылістычных і тэрытарыяльных) разнавіднасцей беларускай мовы, адначасова мае месца адзінства мовы як адзінага цэлага. Адзінства мовы выяўляецца ў агульнасці рашаючых элементаў граматычнага ладу, рада прынцыповых элементаў фанетычнай сістэмы, так званага асноўнага слоўнікавага фонду — пры наяўнасці больш ці менш істотных спецыфічных адрозненняў ва ўсіх элементах ладу мовы ў розных тэрытарыяльных і функцыянальна-стылістычных разнавіднасцях. Такім чынам, беларуская мова як адзінае цэлае ўтварае не простую суму выдзяляемых з рознага пункту погляду сваіх разнавіднасцей, размежаваных паміж сабою, а сістэму ўзаемапранікаючых разнавіднасцей, кожная з якіх па адных элементах сваёй структуры аб'ядноўваецца з іншымі разнавіднасцямі, а па другіх супрацьстаўляецца ім.

Вывучэнне сучаснай нацыянальнай мовы як складанай структуры, як суіснуючых прыватных сістэм ва ўзаемаадносінах іх адпаведных элементаў яшчэ, можна сказаць, не распачата. Гэта тлумачыцца тым, што паняцце сістэмы мовы звычайна вызначаецца на аснове адной яе адзнакі — сінхроннасці, аднесенасці элементаў да аднаго часу і ў сувязі з гэтым да аднаго калектыву, г. зн. мысліцца велічыня, якая не мае вымярэнняў і заўсёды роўная самой сабе.

Іменна адпаведна такому разуменню сістэмы мовы ў нас распрацаваны паняцці, якія адносяцца да яе — фанетычная або граматычная сістэма, фанема, варыянт фанемы, слова, сінонім, амонім і г. д. Між іншым, кожны дыялектолаг, спецыяліст па літаратурнай мове і гісторыі мовы, кожны, хто вывучае моўны матэрыял, заўсёды сустракаецца з вялікай колькасцю разнаякасных варыянтаў моўнай сістэмы — тэрытарыяльных, стылістычных, часавых. Вядома, што сістэма мовы далёка не заўсёды роўная сабе нават у моўнай дзейнасці адной асобы — яна можа больш або менш адрознівацца ў розных сферах моўных адносін.

Ідэя аб тым, што мова складае сістэму, ёсць, безумоўна, вялікая заваёва сучаснага мовазнаўства, якая ідзе ад часоў І. А. Бадуэна дэ Куртэнэ і Ф. дэ Сасюра. Больш таго, нават само ўяўленне аб сістэме мовы як велічыне, якая не мае вымярэнняў, з'яўляецца надзвычай важным, бо без яе рушылася б сама ідэя сістэмы мовы. Не адпавядаючы непасрэдна і ў поўнай меры рэальна існуючай моўнай сістэме, такое ўяўленне аб сістэме мовы мае вялікае значэнне таму, што яно прадстаў-

ляе сабою як бы ідэальную мадэль моўнай сістэмы, адлюстроўвае яе істотную прымету — наяўнасць заканамерных сувязей паміж асобнымі яе элементамі. Без такога ўяўлення нельга было б зразумець моўную сістэму як больш складаную з'яву, якой яна з'яўляецца ў сапраўднасці.

Такім чынам, сістэма мовы як цэлага не ёсць з'ява, якая не мае вымярэнняў, яна не заўсёды роўная самой сабе, яна — з'ява складаная, «аб'ёмная».

Для лінгвагеаграфічнага вывучэння мовы асноўным аспектам з'яўляецца вывучэнне тэрытарыяльных адрозненняў сістэмы мовы, але пэўнае значэннс маюць таксама функцыянальна-стылістычны і часавы аспекты.

Беларуская дыялектная мова ў яе прасторавай праекцыі — гэта складанае адзінства ў разнастайнасці. У кожным тэрытарыяльным пункце яна мае сваю сістэму. Прыватныя сістэмы дыялектнай мовы ў розных тэрытарыяльных пунктах маюць як рысы, агульныя для іх, так і рысы, якімі яны адрозніваюцца. Пры разглядзе сістэмы дыялектнай мовы на больш або менш шырокай тэрыторыі звычайна выдзяляюцца, з аднаго боку, такія яе часткі, якія характарызуюцца комплексам аднолькавых рыс, з другога — такія, па якіх праходзяць звычайна аднолькавыя межы гэтых суадносных рыс. Такім чынам, у любым тэрытарыяльным пункце дыялектная мова мае сваю сістэму. Аднак граніцы паміж сучаснымі дыялектамі рэдка бываюць граніцамі паміж living рознымі дыялектнымі сістэмамі, а звычайна — гэта больш або менш шырокая паласа рада межаў асобных спецыфічных для гэтых сістэм моўных рыс.

Сістэма беларускай мовы ў яе прасторавай праекцыі ў розных тэрытарыяльных пунктах з'яўляецца тоеснай у адных сваіх звеннях (элементах) і адрозніваецца ў другіх. Гэтыя адметныя ў тэрытарыяльных адносінах элементы сістэмы мовы і з'яўляюцца асноўнымі аб'ектамі вывучэння ў дыялекталогіі і лінгвістычнай геаграфіі.

Істотнымі таксама з'яўляюцца функцыянальна-стылістычныя і часавыя варыянты мовы, але аб іх мы не будзем тут гаварыць, таму што Атлас будуецца на стылістычна нейтральным матэрыяле, які запісаны ад носьбітаў традыцыйнай дыялектнай мовы.

### 3. ТЭРЫТАРЫЯЛЬНАЕ ВАР'ІРАВАННЕ СІСТЭМЫ МОВЫ І ЭЛЕМЕНТЫ ТЭОРЫІ ДЫЯЛЕКТНАГА АДРОЗНЕННЯ

Вывучаючы дыялекты беларускай мовы ў розных пунктах яе пашырэння, сярод адметных рыс перш за ўсё можна заўважыць адны рысы несуадносныя для розных прыватных (дыялектных) сістэм, другія суадносныя. Першыя — гэта такія элементы данай прыватнай (дыялектнай) сістэмы, для якіх у іншых прыватных (дыялектных) сістэмах адсутнічаюць непасрэдныя эквіваленты. Гэта так званыя н е с у п р а ц ь с т а ў л е н ы я   д ы я л е к т н ы я   а д р о з н е н н і. Такія асаблівасці ў большай ступені вядомы лексіцы: у адной з прыватных сістэм ёсць слова са сваім пэўным значэннем, у той час як у іншых прыватных сістэмах адсутнічае як гэта слова, так і іншыя словы ў якасці яго непасрэдных

эквівалентаў. Яны часцей за ўсё, хоць і не заўсёды звязаны са спецыфічнымі з'явамі, якія належаць да матэрыяльнай і духоўнай культуры, да гістарычна склаўшыхся паняццяў і звычаяў, да адрозненняў у прыродных умовах. Так, напрыклад, словы, якія абазначаюць паняцці, звязаныя з лясным промыслам, з абпальваннем вугалю, выганкай дзёгцю, ёсць у гаворках мясцовасцей, багатых лясамі, у той час як у мясцовасцях, дзе няма лясоў, яны адсутнічаюць, таму што ў мове мясцовага насельніцтва няма адпаведных паняццяў.

Несупрацьстаўленыя дыялектныя адрозненні таксама могуць адносіцца да граматычнага ладу, а магчыма, і да фанематычнай сістэмы. Так, калі б адной з прыватных сістэм было ўласціва слова, якое адсутнічае ў другіх, прычым гукавая абалонка гэтага слова ў данай прыватнай сістэме ўключала б у свой склад фанему, якая адсутнічае ў іншых прыватных сістэмах, — перад намі было б несупрацьстаўленае дыялектнае адрозненне фактычнай сістэмы.

У аснове несуадносных адметных рыс, якія ўмоўна называюцца несупрацьстаўленымі дыялектнымі адрозненнямі, ляжыць супрацьстаўленне наяўнасці аднаго моўнага факта або з'явы ў адной прыватнай сістэме адсутнасці адпаведнага факта або з'явы ў другой. У пазалінгвістычным плане (этнаграфічным у шырокім сэнсе) гэтаму супрацьстаўленню, калі яно адносіцца да лексікі, можа адпавядаць супрацьстаўленне наяўнасці або адсутнасці данай рэаліі або паняцця. Параўн., напрыклад, наяўнасць слоў для абазначэння прыстасавання, у якім носяць сена, салому *(рэзгіны, крошні)*, а таксама слоў для абазначэння будынка з печкай для сушкі снапоў *(ёўня, асець)* у адных дыялектах і адсутнасць іх у другіх. Апошняе ў сваю чаргу для адных тэрыторый можа быць абумоўлена рэчаіснасцю (матэрыяльнай культурай, кліматычнымі ўмовамі і г. д.), для другіх такой абумоўленасці можа не быць.

Несуадносныя адметныя рысы, інакш несупрацьстаўленыя дыялектныя адрозненні, у той ступені, у якой яны выяўлены (а яны ў многіх выпадках яшчэ застаюцца невядомымі даследчыку, таму што дыялектолагі, як правіла, не столькі даследавалі прыватныя дыялектныя сістэмы ў суадносінах іх агульных адметных рыс, колькі праводзілі больш-менш выпадковыя назіранні), маюць немалаважнае значэнне для лінгвістычнай геаграфіі. Аднак значна большае значэнне маюць суадносныя адметныя рысы, г. зн. супрацьстаўленыя дыялектныя адрозненні, якія шырока вядомы і могуць адносіцца да кожнага ўзроўню структуры мовы.

Суадносныя адметныя элементы розных прыватных дыялектных сістэм выдзяляюцца іменна як супрацьстаўленыя дзякуючы таму, што яны знаходзяцца ў пэўных заканамерных адносінах адзін да другога, прадстаўляючы сабою тоеснасць у адных адносінах і адрозненні ў другіх. Дзякуючы гэтым суадносінам такія адметныя элементы ўтвараюць тое, што мы адвольна называем адпаведнай з'явай. Апошняе з'яўляецца такім элементам агульнай сістэмы мовы, які ў асобных прыватных сістэмах выступае ў розных сваіх праяўленнях, у розных сваіх членах. Таму суадносная з'ява заўсёды двухчленная або мнагачленная. Пры гэтым

розныя члены адной адпаведнай з'явы ў прынцыпе ўзаемна выключаюцца ў адной прыватнай сістэме і, наадварот, замяняюць адна другую ў розных прыватных сістэмах, утвараючы свайго роду тоеснасць у якіх-небудзь адносінах пры адначасовым адрозненні ў другіх адносінах. Параўн., напрыклад, дыялектныя адрозненні: *вавёрка : белка* (тоеснасць у значэнні пры адрозненні слоў), [z'ед] : [д'ед], [γ ос'ц'] : [γ ос'т'] і інш. (тоеснасць слоў пры неаднолькавым утварэнні фанем [z'], [ц']), *ляда* — высечаны ўчастак лесу, які раскарчоўваецца пад поле; *ляда* — пустазелле ў абмалочаным збожжы; *ляда* — набіліцы ў кроснах (тоеснасць гукавой абалонкі пры розных значэннях), на *с'ц'ан'е* : *на с'ц'аны́* (тоеснасць тыпу скланення і склону пры адрозненні ў фанеме флексіі, якая выражаецца адной фанемай, і таму пры адрозненні ў флексіі).

Аднак практычна розныя члены адной адпаведнай з'явы нярэдка сустракаюцца ў адной прыватнай дыялектнай сістэме. Асабліва характэрна для сучаснай дыялектнай мовы наяўнасць такіх членаў адпаведнай з'явы, адзін з якіх з'яўляецца ва ўласным сэнсе дыялектным, другі ўласцівы літаратурнай мове. З генетычнага пункту погляду — гэта вынік уплыву літаратурнай мовы на сучасную беларускую дыялектную мову на любой тэрыторыі або вынік узаемадзеяння дыялектаў.

З сінхроннага пункту погляду магчыма нейтральнае ўжыванне членаў адпаведнай з'явы ў данай прыватнай сістэме, іх стылістычна і лексічна размежаванае ўжыванне і г. д. Чым шырэй прадстаўлены розныя члены адной адпаведнай з'явы ў адной прыватнай дыялектнай сістэме, тым у большай ступені яна разбураецца. Калі такое іх ужыванне ахоплівае ўсю тэрыторыю, якая картаграфуецца, то ў межах гэтай тэрыторыі адпаведная з'ява паступова страчваецца.

Кожны з суадносных дыялектных варыянтаў прадстаўляе элемент розных прыватных дыялектных сістэм. Сукупнасць гэтых варыянтаў у іх міжсістэмных адносінах утварае адпаведную з'яву як элемент агульнай сістэмы мовы (суперструктуры), якая ўтварае супрацьстаўленае дыялектнае адрозненне.

Як ужо адзначалася вышэй, суадносныя і таму супрацьстаўленыя адметныя элементы розных прыватных дыялектных сістэм як члены адпаведнай з'явы заўсёды прадстаўляюць тоеснасць у адных адносінах і адрозненне ў другіх. Гэта значыць, што адрозненні ў адных якіх-небудзь адносінах выдзяляюцца на базе агульнасці або тоеснасці ў другіх. Члены адпаведнай з'явы таму і з'яўляюцца с у а д н о с н ы м і адрозненнямі, што яны прадстаўляюць сабою featured рознае ў адных адносінах і тое ж у другіх.

Значная частка супрацьстаўленых адметных элементаў выдзяляецца на базе матэрыяльнай агульнасці — гэта можа быць агульнасць слова, каранёвай марфемы, агульнасць словаўтваральнай марфемы, агульнасць флексіі або сістэмы флексій, гэта значыць прыналежнасць да пэўнай парадыгмы. Такім чынам, матэрыяльная агульнасць можа быць зусім канкрэтнай (агульнасць слова) і больш ці менш абстрагаванай (параўн. агульнасць парадыгмы, элементаў сінтаксічнай канструкцыі). Напрыклад, дыялектнае адрозненне *пахаць* «араць» : *пахаць* «бара-

навацъ» выдзяляецца на базе агульнасці слова; яно прадстаўляе сабою адначасова тоеснасць слова ва ўсіх прыватных сістэмах і адрозненні ў значэнні кожнай часткі сістэмы. Дыялектнае адрозненне *ляда* «высечаны ўчастак лесу, які раскарчоўваецца пад поле»: «пустазелле ў абмалочаным збожжы» : «набіліцы ў кроснах» таксама выдзяляецца на базе матэрыяльнай агульнасці слова. Аднак у гэтым выпадку асобныя значэнні, якія ўласцівы розным прыватным дыялектным сістэмам, разышліся ў такой ступені, што не маюць у сучасны момант агульнага семантычнага ядра. Таму з пункту погляду сучасных моўных адносін правільна было б гаварыць не столькі аб агульнасці слова, колькі аб агульнасці гукавой абалонкі розных слоў. На базе агульнасці слова пры адрозненні ў месцы націску выдзяляем дыялектнае адрозненне *вéрба : вярбá*, на базе агульнасці слова пры тым ці іншым адрозненні ў складзе фанем яго гукавой абалонкі выдзяляюцца дыялектныя адрозненні *вострый : гострый; гриб : грыб* і інш. На базе агульнасці слова пры адрозненні ў яго граматычнай характарыстыцы выдзяляюцца дыялектныя адрозненні *мыш* (жан. р.) : *мыш* (мужч. р.) : *мыша*; *яблык : яблыка; цяля (-ё) : цялёнак.* На базе матэрыяльнай агульнасці каранёвай марфемы выдзяляюцца такія, напрыклад, дыялектныя адрозненні, як *аўсянне : аўсянішча : аўсяніска; сталяванне : усталяванне; аблога : адлога; зруб : абруб; стог : стажок.* На базе матэрыяльнай агульнасці слоў выдзяляецца адрозненне ў складзе фанем суфікса **-ух- : -уг-** — *чарнухі : чарнугі.*

Дыялектныя адрозненні, якія адносяцца да фанетычнай сістэмы, выдзяляюцца на базе матэрыяльнай агульнасці не асобнага канкрэтнага слова, а неабмежаванага рада слоў. Параўн., напрыклад, дыялектныя адрозненні [д'] : [z'], [т'] : [ц'] : ([д'ед] : [z'ед], [т'éста] : [ц'éста]); [о́-] — [а̂-] : [а-̂] *(водá, травá : вадá, травá).* У першым выпадку маюцца на ўвазе розныя формы (рознае ўтварэнне) фанем [д], [т] агульнай сістэмы мовы ў асобных прыватных дыялектных сістэмах, у другім выпадку — адрозніванне галосных [о] і [а] ў першым пераднаціскным складзе пасля цвёрдых парных і заднеязычных зычных у адных прыватных сістэмах (оканне) і іх неадрозніванне — наяўнасць толькі галоснага [а] ў другіх (аканне). Прыклады тыпу [д'ед] : [z'ед] або [водá] : [вадá] толькі ілюструюць данае дыялектнае адрозненне, але не ўказваюць на яго аб'ём, які практычна не абмежаваны. Тут трэба адзначыць, што частка гэтых выпадкаў усё ж ужываецца ў адных і тых жа словах (або марфемах), г. зн. што дыялектнае адрозненне выдзяляецца на базе матэрыяльнай агульнасці.

Дыялектныя адрозненні, якія адносяцца да марфалагічнага ладу мовы, выдзяляюцца на базе матэрыяльнай агульнасці асобага роду — прыналежнасці да адной і той жа парадыгмы, г. зн. агульнасці сістэмы флексій. Яны, як і адрозненні, якія адносяцца да фанематычнай сістэмы, носяць абагульняючы характар, ахопліваюць практычна неабмежаваны рад фактаў. Такія securedыялектныя факты, як *аб вадзé : аб вады́; аб спінé : аб спіны́,* толькі ілюструюць дыялектнае адрозненне, але ні ў якай меры не ўказваюць на яго аб'ём, таму што побач з прыведзенымі пры-

кладамі існуюць *аб сястры : аб сястрэ́.* Аднак сутнасць адрозненняў у марфалагічным ладзе мовы не ў формах асобных слоў, не ў агульнасці слоў, а ў агульнасці парадыгмы, у якой выдзяляюцца прыватныя рознадыялектныя адрозненні. Дыялектнае адрозненне тут утвараецца флексіямі меснага склону адзіночнага ліку пэўнай парадыгмы **-ы** : **-е.** У той меры, у якой яно адносіцца да марфалагічнага ладу мовы, яно магло б быць выдзелена і на базе такіх прыкладаў, як *аб сястрэ́ : на вады́* (г. зн. у розных словах).

Калі ж у данай прыватнай сістэме разглядаемая катэгорыя (меснага склону адзіночнага ліку з прыназоўнікам **аб** ад слоў на **-а**) з канчаткам **-е** ўжываецца толькі ад аднаго слова або некалькіх пэўных слоў, а другія словы той жа парадыгмы маюць канчатак **-ы,** то з'ява траціць свой уласна марфалагічны характар і ператвараецца ў лексічную з'яву. Як вядома, лексічныя з'явы бываюць вельмі разнастайныя. У даным выпадку справа зводзіцца да граматычнай характарыстыкі аднаго пэўнага слова (або некалькіх слоў).

Матэрыяльная агульнасць можа быць базай для выдзялення таксама некаторых тыпаў сінтаксічных дыялектных адрозненняў: параўн., напрыклад, такія канструкцыі, як прыназоўнік **паўз** + род. скл. : прыназоўнік **паўз** + він. скл. *(бег паўз саду : бег паўз сад)* або прыназоўнік **аб** + род. скл. : прыназоўнік **аб** + месн. скл. *(забылася аб яго : забылася аб ім).* Або: вышэйшая ступень параўнання + род. скл. : вышэйшая ступень параўнання + прыназоўнік **за** з він. скл. *(саладзей мёду : саладзей за мёд).* У гэтых выпадках назіраецца матэрыяльная агульнасць — агульнасць прыназоўніка **паўз** або **аб** і адрозненні ў кіруемым склоне (родным або вінавальным).

Большая колькасць супрацьстаўленых дыялектных адрозненняў выдзяляецца таксама на базе семантычнай агульнасці. Яны адносяцца перш за ўсё да лексікі — да розных назваў адных і тых жа прадметаў, з'яў, паняццяў. Так, напрыклад, *пятух : певень; белка : вавёрка; хворы : бальны; качка : вутка; лён брацъ : лён рвацъ; холадна : сцюдзёна : зімна; вельмі : дужа : надта.* Гэтыя і падобныя да іх рознадыялектныя суадносныя рады слоў характарызуюцца семантычнай агульнасцю і адрозненнем саміх слоў, у даным выпадку іх гукавой абалонкі.

Неабходна дакладна размяжоўваць даны тып супрацьстаўленых дыялектных адрозненняў ад такіх радоў рознадыялектных слоў, якія характарызуюцца не семантычнай агульнасцю, а агульнасцю функцыянальнай, якія не ўтвараюць адпаведнай з'явы, не валодаюць семантычнай тоеснасцю і ў сувязі з гэтым не з'яўляюцца рознадыялектнымі эквівалентамі. Параўн., напрыклад, *андарак* і *спадніца, ложак* і *калыска, хлеў* і *пуня.*

Гэтыя пары рознадыялектных слоў, як вядома, абазначаюць функцыянальна тоесныя, але рэальна розныя прадметы або такія, якімі адрозніваюцца адзін ад аднаго. У працэсе моўных узаемадзеянняў паміж адпаведнымі гаворкамі (запазычанні або перадачы назваў) і культурнага ўзаемадзеяння паміж іх носьбітамі (запазычанні або перадачы саміх прадметаў) функцыянальная агульнасць на асобных тэрыторыях можа

перарасці ў агульнасць семантычную. Але прынцыпова іх трэба размяжоўваць.

Падобныя словы ўтвараюць несупрацьстаўленыя дыялектныя адрозненні, г. зн. такія, для якіх у плане лінгвістычным існуе супрацьстаўленне наяўнасці слова яго адсутнасці, што абумоўлена наяўнасцю адпаведнага прадмета на адной тэрыторыі і яго адсутнасцю на другой.

Рознадыялектныя словы — члены адпаведнай з'явы, якія маюць семантычную агульнасць, адрозніваюцца сваёй гукавой абалонкай. Адрозненне гукавой абалонкі можа ахопліваць слова ў цэлым (параўн. *пятух : певень*). Іменна гэта характэрна для данага тыпу дыялектных адрозненняў. Аднак яно можа ахопліваць толькі адзін з структурных элементаў эквівалентных адзін другому рознадыялектных слоў, напрыклад суфікс або прэфікс пры тоеснасці каранёвай марфемы. Параўн. *шчыт : зашчыт : зашчыта : зашчытак; коссе : акоссе : касавілна : касавіла : касавідла : касавішча.* У гэтых выпадках суданосіны эквівалентных адзін другому суадносных слоў двухбаковыя: з аднаго боку, тут маем семантычную тоеснасць слоў пры адрозненні ў гукавой абалонцы, з другога боку, што вельмі важна, матэрыяльную агульнасць каранёвай марфемы пры адрозненні ў суфіксацыі або прэфіксацыі.

Як ужо адзначалася вышэй, характар адпаведных з'яў, якія ўтвараюць дыялектнае адрозненне, у залежнасці ад больш ці менш шырокага ахаплення моўных фактаў можа быць даволі разнастайным. Адны з іх ахопліваюць адзінкавы факт — слова, другія — абмежаваныя ў лексіка-граматычных адносінах групы слоў, трэція — прынцыпова неабмежаваны рад фактаў, якія ўтвараюць суцэльныя звенні або элементы моўнай сістэмы. Напрыклад, наступныя адпаведныя з'явы ахопліваюць адно слова ў кожнай з прыватных дыялектных сістэм — *вутка : качка; кузнец : каваль* (розныя назвы аднаго прадмета), *ляда* «высечаны ўчастак лесу, які раскарчоўваецца пад поле» : «пустазелле ў абмалочаным збожжы» : «набіліцы ў кроснах» (розныя значэнні аднаго слова або ва ўсякім выпадку аднаго гукавога комплексу), *вон : ён; вострьі : гострьі; гриб : грыб* (рознае ў складзе фанем аднаго слова); *рашчы́на : ро́шчына; ве́рба : вярба́* (адрозненні ў месцы націску аднаго слова). Прыкладам адпаведнай з'явы процілеглага тыпу, які ахоплівае прынцыпова неабмежаваны рад фактаў, можа служыць аканне недысімілятыўнае : аканне дысімілятыўнае ў першым пераднаціскным складзе пасля цвёрдых парных і заднеязычных. Адрозненні гэтых тыпаў акання заключаюцца ў тым, што ў адпаведнасці з націскнымі [о] і [а] ва ўказаным палажэнні перад націскным [а] пры недысімілятыўным аканні вымаўляецца [а], а пры дысімілятыўным — [ъ]. Параўн.: [вада́] : [въда́], [наγа́] : [нъγа́], [трава́] : [тръва́], [стайа́ў] : [стъйа́ў]. Аднак гэтыя прыклады толькі ілюструюць адпаведную з'яву, але не ўказваюць на яе аб'ём, не вычэрпваюць яе. Сутнасць гэтай з'явы ў тым, што ў адпаведнасці з націскнымі [о] і [а] ў першым складзе перад націскам пасля цвёрдых парных і заднеязычных у л ю б ы м с л о в е перад націскным [а́] пры недысімілятыўным аканні вымаўляецца [а], а пры дысімілятыўным — [ъ].

Вышэй ужо было адзначана, што адпаведная з'ява, якая ўтварае супрацьстаўленае дыялектнае адрозненне, заўсёды двухчленная або мнагачленная. Адно і тое ж дыялектнае адрозненне ў больш вузкіх тэрытарыяльных межах можа быць двухчленным, а ў больш шырокіх — мнагачленным. Прыкладамі двухчленных і мнагачленных дыялектных адрозненняў могуць служыць — *вавёрка : белка; пасаг : пасага; вельмі : надта : дужа; холадна (халодна) : сцюдзёна : зімна; оканне : аканне* ў першым складзе перад націскам пасля цвёрдых парных і заднеязычных і г. д.

Характар адпаведных з'яў адрозніваецца ў залежнасці ад таго, што прадстаўляюць сабою яе члены — з'яву простую або — хоць бы адзін з іх — складаную. Члены простай адпаведнай з'явы не маюць вымярэнняў, кожная з іх з'яўляецца як бы пунктам у сістэме мовы. Параўн., напрыклад: *пятух : певень : кабан; вéсела : вясёла; пахаць* «араць» : *пахаць* «баранаваць» і г. д. Наадварот, калі нават адзін з членаў складанай адпаведнай з'явы прадстаўляе сабою нешта складанае, якое мае вымярэнні, само ўтварае сістэму, то перад намі будзе складаная адпаведная з'ява. Напрыклад, адзін з членаў такой адпаведнай з'явы, як «аканне недысімілятыўнае : аканне дысімілятыўнае ў першым складзе перад націскам пасля цвёрдых парных зычных і заднеязычных», а іменна дысімілятыўнае аканне складае сістэму: пры дысімілятыўным аканні вымаўляецца галосны [а] пры кожным націскным галосным, акрамя націскнога [а], і галосны [ъ] пры націскным галосным [а], г. зн. мае месца пазіцыйнае чаргаванне [а] з не-**а** ў залежнасці ад якасці націскнога складу. Аканне недысімілятыўнае прадстаўляе сабою з'яву простую («пункт» у сістэме мовы) — галосны [а] ў першым складзе перад націскам пры любым націскным галосным. Формулу гэтай адпаведнай з'явы можна абазначыць наступным чынам: [а́-] || [ъ́-] : [а́-]. У такіх выпадках дыялектным адрозненнем з'яўляецца не проста вымаўленне [въдá] або [вадá], а цэлая сістэма: [въдá] пры [baz'é], [вады́] і г. д. або [вадá], [вады́], [baz'é] і г. д. Да складаных адносіцца таксама адпаведная з'ява, як *бáц'ка — без бáц'к'и : бáц'ко — без бáц'ка*, кожны з членаў якой утварае пэўную сістэму — асобную парадыгму. Тут таксама дыялектным адрозненнем з'яўляецца не адна са склонавых форм сама па сабе, а сістэма ў цэлым — парадыгма.

Нарэшце, характар адпаведнай з'явы можа адрознівацца ў залежнасці ад таго, супрацьстаўлены яго члены ў адным плане або ў некалькіх розных планах, інакш — ці з'яўляюцца яны аднапланавымі або мнагапланавымі. У першым выпадку члены адпаведнай з'явы могуць быць пастаўлены ў адзін рад, таму што кожны з іх у роўнай меры супрацьстаўляецца ўсім астатнім. У другім выпадку члены адпаведнай з'явы не могуць быць пастаўлены ў адзін рад, таму што некаторыя з іх аб'ядноўваюцца па той ці іншай прымеце, а разам узятыя супрацьстаўляюцца іншым. Прыкладамі аднапланавай адпаведнасці могуць быць оканне : аканне (недысімілятыўнае) у першым складзе перад націскам пасля цвёрдых парных і заднеязычных або аканне недысімілятыўнае : аканне дысімілятыўнае пасля тых жа зычных. Абедзве гэтыя адпаведныя з'явы,

узятыя разам у іх сувязях, утвараюць мнагапланавую адпаведную з'яву, бо кожны з трох яе членаў не можа быць у аднолькавай ступені супрацьстаўленым двум астатнім: оканне як адрозненне галосных [о] і [а] ў першым складзе перад націскам пасля ўказаных зычных супрацьстаўляецца аканню наогул як неадрозніванню ўказаных галосных у тым жа становішчы, а ў сваю чаргу пры аканні супрацьстаўляецца недысімілятыўнае аканне дысімілятыўнаму: оканне : аканне (недысімілятыўнае : : дысімілятыўнае). У гэтым выпадку ў наяўнасці паслядоўнае чляненне — больш агульнае супрацьстаўленне (першай ступені) і больш прыватнае супрацьстаўленне (другой ступені).

Схема такой адпаведнай з'явы можа быць прадстаўлена наступным чынам:




У іншых выпадках у мнагапланавай адпаведнай з'яве ёсць розныя планы супрацьстаўлення, якія не могуць быць пастаўлены ў адзін рад, але адсутнічаюць больш агульныя і прыватныя супрацьстаўленні, асобныя планы як бы перакрыжоўваюцца. Так, напрыклад, доўгі шыпячы глухі зычны ў рускіх гаворках адрозніваецца мяккасцю-цвёрдасцю і наяўнасцю або адсутнасцю выбухнога элемента (параўн. [ш̅'ўка], [ш̅ўка], [ш'ч'ўка], [шчўка]). Перад намі мнагапланавая адпаведная з'ява, аднак адсутнічаюць больш агульны і прыватны планы (супрацьстаўленне першай і другой ступеней): гэта мнагапланавая адпаведная з'ява з перакрыжаванымі членамі:




## 4. СТРУКТУРА ДЫЯЛЕКТНАЙ МОВЫ І ЛІНГВІСТЫЧНЫЯ КАРТЫ

Аб'ектам картаграфавання ў «Дыялекталагічным атласе беларускай мовы» ў прынцыпе з'яўляецца не адвольна ўзяты моўны факт, на які па тых або іншых прычынах звярнуў увагу даследчык, а дыялектнае адрозненне, характар і аб'ём якога, а таксама месца ў структуры мовы аб'ектыўныя, не залежаць ад даследчыка і вызначаюцца самой данай мовай на даным этапе яе развіцця. У практыцы складання карт «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» адхіленні ад гэтага палажэння носяць непрынцыповы характар і тлумачацца галоўным чынам недастатковасцю матэрыялу, а ў асобных выпадках недастаткова высокай яго якасцю.

Аб'ектам лінгвістычнага картаграфавання з'яўляецца кожнае дыялектнае адрозненне незалежна ад таго, да якога ўзроўню сістэмы мовы (фанематычнай сістэмы, граматычнага ладу, слоўнікавага саставу) яно

адносіцца, а таксама незалежна ад таго, ахоплівае яно адзінкавы факт, групу такіх фактаў або неабмежаваны іх рад.

Істотнай асаблівасцю гэтага Атласа з'яўляецца спроба адлюстраваць на картах разнаякасныя структурныя адносіны паміж варыянтамі картаграфуемай з'явы. Вядома, што мова з'яўляецца складаным цэлым, асобныя бакі яе развіваюцца ў цеснай сувязі адзін з другім, і таму іх нельга зразумець ізалявана, у адрыве адзін ад другога. Кожны асобны дыялектны факт з'яўляецца, можна сказаць, лініяй перасячэння рада разнаякасных з'яў — фанетычных, граматычных, лексічных. Пры гэтым адны з іх знутры не звязаны адно з другім, не абмежаваны пэўным кругам фактаў, другія, наадварот, звязаны і ахопліваюць адзін і той жа круг фактаў. Параўн., напрыклад, асабовыя формы дзеясловаў II спражэння з рухомым націскам і асновай на зубныя і губныя зычныя *(прыносіць, прывозіць, завозіць, карміць* і інш.). У дыялектах сустракаюцца формы з чаргаваннем зычных асновы ([с'] || [ш], [з'] || [ж], [д] || [дж] і г. д.) з рухомым або нерухомым націскам на аснове: [прынашу́], [прываджу́], [заваджу́]; [прыношу́], [прывожу́], [заводжу́]; [прынас'у́], [прываз'у́], [завад'у́]; [прынос'у́], [прывоз'у́], [завод'у́], [прыно́с'у], [прыво́з'у], [заво́д'у]. Пры націску на канчатку ў першым складзе перад націскам можа быць аканне або оканне. Аднак гэта з'ява адлюстроўвае заканамернасць фанематычнай сістэмы і не мае ніякіх адносін да гэтых дзеяслоўных форм; пры аканні вымаўляецца не толькі [прыважу́] або [прываз'у́] і інш., але таксама [маγу́], [сталы́], [дамо́ў], [хаz'и́ц'] і інш.

Пры оканні таксама вымаўляецца не толькі [прывожу́] або [прывоз'у́], але і [моγу́], [столы́], [домо́ў], [ход'и́т'] і інш. Такім чынам, аканне-оканне ахоплівае значна большы круг фактаў, чым даная група дзеясловаў, у якіх ёсць адрозненні па месцы націску і наяўнасці або адсутнасці чаргавання зычных у асабовых формах. Разам з тым гэтыя адрозненні на месцы націску і наяўнасці або адсутнасці чаргавання зычных у асабовых формах прыведзеных дзеясловаў могуць быць таксама ў дзеясловах, у якіх не адрозніваецца аканне-оканне, бо ў іх адсутнічае адпаведны галосны ў пераднаціскным складзе. Параўн., напрыклад, дзеясловы таго ж тыпу з пераднаціскным **у**: [купл'у́], [ку́пл'у], [куп'у́], [ку́п'у]; [пушчу́], [пуст'у́], [пу́с'т'у]. Важна тое, што адрозненні па месцы націску і наяўнасці або адсутнасці чаргавання зычных у аснове маюць месца ў адных і тых жа дзеясловах II спражэння з рухомым націскам у асабовых формах у частцы гаворак. Паколькі аканне-оканне не мае адносін да гэтых дзеясловаў, то, натуральна, яно не прымаецца пад увагу пры картаграфаванні іх асабовых форм. З другога боку, паколькі наяўнасць ці адсутнасць чаргавання зычных і адрозненні па месцы націску ахопліваюць адны і тыя ж дзеясловы і, акрамя таго, могуць быць структурна звязаны, то гэтыя з'явы картаграфуюцца на адной карце. Аднак яны прадстаўляюць сабою разнаякасныя з'явы і таму супрацьстаўляюцца на карце не аднalінейна, у адным радзе, а з улікам іх структурных сувязей. У гэтым і падобных выпадках робіцца спроба паказаць на карце рознымі графічнымі сродкамі іерархію супрацьстаўленняў, мнагапланавасць структурных сувязей варыянтаў з'явы, якая картаграфуецца, калі рознымі фігу-

рамі ў нашым прыкладзе паказваецца наяўнасць або адсутнасць чаргавання зычных [прывóжу], [прывоз'ý], то адрозненні па месцы націску [прыводжý], [прывaжý] : [прывóджу] паказваюцца розным колерам.

Такім чынам, на картах Атласа робіцца спроба, калі так можна сказаць, разблытаць клубок якасна розных элементаў структуры мовы, на лініі перакрыжавання якіх утварылася картаграфуемая з'ява, рознымі графічнымі сродкамі паказаць якасна розныя сувязі картаграфуемых варыянтаў.

## 5. СТРУКТУРА ДЫЯЛЕКТНАЙ МОВЫ І ПЫТАННЕ АБ ІНТЭРПРЭТАЦЫІ ДАНЫХ ЛІНГВІСТЫЧНАЙ ГЕАГРАФІІ

Выходным палажэннем для інтэрпрэтацыі даных лінгвістычнай геаграфіі з'яўляецца той факт, што сучасная дыялектная мова і сучасныя межы дыялектных з'яў прадстаўляюць сабою не непасрэдны прадукт тых больш старажытных эпох, калі яны ўтварыліся — нярэдка пасля неаднаразовых перагруповак у выніку працэсу моўнай дыферэнцыяцыі, але перш за ўсё прадукт перажытых у пазнейшую эпоху развіцця нацыянальнай мовы працэсаў нівеліроўкі дыялектаў, частковай іх інтэграцыі, уздзеяння нармалізаванай формы нацыянальнай мовы — беларускай літаратурнай мовы, а ў некаторых выпадках таксама рускай і польскай моў. У выніку гэтых пазнейшых працэсаў старыя межы дыялектных з'яў вельмі часта аказваюцца ў той ці іншай ступені «размытымі», «сцёртымі». Таму задача даследчыка заключаецца ў тым, каб, наколькі гэта магчыма, «зняць» гэтыя пазнейшыя наслаенні. Яе можна вырашыць толькі ў тым выпадку, калі даныя лінгвістычнай геаграфіі будуць вывучацца ў цеснай сувязі з данымі ўнутранай гісторыі моўных з'яў, з аднаго боку, і гісторыі саміх носьбітаў гэтых з'яў — народа, з другога.

Для інтэрпрэтацыі даных лінгвістычнай геаграфіі важнае значэнне мае той факт, што ў адносінах да гістарычнага развіцця структуры мовы адзін з членаў адпаведнай з'явы, якая складае дыялектнае адрозненне, звычайна прадстаўляе сабою захаванне старыны (архаізм), а другі (ці другія) — рысу новую (новаўтварэнне ці запазычанне). Адзін з членаў дыялектнага адрознення можа ўзыходзіць да глыбокай старажытнасці, але дыялектнае адрозненне як такое паяўляецца толькі ў тым выпадку, калі побач з ім на другой тэрыторыі паяўляецца другі член, які з'яўляецца новаўтварэннем. Напрыклад, форма *маці* ўзыходзіць да праславяншчыны, а дыялектныя адрозненні [*маці*] : [*маць*] : [*матка*] — да той адносна позняй эпохі гісторыі беларускай мовы, калі паявіліся дзве іншыя формы назоўнага склону адзіночнага ліку гэтага слова. Слова *гной* таксама з'яўляецца праславянскім па паходжанню, а дыялектнае адрозненне *гной : навоз* паявілася толькі тады, калі ў частцы ўсходнеславянскіх дыялектаў слова *гной* было заменена словам *навоз* (або ўжывалася побач са словам *навоз*). Адрозненне галосных няверхняга пад'ёму ў ненаціскных складах ёсць рыса праславянская, а оканне ў паўднёва-заходніх гаворках беларускай мовы як рыса, супрацьстаўленая аканню

ў астатняй частцы гаворак, і адпаведная з'ява оканне: аканне паявілася толькі ў тую адносна познюю эпоху гісторыі беларускай мовы, калі на частцы яе тэрыторыі ненаціскныя галосныя няверхняга пад'ёму супалі.

Для інтэрпрэтацыі даных лінгвістычнай геаграфіі не менш важны і той факт, што ў познія эпохі гісторыі мовы ў працэсе фарміравання норм нацыянальнай мовы адзін з членаў адпаведнай з'явы ў процілегласць астатнім можа аказацца ў складзе гэтых норм, і тады ён паступова перастае быць уласна дыялектнай рысай. Натуральна, што яго тэрыторыя па меры таго, як ён умацоўваецца ў якасці нормы нацыянальнай мовы, мае тэндэнцыю да расшырэння. Так, напрыклад, расшыралася тэрыторыя акання, замяняючы сабою оканне, якое, функцыяніруючы ў якасці чыста дыялектнай рысы, паступова звужвалася ў сваім тэрытарыяльным распаўсюджанні.

Трэба мець на ўвазе таксама і тое, што тэрытарыяльныя межы моўных з'яў, якія адносяцца да розных узроўняў сістэмы мовы — да фанетычнай сістэмы, марфалагічнага ладу, сінтаксічных пабудоў, слоўнікавага саставу — нярэдка вельмі адрозніваюцца. Яны могуць адлюстроўваць розныя эпохі — ад часу паяўлення адпаведнага дыялектнага адрознення да часу набыцця ім сучаснага тэрытарыяльнага распаўсюджання. Асабліва адрозніваюцца межы з'яў, якія адносяцца да фанетычнай сістэмы і граматычнага ладу, з аднаго боку, і лексікі, з другога. Высвятляецца, што для гісторыі ўтварэння асноўных беларускіх дыялектных масіваў першыя маюць большае значэнне. Межы лексічных з'яў часта больш дробныя і не супадаюць, а нярэдка перакрываюць межы фанетычных і граматычных з'яў. У той жа час яны могуць захоўваць вельмі архаічныя рысы, у чым заключаецца іх своеасаблівая цікавасць.

Як вядома, лінгвісты адрозніваюць узнікненне моўнай з'явы на пэўнай тэрыторыі, яе далейшае распаўсюджанне. Аднак апошняе далёка не заўсёды (у адносінах да з'яў фанетычнай сістэмы і граматычнага ладу) з'яўляецца механічным працэсам запазычання, «міграцыі» слоў і форм, для фанетычных з'яў — простай заменай гукаў. У блізкіх дыялектах, якімі з'яўляюцца беларускія дыялекты, яно часцей за ўсё прадстаўляе сабою складаны арганічны ўнутраны працэс. Само распаўсюджанне моўнай з'явы, асабліва фанетычнай і марфалагічнай, на тэрыторыі блізкіх дыялектаў сведчыць аб іх структуры і тым самым аб наяўнасці ўмоў для ўнутранага развіцця адпаведных з'яў. Структурныя адрозненні данай з'явы (напрыклад, тыпы якання, розныя галосныя ў адпаведнасці з фанемай [ê] тых гаворак, якім яна вядома) у адных выпадках сведчаць аб разначасавасці яе паяўлення, аб розных этапах яе развіцця, у другіх — аб існаванні ў сістэме розных дыялектаў больш старых адрозненняў, якія адносяцца да часу, што папярэднічае ўзнікненню данай з'явы, і якія наклалі свой адбітак на гэту з'яву. Адсутнасць структурных адрозненняў на вялікай тэрыторыі не заўсёды сведчыць аб узнікненні з'явы на ўсёй гэтай тэрыторыі, таму што іншы раз структурная тоеснасць можа аказацца вынікам якасна розных працэсаў, якія адносяцца да розных часоў.

З усяго сказанага вынікае, што характар ізаглосы, яе канфігурацыя, лінгвістычны «ландшафт» самі па сабе яшчэ не тлумачаць гісторыі з'явы, бо адзін і той жа «ландшафт» можа паявіцца рознымі шляхамі, у выніку розных працэсаў і пры розных гістарычных умовах. Ізаглоса ёсць вынік усяго пройдзенага данай мовай гістарычнага шляху развіцця. Таму простае супастаўленне ізаглос з гістарычнымі і этнаграфічнымі картамі таго ці іншага перыяду далёка не заўсёды можа дапамагчы высвятленню гісторыі адпаведных з'яў. Інакш кажучы, з лінгвістычных карт нельга непасрэдна вывесці гісторыю моўных з'яў і дыялектаў. Аднак лінгвістычная геаграфія аказваецца надзвычай важнай для гісторыі мовы і гістарычнай дыялекталогіі і можа дапамагчы вызначэнню шляху развіцця данай з'явы, часу яе ўзнікнення, першапачатковай тэрыторыі яе распаўсюджання, калі адначасова з тэрытарыяльным распаўсюджаннем моўнай з'явы вывучаецца ўнутраная гісторыя данай з'явы ва ўсіх яе разнавіднасцях, улічваецца адносная храналогія моўных з'яў, выкарыстоўваюцца даныя мовы пісьмовых помнікаў — і ўсе гэтыя моўныя даныя супастаўляюцца з данымі гісторыі, матэрыяльнай культуры, гістарычнай геаграфіі, археалогіі розных эпох.

### 6. СТРУКТУРА ДЫЯЛЕКТНАЙ МОВЫ І ПРАБЛЕМА ВЫДЗЯЛЕННЯ МОЎ І ДЫЯЛЕКТАЎ

Структура дыялектнай мовы ў розных пунктах яе тэрытарыяльнага распаўсюджання вар'іруецца, уключаючы ў сябе адметныя і агульныя рысы. Суадносіны тых і другіх і характар адметных рыс могуць быць вельмі рознымі, у сувязі з чым на адным полюсе могуць канстатаваць адзіную складаную сістэму (сістэму прыватных сістэм, суперсістэму), якая мае адметныя элементы, на другім — розныя сістэмы, якія маюць агульныя элементы (напрыклад, у групе блізкіх моў). Гэта размежаванне не супадае з размежаваннем канкрэтнай мовы, з аднаго боку, і групы блізкіх моў, з другога. Магчымы розныя мовы, якім уласціва адна складаная сістэма, што мае адметныя элементы. Ёсць таксама мовы, дыялектам якіх уласцівы розныя сістэмы, што маюць агульныя элементы (напрыклад, многія каўказскія мовы). Магчымы і шматлікія прамежкавыя ступені, калі цяжка ўстанавіць,— маем мы справу з адной складанай сістэмай, якая мае адметныя элементы, ці з рознымі сістэмамі, якім уласцівы агульныя элементы. Між іншым, гэта размежаванне практычна з'яўляецца не такім ужо істотным: важна вызначыць удзельную вагу агульных і адметных элементаў сістэмы мовы на розных тэрыторыях.

Выстаўляючы гэтыя палажэнні, трэба падкрэсліць неабходнасць размежавання двух аспектаў дыялекталагічных даследаванняў — даследаванняў структуры дыялектнай мовы і выдзялення дыялектаў і блізкіх моў. Першы з іх датычыць пытання аб сістэме мовы ў яе тэрытарыяльным вар'іраванні, і толькі другі — ва ўласным сэнсе датычыць пытання аб выдзяленні моў і дыялектаў. Лінгвістычная геаграфія мае справу з тэрытарыяльнымі варыянтамі стылістычна нейтральнай мовы ў яе не-

пісьменных формах. Да якога дыялекта (а ў іншых выпадках нават да якой мовы) адносіцца жывая мова ў даным населеным пункце, для яе не мае істотнага значэння. Для лінгвістычнай геаграфіі важна выдзяленне тых элементаў сістэмы мясцовай мовы, якія аб'ядноўваюць або супрацьстаўляюць яе мясцовай мове ў іншых населеных пунктах.

Што датычыць пытання аб дыялектным чляненні мовы і аб выдзяленні блізкіх моў, то яно не вырашаецца непасрэдна структурнай агульнасцю ці адрозненнямі або толькі структурнай супольнасцю ці адрозненнямі (хоць, бясспрэчна, мовы наогул маюць паміж сабою больш структурных адрозненняў, чым дыялекты, а апошнія больш, чым іх больш дробныя дзяленні — паўдыялекты і гаворкі).

Этнічная і нацыянальная самасвядомасць, гісторыка-культурная арыентацыя, для якіх побач з іншымі адзнакамі мае значэнне і адзнака агульнасці ці адрозненне ў мове, абслугоўванне данай тэрыторыі адзінай літаратурнай мовай ці рознымі літаратурнымі мовамі — усё гэта мае вялікае значэнне для выдзялення блізкіх моў і вялікіх тэрытарыяльна-моўных масіваў унутры іх (дыялектаў).

Практычна гэтыя масівы звычайна выдзяляюцца самімі носьбітамі мовы незалежна ад іх навуковага вывучэння і да часу такога вывучэння. Здавалася б, што прынцыпова не з практычна вядомых дыялектных масіваў трэба выводзіць іх моўныя асаблівасці, а хутчэй, наадварот, з высвятлення спецыфікі дыялектнай мовы на розных тэрыторыях трэба выводзіць адпаведныя дыялектныя і тэрытарыяльныя масівы. Апошнія часта выдзяляюцца пэўнымі моўнымі рысамі. Таму можна гаварыць і аб пэўных характэрных рысах таго ці іншага дыялекта. Аднак да гэтага пытання трэба падыходзіць надзвычай асцярожна, таму што рысы, якімі адрозніваецца сістэма мовы ў розных населеных пунктах, могуць быць распаўсюджаны ў тэрытарыяльных адносінах вельмі разнастайна, у розных напрамках, адлюстроўваючы розныя моўныя і сацыяльна-гістарычныя працэсы, якія адносяцца да розных эпох. Таму задача заключаецца ў тым, каб выбраць такія адметныя рысы для выдзялення дыялектаў, якія ў найбольшай ступені адпавядалі б адрозненням у матэрыяльнай і духоўнай культуры, адрозненням этнічным і сацыяльна-гістарычным, адрозненням у гісторыі народа, у пройдзеным ім гістарычным шляху на розных тэрыторыях. Падкрэслім, што калі размова ідзе аб выбары моўных рыс, на аснове якіх будзе праводзіцца выдзяленне або групоўка дыялектаў, то гэта азначае, што выдзяленне або групоўка дыялектаў праводзіцца не толькі на аснове структурнай агульнасці і адрозненняў.

Пытанне аб выдзяленні беларускіх дыялектаў і іх групоўцы, а таксама аб выдзяленні больш дробных дыялектных адзінак беларускай мовы будзе распрацоўвацца ў асобнай рабоце на аснове зводных лінгвістычных карт (карт ізаглос).

---

# З ГІСТОРЫІ РАСПРАЦОЎКІ ЛІНГВІСТЫЧНАЙ ГЕАГРАФІІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

## 1. БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯЛЕКТАЛОГІЯ І ЛІНГВІСТЫЧНАЯ ГЕАГРАФІЯ К ПАЧАТКУ ПРАЦЫ НАД „ДЫЯЛЕКТАЛАГІЧНЫМ АТЛАСАМ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ“

Беларуская дыялекталогія прайшла доўгі шлях свайго развіцця. Пачынаючы ўжо з першых гадоў XIX ст. этнографы апісвалі народны быт беларусаў, запісвалі тэксты песень, у якіх адлюстроўваліся рысы гаворак розных мясцовасцей Беларусі. Праўда, колькасць гэтых рыс была вельмі нязначная, але ў пэўнай ступені яны даюць уяўленне аб той ці іншай гаворцы. Да такіх запісаў можна аднесці запіс песні в. Гайна Барысаўскага павета, зроблен І. Шыдлоўскім у 1800—1802 г. [1], запісы Я. Чачота [2], П. Кушына [3] і інш.

Больш інтэнсіўнае збіранне фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў адзначаецца ў другой палавіне XIX ст., калі абуджаецца агульная цікавасць да так званага Заходнярускага краю. Паяўляюцца зборнікі, куды ўключаюцца песні, прыказкі і прымаўкі, казкі, апавяданні. У 1866 г. выходзіць з друку першы вялікі фальклорны зборнік (300 старонак) «Памятников народного творчества в Северо-Западном крае», дзе адлюстравана жывое вымаўленне носьбітаў беларускіх гаворак, у асноўным б. Гродзенскай губерні. У наступныя гады паяўляецца цэлы рад зборнікаў, часам шматтомных: П. М. Шпілеўскага «Белоруссия в характеристических описаниях и фантастических поверьях» [4], П. Гільтэбранта «Сборник памятников народного творчества в Северо-Западном крае» [5], П. П. Чубінскага «Труды этнографическо-статистической экспедиции в Западнорусский край. Материалы и исследования», т. III [6], П. В. Шэйна «Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края» [7], Е. Р. Раманава «Белорусский сборник» [8], З. Радченко «Гомельские народные песни (белорусские и малорусские)» [9] і інш.

---

[1] Tygodnik Wileński, t. VII, 1819.

[2] J. Czeczot. Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny, niektóre przysłowia i idiotyzmy w mowie sławianokrewickiej, z spostrzeżeniami nad nią uczynionemi. Wilno, 1840.

[3] П. Кушын. Гецыки. Москвитянин, 1843, № 8.

[4] Пантеон, т. XXV, кн. I, № 3, СПб., 1856.

[5] Вильна, 1866.

[6] СПб., 1872.

[7] Тт. I—IV, СПб., 1887—1902.

[8] Тт. 1—10, 1880—1925.

[9] Записки Русского географического общества по Отд. этногр., т. XIII, вып. II, СПб., 1888.

Лінгвістычны бок гэтых зборнікаў меў вялікае значэнне ў працэсе далейшага вывучэння беларускіх дыялектаў. На фальклорна-этнаграфічным матэрыяле пачынаюць ствараецца больш ці менш грунтоўныя апісанні асобных гаворак. Так, напрыклад, артыкул П. Шастакова «Смоленский говор»[1] прысвячаецца апісанню некаторых асаблівасцей беларускіх гаворак б. Смаленскай губерні; у артыкуле Н. Анімеле «Быт белорусских крестьян»[2] разглядаюцца асаблівасці мовы жыхароў б. Суражскага, Полацкага, Лепельскага, Дрысенскага паветаў. У рабоце Шпілеўскага «Путешествие по Полесью и Белорусскому краю»[3] характарызуюцца асаблівасці мясцовых гаворак. У гэтых работах разглядаліся найбольш характэрныя з'явы гаворкі. Пытанне ж тэрытарыяльнай мяжы дыялектных масіваў беларускай мовы тут зусім не закраналася.

Першы вопыт сінтэзу сабранага дыялектнага матэрыялу і размеркавання яго па губернях і паветах належыць А. І. Сабалеўскаму. У рэцэнзіі на працу І. Нядзёшава «Исторический обзор важнейших звуковых и морфологических особенностей белорусских говоров» заўважаецца, што беларускія гаворкі, хоць яны і мала вывучаны, можна падзяліць на дзве групы: адна, большая, не ведае мены **ц** і **ч**, другая мяняе гэтыя гукі[4]. Такі ж падзел беларускіх гаворак прапануецца ім і ў рэцэнзіі на працу Я. Ф. Карскага «Обзор звуков и форм белорусской речи»[5].

У пачатку 90-х гадоў XIX ст. выходзіць з друку грунтоўнае даследаванне А. І. Сабалеўскага «Очерк русской диалектологии»[6], дзе распрацоўваюцца пытанні дыялекталогіі рускай, беларускай і ўкраінскай моў. Тут, як і ў папярэдніх артыкулах, быў прапанаваны падзел беларускіх гаворак па характару мены гукаў **ц** і **ч** на цокаючыя і няцокаючыя. Аднак, паклаўшы ў аснову падзелу архаічную рысу — мену **ц** і **ч**, Сабалеўскі не ўлічыў таго, што гэта з'ява не адыгрывае колькі-небудзь значнай ролі ў фанетычнай сістэме гаворак беларускай мовы. Зразумела, цоканне на тэрыторыі поўначы Беларусі ў XIX ст. магло быць распаўсюджана шырэй, чым у цяперашні час. Аднак трэба адзначыць, што ў матэрыялах, сабраных для Атласа беларускіх народных гаворак (у 50-х гадах XX ст.), цоканне адзначана толькі ў некаторых населеных пунктах Суражскага раёна Віцебскай вобласці.

Такім чынам, падзел беларускіх гаворак на дзве групы на аснове аднай толькі рысы — мены **ц** і **ч** і адрознівання **ц** і **ч** не адпавядае аб'ектыўнаму стану групоўкі беларускіх гаворак.

З канца 90-х гадоў распачалося інтэнсіўнае збіранне дыялектных матэрыялаў, што непасрэдна звязана з выданнем «Программы для собирания особенностей говоров белорусского наречия»[7], падрыхтаванай Я. Ф. Карскім. Пры дапамозе карэспандэнтаў, якім была разаслана

[1] Смоленские губернские ведомости, 1853, № 45 и 46.

[2] Этнографический сборник, изд. имп. Русским географическим обществом, вып. II, СПб., 1854, стар. 111—268.

[3] СПб., 1858, 242 с.

[4] ЖМНП, ч. CCXXXIX, июнь, 1885, стр. 300.

[5] ЖМНП, ч. CCLI, май 1887, с. 147.

[6] Живая старина, вып. III, СПб., 1892.

[7] ИОРЯС, т. II, кн. 2, СПб., 1897.

праграма, ажыццяўлялася масавае збіранне дыялектных матэрыялаў у розных мясцовасцях Беларусі. Накоплены такім чынам на працягу некалькіх год багаты фактычны матэрыял даў магчымасць перайсці ад назіранняў над паасобнымі з'явамі да шырокага вывучэння дыялектаў беларускай мовы ва ўсёй іх разнастайнасці.

На аснове даных пісьмовых помнікаў і крытычнага выкарыстання фальклорных і дыялектных матэрыялаў Я. Ф. Карскім была створана манаграфія па беларускай мове — «Белорусы» [1], у якой пераканаўча даказана цесная генетычная сувязь мовы старых заходнярускіх тэкстаў і беларускіх гаворак. Сістэматызацыю і абагульненне найвялікшага фактычнага матэрыялу Карскі распачынае разглядам пытанняў групоўкі беларускіх гаворак як важнейшага навуковага прыёму вывучэння жывой мовы. Як адзначалася вышэй, у сваёй першай працы («Обзор звуков и форм белорусской речи») ён выдзяляе два асноўныя дыялектныя масівы — паўднёва-заходні і паўночна-ўсходні, улічваючы асаблівасці тэрытарыяльнага пашырэння дзеяслоўных форм у 3-яй асобе адзіночнага ліку на **-ць** і без **-ць.** Моўная характарыстыка гэтых груп удакладняецца і пашыраецца Карскім у першым томе манаграфіі «Белорусы» [2] з улікам пры гэтым навейшых фактычных даных тэрытарыяльнага пашырэння моўных асаблівасцей. У аснову падзелу беларускіх гаворак на асобныя групы Карскі паклаў найбольш важныя фанетычныя рысы: 1) цвёрдасць і мяккасць **р,** 2) якасць змякчэння асноўных **д** і **т,** 3) захаванне ў нязменным стане **ц** і **ч** або ўзаемную мену іх, 4) наяўнасць або адсутнасць пратэтычных зычных перад пачатковым **о** і часткова **у,** 5) якасць акання, 6) наяўнасць або адсутнасць дыфтонгаў, 7) ужыванне часціцы **-са** або **-ся** ў зваротных дзеясловах, 8) наяўнасць або адсутнасць **-ць (-ть)** у 3-яй асобе адзіночнага ліку дзеясловаў I спражэння.

Асноўныя ж дыялектныя масівы Карскі выдзяляе ў залежнасці ад характару вымаўлення гука **р**: паўднёва-заходні масіў цвёрдаэры і паўночна-ўсходні масіў мяккаэры. Мяжа, праведзеная Карскім паміж імі, праходзіць ад паўночнай граніцы Беларусі каля Себежа (Велікалуцкай вобласці) у напрамку на паўднёвы ўсход паміж Гарадком і Віцебскам да Оршы, далей каля Горак, Чавус, Слаўгарада, а затым на паўднёвы ўсход да адміністрацыйнай мяжы БССР з Бранскай і Чарнігаўскай абласцямі. У сваю чаргу ў паўднёва-заходнім дыялекце Карскі адрозніваў групу гаворак, якім уласціва моцнае аканне, цвёрдае **р,** і групу гаворак, дзе адзначаецца ўмеранае аканне, паяўленне **о, е** не пад націскам. У паўднёвай частцы апошняй групы гаворак паяўляюцца закрытыя **о, е,** якія ў вымаўленні набліжаюцца да **у, ю,** спарадычна тут у націскным становішчы ўжываюцца дыфтонгі, зваротныя часціцы **-се, -ся.** Мяжа гэтых гаворак праводзіцца ад Навазыбкава праз паўднёвыя часткі былых

---

[1] Белорусы. Введение в изучение языка и народной словесности с приложением двух карт, т. I, Вильно, 1904; т. II. Язык белорусского племени. Вып. I. Исторический очерк звуков белорусского наречия, 1908; вып. 2. Исторический очерк словообразования и словоизменения в белорусском наречии, 1911; вып. 3. Очерк синтаксиса белорусского наречия. Дополнения и поправки, 1912.

[2] Е. Ф. Карский. Белорусы, т. I. Вильно, 1904, стар. 191—197.

Гомельскага, Бабруйскага, Слуцкага, Навагрудскага паветаў, далей каля Слоніма, Ваўкавыска да Друскенік.

Заўважым, што тыпалогія акання ў той час, калі Карскі ствараў сваю класіфікацыю беларускіх гаворак, не была распрацавана, а таму Карскі карыстаецца тэрмінамі «моцнае, умеранае аканне» не ў тым значэнні, у якім ужывалі ў далейшым у сваіх працах А. А. Шахматаў, аўтары «Опыта диалектологической карты» і асабліва М. М. Дурнаво.

Акрамя гэтых груп, Карскі выдзяляў яшчэ беларуска-палескія гаворкі, якія знаходзяцца на поўдзень ад адзначанай вышэй групы. Характарызуюцца яны наступнымі асаблівасцямі: больш слабым аканнем, амаль паслядоўным саканнем, закрытымі **о, е,** формамі давальнага склону на **-ові, -еві,** а ў асобных гаворках — адсутнасцю дзекання і цекання, ацвярдзеннем губных, ужываннем **у, ю** на месцы **о, е** і **а, я** і інш.

Так, Карскі ў паўднёва-заходнім дыялекце адрозніваў тры падгрупы: моцнаакаючую, умеранаакаючую і беларуска-палескую. Паўночна-ўсходні масіў беларускіх гаворак быў выдзелены на аснове дысімілятыўнага акання, мяккага **р,** форм прыметнікаў мужчынскага роду ў назоўным склоне адзіночнага ліку з канчаткам **-ей,** наяўнасці **-ць** у асабовым канчатку 3-яй асобы адзіночнага ліку дзеясловаў. На карце «Белорусские говоры», прыкладзенай да першага тома «Белорусов», штрыхоўкай паказана геаграфічнае пашырэнне асноўных асаблівасцей беларускай мовы, у залежнасці ад якіх выдзелены дыялектныя групы. Але на ёй закартаграфаваны не асобныя з'явы, а цэлыя групы гаворак, і таму карта носіць схематычны характар. І ўсё ж карта з'яўляецца пэўным этапам у развіцці лінгвістычнай геаграфіі беларускай мовы.

Вырашэнне пытання класіфікацыі гаворак у больш шырокіх маштабах звязана з дзейнасцю Маскоўскай дыялекталагічнай камісіі, калі работа па вывучэнню рускіх, украінскіх і беларускіх гаворак набыла больш арганізаваны і сістэматычны характар і ажыццяўлялася шляхам дыялекталагічных экспедыцый і індывідуальных выездаў у розныя мясцовасці абследуемых тэрыторый, у тым ліку і Беларусі. У выніку дзесяцігадовай працы па збіранню дыялектных матэрыялаў і адначасовай сістэматызацыі і крытычнай апрацоўкі фальклорных матэрыялаў, а таксама паступіўшых адказаў на рознага тыпу праграмы Маскоўская дыялекталагічная камісія склала дыялекталагічную карту [1], дзе паказаны тэрыторыі сучасных усходнеславянскіх моў (рускай, украінскай і беларускай). Аўтары «Опыта диалектологической карты русского языка в Европе» пры выдзяленні асноўных дыялектных масіваў аб'ядноўвалі блізкія гаворкі ў групы і вызначалі межы кожнай групы на карце. «Хоць гэты спосаб картаграфавання,— пісалі яны,— і непазбежна цягне за сабою некаторыя недакладнасці, мы ўсё ж аддаём яму перавагу перад другім, згодна з якім на картах вызначаюцца межы пашырэння асобных з'яў вымаўлення без спробы вызначэння дыялектных груп» [2].

---

[1] Опыт диалектологической карты в Европе с приложением очерка русской диалектологии. Составили члены комиссии Н. Н. Дурново, Н. Н. Соколов, Д. Н. Ушаков. Труды Московской диалектологической комиссии, вып. 5, М., 1915.

[2] Труды МДК, вып. 5, М., 1915, стар. IV.

На аснове фанетычных асаблівасцей, у прыватнасці акання, выдзяляюцца два асноўныя масівы беларускіх гаворак: паўночна-ўсходні і паўднёва-заходні. Размежаваны яны былі па лініі Ушачы — Чашнікі — Сянно — Магілёў — Чавусы — Навазыбкаў [1]. Моўная характарыстыка дыялектных груп, вызначаная Карскім, была значна ўдакладнена і дапоўнена [2].

Шырокі размах дыялекталагічная работа атрымала пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, якая адкрыла новую эпоху ў развіцці культуры і навукі. Новы этап у галіне беларускай дыялекталогіі вызначаецца пачаткам вывучэння беларускіх гаворак шляхам збірання новых звестак з арыентацыяй на складанне лінгвістычных карт. На аснове сабранага матэрыялу ствараюцца працы, у якіх даследуюцца як асаблівасці адной гаворкі, так і асаблівасці дыялектных груп. Кожная з гэтых прац мела пэўнае значэнне для высвятлення пытання аб колькасным складзе дыялектных груп беларускай мовы.

Вялікую цікавасць прадстаўляе манаграфія П. А. Растаргуева «Северско-белорусский говор» [3], прысвечаная даследаванню гаворак паўночнай часткі Чарнігаўшчыны. Работа грунтуецца на матэрыялах уласных назіранняў і вялікай колькасці друкаваных і рукапісных крыніц. Аўтар даў поўную характарыстыку названых гаворак фанетычнай сістэмы, граматычнай структуры і лексічнага саставу і вызначыў адносіны іх да паўднёва-заходніх беларускіх, а таксама сумежных рускіх і ўкраінскіх гаворак.

Улічваючы характар агульнасці і адрознення гаворак Чарнігаўшчыны з суседнімі гаворкамі, Растаргуеў выдзеліў іх у асобную групу — северска-беларускую як гаворкі патомкаў старажытных севяран.

Навейшыя даныя былі выкарыстаны даследчыкамі, якія ў сваіх працах па-новаму сталі падыходзіць да класіфікацыі беларускіх гаворак. Так, М. Дурнаво, разглядаючы асаблівасці важнейшых дыялектных груп ва ўсходнеславянскіх мовах, пісаў: «Паміж асноўнымі дыялектнымі масівамі кожнай усходнеславянскай мовы — паміж гаворкамі паўночнавелікарускімі і паўднёвавелікарускімі, паўночнабеларускімі і паўднёвабеларускімі, паўночнаўкраінскімі і паўднёваўкраінскімі і карпацкімі ў сучасны момант рэзкай мяжы няма, а ёсць пераходныя гаворкі, якія ўтвараюць пастаянны пераход ад аднаго асноўнага дыялектнага масіву да другога» [4].

---

[1] Труды МДК, вып. 5, М., 1915, стар. 102.

[2] Пазней, у 1927 г., на аснове ўліку навейшых даных М. Дурнаво ў кнізе «Введение в историю русского языка» (Брно, 1927) удакладніў межы беларускіх дыялектных груп. З улікам гэтых паправак праведзена граніца паміж паўночна-ўсходнімі і паўднёва-заходнімі беларускімі гаворкамі ў наступных працах па дыялекталогіі: Р. И. Аванесов. Очерки по русской диалектологии. М., 1949; П. С. Кузнецов. Русская диалектология. М., 1951.

[3] П. А. Расторгуев. Северско-белорусский говор. Исследование в области диалектологии и истории белорусских говоров. Л., 1927.

[4] Н. Дурново. Введение в историю русского языка, ч. I. Источники. Брно, 1927, стар. 99.

Паўстае пытанне аб неабходнасці складання дыялекталагічнага атласа гаворак беларускай мовы, у якім бы фіксаваліся раёны распаўсюджання моўных з'яў. Акрэсліваючы чарговыя задачы ў галіне вывучэння рускай мовы, Карскі на першае месца ставіў складанне атласа жывой мовы[1]. Значны ўклад у распрацоўку пытанняў лінгвістычнай геаграфіі ўнёс П. А. Бузук. У 1928 г. выходзіць з друку яго кніга «Спроба лінгвістычнай геаграфіі Беларусі», ч. I. Гэта пробны дыялекталагічны атлас усходняй часткі Беларусі[2]. У параўнанні з лінгвістычнымі картамі Карскага, МДК, якія носяць агульны характар — прысвечаныя дыялектам беларускай мовы ў цэлым, карты Бузука высвятляюць межы пашырэння паасобных з'яў. Бузук зыходзіць з таго, што без дэталёвага вывучэння галоўных і другарадных моўных з'яў і параўнання іх з літаратурнымі мовамі, без дакладнага ведання лінгвістычнай геаграфіі няма ніякай магчымасці вызначыць межы беларускай і іншых славянскіх моў, а таму дыялектолагі павінны ў першую чаргу займацца высвятленнем межаў пашырэння асобных з'яў[3].

У справе картаграфавання асаблівасцей беларускіх гаворак вялікую працу прарабіў Бузук, які сам вывучаў матэрыял розных тэрыторый Беларусі. Ім было складзена шмат лінгвістычных карт, прысвечаных асобным бакам моўнай сістэмы беларускіх гаворак. Значная частка гэтых карт адлюстроўвала агульныя фанетычныя з'явы, якія пашыраны на ўсёй моўнай тэрыторыі: тыпы акання (карта № 1), захаванне **ы** перад ётавымі галоснымі: *мыю, крыю* (карта № 5), мяккае вымаўленне зубных зычных перад **е, і** (карта № 7), пераход **л** у **ў** (карта № 9), наяўнасць фрыкатыўнага **г** (карта № 10), чаргаванне заднеязычных са свісцячымі пры змякчэнні (карта № 12).

Бузук зыходзіў з паказу геаграфіі асобных моўных з'яў. На яго картах не адлюстравана сістэма асаблівасцей, тэрытарыяльнае супрацьстаўленне членаў данай моўнай з'явы, а пры дапамозе каляровай замалёўкі акрэслены толькі тэрытарыяльныя масівы паасобных рыс па-за іх сістэмнымі ўзаемаадносінамі. Пры дапамозе штрыхоўкі выдзяляюцца зоны з пераходным характарам моўных з'яў.

Асаблівасцям, пашыраным на вяілікім паўночна-ўсходнім масіве, аўтар «Спробы лінгвістычнай геаграфіі Беларусі» прысвяціў карту дысімілятыўнага акання (карта № 2), у аснову якой пакладзены межы, праведзеныя І. Г. Галанавым у артыкуле «О диссимилятивном аканье» (1914), Бузуком унесены істотныя ўдакладненні ў тэрыторыю распаўсюджання гэтай з'явы, асобная карта прысвечана пашырэнню мяккага **р** (карта № 6).

З марфалагічных рыс указанай зоны Бузук спыняе ўвагу на форме творнага склону множнага ліку назоўнікаў з аднаскладовымканчаткам тыпу *рукам, дрывам* (карта № 16), пашыранай у паўночнай частцы гаворак, і на форме меснага склону адзіночнага ліку прыметнікаў муж-

---

[1] Е. Ф. Карский. Очерк научной разработки русского языка в пределах СССР, 1926, стар. 99.

[2] Маецца на ўвазе тэрыторыя Беларусі ў межах да 1939 г.

[3] П. Бузук. Спроба лінгвістычнай геаграфіі Беларусі, ч. I. Мінск, 1928, стар. 6.

чынскага і ніякага роду з націскным канчаткам тыпу *ў глухім, у старым* (карта № 17). З лакальных асаблівасцей ён адзначае такую фанетычную з'яву, як мена **ц** і **ч** (карта № 8).

З агульнапашыраных структурных з'яў на тэрыторыі паўднёва-заходняй групы гаворак Бузук спыняецца на форме назоўнага склону множнага ліку прыметнікаў ніякага роду на **-а** тыпу *вокна* (карта № 14), форме давальнага склону на **-ом** і меснага склону на **-ох** назоўнікаў мужчынскага роду множнага ліку (карта № 15). У галіне форм спражэння Бузук вызначыў мяжу форм 3-яй асобы адзіночнага ліку дзеясловаў без **-ць** (**-ть**) (карта № 18) і такой з'явы, як наяўнасць цвёрдага зычнага ў аснове 1-ай асобы множнага ліку дзеясловаў I спражэння тыпу *идом, будам* (карта № 19). З лакальных рыс ён спыняецца на лабіялізацыі **а** перад **ў**: *шукоў, проўда* (карта № 3), вымаўленні **у** на месцы **ы** пасля губных: *мула, спутаць* (карта № 4), наяўнасці пратэтычнага **г** у займенніку *гэты* (карта № 11), формах назоўнікаў назоўнага склону мужчынскага роду з націскным канчаткам **-э**: *лясэ, вайке* (карта № 13) і саканні (карта № 20).

Атлас 1928 г. складзены на аснове розных крыніц: адказаў на «Праграму для збірання асаблівасцей беларускіх гаворак» [1], звестак, атрыманых ад студэнтаў, сваіх уласных назіранняў і друкаваных выданняў. Зразумела, што матэрыялы, храналагічна і якасна неаднародныя, не маглі забяспечыць дакладнае вызначэнне тэрытарыяльнага пашырэння асобных моўных з'яў, на што ўказвае П. А. Растаргуеў у сваёй рэцэнзіі [2]. Бузук дае падрабязны фанетыка-марфалагічны нарыс, які з'яўляецца каментарыем да карт, дзе не толькі аналізуюцца асаблівасці беларускіх гаворак, але адначасова высвятляецца іх месца ў моўнай сістэме, спыняецца на пытаннях групоўкі беларускіх гаворак, удакладняе і дапаўняе выказванні папярэдніх даследчыкаў па гэтаму пытанню. Так, калі Карскі ў залежнасці ад характару канчаткаў дзеясловаў 3-яй асобы адзіночнага ліку падзяляў беларускія гаворкі на дзве групы (формы без **-ць** ён лічыў адзнакай паўднёва-заходняга дыялекту, а формы з **-ць** — адзнакай паўночна-ўсходняга дыялекту), то Бузук сцвярджаў, што «ў адносінах форм 3-яй асобы адзіночнага ліку дзеясловаў беларускія гаворкі трэба падзяляць не на дзве, а на тры паласы. Такой трэцяй, пераходнай паласой з'яўляюцца гаворкі, у якіх канчатак **-ць** у дзеясловах II спражэння можа адпадаць, прычым умовай гэтага адпадзення з'яўляецца ненаціскное становішча тэматычнага галоснага: *носе* або ў выніку акання * нося*» [3]. Паласа пераходных гаворак, як зазначае ён далей, непасрэдна пераходзіць на тэрыторыю Украіны і працягваецца ў паўночнай частцы былой Чарнігаўскай губерні [4]. Такім чы-

[1] Праграма для збірання асаблівасцей беларускіх гаворак і гаворак пераходных да суседніх моў. Укладальнікі С. Некрашэвіч і П. Бузук. Мінск, 1927.

[2] П. А. Расторгуев. Об атласе проф. П. А. Бузука по белорусской диалектологии, т. III, кн. 2. Изв. по РЯС, 1930, стар. 619—620.

[3] П. Бузук. Спроба лінгвістычнай геаграфіі Беларусі, ч. I, стар. 80—81. На карце, прысвечанай формам 3-яй асобы адзіночнага ліку (карта № 18), шырокая паласа пераходных гаворак не заштрыхавана.

[4] А. Бузук. Спроба лінгвістычнай геаграфіі Беларусі, стар. 82.

нам, выказанае меркаванне М. М. Дурнаво аб наяўнасці паміж асноўнымі беларускімі дыялектнымі групамі пераходных сярэднебеларускіх гаворак было абгрунтавана фактычным матэрыялам.

П. Бузук прытрымліваўся аднаго з асноўных вывадаў у «Atlas linguistique de la France» Жыльерона і Эдманта адносна таго, што «магчымым з'яўляецца супадзенне плошчы дзвюх з'яў толькі тады, калі яны маюць у сабе два розныя выпадкі аднаго і таго ж факта» [1].

Аднак, улічваючы аднабаковасць гэтага вываду, Бузук унёс некаторыя дадаткі і папраўкі да яго. Ён заўважае, што «ізаглосы з'яў, звязаныя паміж сабою прычыннай залежнасцю, абавязкова супадаюць сваімі плошчамі. Бясспрэчным і важным з'яўляецца той факт, што тэрыторыя з'явы, цалкам абумоўленай іншай якой-небудзь з'явай, не выходзіць за межы гэтай абумоўліваючай з'явы» [2]. Аўтар «Спробы» імкнуўся вывучаць не выпадковыя, разрозненыя факты, а цэльныя моўныя з'явы, што знайшло сваё адлюстраванне на картах.

Новы этап у распрацоўцы лінгвістычнай карты знамянуе сабою не толькі шырокі размах у збіранні дыялектных матэрыялаў і іх сістэматызацыі і тэарэтычным абагульненні ў шматлікіх манаграфіях, але і ў распрацоўцы тэарэтычных асноў лінгвістычнай геаграфіі, у вызначэнні яе метадалагічных прынцыпаў і метадычных прыёмаў. Гэта тэарэтычная аснова, на якой разгортвалася і лінгвістычная геаграфія беларускай мовы, распрацавана членам-карэспандэнтам АН СССР Р. І. Аванесавым. На аснове абагульнення найвялікшага матэрыялу рускіх народных гаворак Аванесавым былі закладзены тэарэтычныя асновы савецкай лінгвістычнай геаграфіі, асобныя раздзелы якой складаюць праблемныя пытанні аб адносінах яе да структуры мовы, аб сістэмнасці мовы, аб паняцці дыялектных адрозненняў, аб характары дыялектных адносін, аб строгай адпаведнасці дыялектных з'яў на розных тэрыторыях і г. д., што складае тэорыю картаграфавання моўных з'яў у іх інтэрпрэтацыі і вызначае яе метадычныя прыёмы.

Ім былі крытычна прааналізаваны погляды папярэдніх вучоных (А. А. Шахматава і інш.) на гісторыю ўтварэння рускай, беларускай і ўкраінскай моў [3]. Структура мовы разглядаецца ва ўсёй разнастайнасці мясцовых дыялектаў і нармалізаванага тыпу нацыянальнай мовы.

Тэарэтычныя прынцыпы савецкай лінгвістычнай геаграфіі, выкладзеныя ў шматлікіх работах Р. І. Аванесава, былі пакладзены ў аснову складання «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы».

---

[1] П. Бузук. Лінгвістычная геаграфія як дапаможны метад пры вывучэнні гісторыі мовы. У кн.: Sborník prací I sjezdu slovan. filol. v Praze, 1929, sv. II. Praha, 1932, стар. 461. Гл. яго ж: Становішча беларускай мовы сярод іншых славянскіх моў. У кн.: Працы Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі. Мінск, 1927, стар. 75 + 114.

[2] П. Бузук. Лінгвістычная геаграфія, стар. 461.

[3] Р. И. Аванесов. Вопросы образования русского языка в его говорах. Вестник Московск. ун-та, 1947, № 9, стар. 109—158; яго ж: Вопросы истории русского языка в эпоху формирования и дальнейшего развития русской (великорусской) народности. У зб.: «Вопросы формирования русской народности и нации». Изд. АН СССР, М.—Л., 1958

## 2. РАБОТА НАД „ДЫЯЛЕКТАЛАГІЧНЫМ АТЛАСАМ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ“

Арганізацыя сістэматычнай работы над Атласам беларускай мовы непасрэдна звязана з Першай рэспубліканскай дыялекталагічнай канферэнцыяй, якая адбылася ў 1948 г. у Мінску.

Канферэнцыя ставіла сваёй задачай уцягненне ў работу па збіранню дыялектных матэрыялаў выкладчыкаў мовы, аспірантаў і шырокі круг студэнтаў педагагічных і настаўніцкіх інстытутаў. У гэтых адносінах канферэнцыя паклала пачатак шырокаму разгортванню работы ў рэспубліцы. Узначалілі гэту работу на месцах кафедры мовы вышэйшых навучальных устаноў.

Улічваючы тую акалічнасць, што сістэматычнае, планамернае збіранне матэрыялаў для лінгвістычнага атласа можна праводзіць толькі пры наяўнасці адпаведнай праграмы, у якой павінны быць прадугледжаны ўсе бакі моўнай сістэмы сучасных дыялектаў, першы этап работы над Атласам беларускай мовы і распачаўся з падрыхтоўкі такой праграмы.

Яшчэ ў 1947 г. па даручэнню загадчыка сектара дыялекталогіі Інстытута рускай мовы Акадэміі навук СССР Р. І. Аванесава быў складзен праект беларускай праграмы П. А. Растаргуевым. У аснову яго была пакладзена «Программа собирания сведений для составления диалектологического атласа русского языка». Складзены праект праграмы абмяркоўваўся на Першай рэспубліканскай дыялекталагічнай канферэнцыі і згодна з пастановай гэтай канферэнцыі быў выдадзены на правах рукапісу ў 1948 г. [1]

Праект беларускай праграмы правяраўся шляхам практычнага выкарыстання ў час экспедыцый 1948—1949 гг. Дапоўнены і ўдакладнены праект неаднаразова абмяркоўваўся на дыялекталагічных канферэнцыях 1949—1950 гг. і на спецыяльным пасяджэнні сектара дыялекталогіі Інстытута рускай мовы Акадэміі навук СССР.

У абмеркаванні праграмы, акрамя выкладчыкаў мовы педагагічных і настаўніцкіх інстытутаў рэспублікі і навуковых супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўства АН БССР, прымалі актыўны ўдзел лінгвісты-дыялектолагі Інстытута рускай мовы АН СССР — Р. І. Аванесаў, В. Г. Арлова, С. У. Брамлей, Л. М. Булатава, С. С. Высоцкі, Л. П. Жукоўская, Е. А. Камшылава, П. С. Кузняцоў, Д. М. Мальцаў, В. Н. Сідараў, Ф. П. Філін, А. П. Яўгеньева.

Каштоўныя крытычныя заўвагі на праграму прыслаў старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства АН УССР П. С. Лысенка.

У адпаведнасці з крытычнымі заўвагамі ўсе раздзелы беларускай праграмы былі дапоўнены, дэталізаваны з улікам тыповых фанетычных, граматычных і лексічных дыялектных асаблівасцей беларускіх гаворак, пасля чаго праграма была выдадзена масавым тыражом у 1950 г.

Першая канферэнцыя прыняла рад пастаноў, якія непасрэдна адносіліся да складання Атласа. Так, лічылася мэтазгодным праводзіць пад-

[1] Праграма па вывучэнню беларускіх гаворак і збіранню звестак для складання Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы. Выдавецтва Акадэміі навук Беларускай ССР. Мінск, 1948.

рыхтоўчую работу з арыентацыяй на складанне двух тамоў Атласа: моўная тэрыторыя на ўсход ад 28 мерыдыяна ўключалася ў I том, а тэрыторыя на захад ад таго ж мерыдыяна — у II том. У адпаведнасці з гэтым была прынята пастанова аб размеркаванні работы над атласамі паміж двума цэнтрамі: правядзенне падрыхтоўчай работы па I тому Атласа даручана было ўзначальваць Мінскаму педінстытуту імя М. Горкага і праводзіць яе разам з Магілёўскім, Гомельскім педінстытутамі і былымі Віцебскім, Аршанскім, Мазырскім настаўніцкімі інстытутамі. Падрыхтоўчую работу па II тому даручалася ўзначальваць Інстытуту літаратуры, мовы і мастацтва АН БССР і праводзіць яе разам з Беларускім дзяржаўным універсітэтам, Гродзенскім педінстытутам і былымі Брэсцкім, Пінскім, Баранавіцкім і Маладзечанскім настаўніцкімі інстытутамі.

Аднак практычнае ажыццяўленне работы над Атласам пераканала ў мэтазгоднасці складання аднаго тома Атласа беларускай мовы.

Агульнае кіраўніцтва падрыхтоўчай работай на працягу ўсяго перыяду ажыццяўлялася адзіным цэнтрам — спачатку Інстытутам літаратуры, мовы і мастацтва, а затым з 1952 г. — Інстытутам мовазнаўства Акадэміі навук БССР.

Перш чым прыступіць да картаграфавання, неабходна было па адзінай праграме абследаваць гаворкі 1150—1200 населеных пунктаў.

Першая рэспубліканская канферэнцыя лічыла абавязковым для кожнага інстытута разгарнуць у самы бліжэйшы час падрыхтоўку студэнтаў да экспедыцый шляхам вывучэння адпаведнай літаратуры, правядзення семінараў з чытаннем і аналізам тэкстаў, дзе адлюстраваны асаблівасці беларускіх народных гаворак. У гэтым напрамку кафедрамі мовы Беларускага дзяржаўнага універсітэта, педагагічных і настаўніцкіх інстытутаў праводзілася вялікая падрыхтоўчая работа на працягу ўсяго перыяду тэрытарыяльнага абследавання мясцовых гаворак.

У збіранні звестак для Атласа беларускай мовы прымалі ўдзел, акрамя супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўства АН БССР, выкладчыкі і студэнты Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (кіраўнікі М. А. Жыдовіч і М. І. Жыркевіч), Мінскага педінстытута (кіраўнікі У. Л. Важнік, Н. Т. Вайтовіч, Ф. М. Янкоўскі), Магілёўскага педінстытута (кіраўнік П. Я. Юргелевіч), Гродзенскага педінстытута (кіраўнік Т. Ф. Сцяшковіч), Брэсцкага педінстытута (кіраўнікі І. І. Зянько і А. С. Барысавец), Гомельскага педінстытута (кіраўнікі Ф. Н. Цімошак, Т. С. Янкова, Д. А. Лявончанка), Мазырскага настаўніцкага, а пазней педагагічнага інстытута (кіраўнікі А. І. Макарава і С. А. Грыгор'еў), Маладзечанскага настаўніцкага інстытута (кіраўнік А. І. Бабкоўскі), Аршанскага настаўніцкага інстытута (кіраўнікі М. М. Баркоўскі, П. М. Таміла), Бабруйскага настаўніцкага інстытута (кіраўнікі І. Ц. Зяневіч і М. І. Касцян), Баранавіцкага настаўніцкага інстытута (кіраўнік А. І. Саладуха), Віцебскага настаўніцкага інстытута (кіраўнік І. Ю. Русак), Пінскага настаўніцкага інстытута (кіраўнік Д. С. Целянцюк).

Агульнымі сіламі ўсіх навуковых калектываў абследаванне беларускіх гаворак на тэрыторыі Беларускай ССР да 1955 г. было ў асноўным

закончана. Усяго за перыяд з 1948 (калі пачалі збіраць матэрыялы па «Праекту праграмы» і з 1950 г. — па «Праграме») да 1955 г. быў сабраны дыялектны матэрыял у 1174 населеных пунктах. З 1955 па 1959 г. праводзіліся кантрольныя экспедыцыі і даабследаванне гаворак тых раёнаў, дзе папярэдне збіраўся матэрыял па праекту праграмы 1948 г.

Усе сабраныя дыялектныя матэрыялы сканцэнтраваны ў Інстытуце мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР.

Такім чынам, перыяд работы па стварэнню Атласа беларускіх народных гаворак падзяляецца на два этапы. На працягу першага праводзілася збіранне дыялектных матэрыялаў шляхам раўнамернага абследавання ўсіх гаворак на тэрыторыі БССР (да 1955 г.). На працягу другога — картаграфаванне сабраных матэрыялаў, непасрэднае складанне лінгвістычных карт і каментарыяў да іх (1956—1961 гг.).

Дыялекталагічная работа ў рэспубліцы каардынавалася Інстытутам мовазнаўства Акадэміі навук БССР. Метадычнае і арганізацыйна-метадычнае кіраўніцтва ажыццяўлялася шляхам склікання штогадовых дыялекталагічных нарад, шляхам праверкі і рэцэнзіравання сабраных дыялектных матэрыялаў. Аддзел вышэйшай школы Міністэрства асветы БССР (кіраўнік В. А. Жучкевіч) актыўна падтрымліваў усе мерапрыемствы, накіраваныя на разгортванне дыялекталагічнай работы ў БССР.

Складанне лінгвістычнага атласа беларускай мовы праходзіла ў цесным кантакце з Інстытутам рускай мовы Акадэміі навук СССР пры актыўнай дапамозе з боку рускіх лінгвістаў. На рэспубліканскіх нарадах русісты-дыялектолагі выступалі з навуковымі дакладамі, у якіх высвятляліся тэарэтычныя асновы савецкай лінгвістычнай геаграфіі ў адрозненне ад манаграфічнага даследавання, вызначаліся чарговыя праблемы савецкай дыялекталогіі, якія чакалі неадкладнага вырашэння.

На канферэнцыях заслухоўваліся даклады практычнага характару, прысвечаныя пытанням фанетычнай транскрыпцыі, методыцы збірання і апрацоўкі дыялектных матэрыялаў, абагульняўся і перадаваўся беларускім дыялектолагам той багаты вопыт, які быў накоплены рускімі дыялектолагамі ў працэсе складання лінгвістычнага атласа рускай мовы.

У 1949 г. была арганізавана экспедыцыя пад кіраўніцтвам старшага навуковага супрацоўніка Інстытута рускай мовы Акадэміі навук СССР С. С. Высоцкага ў адзін з раёнаў Мінскай вобласці, дзе праводзілася практыкаванне ў фіксацыі і апрацоўцы дыялектных матэрыялаў.

Дзякуючы дапамозе Каардынацыйнай камісіі па вывучэнню дыялекталогіі моў народаў СССР (пры Інстытуце мовазнаўства АН СССР, старшыня Р. І. Аванесаў) работа над Атласам беларускай мовы праходзіла хуткімі тэмпамі. Выкарыстоўваючы багаты вопыт, накоплены рускімі дыялектолагамі па збіранню, апрацоўцы і картаграфаванню дыялектнага матэрыялу, калектыў беларускіх дыялектолагаў за адносна кароткі час паспяхова прарабіў вялікую работу.

Паралельна са збіраннем дыялектных матэрыялаў значная работа праводзілася ў галіне манаграфічнага вывучэння беларускіх гаворак. Спалучэнне лінгва-геаграфічнага і манаграфічнага метадаў забяспечвала больш паглыбленае вывучэнне гаворак.

Аднак гаворкі розных дыялектаў на тэрыторыі БССР не ў аднолькавай ступені падлягалі вывучэнню. Асабліва шырока за апошнія гады даследаваліся гаворкі паўднёва-заходняга дыялекту.

На першым этапе збірання дыялектных матэрыялаў пры недастатковасці і абмежаванасці фактычных даных асобныя манаграфіі прысвячаліся сістэме адной гаворкі з вызначэннем яе месца ў сістэме аднаго дыялекту і сумежных дыялектных груп. У такім плане напісана рад манаграфій галоўным чынам на матэрыяле паўднёва-заходніх гаворак. З боку тэматыкі і зместу большасць манаграфій і артыкулаў прысвечана аналізу фанетычнай сістэмы і граматычнай структуры гаворак асобных раёнаў. Недастаткова даследаваліся пытанні сінтаксісу і лексікі беларускіх гаворак.

Дэталёвае апісанне моўнай сістэмы народных гаворак у іх сучасным стане з'яўляецца неабходнай умовай для пастаноўкі і выражэння больш агульных пытанняў гісторыі мовы і дыялекталогіі. Сукупнасць манаграфій, у якіх аналізуюцца асобныя групы гаворак, даюць дакладнае ўяўленне аб моўнай сістэме цэлага дыялекту, аб суадносінах гаворак у межах цэлага дыялектнага аб'яднання. Такія работы змяшчаюць у сабе багацейшы матэрыял, які з адпаведнымі данымі пісьмовых помнікаў дазваляе вызначыць паслядоўнасць моўных працэсаў, устанавіць храналогію і ўнутраную сувязь іх.

На аснове прыватных манаграфій пачалі ствараецца абагульняючыя работы па беларускай дыялекталогіі, прысвечаныя даследаванню паасобных бакоў моўнай сістэмы [1].

Даследаванне паасобных граматычных катэгорый на шырокім дыялектным матэрыяле дазволіла вызначыць накіраванасць і характар узаемаадносін асноўных ізаглос ад больш старажытных да пазнейшых. Групоўка і перакрыжаванне іх указвае на складаныя ўзаемаадносіны розных дыялектных масіваў і асобных груп, якія па адных моўных адзнаках аб'ядноўваюцца, а па другіх раз'ядноўваюцца і ўваходзяць у больш дробныя аб'яднанні. Гэта сведчыць аб тым, што суадносіны паміж дыялектнымі групамі змяняліся, што сучасная групоўка беларускіх дыялектаў адлюстроўвае як элементы старажытных моўных узаемаадносін, так і пазнейшыя змены, якія адбыліся к часу фарміравання нацый і нацыянальных моў.

Такім чынам, у працэсе разгортвання работы над Атласам беларускай мовы змяняўся і характар даследавання па дыялекталогіі. Наяўнасць сістэматызаванага матэрыялу, прадстаўленага з усёй моўнай тэрыторыі, дазволіла ставіць і вырашаць праблемныя пытанні беларускага мовазнаўства, пытанні сістэмных узаемаадносін сучасных дыялектных аб'яднанняў.

---

[1] Гл.: А. Г. Мурашко. Формы прилагательных в белорусских говорах. Минск, 1958; А. А. Кривицкий. Формы личных и возвратных местоимений современных белорусских говоров в их истории, 1958; Ю. Ф. Мацкевіч. Марфалогія дзеяслова ў беларускай мове. Мінск, 1959; А. Е. Баханьков. Сложноподчиненное предложение в юго-западных белорусских говорах. Минск, 1961 і інш.

# ДЫЯЛЕКТАЛАГІЧНЫ АТЛАС БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

## 1. СЕТКА АБСЛЕДАВАННЯ

Дыялекталагічны атлас беларускай мовы грунтуецца на матэрыялах, сабраных паводле «Праграмы па вывучэнню беларускіх гаворак і збіранню звестак для складання дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» 1950 г. супрацоўнікамі Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа Акадэміі навук БССР і калектывамі выкладчыкаў, аспірантаў і студэнтаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна, педагагічных і настаўніцкіх інстытутаў рэспублікі.

У Атласе беларускіх народных гаворак закартаграфаваны звесткі 1027 населеных пунктаў.

Сетка абследавання для Атласа вызначалася з разліку 1 населены пункт прыблізна на 220 км$^2$ пры сярэдняй адлегласці 15 км ад аднаго населенага пункта да другога.

Спачатку прыкладна арыентаваліся на абследаванне 1150 населеных пунктаў, але ў працэсе работы матэрыялы былі прадстаўлены з 1174 населеных пунктаў, з гэтай агульнай колькасці частка матэрыялаў была адсеена: не ўвайшлі ў Атлас матэрыялы, якія былі запісаны выпадковымі людзьмі, студэнтамі-адзіночкамі, а таксама матэрыялы, сабраныя экспедыцыйным шляхам па згушчанай сетцы.

Спіс абследаваных населеных пунктаў з неабходнымі фактычнымі данымі (парадкавы нумар, раён, вобласць, шыфр, які ўказвае на месца размяшчэння населенага пункта на карце, указанне на тое, хто і калі збіраў матэрыялы) змешчан у гэтай частцы Атласа сярод іншых даведачных матэрыялаў. Прыведзеныя збіральнікамі назвы абследаваных населеных пунктаў зверaны з савецкім і польскім[1] выданнямі спісаў населеных месц і сучаснымі картамі, а таксама са спісамі населеных месц пачатку XX ст. Вынікі гэтай зверкі знайшлі сваё адлюстраванне ў графах № 4, 5 спіса, дзе, акрамя назваў абследаваных населеных пунктаў, варыянтаў і розначытанняў гэтых назваў, пададзены адпаведныя бібліяграфічныя ўказанні. Для палёгкі карыстання спісам да яго прыкладаецца алфавітны паказальнік.

[1] Як вядома, з сакавіка 1921 да 1939 г. Заходняя Беларусь уваходзіла ў склад Польшчы.

У прыведзеным вышэй спісе змяшчаюцца звесткі аб населеных пунктах з паўторным абследаваннем.

## 2. ФАНЕТЫЧНАЯ ТРАНСКРЫПЦЫЯ

Адначасова са складаннем беларускай Праграмы была распрацавана даступная для масавых збіральнікаў сістэма фанетычнай транскрыпцыі.

Транскрыпцыя грунтуецца на аснове беларускага алфавіта з уключэннем некалькіх літар з іншых алфавітаў (**и, z, ž, γ, ћ**) і дадатковых значкоў: коскі (,) — для абазначэння мяккасці, дзвюх косак („) — для абазначэння шапялявага вымаўлення свісцячых, гарызантальнай рыскі (—) — для абазначэння даўгаты, значка (^) для абазначэння закрытых галосных і дужкі (‿) — для абазначэння спалучэнняў літар.

Для абазначэння галосных ужываюцца літары: **и, е, ê, ы, о, ô, у, а, ъ, ь,** а таксама спалучэнні **и͡е, е͡и, ы͡е, у͡о, о͡у.**

Літара **ê** абазначае нелабіялізаваны гук пярэдняга рада сярэдня-верхняга пад'ёму, які па акустычных асаблівасцях набліжаецца да гука **і** *(л'êта, на стал'ê)*. Для гісторыі мовы выключна важнае значэнне мае фіксацыя закрытага **ê** як асобнай фанемы ў тых гаворках, дзе закрытасць не абумоўліваецца мяккасцю зычных, г. зн. дзе закрыты **ê** вымаўляецца перад цвёрдым і мяккім зычнымі, у адкрытых і закрытых складах, пад націскам і не пад націскам (*ц'êста, на с'в'êц'е, на дварê*).

Літара **ô** абазначае лабіялізаваны гук задняга рада сярэдня-верхняга пад'ёму, які вымаўляецца ў новых закрытых складах *(вôз, γôд)*, што таксама мае выключна важнае значэнне для гісторыі мовы.

Літары **ъ** і **ь** абазначаюць рэдуцыраваныя галосныя гукі няверхняга пад'ёму, якія вымаўляюцца невыразна і могуць мець у паасобных гаворках розныя адценні.

Літара **ь** абазначае галосны пярэдняга рада сярэдня-верхняга под'ёму пасля мяккіх зычных.

Літара **ъ** абазначае рэдуцыраваны галосны сярэдняга, а ў некаторых гаворках задняга рада сярэдняга пад'ёму пасля цвёрдых зычных. У некаторых гаворках на месцы ненаціскных **а, о, у, ы** вымаўляецца невыразны гук, які прынята перадаваць літарай **ъ** (*къзáц', пъсълáц', мърáшк'и*).

Спалучэннямі **и͡е, е͡и, ы͡е, е͡ы, у͡о, о͡у** абазначаюцца дыфтонгі.

Асноўны націск абазначаецца знакам акута (ʹ), а пабочны — знакам гравіса (\` ).

Для абазначэння зычных ужываюцца наступныя літары:

а) губныя — **б, п, м, ф, в, ў;**

б) пярэднеязычныя — **д, т, z, ц, ž, ч, ж, ш, з, с, л, н, р;**

в) сярэднеязычны — **й;**

г) заднеязычныя — **г, к, х, γ, ћ.**

Літара **ў** ужываецца для абазначэння двух гукаў: **ў** (нескладовага) і губна-губнога (білабіяльнага) **w** (не адрозніваліся пры картаграфаванні дыялектных матэрыялаў).

Літарай **й** абазначаецца два гукі: **й** (нескладовае) і **j**, адрозненні якіх таксама не ўлічваліся ў Атласе.

Літара **l** прынята ў транскрыпцыі для абазначэння «сярэдняга» паўмяккага **л** (практычна не ўжывалася).

Літарай γ прынята абазначаць заднеязычны фрыкатыўны гук, які ўласцівы беларускай мове.

Літарай **h** перадаецца заднеязычны фарынгальны «прыдыхальны» гук, які з'яўляецца тыповым для ўкраінскай мовы і для некаторых беларускіх гаворак, сумежных з украінскімі.

Мяккасць зычных абазначаецца коскай ('), якая ставіцца справа ўверсе ад зычнай літары (*л'ес*, *п'ен'*).

Паўмяккае вымаўленне зычных абазначаецца кропкай *р˙ечка*, *ч˙ йста*).

Вымаўленне свісцячай афрыкаты на месцы мяккага **д** перадаецца літарай **z'** (*z'ен'*, *z'ед*).

Вымаўленне шыпячай афрыкаты **д͡ж** перадаецца літарай *ž* (*уражáй*, *хажý*).

Доўгія зычныя перадаюцца двайным напісаннем (*з'éл'л'е*) ці рыскай над літарай (*з'éл̄'е*).

Пры збіранні матэрыялаў для Атласа пераважная большасць удзельнікаў прытрымлівалася прынятай для Атласа сістэмы фанетычнай транскрыпцыі, аднак некаторыя збіральнікі карысталіся індывідуальнымі прыёмамі транскрыпцыі, асабліва пры фіксацыі матэрыялу паўднёвых гаворак, якія адрозніваюцца асаблівасцямі фанетычнай сістэмы і граматычнай структуры.

Так, для перадачы асаблівасцей вакалізму карысталіся надрадковымі літарамі: **е**$^{ы}$, **ы**$^{е}$, **ы**$^{и}$, **и**$^{ы}$, **и**$^{е}$, **а**$^{о}$, **о**$^{а}$, **у**$^{о}$, **о**$^{у}$ і інш., якімі перадаваліся розныя адценні галосных, што вынікалі ў тых ці іншых пазіцыйных умовах.

Пры картаграфаванні цяжка было ўлічыць разнастайнасць падобных абазначэнняў. Усе матэрыялы з надрадковымі абазначэннямі і з іншымі індывідуальнымі абазначэннямі мясцовага вымаўлення прыведзены ў каментарыях да карт.

У матэрыялах, сабраных для Атласа беларускай мовы, сустракаюцца выпадкі арфаграфічных запісаў, што перашкаджала ў вызначэнні характару вымаўлення зычных перад галоснымі пярэдняга рада.

У каментарыях да карт фактычны матэрыял пададзен у транскрыпцыі, якая адпавядае арыгіналам. Толькі ў асобных выпадках у абазначэнні некаторых гукаў праведзена уніфікацыя знакаў.

Доўгія зычныя, якія ў некаторых матэрыялах перададзены гарызантальнай рыскай зверху над зычнай, заменены ў каментарыях двайнымі зычнымі (*збóж̄а — збóжжа*).

## 3. АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА САБРАНЫХ ДЫЯЛЕКТНЫХ МАТЭРЫЯЛАЎ

Пераважная большасць дыялектных матэрыялаў, сабраных па адзінай праграме для Атласа беларускай мовы, правільна і ўсебакова адлю-

строўвае моўныя з'явы сучасных беларускіх гаворак, што з'яўляецца надзейнай асновай для складання лінгвістычных карт.

Разам з тым пэўная колькасць праграмных адказаў не поўнасцю задавальняе тыя патрабаванні, якія прад'яўляюцца да такога роду матэрыялаў, што адмоўна адбілася на навуковай вартасці лінгвістычных карт, прадстаўленых у беларускім атласе. Істотным недахопам з'яўляецца недастатковасць фактычнага матэрыялу ў тым сэнсе, што на асобныя пункты і падпункты «Праграмы» прыводзіцца адзін — два прыклады, якія часта бываюць супярэчлівымі. Пры картаграфаванні такія адказы стваралі вялікія цяжкасці. Так, адсутнасць дастатковай колькасці прыкладаў не дазваляла вызначыць у асобных населеных пунктах характар акання (якання) у раздзеле ненаціскнога вакалізму, тыпы асноў, скланавых і асабовых канчаткаў — у раздзелах марфалогіі, тыповых прыназоўнікавых канструкцый — у раздзеле сінтаксісу.

Звычайна ў матэрыялах ёсць розныя фанетычныя варыянты слоў, дублеты марфалагічных форм, сінтаксічных канструкцый з тымі ці іншымі заўвагамі да іх. Аднак вельмі часта ў адказах не даюцца заўвагі і тлумачэнні аб характары ўжывання розных варыянтаў, што складае пэўныя цяжкасці ў размеркаванні такіх варыянтаў, у вызначэнні іх адносін да моўнай сістэмы гаворак. Часта фактычны матэрыял падаецца ў адказах без належнай сістэматызацыі размежавання па пунктах, прадугледжаных у праграме. У такіх выпадках адказы па марфалогіі можна адшукаць у раздзелах фанетыкі ці сінтаксісу. Так, напрыклад, у адказе на 83-і пункт «Праграмы», які прадугледжвае выяўленне форм меснага склону множнага ліку назоўнікаў, адзначаюцца толькі формы з канчаткам **-ах** *(па садáх)*, а ў адказе на 147-ы пункт раздзела па сінтаксісу, дзе прадугледжваецца выяўленне тыпаў прыназоўнікавых канструкцый, адзначаюцца формы меснага склону на **-ох** *(па лясóх, па кустох)*.

Адным з недахопаў, якія адносяцца да ўсіх матэрыялаў, з'яўляецца абмежаванне адказаў пераважна праграмнымі прыкладамі, што абядняе матэрыял, зніжае яго якасць.

У частцы адказаў, у прыватнасці па марфалогіі, адзначаюцца літаратурны і дыялектны варыянты моўных з'яў, а ў частцы — толькі літаратурны варыянт. Пры картаграфаванні абодвух варыянтаў ствараецца ўражанне, што літаратурны варыянт займае суцэльную тэрыторыю, у параўнанні з якім разрэджана адлюстроўваецца дыялектны варыянт, што звычайна звязана з недахопам матэрыялу і не адпавядае аб'ектыўнаму стану сучасных гаворак, паколькі сістэма гаворак даволі ўстойліва і паслядоўна захоўваецца ў прадстаўнікоў старэйшага пакалення калгаснага сялянства і адсутнасць на карце дыялектнага варыянта не заўсёды адпавядае адсутнасці яго ў мясцовай гаворцы.

Недастатковы матэрыял прадстаўлены па раздзелу сінтаксісу. Вельмі часта ён абмежаваны праграмным варыянтам, які адпавядае асаблівасцям мясцовай гаворкі пры поўнай або частковай адсутнасці мясцовых выразаў і сказаў.

У некаторых камплектах матэрыялаў на паасобныя пытанні часткова або поўнасцю адсутнічаюць адказы. Таму ў радзе карт маюць месца

**923** *варац'ано́, в'ел'ичын'а́, з'ел'енава́ты.* **931** *варац'ано́, в'ел'ичын'а́.* **933** *варат'ино́, з'ел'енава́ты.* **934** *з'ел'енава́ты, в'арац'ано́, варац'ано́, величына́; в'ирац'ано́.* **937** *в'арац'ано́; в'ирац'ино́, в'ил'ичына́, з'ил'анава́ты.* **939** *з'ъл'ьнава́ты, в'ъл'ичына́, варац'ьно́, в'ерац'ано́.* **940** *варац'ано́, в'ерац'ано́, в'ел'ечына́, з'ел'енкава́тый;* старыя замест [е] ў трэцім складзе перад націскам гавораць [а], маладыя — [е] (відаць, у пазіцыі пасля губнога зычнага). **944** *варац'ано́, в'ел'ичына́, з'ел'енкава́ты.* **956** *верытыно́, зылонкова́тый.* **970** *в'ероц'ено́, в'ел'ичына́, з'ел'енкова́ты,* або могуць сказаць так: *вероц'ено́, вел'ичына́, зел'енкова́ты.* **992** *варац'ано́, вал'ичына́, з'ел'енава́ты.* **1005** *варац'ано́, вал'ичын'а́, з'ел'енкова́ты.* **1017** *в'ьрац'ано́, в'ьл'ичын'а́.* **1018** *в'ерац'ано́, з'ел'енкава́ты.* На месцы «е» можа вымаўляцца галосны, сярэдні паміж ['е] і ['а].

## Карта № 12

## ГАЛОСНЫ НА МЕСЦЫ „о" ПАСЛЯ ЦВЁРДЫХ ЗЫЧНЫХ У ПАСЛЯНАЦІСКНЫМ АДКРЫТЫМ НЕКАНЦАВЫМ СКЛАДЗЕ

Карта складзена на матэрыяле пункта «а» пытання № 17:

«Які галосны гук вымаўляецца замест этымалагічнага **о** ў паслянаціскных складах:

а) не ў канцавым складзе: *у гора***д***зе, у горъдзе, у горыдзе* ці *ў горо***д***зе; голаса, гэтага, дорага, белага, выпрасіў?*»

На карце паказаны змены «о» ў акаючых гаворках і наяўнасць «о» (з рэдкімі зменамі) у окаючых гаворках.

Карта складзена на аснове лексічна неабмежаванага матэрыялу, але пераважна на матэрыяле слоў: *у горадзе, голаса, дорага, гэтага, белага, выпрасіў.*

Адводзяцца ад картаграфавання змены «о» ў [у] ў спалучэнні **-ова-**: **63** *про́бувал'и.* **229** *ɣ'а́кувайу.* **304** *ɣаро́хувайа.* **492** *тре́бувал'и.* **777** *с'л'е́дувац'ел'ем* і ў слове *н'е́куму* — нас. п. 63. Нягледзячы на тое што ў некаторых гаворках у форме роднага склону прыметнікаў часцей захоўваецца «о», чым у іншых словах *(ɣо́ласа,* але *ро́дноɣо),* гэтыя формы не выдзяляюцца пры картаграфаванні, бо ў адказах яны займаюць значнае месца і без іх матэрыял будзе няпоўным. Не абазначаецца на карце вымаўленне [а] замест «о» ў нас. пп. 607, 608, 610, 612, 627, 628, 630, 636, дзе [а] адзначана толькі ў слове *вы́прас'иц',* тады як у астатніх словах на месцы «о» адзначана [ы]: *ɣо́рыда,* бо ў гаворках з дысімілятыўным аканнем у вымаўленні тыпу *вы́прас'иц'* можна бачыць дысіміляцыю галосных суседніх складоў, а не праяўленне недысімілятыўнага акання.

Пры картаграфаванні аб'ядноўваюцца [ъ] і [ы] на месцы «о» ў гаворках з дысімілятыўным аканнем у першым складзе перад націскам. У гаворках з недысімілятыўным аканнем літарай **ъ** збіральнікі абазначалі іншы галосны, пераважна сярэдні паміж [о] і [а], і перадаецца адсылачным знакам.

Аб'ядноўваюцца знакі індывідуальнай транскрыпцыі: **ъ**[ы] — у нас. п. 274, **ы̆** — у нас. пп. 276, 326, 894, **ӑ** — у нас. пп. 318, 544, 571, 924 картаграфуюцца як [ъ]; **а°** — у нас. п. 980 — як [а].

У каментарыях прыводзіцца матэрыял пры наяўнасці заўваг збіральнікаў, пры пастаноўцы адсылачнага знака і пры зменах «о» ў [у] ў паўднёвых гаворках: **126** *γóлыса, дóрыγа, чóрныγа;* чуваць [ы]. **616** *йéтъγа, у γóрыз'и, б'éлъγа, с'м'éлъγа;* кароткае [ы]. **653** *ĥóлоса, ĥéтоĥо; в γóруди.* **655** *γéтого, дóроγо, бéлоγо, вы́прусый.* **656** *ĥóлоса, ĥéтоĥо, би́лоĥо, вы́прусыв.* **657** *в γóроде, éтуγо, дóруγо, б'и́луγо, вы́прусыв.* **693** *γóлуса, γéтуγо, би́луγо, вы́прусый.* **704** *у γóрод'и, γéтуγо, б'и́луγо, вы́просыв.* **708** *вы́кас'иц', ц'ажóлайе, йáлъв'ина, мáкъв'ишча.* **784** *γóласа, γéтаγо; у γóроз'е, ры́бойу, у γóръз'е, хóръше, б'и́лъγо.* **799** *у γóраз'и, у γóръз'и, γéтоγо, б'éлаγо, вы́пръс'ий.* **839** *у γóроз'е, γóлъса, йéтъγо, б'éлъγа, вы́прос'ий.* **842** *у γóроз'и, γóлъса, дóроγо, вы́прос'ий, йéтъ*[а]*а, б'éлъа.* **909** *γóлъса, у γóръз'е.* **911** *éтаγа, вы́прас'иц', γóрада; у γóръз'ь, γóлъса, йéтъγа, дóръγа, б'éлъγа.* **947** *в ĥóруд'и, ĥóлусу, б'и́луĥо, вы́прусыв.* **949** *в ĥóруд'и, ĥóлусу, ĥéтоĥо, б'и́луĥо, вы́прусыв.* **959** *у γóруд'и, γéтуγо, би́луγо, вы́прусыв.*

## Карта № 13

## ГАЛОСНЫ НА МЕСЦЫ „о“ ПАСЛЯ ЦВЁРДЫХ ЗЫЧНЫХ У ПАСЛЯНАЦІСКНЫМ КАНЦАВЫМ ЗАКРЫТЫМ СКЛАДЗЕ Ў АСНОВЕ СЛОВА

Карта складзена на матэрыяле пункта «б» пытання № 17:

«Які галосны гук вымаўляецца замест этымалагічнага **о** ў пасля-націскных складах:

б) у канцавым закрытым складзе перад цвёрдым зычным: *гор*а*д, горъд, гор*ы*д, гор*о*д; кол*а*с, хол*а*д, куб*а*к, мол*а*т?*»

На карце паказаны змены «о» ў акаючых гаворках і наяўнасць «о» (з рэдкімі змяненнямі) у окаючых гаворках.

Карта складзена на аснове лексічна неабмежаванага матэрыялу, але пераважна на матэрыяле слоў *горад, волас, колас, молат, холад, кубак, сорам* і інш.

У нас пп. 58, 114, 136, 167, 176, 206, 342, 344, 353, 382, 394, 419, 524, 555, 574, 575, 576, 585, 606, 747, 854, 861, 866 картаграфаванне праводзіцца на матэрыяле аднаго слова.

Картаграфуецца галосны на месцы «о» ў канцавым закрытым складзе ў аснове слова. Галосны на месцы «о» ў склонавых канчатках (у месным склоне прыметнікаў мужчынскага і ніякага роду адзіночнага ліку, у творным склоне назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду адзіночнага ліку, у родным склоне назоўнікаў множнага ліку з канчаткам **-аў** (**-оў**), у канчатках дзеясловаў: *пóйдом*) адводзіцца ад картаграфавання; не картаграфуецца слова *н'éскул'к'и* ў нас. пп. 509, 513, 514, 578, 712, 816.

Пры картаграфаванні аб'ядноўваюцца знакі індывідуальнай транскрыпцыі: **а**[ъ] перадаецца як [ъ] у нас. п. 40; **ъ**[ы] — як [ъ] — у нас. п. 274; **ă** — як [ъ] у нас. пп. 318, 322, 509, 571, 578, 924; **ы̆** — як [ъ] — [ы] ў нас. пп. 276, 509, 578, 586, 894; **о**[а] — як [о] ў нас. п. 604; **ô** —

як [о] ў нас. п. 999; **а**° — як [а] ў нас. пп. 980, 999; [ъ] і [ы] ў гаворках з дысімілятыўным аканнем аб'ядноўваюцца пры картаграфаванні. Адсылачным знакам абазначаюцца іншыя варыянты галоснага, перададзеныя літарамі: **ъ** (у гаворках з недысімілятыўным аканнем або оканнем), а таксама **и, у** на месцы «о» ў окаючых гаворках.

У каментарыях прыводзіцца матэрыял пры наяўнасці заўваг збіральнікаў і пры пастаноўцы адсылачных знакаў (у асобных выпадках аднародны матэрыял скарачаецца): **34** *цебар, хóлат, мóлад, γóрат, кóлас, вóлас, мóлат, кýбак.* Гук [а] вельмі кароткі. **106** *хóлът, γóрът, вóлъс, кóлъс;* ледзь улоўнае [ы], у большасці зусім рэдуцыраваны гук. **126** *γóлъс, γóръд, хóлът, γóлът, мóлът;* [ы] знікае. **276** *кýбък, кýбык, γóлыт, γóлът, хóлът, хóлыт, вóлыс, вóлъс.* Вымаўляецца [ъ] або кароткае [ы], у большасці ставім **ъ**. **499** *γóрат, кóлъс, хóлад, лóдак, γóлас, мóлат.* **578** *γóрад, кóлас, хóлад, ẑ'éтък, лóдък, γóрът, м'éтър, м'ýсычка, Бы́хъў, аўтóрык.* Вымаўляюцца [ъ], [а], [ы], [ы]. **593** *кýбък, вóлъс, Бы́хъў, Бы́хуў.* **604** *γóрад, кóлос, γóлос, хóлод, мóлот, кýбак, вóлас, стóрож, кóлас, кóло°с, хóлад, γóлас.* Пасля націску часта ўжываецца [а]. **616** *γóлыс, γóрыд, кóлыс, вóлыс* — вымаўляецца кароткае [ы]. **660** *γóрод, кóлос, γóлъс, γóлос, хóлъд, хóлод, мóлот, кýбок, вóлъс.* **708** *падвóрък, кýбък, пóмач, γóлад.* **728** *γóрод, γóлос, кýбок, кóл'ис, γóл'ис, хóлид, мóлит, вóл'ис.* **733** *д'ýректор, тráктор, с'в'ýкор, чóбот, γóрод, кóлис, γóлис, хóлод, мóлит, кýбок, вóлос.* **839** *γóрът, кóлъс, γóлъс, хóлът, мóлът, вóлъс.* **842** *γóрът, γóлъс, мóлът, вóлъс, кóлъс.* **894** *нáныч, γáлычка, кýбък, па лóкуц'.* **909** *γóрът, γóлъс, кóлас.* **911** *γóрат, кóлас, хóлад, лóдък, γóръд, кôлъс, γóлъс, мóлът, кýбък, вóлъс.* **949** *ћóрод, кóлос, ћóлос, хóлод, мóлот, кýбок, вóлос, ћóруд, кóлус, ћóлус, хóлуд, мóлут, вóлус.* **959** *γóруд, кóлус, γóлус, хóлуд, мóлут, кýбок, вóлус.* **999** *γóрод, кóлъс, γóлъс, хóлъд, мóлът, кýбък, вóлъс; стóлак, ẑ'éвак, пóвад, γóлаў, пáп'ерац', тáбур, рамóно°к.* **1001** *γорáд, колáс, γолáс, холáд, молáт, кубáк, волáс;* картаграфуецца, хоць націск пастаўлены няправільна.

## Карта № 14

## ГАЛОСНЫ НА МЕСЦЫ „о" ПАСЛЯ ЦВЁРДЫХ ЗЫЧНЫХ У КАНЦАВЫМ АДКРЫТЫМ СКЛАДЗЕ

Карта складзена на матэрыяле пункта «г» пытання № 17:

«Якія галосны гук вымаўляецца замест этымалагічнага **о** ў паслянаціскных складах:

г) у канцавым адкрытым складзе: *сен***а** ці *сен***о***; мног***а** ці *мног***о***; starог***а** ці *стараг***о***; сал***а**, *сонейк***а**, *блізк***а**, *гэтаг***а**?»

Картаграфуецца вымаўленне ненаціскнога галоснага на месцы этымалагічнага «о» ў канцавым адкрытым складзе ў акаючых і окаючых гаворках.

Карта складаецца на аснове лексічна неабмежаванага матэрыялу. У многіх нас. пп. прыводзіцца значны матэрыял, які паказвае вымаў-

ленне ненаціскнога галоснага ў розных граматычных катэгорыях: у назоўніках ніякага роду адзіночнага ліку, прыслоўях, дзеясловах прошлага часу, у формах роднага склону прыметнікаў. Пры непаўнаце адказаў выкарыстоўваецца матэрыял пытанняў № 17 «а», 18 «а» (слова *вόз'ера* і прыметнікі роднага склону). У нас. пп. 58, 153, 344 знак ставіцца на матэрыяле аднаго слова.

Адводзяцца ад картаграфавання адказы з канцавым галосным [е] ў прыметніках ніякага роду і ў прыслоўях: *дόбре, мал'éн'к'е, з'ел'όне,* бо [е] тут паявілася нефанетычным шляхам, займеннік *тόγа* і некалькі слоў, якія вылучаюцца ў сістэме вакалізму окаючых гаворак і могуць быць растлумачаны ўплывам рускай або беларускай літаратурнай мовы: *инц'арéсна, аб'азáц'ел'на, дόбра, нáда* і інш. або ў акаючых гаворках: *тόл'ко, скόл'ко* і інш.

Пры картаграфаванні аб'ядноўваюцца прыёмы індывідуальнай транскрыпцыі: **ă** картаграфуецца як [а] ў нас. пп. 264, 269, 290, 311, 312, 318; **ό** — як [о] ў нас. пп. 358, 366; **о**[а] — як [о] ў нас. пп. 604, 886, 997; [а]**о** — як [о] ў нас. п. 997. Адказы са знакам **ъ** на месцы «о» *(скόръ, сáлъ)* абазначаюцца адсылачным знакам.

У каментарыях прыводзіцца матэрыял у выпадку выпраўленняў пры паўторным абследаванні, пры наяўнасці заўваг збіральнікаў і пастаноўцы адсылачнага знака; аднастайны матэрыял скарачаецца: **68** *с'éна, прáсла, сáла, мáсла, мнόγа, пόўна, старόγа; бл'úскъ, чыстъ, крéпкъ, н'úскъ.* **109** *с'éнъ, л'éтъ, сáлъ, крепкъ, н'ивόднъγъ.* **110** *с'éнъ, мáслъ.* **111** *с'éнъ, мáслъ, бл'úскъ, крéпкъ.* **112** *с'éнъ, л'éтъ, сáлъ.* **113** *с'éнъ, л'éтъ, бл'úскъ, н'ивόднъγъ.* **114** *с'éнъ, сáлъ.* **115** *с'éнъ, л'éтъ, бл'úскъ, дал'όкъ, стáраγъ.* **116** *с'éнъ, л'éтъ, мáслъ, крéпкъ.* **117** *с'éнъ, л'éтъ, сáлъ, бл'úскъ, мнόγъ, пόўнъ, н'ивόднъγъ.* **184** *с'éна, л'éта, мнόγа,* але: *γéтаγо, н'ивόднаγо.* **244** *с'éна, л'éта, сáла, мáсла, бл'úска, мнόγо, чысто, крéпка, старόγа;* [о] на канцы не пад націскам сустракаецца ў старых вельмі рэдка; ад моладзі не знойдзены прыклады. **263** *с'éнъ, сáлъ, мáслъ, крéпка.* **264** *с'éнъ, сόн'ьйка, бл'úскъ, мнόγъ, мáслъ, чыстъ.* Пры праверцы ў першых чатырох словах закрэслен **ъ**, дапісана: *с'éнă, мнόγă, нáда;* адзначана **а**, гэта значыць гук [а]; але, магчыма, больш кароткі. **268** *с'éнъ, л'éтъ, мáслъ, сόн'ьйкъ, бл'úскъ, чыстъ, мнόγъ.* **269** *с'éнъ, л'éтъ, сáлъ, крéпкъ* (перш.); *с'éнă, л'éтă, мнόγă, спас'úбă, звόнкă* (паўт). **272** *с'éнъ, л'éтъ, сáлъ, мáслъ, пόўнъ, мнόγъ.* **276** Толькі [а]: *с'úта, рéшъта, мáсла, сáла, бл'úска, дал'όка, γлыбόка, шырόка, крéпка, быстра, ц'éсна, бόл'на, с'éна, старόγа, мъладόγа, с'л'апόγа.* **277** *с'éнъ, л'éтъ, сáлъ, мáслъ, пόўнъ, мнόγъ.* **281** *с'éнъ, л'éтъ, сáлъ, мáслъ, бл'úскъ, пόўнъ, мылъ, крéпкъ, γéтъγъ* (перш.); *л'éта, с'éна, сáла, мáсла, мнόγа, чыста, крéпка, старόγа* (паўт.). **307** *вόкъ, скόръ* (перш.); *с'éна, л'éта, сáла, мáсла, сόн'ейка. бл'úска. мнόγа, чыста, пόўна, крéпка, γéтаγа, старόγа, н'ивόднаγа, вόз'ьра, жыта, нав'éрна* (паўт.). **343** *с'éно, л'éто, γéтаγо, слόнцо, сáло, тáто, мáмо.* Канцавое [о] захоўваецца: *раz'úласо, тόйо.* **346** *наша с'éна, сáла, мáсла;* але ў іншых адказах: *мнόγо, дόбро, маладόγо, дόброγо, дал'όко,*

паɣарéло, выпало, z'áz'ко, мáмо. **366** ц'éстô, хýткô, скóрô; жытô, дôбрô, дал'ôкô, л'éдвô, бáц'кô, трéбô, с'ин'аɣô, стáлô, мнôɣô; мнôɣа, старóɣа, дал'óко. **497** скóро, мóжно, жыто, слáбо, ц'óмно, вышло, ц'áшко, наз'б'ирáласо, н'икóɣо; дóбра; канцавое ненацiскное [о] захоўваецца з нязначнай рэдукцыяй. **500** мóжна, ц'éста, пóзна, дóбра, брытка, дýжа, скóра, трéба; скóро, рáно. У паслянацiскных складах даволi часта можа захоўвацца гук, блiзкi да этымалагiчнага (з некаторай рэдукцыяй): рáно, скóро, ɣéтаɣо. **514** с'éна, л'éта, сáла, абрáтна, жáрка, крéпка, мнóɣа, рáна, сáмаɣа, йéтаɣа, маладóɣа; дóбраɣо. У канцавым адкрытым складзе звычайна чуецца [а]: с'éна, м'áса, маладóɣа, мáла, мнóɣа. У асобных выпадках сустракаецца i [о$^а$] або [о]: дóбраɣо, крéпко, ɣóрко, мнóɣо$^а$, мнóɣа$^о$ (рэдка сустракаецца), у назоўнiках [а] не заўважылi. **604** с'éно, л'éто, сáло, мáсло, пóўна, стрóɣо, мнóɣо, баɣáто$^а$, баɣáта, баɣáто, н'едал'óко, нал'éво, мнóɣа, лáдна, с'éно$^а$, м$^и$áса, в'адóма, л'êто$^а$, мйáсо$^а$. **688** сóн'ейко, блыско, мнóɣо, чысто, пóвно, мýцно, ɣéтоɣо, старóɣо, ныɣóдноɣо. Запiсы с'йна, л'йта, сáла, мáсла выклiкаюць сумненне i адводзяцца ад картаграфавання, бо ў гаворцы адзначана паслядоўнае оканне i ў iншых адказах гэтыя словы запiсаны з лiтарай **о**. **787** крéпка, старóɣа (старóɣо — больш рэдка), ɣéтаɣа, мáсла, с'éна, мнóɣа (мнóɣо з [о] — больш рэдка). **806** с'êно, радзей с'êна, сáло, мáсло, бл'иско, дал'óко, боɣáто, старóɣо, л'ýдно, с'м'éшна. **822** с'éно, л'éто, сáло, мáсло, сóн'ейко, бл'йзко, крéпко, старóɣо, друɣóɣо, нáшаɣо; сустракаецца часам i л'éта, сóн'ейка, але часцей на канцы [о]. **842** с'$^и$éно, л'$^и$éто, сáло, мáсло, сóн'ейко, бл'йско, боɣáто, чысто, крéпко; йéтъа, сто$^у$рóа, н'ивóнъ$^ы$а; молодóо хлóпца, старóо z'éда, дóброо. **886** мáсло$^а$, сáло$^а$, с'йно — с'êна, карыта, рéшата, мáло$^а$, мóцно$^а$, с'йл'но$^а$, жáлобно$^а$, прáв'ил'на, хýтко$^а$, дóбра, жыта, стыдна, стáдо, йéто, прóсо, рáz'ива. **909** Формы на [о] (крепко) сустракаюцца толькi ў асоб старэйшага пакалення, ды i то вельмi рэдка. **915** н'икóɣа, мóжна, баɣáта, ц'éста, скóра, прац'йўна, с'éдала, ц'êсна, трéба; м'éсто (рэдка; часцей ужываюцца формы на [а]), хорошéн'ко. **951** сáло, мáсло, сóныйко, блыз'ко, мныhо, чысто, нывóдноhо; запiсы пóвна, м'йцна, сторóɣа не картаграфуюцца, бо яны супярэчаць астатнiм запiсам з нас. п. **997** л'éта, мнóɣа, ɣéтаɣа, л'$\widehat{\text{ие}}$та — л'$\widehat{\text{ие}}$то, хýтка, н'ичóɣа, мáло, мнóɣо, с'êна, сáла, мáсл$^о$а, прóса, мáсло$^а$, мйáс$^а$о, жáрко, красáло$^а$. **1025** с'éно(а), мáсло(а), бл'йзка, крéпка, старóɣа; с'éно, мáсло — зрэдку гаворацьстарэйшыя ў скарагаворцы, а часцей — [а]. **1026** вáрыва, балóта, ц'éла, баɣáта, z'éшава, жáлка, н'едал'éка, рóўна, пóўна, мóжна; ун'истóжыло, м'êшано, н'е хватáло, забол'êло, хаz'йло, кас'йло — заўсёды [о].

## Карта № 15

## ГАЛОСНЫ НА МЕСЦЫ „е" (З „е" I „ě") У ПАСЛЯНАЦIСКНЫМ НЕКАНЦАВЫМ АДКРЫТЫМ СКЛАДЗЕ

Карта складзена на матэрыяле пункта «а» пытання № 18:

«Якi галосны гук вымаўляецца замест этымалагiчнага **е** i **е** з **ě** ў паслянацiскных складах:

а) не ў канцавым складзе: *возера, возяра* ці *возіра; сёлета, сёлята* ці *сёліта; сінега, вылезу, выведзі*?»

Адводзяцца ад картаграфавання формы роднага склону прыметнікаў *сіняга, сінега* ці *сініга* і формы дзеясловаў *выведзі, вывядзі* ці *вывідзі,* у якіх змены галоснага могуць даваць іншы вынік, чым у астатніх словах.

Картаграфаванне праводзіцца на аснове лексічна неабмежаванага матэрыялу: *возера, сёлета, восені, у Гомелі, камера, шофера, номера. зелені, засекі, пасека, лагера, вучыцеля, колеру, попелу, весела, каменем, мучыцелям, запечак, пяцера, дзесяцера* і інш.; улічваюцца таксама і дзеепрыметнікі: *зроблена, пастаўлена, куплена* і інш., у якіх у суфіксе адбываюцца такія ж змены галоснага, як і ў астатніх словах. Але ў большасці адказаў сустракаюцца толькі словы *возера, сёлета,* на аснове якіх і праводзіцца картаграфаванне. У паўднёвых гаворках (брэсцкіх) слова *сёлета* ў большасці выпадкаў адсутнічае, бо існуе раздзельнае вымаўленне назоўніка з займеннікам: *с'ойе л'іто, соүо л'іта, гете л'іто, ц'ойе л'іто, с'ой р'ік* і інш. У такіх выпадках картаграфуецца толькі слова *возера.* У асобных выпадках, калі адказы выклікаюць сумненне ў адносінах цвёрдасці-мяккасці зычнага, выкарыстоўваецца матэрыял пытання № 50.

Пры картаграфаванні аб'ядноўваюцца прыёмы індывідуальнай транскрыпцыі: **и**$^{е}$ перадаецца як [и] ў нас. пп. 33, 311, 431; **е**$^{и}$ — як [е] ў нас. п. 769; **ê** — як [е] ў нас. пп. 305, 787, 822, 831, 890; **ӗ** — як [е] ў нас. п. 464; **е**$^{а}$ — як [е] ў нас. пп. 511, 514, 713, 756, 902; **а**$^{е}$ — як [а] ў нас. пп. 536; **е**$^{ы}$ — як [е] ў нас. п. 951.

У гаворках з дысімілятыўным яканнем **ь** картаграфуецца як [и], таму што [ь] і [и] ў гэтых гаворках ужываюцца паралельна. Ва ўсіх астатніх гаворках **ь** перадаецца адсылачным знакам, бо пры адсутнасці заўваг цяжка вызначыць якасць абазначанага ім галоснага (магчыма, гук, сярэдні паміж [е] і [а]).

Поўнасцю прыводзіцца матэрыял з наяўнасцю галоснага [ь], заўваг збіральнікаў і пры пастаноўцы на карце адсылачных знакаў, якія ўказваюць на іншыя варыянты галоснага або на неабходнасць тлумачэння пры пастаноўцы знака: **30** *шоф'ира, урем'ин'и, воз'ира;* ужываецца: *воз'ера, с'ол'ета.* **103** *воз'ьра, с'ол'ьтъ.* **106** *с'ол'ита, воз'ира* або [ь]: *воз'ьра.* **133** *воз'ьра, с'ол'ьта.* **135** *с'ол'ьта, воз'ьра.* **243** *воз'ара, с'ол'ата* (у дарослых); *воз'ира, с'ол'ита* (у дзяцей школьнага ўзросту). **244** *воз'ира, с'ол'ита;* рэдка — *воз'ера, с'ол'ата.* **264** *воз'ьръ, с'ол'ьтъ; воз'ира, с'ол'ита.* **268** *воз'ьръ, с'ол'ьтъ.* **269** *воз'ьръ, с'ол'ьтъ.* **307** *выб'иру, воүн'ины; воз'ьра, с'ол'ьта.* **311** *с'ол'ита, воз'ьра, воз'ира, спл'еци$^{ь}$ны.* **314** *с'ол'ьтъ; воз'ира, с'ол'ита.* **335** *воз'ьра, с'ол'ита.* **370** *воз'аро, воз'ьра; воз'ера, с'ол'ета.* **390** *воз'ера, воз'ьра.* **426** *воз'ера, с'ол'ета,* але сустракаецца *воз'ара, с'ол'ата.* **438** *ран'аны, выл'ачал'и, ран'ьна.* **464** *воз'ьра, воз'ӗра, на прып'ику, с'ол'ата.* **536** *выйал'и, на пас'аце, ź'ац'ал'ина, в'ес'ала, праź'ады, с'ол'ата, с'аүол'ата, пас'а$^{е}$ка; с'ол'ьта.* **578** *воз'ира, с'ол'ита, п'ац'ьра, праź'ьды, пан'ес'ина.* **613**

*воз'ьра, с'ол'ьта.* **628** *воз'ира, с'ол'ита; воз'ьра.* **648** *воз'ьра, с'ол'ьта.* **708** *воз'ьро.* **799** *оз'иро, з воз'ира,* але *воз'ера, оз'еро.* **823** *воз'ьра, с'ол'ьта;* у гэтых словах літара **е** была выпраўлена на **ь**. **905** *воз'ира, с'ол'ита;* у гэтых і падобных выпадках заўсёды чуецца вузкі гук: *вос'ин', z'ев'ир, с'ол'ита.* **911** *воз'ера, воз'ьра, с'ол'ьта.* **931** *воз'ера, с'ол'ета, у Ɣом'ел'и, вос'ен'н'и; с'ол'ата;* у сярэдзіне слова — шырокае [е] або [а]. **939** *воз'ьра, воз'ера, с'ол'ата.* **951** *hозыро, hозе^ы^ро.* **968** *оз'иро* (у школьнікаў). **970** *возеро, с'олето,* але: *воз'еро.* **1025** *воз'ара;* рэдка — *воз'ера; с'ол'ета, с'аɣол'ета.*

## Карта № 16

## ГАЛОСНЫ НА МЕСЦЫ „е" Ў ПАСЛЯНАЦІСКНЫМ ЗАКРЫТЫМ КАНЦАВЫМ СКЛАДЗЕ Ў АСНОВЕ СЛОВА

Карта складзена на матэрыяле пункта «б» пытання № 18:

«Якi галосны гук вымаўляецца замест этымалагічнага **е**... у паслянаціскных складах:

б) у канцавым закрытым складзе: *вецер, вецяр* ці *вецір; восень, хлопец, дзевер, палец, восем, полем, будзем*?»

Картаграфуецца вымаўленне галоснага на месцы «е» ў канцавым закрытым складзе пасля націску ў аснове слова. Галосны ў канчатках 1-ай асобы множнага ліку дзеясловаў *(станем, будзем)* і творнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў *(вучнем, каменем)* не картаграфуецца, бо змены галоснага ў канчатках часта носяць іншы характар, чым у аснове слова.

Картаграфаванне праводзіцца на лексічна неабмежаваным матэрыяле: *палец, хлопец, восень, дзевер, клевер, поезд, човен, тыдзень, чэцьвер, студзень, ліпень, дзяцел, поспех, цэмент, восець, скацерць, калодзесь, прадсядацель, харакцер, вецер* і інш. Але ў большасці выпадкаў картаграфуюцца словы *хлопец, палец, восень, дзевер, вецер,* якія сустракаюцца ў адказах. Слова *вецер* улічваецца пры картаграфаванні толькі там, дзе яно супадае ў вымаўленні з іншымі картаграфуемымі словамі; у паўднёвых гаворках, дзе яно вымаўляецца як *в'ит'ор* і гэтым адрозніваецца ад іншых слоў, яно не картаграфуецца. Адводзіцца ад картаграфавання слова *восем,* у якім прадстаўлены іншыя змены галоснага на месцы «е», чым у астатніх словах. Не картаграфуюцца адказы, прадстаўленыя адным словам *вецер* (нас. пп. 58, 386).

Пры картаграфаванні аб'ядноўваюцца прыёмы індывідуальнай транскрыпцыі. У гаворках з дысімілятыўным яканнем **ь** і **и** картаграфуюцца як гук [и] (у нас. пп. 103, 105, 106, 124, 133, 306, 307, 311, 314, 464, 578, 613, 628, 642, 646, 648, 911). У гаворках з недысімілятыўным аканнем, дзе **ь** не можа аб'яднацца з [и], бо абазначае іншы варыянт галоснага, ставіцца адсылачны знак. Картаграфуецца **и^е^** як [и] ў нас. пп. 91, 179; **и^ь^** — як [и] ў нас. пп. 264, 311; **ь^и^** — як [ь] — [и] ў нас. п. 311; **е^ь^** — як [е] ў нас. п. 795; **е^и^** — як [е] ў нас. п. 971; **ê** — як [е] ў нас. пп. 305, 777, 784, 787, 792, 829, 832, 869, 870, 991; **е^а^** — як [е] ў нас.

пп. 430, 511, 514, 713, 776, 830, 886, 997, 999, 1018, 1021; **а**^е^ — як [а] ў нас. пп. 707, 711; **ы**^и^ — як [ы] ў нас. п. 654; **и**^ы^ — як [ы] ў нас. п. 658.

Поўнасцю прыводзіцца матэрыял пры наяўнасці заўваг збіральнікаў і пастаноўцы адсылачнага знака: **126** *ɣ'е́в'ир, во́с'ин', в'е́ц'ир, па́л'иц* — таксама [и]. **185** *в'е́ц'ар, хло́п'ац*, але: *во́с'ин'*. **198** *в'е́ц'ар* вымаўляецца сярэдне паміж [е] і [а]; *во́с'ан', хло́п'ац, ɣ'е́в'ар*. **218** *в'е́ц'ир, в'ос'ин', ɣ'е́в'ир, па́л'иц;* зрэдку — *па́л'ац*. **244** *в'е́ц'ир, ɣры́в'ин', па́л'иц, во́с'ин'; в'е́ц'ер, ɣры́в'ен', па́л'ец* — рэдка. **343** *в'е́ц'ар, во́с'ен';* тут можа быць [е] і [а]; [е] шырокае, блізкае да [а]. **390** *в'е́ц'ар, во́с'ан', хло́п'ац; в'е́ц'ьр, во́с'ьн', хло́п'ьц*. **399** *в'ếц'ар, во́с'ьн', хло́п'ьц*. **409** *во́с'ен', в'е́ц'ер, хло́п'ец, па́л'ец; ɣ'е́в'ар, во́с'ан', в'е́ц'ар*. **464** *па́л'ьц, хло́п'ьц, в'е́ц'ар, кало́ɣ'ис'*. **507** *йа́с'ен', па́л'ец, в'е́ц'ар, п'е́в'ан', л'е́б'ец'*, але: *шва́ɣ'ир*. **536** *шча́в'ьл', в'е́ц'ьр, ре́м'ан'*. **777** *с'и́в'ер, к'и́п'ен', п'ếв'ен', в'е́ц'ер, хло́п'ếц, ɣ'е́в'ер; па́лац* (гавораць старыя), *па́л'ец* (гаворыць моладзь). **784** *в'ếц'ер, па́л'ец, ɣо́м'ел', га́рн'ец, во́с'ен', ка́м'ен', в'и́ц'ьр*. **798** *хло́п'ец, п'е́в'ен', ɣ'е́в'ер, па́л'ец, ска́ц'ерц', ду́р'ен', о́с'ен', ку́бйол, коп'е́йок, в'е́ɣ'ор*. **874** *в'ếц'ар, во́с'ан', во́с'ен'* (рэдка), *хло́п'ац, ɣ'е́в'ар, па́л'ац*. **882** *в'е́ц'ар, во́с'ан', хло́п'ац, ɣ'е́в'ар, па́л'ац; в'е́ц'ер, хло́п'ец, па́л'ец, ɣ'е́в'ер;* у некаторых маладых людзей чуецца і [а]: *в'е́ц'ар, во́с'ан'*, але вельмі рэдка. **905** *в'е́ц'ир, во́с'ин', хло́п'иц, ɣ'е́в'ир, па́л'иц;* у падобных выпадках заўсёды вузкі гук: *во́с'ин', ɣ'е́в'ир* і г. д. **911** *в'е́ц'ар, па́л'иц; в'е́ц'ьр, во́с'ьн', хло́п'ьц, ɣ'е́в'ьр, па́л'ьц*. **931** *хло́п'ац, во́с'ан', в'е́ц'ар, па́л'ац, ɣ'е́в'ар, кап'е́йак, хло́п'ец;* у сярэдзіне слова вымаўляецца шырокае ['е] або ['а]. **939** *в'е́ц'ьр, ɣры́в'ьн', па́л'ьц; в'е́ц'ер, во́с'ен', па́л'ец; ɣ'е́в'ар, хло́п'ац*. **949** У словах *ho̒сын', хло́пыц', ди́вир, па́лыц* раней была напісана літара **э**, якая потым выпраўлена на **ы**. **966** *о́с'ен', ɣ'и́вер, хло́п'ец, па́л'ец, в͡ие́ц'ер, ву͡ос'ен', хлу͡опиц, пу͡ал'ец*. **1017** *в'е́ц'ьр, во́с'ьн', па́л'ьц*. **1018** *в'ếц'ер, во́с'ен', хло́п'ец, ɣ'е́в'ер, па́л'ец; хло́п'е^а^ц, ɣ'е́в'е^а^р;* двайная літара абазначае няясны гук, сярэдні паміж [е] і [а]. **1021** *в'е́ц'ер, во́с'ен' , хло́п'ец, ɣ'е́в'ар, па́л'ец, во́с'е^а^н', ɣ'е́в'а^е^р;* двайная літара абазначае няясны гук, сярэдні паміж [е] і [а].

## Карта № 17

## ГАЛОСНЫ НА МЕСЦЫ „е“ Ў КАНЦАВЫМ АДКРЫТЫМ СКЛАДЗЕ Ў ФОРМЕ НАЗОЎНА-ВІНАВАЛЬНАГА СКЛОНУ АДЗІНОЧНАГА ЛІКУ НАЗОЎНІКАЎ НІЯКАГА РОДУ З МЯККАЙ АСНОВАЙ

Карта складзена на матэрыяле пункта «в» пытання № 18:

«Які галосны гук вымаўляецца замест этымалагічнага е... у паслянаціскных складах:

в) у канцавым адкрытым складзе ў канчатках назоўнікаў назоўна-вінавальнага склону адзіночнага ліку: *насенн***е** ці *насенн***я**,

*веццяа* ці *веццe..?*» Пры адсутнасці ці непаўнаце матэрыялу ў кантрольным адказе выкарыстоўваецца матэрыял пытання № 64 а: «Ці падвойваюцца зычныя перад **й** паміж галоснымі: *насенне, насене* ці *насенье..?*».

Знак на аснове адказаў на пытанне № 64 а ставіцца толькі тады, калі ў адказе побач з літарай **е** *(кам'éн'н'е, в'éц'ц'е)* сустракаюцца запісы з літарай **'о** або **'а** *(нас'éн'н'о, нас'éн'н'а)*, што ўказвае на перадачу дыялектных асаблівасцей.

Адводзяцца ад картаграфавання адказы тыпу *карéн'н'и, кам'éн'н'и, св'ún'н'е* як формы множнага ліку назоўнікаў, а таксама напісанні з літарай **'а** ў слове *корéн'н'а* ў тых выпадках, калі апошняе выдзяляецца сярод іншых слоў: *корéн'н'а,* але: *нас'éн'н'е, в'éц'ц'е,* бо тут таксама можна бачыць форму множнага ліку. Гэта меркаванне пацвярджаецца тым, што сустракаюцца запісы: *карéн'н'а даўɣ'úйа, карéн'н'а малыйа, карéнн'а глыбóка с'аz'áц'* або *пасóхл'и,* што указвае на форму множнага ліку. Не картаграфуюцца і іншыя словы, калі ў адказе мелася ўказанне на форму множнага ліку *(скрыпяць палоззя),* а таксама словы, якія, відаць, прыйшлі з рускай мовы і адрозніваюцца сярод іншых слоў вымаўленнем: *сражен'йе, ɣалавакружéн'ийе, зайавл'éн'ийе.* Не картаграфуецца і слова *пóл'е,* у якім канцавы галосны часта вымаўляецца інакш, чым у зборных назоўніках: *пóл'е,* але: *кам'éн'н'а, в'éц'ц'а.*

Пры картаграфаванні аб'ядноўваюцца знакі: **а**[ь] перадаецца як [а] ў нас. пп. 241, 915; **ê**, **е**[а] — як [е] ў нас. пп. 514, 787, 1018; а[е] — як [а] ў нас. п. 887; **е**[и] — як [е] ў нас. п. 91. Напісанні тыпу *нас'éн'н'а* (ê) перадаюцца знакамі для абазначэння галосных ['а] і ['е] (нас. п. 787).

Поўнасцю прыводзіцца матэрыял пры наяўнасці заўваг збіральнікаў і пры пастаноўцы адсылачнага знака: **9** Зборныя назоўнікі тыпу *насенне* сустракаюцца вельмі рэдка. **11** Формы зборных назоўнікаў амаль адсутнічаюць. Кажуць: *звяры́, сук'ú, нас'óна.* **103** *нас'éнн'ь, в'éцц'ь, карéнн'ь, аz'éнн'ь.* **111** *в'éцц'ь, карéнн'ь, здарéнн'ь, в'ас'éл'ь, калóсс'ь.* **112** *нас'éнн'ь, в'éцц'ь, карéнн'ь.* **113** *в'éцц'ь, нас'éнн'ь, карéнн'ь.* **115** *нас'éнн'ь, аz'éнн'ь, карéнн'ь, пал'éнн'ь.* **117** *нас'éнн'ь, карéнн'ь.* **126** *каренн'а;* ['а] пасля мяккага зычнага. **155** *в'ас'éлл'а, здарéнн'ь, нас'éнн'ь.* **244** *нас'éн'н'е, в'éц'ц'е, карéн'н'е, с'м'éц'ц'е;* канцавое [е] часам чуецца як [и], але больш выразна чуецца [е]. **263** *нас'éн'н'ь, карéнн'ь.* **272** *нас'éнн'ь, карéнн'ь.* **281** *нас'éнн'ь, с'м'éцц'ь; нас'éнн'е, в'éцц'е, см'éцц'е; нас'éн'н'а, карéн'н'а, в'ас'éл'л'а, калóс'с'а.* **426** *нас'éнн'е,* але: *карéнн'а.* **773** *нас'éн'е, корéн'е, нас'úнн'е, корынн'е;* але: *вéц'йа.* **889** *нас'éн'н'е, карéн'н'е; здарéнн'а, карéнн'а, нас'éн'н'а, с'м'éц'ц'а;* [е] вымаўляецца шырока, як [ä]. **897** *нас'éн'н'а, карéнн'а, см'éцц'а, пам'ашчéнн'а;* у назоўным склоне назоўнікаў ніякага роду вымаўляецца ['а]: *пóл'а, в'éцц'а.* **899** *карéнн'е, здарéнн'а, карéнн'а, нас'éнн'а, см'éцц'а;* **е** вымаўляецца як [е[а]]; канцавое [е] шырокае па ўтварэнню — ['еа], ['а]: *нас'éн'н'а, в'ис'éл'л'а, палóз'з'а, с'м'éц'ц'а;* [е] вымаўляецца шырока, як [ä]. **915** *нас'éн'н'е, зайаўл'éн'н'е, нас'êнн'а*[ь]*, карêнн'а*[ь]*, с'м'êцц'а*[ь]*, варêнн'а*[ь]*, пахаладáнн'а*[ь]*, зац'амн'êнн'а*[ь]*, калôс'с'а*[ь]*.*

## Карта № 18

## НЕНАЦІСКНЫ ГАЛОСНЫ НА МЕСЦЫ „ĕ“ Ў КАНЧАТКАХ МЕСНАГА СКЛОНУ АДЗІНОЧНАГА ЛІКУ НАЗОЎНІКАЎ

Карта складзена на матэрыяле пункта «в» пытання № 18:

«Які галосны гук вымаўляецца замест... **е** з **ĕ** ў паслянаціскных складах:

в) у канцавым адкрытым складзе ў канчатках назоўнікаў... меснага склону адзіночнага ліку: *на заводз***е**, *на заводз***я**, *на заводз***і**; *у хац***е**, *у лес***е**, *у калгас***е**, *у балоц***е**, *на рабоц***е**, *на месц***е**?»

Карта складзена на лексічна неабмежаваным матэрыяле, але ў адказах часцей за ўсё прыводзяцца словы, падказаныя «Праграмай». Пры адсутнасці або непаўнаце матэрыялу выкарыстоўваюцца адказы на пытанне № 65 б «Як утвараюцца формы давальнага і меснага склонаў назоўнікаў адзіночнага ліку жаночага роду на **-а** з асновай на заднеязычны:

б) не пад націскам: *на дароз***е**, *на дароз***я**, *на дароз***і** ці *на дарог***е**...» і адказы на пытанне № 66 «Якія склонавыя канчаткі маюць назоўнікі жаночага роду на **-а** (**-я**) у давальным і месным склонах адзіночнага ліку...

а) пры аснове на цвёрды зычны не пад націскам: *на лав***е**, *на лав***я**, *на лав***і**»..., а таксама матэрыял пытання № 17 а: *у гародз***е**, *у горадз***е**.

Пры картаграфаванні ўлічваюцца формы меснага склону адзіночнага ліку назоўнікаў усіх трох родаў з цвёрдай асновай: *на заводзе, у горадзе, у доме, у лесе; у хаце, на рабоце; у балоце, у сене.*

Адводзяцца ад картаграфавання: матэрыял, у якім недакладна вызначана склонавая форма, напр., *колхóзы, завóз'и, л'éс'а, хáц'а;* форма *на м'éсцы,* утвораная ад назоўніка з зацвярдзелай асновай *м'éсца;* форма *в колхóз'е,* калі яна выдзяляецца сярод іншых слоў, бо з'яўляецца запазычаннем з рускай мовы.

Пры картаграфаванні аб'ядноўваюцца прыёмы індывідуальнай транскрыпцыі: **и**[е] перадаецца як [и] ў нас. пп. 36, 61, 91, 99, 257, 971, 974, 975; **е**[и] — як [е] ў нас. пп. 91, 94, 257, 343, 891, 971, 975, 1018, 1021.

Пры запісах тыпу *у хáц'и(е)* абазначаюцца два гукі — [и] і [е]; **е**[а] — перадаецца як [е] ў нас. пп. 253, 430, 431, 466, 493, 511, 514; **а**[е] — як [а] ў нас. п. 446; **ы**[и] — як [и] ў нас. п. 653; **ы**[э] — як [ы] ў нас. п. 698; **ê** — як [е] ў нас. п. 869.

Літара **и** картаграфуецца як ['и] пры наяўнасці ў адказах літары **ы** або як [ы], калі ў адказах ужываюцца літары **'и** і **и**: напр., 728 *на рабóт'и, у хáти.* Літара **е** пры наяўнасці ў адказах **э** картаграфуецца як ['е], а пры наяўнасці запісаў з літарамі **'е, е, э** картаграфуецца як [е] (магчыма, так абазначан галосны пасля цвёрдага або паўцвёрдага зычнага).

Знак ставіцца на матэрыяле аднаго слова ў нас. пп. 172, 290, 508, 517, 665, 854. У астатніх нас. пп. пры нядастатковасці матэрыялу выкарыстан матэрыял з пунктаў № 17 а, 65 б, 66 а.

Поўнасцю прыводзіцца матэрыял пры наяўнасці заўваг збіральнікаў і пры пастаноўцы адсылачнага знака: **103** *у хл'ёв'ь, у балóц'ь, у хáц'ь.* **104** *у хáц'и, у хáц'ь, у γóраz'и, на дарóγ'и, на лáўк'и, на мýх'и, на лáв'и, на брыγáz'и, на рабóц'и, у калγáс'и.* **113** *нъ завóz'ь, у л'éс'и, у γóрыz'и.* **126** У месным склоне вымаўляецца [и]: *у хáц'и, у дóм'и.* **198** *у л'éс'а, на рабóц'а,* але: *на рабóц'е;* пераважна вымаўляецца ['а]: *на завóz'а, у калхóз'а, на м'éс'ц'а, у балóц'а.* **244** *на рабóц'и, у калγáс'и, у л'ýз'и, на л'ńп'и; на завóz'е, у калγáс'е, у л'éс'е, на рабóц'е, у хáц'е, у балóц'е;* радзей — *у хáц'и, у л'éс'и.* **269** *у л'éс'ь; аб Нáz'и, нъ дарóз'и, старýс'и.* **343** *на завóz'е, у калγáс'е, на рабóц'е, на завóz'е$^{и}$, у калγáс'е$^{и}$, на рабóц'е$^{и}$.* **490** *на рабóц'и, у калγáс'и, на завóz'и;* вымаўляецца гук, вельмі блізкі да [и]. **668** *на завóz'и,* але сустракаецца і *на завóz'е, у калхóз'и;* канчатак [е] часцей ужывае моладзь. **751** *у хáц'а, у л'éс'а, у л'éс'е, на с'éн'е, у сáz'а, на аγарóz'е, у калхóз'и.* Вельмі часта ўжываецца канчатак [а], радзей — [е] і яшчэ радзей — [и]. **773** *на завóд'и, у калхóз'и, у л'ńсы, у хáт'и, у болóт'и,* але бывае і *ў колхóзы, у болóты.* **784** *на вóз'е, г бáб'е, у л'éс'е, у хáц'е, у горóz'е, γóръz'е, на св'êц'ь, у с'ńн'ь, у с'êн'ь.* **871** Сустракаюцца дзве формы: *нá завóz'и, у л'éс'и, у калхóз'и* і *на завóz'е, у калхóз'е, у л'éс'е.* **877** *на завóz'и, у калхóз'и, у хáц'и, на рабóц'и, у л'éс'и;* менш пашырана форма *на завóz'а.* **890** *на завóz'и, у л'éс'и, у хáц'и;* рэдка — *на завóz'е, у л'éс'е, на рабóц'е.* **891** *на завóz'е, у калγáс'е, у л'éс'е, на рабóц'и, у хáц'и, на м'éс'ц'и, у балóц'е; на завóz'е$^{и}$, у калγáс'е$^{и}$, у л'éс'е$^{и}$, у балóц'е$^{и}$.* **911** *на рабóц'и, у калγáс'и, нъ завóz'ь, у калхóз'ь, у л'éс'ь, нъ рабóц'ь, у хáц'ь, на м'éс'ц'ь, у балóц'ь.* **955** *у калхóзе, у л'ńсе, на робóте, у хáте, у болóт$^{е}$, на рабóты.* **1018** *на завóz'е, у калγáс'е,* а таксама *у л'éс'е$^{и}$, на рабóц'е$^{и}$, у хáц'е$^{и}$, у балóц'е$^{и}$.* **1020** *на завóz'и, на завóz'е* (рэдка), *у калγáс'и, у л'éс'и, на рабóц'и, у хáц'и.* **1021** *на завóz'е$^{и}$, у калγáс'е, у л'éс'е$^{и}$, на рабóц'е$^{и}$, у хáц'е$^{и}$* (**е$^{и}$** абазначае няясны гук, сярэдні паміж [е] і [и]).

## Карта № 19

## ГАЛОСНЫ НА МЕСЦЫ „а" Ў ПАСЛЯНАЦІСКНЫМ ЗАКРЫТЫМ СКЛАДЗЕ Ў АСНОВЕ СЛОВА

Карта складзена на матэрыяле пункта «б» пытання № 19:

«Які галосны гук вымаўляецца ў паслянаціскных складах замест **я**...:

б) перад **ц**, **с**...: *заяц, заіц* ці *заец; месяц, месіц* ці *месец; пояс, поіс* ці *поес; памяць, дзевяць*?»

У сувязі з тым, што ў адказах прыведзены словы з галосным ['а] ў пазіцыі не толькі перад **ц**, **с**, але і перад іншымі зычнымі, картаграфаванне праводзіцца на больш шырокім матэрыяле з улікам слоў, прыведзеных у адказах: *заяц, месяц, пояс, памяць, дзевяць, дзесяць, Прыпяць, чэлядзь, завязь, дробязь, тысяч* і інш.

Адводзяцца ад картаграфавання словы, у якіх ['а] знаходзіцца ў адкрытым складзе: *тысяча, памяці, месяца* і інш., а таксама формы трэ-

цяй асобы множнага ліку дзеясловаў: *косяць, паляць,* якія картаграфуюцца на карце № 157. Не картаграфуецца слова *паяс,* калі ў ім не абазначан націск або пастаўлен на канцавым складзе.

Трэба адзначыць, што картаграфаванне праводзіцца на даволі абмежаваным матэрыяле, прычым знак ставіцца часта паводле аднаго слова.

Пры картаграфаванні аб'ядноўваюцца прыёмы індывідуальнай транскрыпцыі: **и**$^{е}$ перадаецца як [и] ў нас. пп. 529, 971; **а**$^{е}$ — як [а] ў нас. пп. 711, 770, 886, 909, 1018, 1021; **е**$^{а}$ — як [е] ў нас. пп. 712, 766, 824, 915, 996, 1021; **ê** — як [е] ў нас. пп. 220, 890; **ă** — як [а] ў нас. п. 464. Літара **ь**, якая ў гаворках з дысімілятыўным яканнем сустракаецца ў адказах часцей за ўсё побач з **и**, перадаецца як [и] ў нас. пп. 105, 113, 114, 124, 133, 135, 160, 262, 264, 268, 307, 313, 314, 613, 628. У гаворках, дзе адсутнічае дысімілятыўнае яканне, **ь** абазначаецца адсылачным знакам, у нас. п. 464 **ь** аб'ядноўваецца з [**и**], бо там паралельна вымаўляецца [ʼа] і [ʼи].

У нас. п. 411 не картаграфуецца рыска над **е**: *зайēц, м'ēс'ēц, z'ēв'ēц',* значэнне якой не раскрыта. Адказ у нас. п. 1001 картаграфуецца, хоць націск у словах пастаўлен яўна няправільна: *м'ес'е́ц, пам'е́ц'.*

Поўнасцю прыводзіцца матэрыял пры наяўнасці рэдкіх дыялектных варыянтаў, напр. *па́мац',* заўваг збіральнікаў і пры пастаноўцы адсылачнага знака: **363** *за́йац, м'е́с'ац, па́м'ац', по́йас, за́йа*$^{(е)}$*ц, м'е́с'а*$^{(е)}$*ц, пам'а*$^{(е)}$*ц, z'е́в'ац', по́йа*$^{(е)}$*с.* **464** *за́йац, м'е́с'ац, в'е́йалка, н'е́йак, м'е́с'ăц, м'е́с'ьц, за́йац, z'е́в'иц', z'е́с'иц', с'е́мz'ис'ат.* **499** *за́йац, м'е́с'ац, па́м'ьц', z'е́в'ац'.* **536** *z'е́в'ац', z'е́с'ьц', z'е́с'ац'.* **562** *за́йац, м'е́с'ац, па́м'ац',* але: *z'е́в'иц', z'е́в'и*$^{а}$*ц', по́йс.* **700** *за́йец, м'и́с'ац', па́мет', де́выт', по́йас.* **824** *по́йас, м'е́с'е*$^{а}$*ц, z'е́с'ац', z'е́вьц', Пры́п'ец'.* **840** *па́м'ац', z'е́в'ац',* але: *за́йец, м'е́с'ец, по́йес.* **939** *за́ьц, м'ếс'ьц, па́м'ьц', по́в'ьс; м'е́с'ачка, z'е́с'ац', за́йац, па́м'ац'.* **950** *за́йец, м'и́с'ац, па́мет', де́сет', по́йас, па́мат', де́с'ат'.* **964** *за́йец, м'и́с'ац, па́мыт', де́вет', по́йас, м'и́с'ец, па́мец', де́в'ац', по́йес.* **988** *за́йец, м'е́с'ец, пам'е́ц', па́м'ац', z'е́в'ец'* і рэдка — *z'е́в'ац', по́йес.* **996** *за́йац, z'е́в'ац', м'е́с'ац, па́м'ац'; за́йе*$^{а}$*ц, м'е́с'е*$^{а}$*ц, z'е́в'е*$^{а}$*ц', по́йе*$^{а}$*с.* **1017** *за́йьц, м'е́с'ьц, па́м'ьц', по́йьс.* **1020** *за́йац, ме́с'ац, па́м'ац', z'е́в'ац', по́йас;* рэдка — *по́йис, па́м'иц'.* **1021** Двайныя літары — **а**$^{е}$, **е**$^{а}$ абазначаюць няясны гук, сярэдні паміж [ʼе] і [ʼа]: *за́йа*$^{е}$*ц, м'е́с'а*$^{е}$*ц, па́м'ац', z'е́в'а*$^{е}$*ц', по́йас, z'е́с'е*$^{а}$*ц'.*

## Карта № 20

## ГАЛОСНЫ НА МЕСЦЫ „'а“ Ў ПАСЛЯНАЦІСКНЫМ ЗАКРЫТЫМ СКЛАДЗЕ Ў ФОРМЕ ДАВАЛЬНАГА СКЛОНУ МНОЖНАГА ЛІКУ НАЗОЎНІКАЎ З МЯККАЙ АСНОВАЙ

Карта складзена на матэрыяле пункта «в» пытання № 19:

«Які галосны гук вымаўляецца ў паслянаціскных складах замест **я**:

в) у канчатках назоўнікаў давальнага склону множнага ліку: *к сарая́м, к сараі́м* ці *к сарае́м; к вішня́м, к вішні́м* ці *к вішне́м, капля́м, гаспадыня́м*?»

Картаграфаванне праводзіцца на лексічна неабмежаваным матэрыяле: *вішням, каноплям, баням, пуням, хвоям, людзям, сушням, гусям, пєсням, кузням, картоплям* і г. д. Але ў адказах часта прыводзіцца малая колькасць слоў, пераважна *вішням, сараям, гаспадыням;* часам прыходзіцца картаграфаваць на матэрыяле аднаго слова, таму адзінкавасць з'яў не адзначаецца.

Адводзіцца ад картаграфавання форма творнага склону множнага ліку назоўнікаў з закрытым складам *(с п'éсн'ам).*

Пры картаграфаванні аб'ядноўваюцца прыёмы індывідуальнай транскрыпцыі: **е**ᶦ перадаецца як [е] ў нас. пп. 138, 156, 481; **ē** — як [е] ў нас. п. 411; **ê** — як [е] ў нас. п. 869; **ь** і **ь**ᶦ аб'ядноўваюцца з [и] ў наступных нас. пп.: 53, 71, 105, 111, 112, 113, 115, 117, 133, 135, 264, 268, 269, 270, 272, 282, 307, 311, 314, 578, 586, 613, 628, 646, 648, 894. Там, дзе **ь** нельга аб'яднаць з [и] і дзе ёсць заўвагі збіральнікаў аб тым, што **ь** абазначае гук, сярэдні паміж [е] і [а], ставіцца адсылачны знак; акрамя таго, адсылачным знакам абазначаюцца варыянты галоснага гука, не паказаныя ў легендзе і абазначаныя літарамі **у, о, ъ** і інш.

Поўнасцю прыводзіцца матэрыял пры наяўнасці заўваг збіральнікаў і пры пастаноўцы адсылачнага знака: **29** *сарáйам, к в'íшн'ам, кáпл'ам; к сарáйъм.* **34** *γаспады́н'им, в'íшн'им, сарáйим, кáпл'им;* часта чуецца гук, блізкі да [е]: *кáпл'ем, сарáйем.* **134** *к съра́йим, к в'íшн'им, к кáпл'им;* у маладога пакалення: *к в'íшн'ам, к кáпл'ам, к съра́йам.* **138** *к в'íшн'е$^и$м; в'íшн'ам, кáпл'ам, γаспады́н'ам.* **411** *в'íшн'ēм, γаспадын'ēм, γаспадын'ам.* **615** *к в'íшн'им, пýн'им'; кáпл'ум.* **618** *к в'íшн'ум, п'éсн'ум, кáпл'им.* **797** *сарáйам, кáпл'ам, в'íшн'ам;* сустракаецца і канчатак **-ем**, але рэдка. **853** *к в'íшн'а$^у$м, кáпл'ам, γаспадын'ам.* **889** *к сарáйам, к в'íшн'ам, кáпл'ам, γаспадын'ам; к сарáйôм, к в'íшн'ôм, кáпл'ем, γаспадын'ем.* **894** *к съра́йьм, к в'íшн'ьм, кáпл'ьм, п'éс'н'ьм;* рэдукцыя, слабы гук. **897** *к в'íшн'ам, кáпл'ам, γаспадын'ам;* у канчатку назоўнікаў **-ам** паслядоўна вымаўляецца гук [ʼа]. **905** *к в'íшн'ам, сарáйам, кáпл'ам, γаспадын'ам;* адзначаецца таксама *в'íшн'им'й, к в'íшн'им* і інш.; якасць гука няўстойлівая, але часцей чуецца [ʼа]: *в'íшн'ам, в'íшн'ам'и.* **913** *к сарáйам, к в'íшн'ам, кáпл'ам; к сарáйем, в'íшн'ем, кáпл'ем.* **990** *к в'íшн'ьм, к кáпл'ьм;* **ь** — гэта гук ні [е], ні [а], а то адно, то другое. **1018** *к в'íшн'ам, кáпл'ам, һаспадын'ам; в'íшн'а$^е$м;* двайная літара **а**ᵉ абазначае няясны гук, сярэдні паміж [е] і [а]. **1021** *к в'íшн'ам, кáпл'ам, к в'íшна$^е$м, кáпл'а$^е$м; г бáн'е$^а$м;* двайная літара абазначае няясны гук, сярэдні паміж [е] і [а]. **1026** *к сарáйем, к в'íшн'ем, кáпл'ем, γаспадын'ем; к сарáйе$^а$м, к в'íшн'е$^а$м.*

## Карта № 21

## ГАЛОСНЫ НА МЕСЦЫ „у“ Ў СЛОВЕ субота

Карта складзена на матэрыяле пункта «а» пытання № 20:

«Які галосны гук вымаўляецца... замест **у**:

а) у першым складзе перад націскам: *субота, събота, сыбота* ці *сабота?»*

Пры картаграфаванні ўлічваюцца словы *субо́тн'ік, сыбо́тн'ік, субо́н'а* (народжаны ў суботу).

Адсылачным знакам абазначаецца ў нас. пп.: **953** *сабо́та.* **269** *субо́та, сыубо́та.* Змешчаны заўвагі: **509** *сыбо́та;* радзей сустракаецца *субо́та.* **511** *сыбо́та* — звычайна гавораць, але сустракаецца і *субо́та.* **517** *субо́та;* радзей — *сыбо́та.* **750** *субо́та,* але ёсць і *сыбо́та.* **790** *бура́н, кружо́к,* але: *сыбо́та.*

## Карта № 22

## ГАЛОСНЫ НА МЕСЦЫ „ы“ Ў ПЕРШЫМ СКЛАДЗЕ ПЕРАД НАЦІСКАМ У ПАЗІЦЫІ КАЛЯ ГУБНЫХ ЗЫЧНЫХ

Карта складзена на матэрыяле пункта «б» пытання № 22:

«Які гук вымаўляецца замест **ы**:

...у першым складзе перад націскам:

б) у суседстве з губнымі: *п***ы***тацьб,* п**а***тацьб* ці *п***у***тацьб; пад***ы***мацьб, адм***ы***кацьб, расс***ы***пацьб, б***ы***ла, б***ы***вала*?»

Кружкамі рознага колеру картаграфуецца вымаўленне галоснага на месцы «ы» ў першым складзе перад націскам у пазіцыі каля губных зычных (пасля губнога або перад ім). Змены галоснага ў пазіцыі толькі пасля губнога, якія наглядаюцца ў паўднёвых гаворках, адзначаны трохвугольнікам адпаведнага колеру.

Адводзіцца ад картаграфавання дзеяслоўная форма *была́,* бо яна картаграфуецца на карце № 23 «Галосны на месцы «ы» ў форме дзеяслова *была*». Не картаграфуюцца словы *атамка́ц', атамкн'і́, адмака́ты,* у якіх у першым складзе знаходзіцца іншы галосны, не [ы].

Поўнасцю прыводзіцца матэрыял пры наяўнасці заўваг збіральнікаў і пры пастаноўцы адсылачнага знака: **245** *пъта́цца, падъма́ц', рассыпа́ц', замака́йем;* [ъ] — гук, сярэдні паміж [ы] і [а]. **246** *атмыка́ц', пъта́цца, падъма́ц', рассыпа́ц';* [ъ] — гук, сярэдні паміж [ы] і [а]. **247** *пъта́цца, падъма́ц', рассыпа́ц';* [ъ] — гук, сярэдні паміж [ы] і [а]. **276** *пыта́ц', атмыка́ц',* але часам чуецца: *рассыпа́ц'* — *ръссъпа́ц'.* **578** *пӑта́ц', атмӑка́ц', пӑдӑма́ц', рӑссӑпа́ц', пата́цца, высо́к'и; замыка́ц'.* **593** *падама́ц', пъпата́ў, прувука́йец', дъпӑта́йес'с'а, пата́йус'а, падама́йецца;* часам чуецца аслабленае [а]. **827** *пыта́ц', адмыка́ц', прапыта́й, пабыва́ў, падыма́йем; пута́ц', адмука́ц', прапута́й, вусо́ко,* нават *усо́ко;* [у] на месцы [ы] пасля губных зычных як пад націскам, так і не пад націскам адзначаецца ў прадстаўнікоў традыцыйнай гаворкі (старых жанчын, дзяцей), аднак непаслядоўна. **955** *пета́те, одмека́те, подейма́те, россепа́те.* **956** *пета́ты, одмека́ты, пудейма́ты, россепа́ты.* **994** *п'ита́т', одм'ика́т', зам'ика́т', б'истре̂йша, пад'има́т', рассыпа́т', б'ичо́к;* у суседстве з губнымі — [и]. **997** *пута́ц', адмука́ц', паспута́ц', падума́ц', падыма́ц', насыпа́ц';* рэдка *пыта́ц'.* **1010** *пута́ц', адмука́ц', рассыпа́ц'.* Гук [у] замест [ы] адзначаецца выключна паслядоўна, нават у мове моладзі; але моладзь імкнецца пазбягаць [у], бо, як яна гаворыць, «з нас смяюцца»; сапраўды, гэта **му-, ву-** — вельмі характэрная з'ява.

## Карта № 23

## ГАЛОСНЫ НА МЕСЦЫ „ы“ Ў ФОРМЕ ДЗЕЯСЛОВА была

Карта складзена на матэрыяле пункта «б» пытання № 22:
«Які гук вымаўляецца замест **ы** ў пераднаціскных складах:
б) у суседстве з губнымі:... *была, бала* ці *була*?»

Акрамя таго, выкарыстоўваюцца адказы на пытанне № 21 а, куды часам трапляе картаграфуемае слова.

Картаграфуецца вымаўленне галоснага на месцы «ы» ў першым складзе перад націскам у дзеяслоўнай форме *былá*. Вымаўленне галоснага ў формах *былó, былí* ўлічваецца ў тых гаворках, дзе ненаціскны галосны не змяняецца ў залежнасці ад націскнога.

Пры картаграфаванні аб'ядноўваюцца знакі індывідуальнай транскрыпцыі: **а**ъ перадаецца як [а] ў нас. п. 40; **у**ы — як [у] ў нас. п. 888; **ъ**а з'яўляецца варыянтам [ъ] і [а], прадстаўленых у адказах з нас. пп. 326, 593, і таму аб'ядноўваецца з імі; у нас. п. 264 **ъ**а перадаецца як [а], каб паказаць іншае адценне галоснага побач з адзначаным у адказе [ъ]. Адсылачным знакам абазначаюцца іншыя варыянты галоснага.

У каментарыях прыводзіцца матэрыял пры наяўнасці заўваг збіральнікаў і пры пастаноўцы адсылачнага знака: **490** *бу/былá, бу/былó;* пасля [б] вымаўляецца гук, блізкі да [у], але запісаць яго як [у] яшчэ немагчыма. **578** *былá, был'í, былó,* зрэдку — *булá.* **593** *былá, былó, бълá, бъ^а^лá, балá, бълó, булó* — рэдка. **665** *булá, болá.* **796** Заўсёды вымаўляецца *буў, булá.* **878** *былá;* рэдка — *булá.* **915** *былá,* старэйшыя гавораць *булá.* **938** *былá, бы͡лá;* **ы͡** абазначае менш выразнае [ы], з нахілам да [а] ў вымаўленні некаторых старых жанчын. **988** *булá* і рэдка *балá.* **997** *булá* і рэдка *былá.* **1008** *білá, булá.* **1017** *былá;* [ы] ў пазіцыі пасля губных лабіялізуецца: *булá.*

## Карта № 24

## ГАЛОСНЫ НА МЕСЦЫ „ы“ Ў НЕНАЦІСКНЫМ КАНЦАВЫМ АДКРЫТЫМ СКЛАДЗЕ ПАСЛЯ ГУБНЫХ ЗЫЧНЫХ

Карта складзена на матэрыяле пункта «в» пытання № 23:
«Які гук вымаўляецца замест **ы**... у складах пасля націску:
в) у канцавым адкрытым складзе ў назоўным склоне множнага ліку: *бабы* ці *бабу, удовы* ці *ўдову*?»

На карце адзначаецца вымаўленне галоснага на месцы «ы» ў паслянаціскным адкрытым складзе ў пазіцыі пасля губных зычных. Карта складзена пераважна на матэрыяле слоў *бáбы, удóвы,* але ў некаторых адказах сустрэліся і іншыя словы: *совы, жабы, лупы, халупы, каровы, дровы, дрэвы, травы, слівы, пасмы, галовы, копы, рыбы, лапы, бровы, ставы, замовы, ямы, торбы, пасевы, асновы, рамы, фермы, зубы, свякровы, думы, буквы, вербы, канавы,* часціца *бы: прышоў бы,* прыметнікі *новы, гадовы, мядовы, устойчывы* і інш. Пры недастатковасці матэрыялу ўлічваліся адказы на пытанні 20 б, 21 б, в: *рукáвы, рыба-*

*ло́вы, крыва́вы.* У радзе нас. пп. картаграфаванне праводзілася на аснове аднаго слова, асабліва ў гаворках поўдня Беларусі, дзе слова *ба́бы* ўжываецца з націскам на канчатку *(бабы́)*.

Адводзяцца ад картаграфавання словы, у якіх у канцавым складзе паяўляецца націск: *бабы́, бабу́, баб'и́, коровы́* і інш. Не картаграфуюцца адказы тыпу *ба́бу, удаву́,* бо тут можна бачыць форму вінавальнага склону, а таксама адказы *ба́б'и, удав'е́,* у якіх можна бачыць форму давальнага склону. Запісы тыпу *удо́ви, ка́рпи* картаграфуюцца як *удо́вы, ка́рпы*, калі ў запісах ужываюцца літары **и** і **'и** (нас. пп. 118, 119, 522, 728, 733, 1003, 1012).

У каментарыях прыводзіцца матэрыял з наяўнасцю заўваг збіральнікаў і пры пастаноўцы адсылачных знакаў: **293** *у ба́бы, хо́ц'ба.* **326** *ба́бы, ры́бы, жа́бы, йак ба, йон ба, так ба, хоц' ба, хай ба.* **577** *ба́бы, удо́вы; даў ба, н'ихай ба.* **586** *ба́бъ, удо́въ; ба́бы, вам ба, хай ба, до́лжын ба.* **593** *удо́вы, ба́бы; йон ба можа што из'z'е́лыў ба, хай ба, йак ба.* **628** *ба́бе, каро́вы, ба́бы, удо́ве.* **698** *ба́быᵉ, удо́выᵉ, рыболо́выᵉ.* **701** *ба́бе, удо́ве.* **732** *ба́бе, вдо́ве.* **790** *ба́бы, удо́вы* (малодшае пакаленне); *ба́бу, удо́ву* (старэйшае пакаленне). **810** *ба́бы, удо́вы,* але ў большасці выпадкаў сустракаецца *бабы́.* **827** *п'е́рв'и, п'е́рву, удо́ву, ба́бы, со́вы, но́ву дом;* [у] на месцы **ы** пасля губных як пад націскам, так і не пад націскам адзначаецца ў прадстаўнікоў традыцыйнай гаворкі (старых жанчын, дзяцей), аднак непаслядоўна. **841** *ба́бу, удо́ву* (наз. скл. мн. л.). **847** *ба́бу пошл'и́, удо́ву, з л'и́пу.* **890** *ба́бу, удо́ву;* рэдка — *ба́бы, удо́вы.* **939** *даў ба, йак ба, рука́вы, кучара́вы; ба́бы, удо́вы, тра́вы, хал'а́вы.* **942** *ба́б'и стайа́ц', удо́в'и* **949** *ба́бе, вдо́ве; ба́бы, вдо́вы.* **955** *ба́бе стойе́т', вдо́ве стойе́т'.*

## Карта № 25

### ДЗЕЯСЛОВЫ З СУФІКСАМ -ва- БЕЗ ПАПЯРЭДНЯГА ГАЛОСНАГА АБО З ТЫМ ЦІ ІНШЫМ ПАПЯРЭДНІМ ГАЛОСНЫМ (-ва-, -ыва-, -ъва-, -ава-, -ува-, -ова-)

Карта складзена на матэрыяле пункта «б» пытання № 23:

«Які гук вымаўляецца замест **ы**, **і** ў складах пасля націску:

б) у дзеяслоўных суфіксах -**іва**-, -**ыва**-: *расказ***ва***ць, расказ***ъва***ць, расказ***ыва***ць, расказ***ава***ць* ці *расказ***ува***ць;... абломл***іва***ць, абломл***ьва***ць, абломл***ява***ць ці абломл***юва***ць*?»

У сувязі з тым, што матэрыял адносна суфікса -**іва**- ў многіх адказах адсутнічае, гэты суфікс не картаграфуецца. Звесткі аб ім даюцца ў каментарыях.

Суфікс -**іва**- найбольш распаўсюджаны ў сваёй асноўнай, літаратурнай форме. Фанетычныя разнавіднасці яго адзначаны ў наступных нас. пп.: 121, 232, 243, 244, 510, 538, 561, 615, 660, 699, 850, 863, 868, 874, 880, 882, 883, 885, 886, 887, 915, 920, 921, 922, 942, 943, 945, 999, 1000, 1003, 1020, 1021 -**юва**- *(абло́мл'увац', обло́мл'уваты).* 17 19, 153, 196, 198, 199, 211, 215, 218, 222, 224, 225, 238, 348, 359, 472, 514, 541

ўжывае літаратурныя формы». 796 «У прадстаўнікоў малодшага пакалення і калгаснага актыву рэдка можна пачуць літаратурную форму тыпу *бýдз'ем кас'íц'»*. 981 «Формы будучага часу ўтвараюцца шляхам далучэння дзеяслова *буду: бýду раб'íц'»*. 985 «Ужываюцца паралельныя формы з *іму»*.

Адсылачны знак указвае на выпадкі ўжывання формы тыпу *раб'íц'му* ў спалучэнні з дзеясловам *быць (бýду раб'íц'му, бýз'еш раб'íц'м'еш* і інш.).

Асаблівасці форм інфінітыва, што ўваходзяць у склад будучага часу *(рабіцьму, рабіціму; буду рабіць, рабіці),* на карце не абазначаны; гэтым формам прысвечана карта № 173. Не картаграфуюцца адрозненні асабовых канчаткаў сінтэтычнай формы будучага часу: 1-ай асобы адзіночнага ліку: *раб'íц'им (робы́тым)* (нас. пп. 675, 676, 677, 678, 680, 683, 691, 713, 716, 717, 718, 723, 725); 1-ай асобы множнага ліку: тыпу *ходытымо* (нас. пп. 656, 662, 664, 675, 676, 677, 678, 680, 687, 688, 690, 691, 696, 701, 702, 712, 716, 723, 725, 727, 754, 758, 759, 769, 780, 803, 804, 805, 807, 811, 812, 885, 961, 962, 964, 972, 978). Бытаванне апошняй формы адзначана на тэрыторыі пашырэння формы 1-ай асобы множнага ліку цяперашняга і будучага простага часу на **-мо** тыпу *рóб'имо, хóз'имо,* закартаграфаванай на карце № 154. Не картаграфуюцца і формы 1-ай асобы множнага ліку на **-ом(-ам)** (*роб'íц'имом, раб'íц'мам*), якія супадаюць з тэрыторыяй распаўсюджання формы 1-ай асобы множнага ліку цяперашняга часу, закартаграфаванай на карце № 150.

Форма 1-ай асобы множнага ліку на **-мом** (**-мам**) адзначана ў адказах наступных нас. пп.: 774, 776, 779, 781, 794, 798, 801, 802, 810, 815, 819, 823, 831, 832, 840, 841, 845, 846, 851, 867, 881, 971, 982, 989, 991, 995, 999, 1004, 1011, 1012. Матэрыял пералічаных пунктаў поўнасцю прыведзен у каментарыях.

Ужыванне сінтэтычнай формы будучага часу ў спалучэнні з асабовымі формамі дзеяслова *быць* адзначана ў адказах наступных нас. пп.: 760, 969, 973, 987.

У каментарыях прыводзяцца картаграфуемыя формы ў тых выпадках: а) калі яны адлюстроўваюць асаблівасці, што абазначаны на карце адсылачным знакам; б) марфалагічныя рысы, якія не ўлічваюцца пры картаграфаванні; в) адказы з тлумачэннямі і заўвагамі збіральнікаў: **71** *бýду жац', бýду жыц', мáйу раб'íц', бýду кас'íц', мáйу кас'íц', бýду ваз'íц', мáйу ваз'íц', бýз'им в'изáц', мáйим в'изáц'*. Формы з *маем* сустракаюцца ў прадстаўнікоў каталіцкай веры. **215** *бýду раб'íц'; мáйу раб'íц'* — ужываецца, але радзей. **350** *йа бýду раб'íц', йа мáйу раб'íц'* — ужываюцца паралельна; *бýз'иш раб'íц', мáйеш раб'íц', бýз'е, мáйе раб'íц'*. **357** *што йа мáйу раб'íц', бýз'еш, мáйеш раб'íц', бýз'ем, мáйем раб'íц', бýз'ец'е, мáйец'е раб'íц'*. Моладзь часцей гаворыць *бýду раб'íц'*. **370** *у вóс'ан' бýду хаз'íц' у свайý шкóлу; с к'им бýду жыц', бýду п'исáц', бýду чытáц', бýдуц' хвал'íц'и. бýз'ац'а, бýдуц' хвал'íц'и.* Сустракаецца і форма *хаз'íц'иму, хвал'íц'им'аш.* **458** *бýду раб'íц', ты бýз'аш раб'íц', йон бýз'а раб'íц', бýз'ам раб'íц', бýз'ац'а раб'íц', бýдуц' раб'íц';* рэдка — *раб'íц'му, раб'íц'м'еш.*

**461** *бу́ду раска́звац’, бу́ду б’иц’, бу́ду жан’и́ц’, бу́ду каза́ц’;* рэдка — *раб’и́ц’му, раб’и́ц’м’еш, раб’и́ц’м’е, раб’и́ц’м’ем, раб’и́ц’м’ац’е, раб’и́ц’муц’.* **486** *бу́ду хаг’и́ц’, бу́ду чыта́ц’.* Больш пашыраны формы: *хвал’и́ц’му, чыта́ц’му, п’иса́ц’му, раб’и́ц’м’еш, прас’и́ц’м’еш, ɣул’а́ц’м’еш, жа́ц’м’ем, ɣул’а́ц’м’ец’е.* **488** *бу́ду хаг’и́ц’, бу́ду хвал’и́ц’, бу́ду жыц’.* Формы тыпу *хвал’и́ц’иму, хвал’и́ц’м’аш, хвал’и́ц’м’ец’е* і інш. не сустракаюцца. **489** *бу́ду хаг’и́ц’;* часцей — *хаг’и́ц’му, прыхо́г’иц’м’а.* **490** *бу́ду хаг’и́ц’, бу́ду жыц’, бу́ду знац’, бу́ду п’е̂ц’, хаг’и́ц’му, раб’и́ц’му, зна́ц’му, п’е́ц’му, бу́ду хвал’и́ц’, хвал’и́ц’му.* Абедзве формы ўжываюцца як раўнапраўныя. **497** *раб’и́ц’му, раб’и́ц’м’еш, раб’и́ц’м’е, раб’и́ц’м’ам, раб’и́ц’м’ац’а, раб’и́ц’муц’, сварыц’м’аццa.* Формы з *буду* ўжываюцца рэдка. **500** *бу́ду хаг’и́ц’, ɣул’а́ц’му, ɣул’а́ц’м’еш, ɣул’а́ц’м’е, ɣу́л’а́ц’м’ем, ɣу́л’а́ц’м’ец’е, ɣул’а́цмуц’.* Сустракаюцца абедзве формы. **514** *бу́ду жыц’, бу́ду раб’и́ц’, бу́г’еш раб’и́ц’, бу́г’е раб’и́ц’, бу́г’ем раб’и́ц’, бу́г’ец’е раб’и́ц’, бу́дуц’ раб’и́ц’; карм’и́ц’м’ам* — амаль не ўжываецца. **531** *бу́ду раб’и́ц’, бу́г’еш в’аза́ц’, бу́г’е купл’а́ц’, бу́г’ем малац’и́ц’, бу́г’иц’е пасыла́ц’, бу́дуц’ п’иса́ц’.* Будучы час утвараецца толькі з дапаможным дзеясловам *буду.* **536** *бу́ду калупа́цца, бу́ду раб’и́ц’, бу́ду ɣн’е́вацца, бу́г’еш сам лав’и́ц’, бу́г’е жыц’, бу́г’е ɣул’а́ц’, бу́г’ем жыц’, бу́г’ац’е вучы́ц’, бу́дуц’ сварыцца, бу́дуц’ вучы́цца, бу́дуц’ п’иса́ц’, н’и зна́ц’м’е, хаг’и́ц’муц’.* Форма на **-му** ўжываецца ў мове жанчын. **656** *бу́ду рубы́ты, рубы́т’мо, бу́дзеш в’аза́ты.* **662** *бу́ду робы́ты, ма́йу робы́ты, бу́ду косы́ты, бу́ду возы́ты, бу́ду вйаза́ты, в’йаза́тымеш, склада́тымеш, бу́де купл’а́ты, купл’а́тыме, бу́де сады́ты, сады́тыме, бу́дым молоты́ты, молоты́тымемо, посыла́тымемо, вуɣан’а́тымете, бу́дут’ пыса́ты, пыса́тымут’, бу́дут ночова́ты, ночова́тымут’, зайижǯа́тымут’.* **664** *бу́ду робы́ты, ма́йу робы́ты, бу́ду косы́ты, ма́йу косы́ты, косы́тыму, бу́ду возы́ты, возы́тыму, бу́ду купл’е́ты, бу́дыш в’еза́ты, ма́йиш в’еза́ты, в’еза́тымеш, бу́дыш склада́ты, ма́йиш склада́ты, склада́тымеш, бу́де сады́ты, ма́йе сады́ты, сады́тыме, купл’а́тыме, бу́дым молоты́ты, ма́йим молоты́ты, молоты́тымо, бу́дым косы́ты, молоты́ты, бу́дым ɣороды́ты, ма́йим ɣороды́ты, ɣороды́тымо.* **670** *бу́ду раб’и́ц’, кас’и́ц’, в’аза́ц’.* Ужываецца часам *раб’и́ц’му, кас’и́ц’му, бу́г’еш раб’и́ц’, кас’и́ц’, в’аза́ц’, ваз’и́ц’м’еш, бу́г’е раб’и́ц’, кас’и́ц’, в’аза́ц’м’е, кас’и́ц’м’е.* **675** *йа раб’и́ц’им, ваз’и́ц’им, хаг’и́ц’им, кас’и́ц’им, жа́ц’им, начава́ц’им, ɣавары́ц’им, ты раб’и́ц’им’еш, ваз’и́ц’имеш, хаг’и́ц’имеш, кас’и́ц’имеш, жа́ц’имеш, начава́ц’имеш, ɣавары́ц’имеш, йон раб’и́ц’име, ваз’и́ц’име, хаг’и́ц’име, кас’и́ц’име, жа́ц’име, начава́ц’име, ɣавары́ц’име, ма́йецца, ма́йемса прыйе́хац’и, мы раб’и́ц’имо, ваз’и́ц’имо, хаг’и́ц’имо, кас’и́ц’имо, жа́ц’имо, начава́ц’имо, ɣавары́ц’имо, вы раби́ц’имец’ѐ, ваз’и́ц’имец’ѐ хаг’и́ц’имец’ѐ, начава́ц’им’ец’ѐ, ɣавары́ц’им’ец’ѐ, ваны́ раб’и́ц’имут, ваз’и́ц’имут, хаг’и́ц’имут, кас’и́ц’имут.* **676** *бу́ду роб’и́ц’и, роб’и́ц’им, бу́ду кос’и́ц’и, за́ре йа мы́ц’им, йа ка́шу йе̂с’ц’им, кос’и́ц’им, бу́ду воз’и́ц’и, воз’и́ц’им, йа п’и́ц’им, кос’и́ц’им, сыпац’им, бу́деш веза́ц’и, бу́дем склада́ц’и, ты п’и́ц’имеш, кос’и́ц’имеш, сыпац’имеш, бу́де купл’а́ц’и, бу́де саг’и́ц’и, во̂н п’и́ц’име, кос’и́ц’име, дачка́ каза́ц’име, сыпац’име, мы сыпац’имо, кос’и́ц’имо, бу́дете посыла́ц’и, бу́дете выɣан’а́ц’и, в’е̂те сыпац’иметѐ, п’и́ц’иметѐ, кос’и́ц’иметѐ, воны́ сыпац’имут, п’и́-*

*ц'имут, кос'иц'имут.* **677** *йа раб'иц'им, кос'иц'им, воз'иц'им, в'аза́ц'имеш, мы молоц'иц'имо, кос'иц'имо, γороz'иц'имо, п'иса́ц'имут, ночова́ц'имут, зайежžáц'имут.* **678** *йа раб'иц'им, кас'иц'им, ваз'иц'им, скро́йвац' бу́ду, бу́ду раб'иц'и, бу́дуц' кас'иц'и, бу́дуц' ваз'иц'и, шыц'имеш, в'аза́ц'имеш, склада́ц'имеш, бу́z'е рабо́тац', купл'а́ц'име, саz'иц'име, бу́z'е купл'а́ц', бу́z'е саz'иц', мы бу́z'ем малац'иц'и, бу́z'ем кас'иц'и, буz'е́м γараz'иц'и, мы малац'иц'имо, кас'иц'имо, γараz'иц'имо, бу́z'ец'е пасыла́ц'и, бу́z'ец'е выγан'а́ц'и, пасыла́ц'имец'е, выγан'а́ц'имец'е.* **680** *бу́ду роб'иц'и, роб'иц'им, бу́ду кос'иц'и, кос'иц'им, бу́ду воз'иц'и, воз'иц'им, бу́z'еш в'аза́ц'и, в'аза́ц'имеш, бу́z'еш склада́ц'и, склада́ц'имеш, бу́z'е купл'а́ц'и, купл'а́ц'име, бу́z'е саz'иц'и, саz'иц'име, бу́z'ем молоц'иц'и, молоц'иц'имо, бу́z'ем кос'иц'и, кос'иц'имо, бу́z'ем γороz'иц'и, γороz'иц'имо.* **687** *бу́ду робы́ты, ма́йу робыты, бу́деш веза́ты, ма́йеш веза́ты, бу́деш склада́ты, ма́йеш склада́ты, склада́тымеш, вйаза́тымеш, бу́де купл'а́ты, ма́йе купл'а́ты, купл'а́тыме, бу́де садыты, сады́тыме, бу́дем молоты́ты, ма́йем молоты́ты, молоты́тымо, бу́дем косы́ты, ма́йем косы́ты, косы́тымо, бу́дем γороды́ты, ма́йем γороды́ты, γороды́тымо.* **688** *бу́ду робы́ты, робы́тым, бу́ду косы́ты, косы́тым, бу́ду возы́ты, возы́тым, бу́деш вйаза́ты, вйаза́тымеш, бу́деш склада́ты, склада́тымеш, бу́де купл'а́ты, бу́дем молоты́ты, молоты́тымо, бу́дем γороды́ты, γороды́тымо, бу́дете посыла́ты, посыла́тымыте.* **690** *буду робы́ты, бу́деш в'аза́ты, бу́дем купл'а́ты, бу́дем молоты́ты, ма́йем молоты́ты, молоты́тымо, бу́дем ночова́ты, ма́йем ночова́ты, ночова́тымо.* **691** *бу́ду робы́ты, робы́тым, бу́ду косы́ты, косы́тым, бу́ду возы́ты, возы́тым, бу́деш вйаза́ты, вйаза́тымеш, бу́де купл'а́ты, купл'а́тыме, бу́де с'ада́ты, с'ада́тыме, бу́дымо молоты́ты, молоты́тымо, бу́дымо косы́ты, косы́тымо, бу́дымо γороды́ты, γороды́тымо, бу́дыте посыла́ты, посыла́тымыте.* **696** *бу́ду робы́ты, бу́ду косы́ты, бу́ду возы́ты, бу́деш вйаза́ты, вйаза́тымеш, бу́деш склада́ты, склада́тымеш, бу́де купл'а́ты, купл'а́тыме, бу́де сады́ты, сады́тыме, бу́дем молоты́ты, молоты́тымо, бу́дем косы́ты, косы́тымо, бу́дем γороды́ты, γороды́тымо, бу́дыте посыла́ты, посыла́тымыте.* **700** *бу́ду робы́ты, ма́йу робы́ты, бу́деш возы́ты, ма́йеш возы́ты, бу́де купл'а́ты, ма́йе робы́ты, бу́дем молоты́ты, бу́дете посыла́ты, бу́дут пыса́ты, нучува́ты.* **701** *бу́ду робе́те, робе́тему, бу́ду косе́те, косе́тему, бу́деш вйеза́ты, вйеза́тымеш, бу́деш склада́ты, склада́тымеш, бу́де купл'е́те, купл'е́тыме, бу́де саде́те, саде́тыме, бу́дымо молоте́те, молоте́темо, бу́дымо косе́те, косе́темо, γороде́темо, бу́дете посыла́ты, посыла́тымете!* **702** *робы́тыму, косы́тыму, возы́тыму, в'аза́тыму, склада́тыму, молоты́тымо, мы косы́тымо, γороды́тымо, посыла́тымо, выγан'а́тымо, зайижžáтымут'.* **703** *бу́ду робы́ты, ма́йу робы́ты, бу́ду косы́ты, ма́йу косы́ты, бу́ду возы́ты, бу́деш в'аза́ты, склада́ты, бу́дым молоты́ты, бу́дыте пусыла́ты, бу́дут пыса́ты.* **704** *бу́ду рубы́ты, ма́йу рубы́ты, бу́дыш вузы́ты, ма́йиш вузы́ты.* Ужываюцца формы: *купл'а́тыме, ходы́тыме, ходы́тымут'.* **705** *бу́ду раб'иц', раб'иц'му, бу́z'ам γараz'иц'.* **709** *бу́ду раб'иц', бу́ду кас'иц', бу́ду ваз'иц', бу́z'а саz'иц', ма́йацца саz'иц', саz'иц'им'а, бу́z'ам малац'иц', ма́йамс'о малац'иц', малац'иц'им'ам, бу́z'ам кас'иц', ма́йамс'о кас'иц', кас'иц'им'ам;* рэдка — *ваз'иц'иму, кас'иц'иму.* **712** *бу́ду раб'иц', бу́ду кас'иц', бу́ду γара́ц', бу́z'еш в'еза́ц', кас'иц', γа-*

*рáц', в'езáц'им'еш, кас'íц'им'еш, γарáц'им'еш, бýг'е купл'áц', кас'íц', купл'áц'им'е, кас'íц'им'е, п'исáц'им'е, стайáц'м'е, бл'ишчáц'м'е, кас'í-ц'имо, п'исáц'имо, γарáц'имо.* **713** *йа хвал'íц'им, п'исáц'им, чытáц'им, бýду жац', бýду кас'íц', бýг'еш в'азáц', бýг'еш кас'íц', кас'íц'им'еш, в'азáц'им'еш, бýг'а купл'áц', кас'íц', бýг'а γараг'íц', купл'áц'им'а, ка-с'íц'им'а, хвал'íц'им'е, γараг'íц'им'а, малац'íц'им'а, саг'íц'им'а.* **716** *бýду роб'íц'и, кос'íц'и, нос'íц'и, роб'íц'им, кос'íц'им, шчо ты бýг'еш роб'íц'и? йа бýду кос'íц'им, в'езáц'им, молоц'íц'им, жáц'им, бýг'еш в'е-зáц'и, кос'íц'и, колóц'и, ты в'езáц'имеш, кос'íц'имеш, нос'íц'имеш, ко-лóц'имеш, бýг'е в'éзáц'и, кос'íц'и, нос'íц'и, колóц'и, в'езáц'име, кос'í-ц'име, колóц'име, буг'ем в'езáц'и, кóс'иц'и, нос'íц'и, колóц'и, в'езáц'имо, кос'íц'имо, нос'íц'имо, колóц'имо.* **717** *л'етáц'му, зоб'ивáц'му, довáц'им, бýду довáт', довáт'му, йа н'е йéс'т'ем, йéс'т'ему, молоц'íц'им'еш, нос'í-т'им'еш, бýд'еш мыцца, споват'им'еш, в'éдат'м'е, йéхац'им'е, γоворыц'м'е, водá прыбывáт'м'е, ит'т'íм'ет', п'исáт'им'ем, брáт'им'ем, бýд'ем об'éдат'и, знáц'м'ец'е.* **718** *йа н'е γукáц'ем, чытáц'ем, раб'íц'му, йа корм'íц'му, йéхац'му, б'íц'му, бýду кос'íц'и, иц'íц'м'еш, доúц'м'еш корóву, прос'íц'-м'еш, бýг'еш, курыц'и, бýг'е б'íц'и, хог'íц'и, бáба б'íц'ема, кос'íц'им'е-ц'е.* **723** *йа роб'íц'им, ты роб'íц'имеш, вôн роб'íтыме, мы роб'íц'имо, вы роб'íт'имете, воны́ роб'íц'имут.* **725** *йа роб'íц'им, ты роб'íц'имеш, вêн роб'íтыме, мы роб'íц'имо, вы роб'íц'имете, воны́ роб'íц'имут.* **727** *бýду робы́ты, робы́тыму, буду косы́ты, косы́тыму, бýду возы́ты, возы́тыму, в'азáтымыш, складáтымыш, купл'áтыме, сыдíтыме; бýдым молоты́ты, молоты́тымо, бýдым косы́ты, косы́тымо.* **747** *бýду рвац', маўчáц'м'еш, трымáц'м'е, н'е жыц'мо, раб'íц'муц', г'аржáц'муц'а, брáц'муц', бýдуц' маўчáц', разγан'áц'муц'.* **748** *γаварыц'му, кýп'íц'м'еш, вучыц'м'еш, ото дрыжáц'м'еш, с'éчм'еш, м'ашáц'м'е, брáц'м'ец'е, п'исáц'м'ец'е, с'ц'ирáц'-м'ец'е, шыц'м'ец'е, γаварыц'м'ец'е, вучыц'муц', брáц'муц', нал'íчвац'муц', таптáц'муц', дражн'íц'м'ец'е, бýг'ам кас'íц', бýг'ац'а брац', бýдуц' γа-варыц'.* Рэдка ўжываецца форма з *майу: мáйам саг'íц'.* Форма *ра-б'íц'му* хоць яшчэ і шырока ўжываецца, але моладзь пазбягае яе. **750** *иц'íму на ф'éрму, бýг'е раўц'í, н'е чýц'м'е, бýг'еш бáчыц', бýдам чуц', бýг'ец'е спац', спáц'м'ец'е, абсыпáц'м'ецц'а, бýг'ец'е кас'íц', кас'íц'м'ец'е, бýдуц' кас'íц', кас'íц'муц', з'б'ирáц'муц', иц'íмуц', бýдуц' спац', спáц'-муц', бýдуц' л'ýг'и л'атáц', бýдуц' з'б'ирáц', бýдуц' хаг'íц'.* Формы з *буду* і **-му** маюць прыкладна аднолькавае пашырэнне. **752** *бýду раб'íц', раб'íц'му.* Апошняя форма часцей ужываецца; *звáц'му, ты раб'íц'м'еш, м'éц'м'еш, кас'íц'м'еш, купáц'м'е, зб'ирáц'м'ем, малац'íц'мо, кас'íц'мо, кас'íц'м'ец'е, бýг'ец'е, кас'íц', кас'íц'муц'.* Адначасова з падобнымі формамі сустракаюцца літаратурныя з *буду*, асабліва сярод прадстаўнікоў малодшага пакалення: *бýг'а в'азáц', бýг'ам γул'áц' и вучыцца, што вы бýг'ац'а заўтра раб'íц'?* **754** *бýду працовáц', бýду спавáц', роб'íц'иму, кос'íц'иму, бýг'еш жац', спавáц', ц'и роб'íц'им'еш, бýг'е жац', спавáц', купл'áц'им'е, бýг'ем жац', бýг'ем спавáц', молоц'íц'имо, γорог'íц'имо, бýг'ец'е γул'áц', посылáц'им'ец'е, бýдуц' працавáц', будуц' спавáц', п'и-сáц'имуц'.* **758** *бýду роб'íц', роб'íц'иму, бýг'еш роб'íц', роб'íц'им'еш, бýдом молоц'íц', молоц'íц'имо, бýг'иц'е посылáц', посылáц'м'ец'е, бýдуц'*

*п'исáц', п'исáц'имуц'.* **759** *йа раб'йц'им, ты роб'йц'им'еш, йон роб'йтым'е, мы роб'йц'имо, вы роб'йт'им'ет'е, йаны роб'йц'имут.* **760** *итым'еш, выкупл'áтым'еш, бáчытым'е, држáтымы, чýтымыте, отвечáтым'е, бýдг косыт'и, бýдеш ткáты, бýде крáсыт'и, бýдемо косыт', бýдете ткáтым'ите, бýдут' ɣон'йты.* **761** *с'аɣ'éц'му, брыɣаɣ'йр ваз'йц' н'е бýɣ'е, а ты ваз'йц'м'еш, чолов'éк шум'éц'м'е, н'ихватáц'м'е, бýл'ба начынáц'м'е ɣн'йс'ц'и, начынáц'м'ем, воз'йц'м'ец'е, уб'ирáц'м'ец'ес'а, вы брáц'им'ец'е.* Формы з *буду (йа бýду с'аɣ'éц'и)* ужываюцца радзей, чым формы з **-му**. **769** *бýду ходыты, мáйу робыты, з кым бýду жыты, ɣéтыйи дéты бýду кормыты, шо йа робытыму, хвалытыму, косытыму, возытыму, хл'ип брáт'му, спáтеме, вйазáт'м'еш, купл'áт'м'е, молотытем'ем, брáтымо, кормытымут'.* **774** *раб'йц'му, раб'йц'м'еш, саɣ'йц'м'е, малац'йц'мам, ɣараɣ'йц'м'ец'е, начавáц'муц'.* Гэтыя формы ўжываюць прадстаўнікі старэйшага пакалення. Аднак у іх сустракаюцца і формы з *буду*. Малодшае пакаленне амаль не ўжывае форм на **-му, -меш, -муць.** **776** *раб'йц'му, бýду раб'йц', кас'йц'му, бýду кас'йц', ваз'йц'му, бýду ваз'йц', ваз'йц'м'еш, кас'йц'м'еш, бýɣ'еш ваз'йц', бýɣ'еш нас'йц', ваз'йц'м'е, бýɣ'е саɣ'йц', саɣ'йц'мам, бýдам саɣ'йц', кас'йц'мам.* **777** *чытáц'му, ваз'йц'му, чытáц'м'еш, л'уб'йц'м'еш, чытáц'м'е, иц'йм'е, хаɣ'йц'м'е, казáц'м'е, раб'йц'м'ем, раб'йц'м'ец'е, чытáц'м'ец'е, чытáц'муц', учыц'муц', хаɣ'йц'муц'.* Формы будучага часу на **-му, -меш** шырока распаўсюджаны, сустракаюцца нават у мове вучняў 6—7 класаў. **779** *бýду раб'йц', раб'йц'му, бýду кас'йц', кал'й жáц'му, кас'йц'му, бýɣ'еш в'азáц', в'азáц'м'еш, ɣ'е ты йаɣó складáц'м'еш, бýɣ'еш складáц', бýɣ'еш купл'áц', купл'áц'м'е, бýɣ'е саɣ'йц', што йанá раб'йц'м'е, саɣ'йц'м'е, бýɣ'ем малац'йц', малац'йц'мам, бýɣ'ец'е пасылáц', пасылáц'м'ец'е.* **780** *йа бýду жыц', йа нóчку бýду начавáц', йа хвал'йц'му, раб'йц'му, кас'йц'му, ты хвал'йц'м'еш, куплáц'м'еш, н'е ум'éц'м'е, йон хвал'йц'м'е, н'е чýц'м'е, мы хвал'йц'мо, малац'йц'м'ем, пасылáц'м'ец'е, хвал'йц'муц'.* **781** *хаɣ'йц'му, ваз'йц'му, в'езáц'м'еш, складáц'м'еш, купл'áц'м'еш, саɣ'йц'м'е, малац'йц'мам, хаɣ'йц'мам, кас'йц'мам, ɣараɣ'йц'мам, выɣан'áц'м'ец'е, зайежǯáц'муц'.* **783** *бýду вучыц' тут, бýду ɣаварыц', хвал'йц'му, хвал'йц'м'еш, хвал'йц'м'е, ц'ачым'е, хвал'йц'м'ем, хвал'йц'м'ец'е, хвал'йц'муц', бýду ɣаварыц', бýду вучыц'.* Формы тыпу *хвал'йц'му* распаўсюджаны шырока. Толькі людзі, якія некаторы час пражывалі ў іншых месцах, ужываюць формы з *буду*, але часта і ў іх сустракаюцца формы з **-му**. **785** Старэйшае пакаленне захавала ў мове формы: *раб'йц'му ɣумнó, ты зáўтро ваз'йц'м'еш салóму, ты выɣан'áц'м'еш карóвы ц'и н'е? п'ие͡ц'м'ец'е, ваз'йц'м'ец'е, зáўтро малац'йц'муц'.* Гэтыя формы паступова знікаюць, школьнікі і прадстаўнікі малодшага пакалення не ўжываюць іх. **790** Старэйшае пакаленне і малодшыя школьнікі ўжываюць формы з **-му**: *ɣрáц'му, ɣул'áц'му, йéхац'м'еш, п'исáц'м'еш, жыц'м'ец'е, п'исáц'м'ец'е, раб'йц'муц', жыц'муц'.* Перадавая частка вёскі ўжывае літаратурныя формы. **791** *чаɣó байáц'муса, кас'йц'му, в'езáц'му, ты раб'йц'м'еш, в'езáц'м'еш, йон в'езáц'м'е, му в'езáц'мо, ву в'езáц'м'ец'е, йены в'езáц'муц', йа бýду, ты бýдз'еш кас'йц'.* Формы тыпу *буду касіць* сустракаюцца вельмі рэдка. Амаль заўсёды ўжываюцца формы на **-му**. **792** Формы тыпу *ваз'йц'му* сустракаюцца

вельмі рэдка. Панаючымі формамі з'яўляюцца: *бу́ду ваз'и́ц', бу́з'аш ваз'и́ц', бу́з'ам малац'и́ц', бу́дуц' п'иса́ц'* і інш. **794** *хвал'и́ц'иму, хвал'и́ц'им'еш, хвал'и́ц'имом, хвал'и́ц'имуц'.* **795** *йа купл'а́ц'иму, йа бу́ду кас'и́ц', ты купл'а́ц'им'еш, ты бу́з'еш кос'и́ц', йон купл'а́ц'им'е, йон бу́з'е кос'и́ц', мы купл'а́ц'имо, мы бу́з'ем кас'и́ц', вы купл'а́ц'им'ец'е, вы бу́з'ец'е кос'и́ц', йены́ купл'а́ц'имуц', йены́ бу́дуц' кос'и́ц', йа бу́ду зараз наво́з'иц' пара́дак, йа за́ўтре пл'есц'и́му ла́пц'и.* Форма на **-му** ўжываецца ў тых выпадках, калі дзеянне адбудзецца за некалькі дзён да пачатку другога дзеяння, калі ж зараз, то ўжываецца форма з *буду.* **796** *п'иса́ц'му, с'п'ива́ц'му, γул'а́ц'м'еш, подн'има́ц'м'еш, з'аржа́ц'м'е, жа́ц'м'е, роб'и́ц'м'е, подн'има́ц'м'ем, коло́ц'м'ец'е, раб'и́ц'м'ец'е, склада́ц'м'ец'е, друкова́ц'м'ец'е, получа́ц'м'ец'е, γул'а́ц'муц'.* Пераважае форма на **-му**. У прадстаўнікоў малодшага пакалення і калгаснага актыву рэдка можна пачуць літаратурную форму тыпу *бу́з'ем кас'и́ц'.* **797** *за́ўтре йа кос'и́ц'иму, ты за́ўтре ора́ц'им'еш, вон в'еза́ц'им'е, му моло́ц'имо, ву воз'и́ц'им'ец'е, оны́ жа́ц'имуц' овйо́с, йа бу́ду воз'и́ц', ты бу́з'еш воз'и́ц', вон бу́з'е воз'и́ц', мы бу́дом воз'и́ц', ву бу́з'ец'е воз'и́ц', оны бу́дуц' воз'и́ц'.* Формы на **-му** ўжываюцца часцей. **798** *н'е ба́чыц'иму, роб'и́ц'иму, кос'и́ц'иму, воз'и́ц'иму, в'еза́ц'иму, склада́ц'иму, саз'и́ц'иму, бу́ду в'еза́ц', бу́ду скла́дац', бу́ду купл'а́ц', буду кас'и́ц', склада́ц'им'еш, с'ез'е́ц'им'еш, н'е с'ез'е́ц'им'е, ц'аγц'и́м'е, молоц'и́ц'имом, кос'и́ц'имом, бу́дом молоц'и́ц', бу́дом кос'и́ц', посыла́ц'им'ец'е.* **801** *бу́ду моло́ц', моло́ц'иму, бу́ду коло́ц', коло́ц'иму, кос'и́ц'иму, воз'и́ц'иму, бу́з'еш роб'и́ц', см'айа́ц'им'ецца, йе́хац'им'е, стара́ц'м'ецца, мо иц'и́м'е, бу́з'еш вучы́ц', йе́хац'им'еш, роб'и́ц'имам, вучы́ц'имам, п'иса́ц'имам, жа́ц'имам, молоц'и́ц'мам, бу́з'ем молоц'и́ц', шы́ц'имам.* **802** *бу́ду кос'и́ц', кос'и́ц'му, купл'а́ц'м'еш, бу́з'еш склада́ц', склада́ц'м'еш, бу́з'е трус'и́ц', трус'и́ц'м'е, бу́з'е хоз'и́ц', хоз'и́ц'м'е, бу́дом γоворы́ц', γоворы́ц'мом, бу́дом л'еп'и́ц', л'еп'и́ц'мом, бу́дом с'е́кчы, с'е́кчымом, бу́з'ец'е посыла́ц', посыла́ц'м'ец'е.* **803** *бу́ду роб'и́ц'и, роб'и́ц'иму, бу́ду хоз'и́ц', хвал'и́ц'иму, бу́з'еш воз'и́ц'и, воз'и́ц'им'еш, бу́з'еш, склада́ц'и, склада́ц'им'еш, хвал'и́ц'им'еш, бу́з'еш молоц'и́ц'и, молоц'и́ц'им'еш, хвал'и́ц'имо, бу́з'ец'е посыла́ц'и, посыла́ц'им'ец'е.* **804** *хоз'и́ц'иму, воз'и́ц'иму, в'еза́ц'им'еш, склада́ц'им'еш, с'ез'е́ц'им'еш, вйеза́ц'им'е, с'ез'е́ц'им'е, мы склада́ц'имо, мы вйеза́ц'имо, с'ез'е́ц'имо, купл'а́ц'имо, бра́ц'имо, кос'и́ц'имо, роб'и́ц'имо, вы роб'и́ц'им'ец'е.* **805** *йа роб'и́ц'иму, п'е́ц'иму, бу́ду кос'и́ц'и, ора́ц'иму, з'б'ира́ц'иму, ты воз'и́ц'им'еш, роб'и́ц'им'еш, γул'а́ц'им'еш, ора́ц'им'еш, вон роб'и́ц'м'е, γул'а́ц'м'е, п'е́ц'им'е ора́ц'им'е, воз'и́ц'им'е, му роб'и́ц'имо, му γул'а́ц'имо, му п'е́ц'имо, кос'и́ц'имо, хоз'и́ц'имо, ву шчо роб'и́ц'им'ец'е, хоз'и́ц'им'ец'е, ву кос'и́ц'им'ец'е, бу́з'ец'е кос'и́ц'и, роб'и́ц'имуц'.* **807** *роб'и́ц'иму, кос'и́ц'иму, воз'и́ц'иму, в'еза́ц'им'еш, склада́ц'им'еш, кос'и́ц'имо, молоц'и́ц'имо, посыла́ц'им'ец'е, выγон'а́ц'им'ец'е.* **808** *бу́ду раб'и́ц', раб'и́ц'му, бу́з'еш в'еза́ц', в'еза́ц'м'еш, бу́з'е купл'а́ц', купл'а́ц'м'е, бу́з'ем кос'и́ц', кос'и́ц'м'ем, бу́з'ец'е посыла́ц', посыла́ц'м'ец'е, бу́дуц' п'исац', п'иса́ц'муц'.* Паўсямесна ўжываюцца дзве формы: з дзеясловам *буду,* а таксама з **-му**. **810** *йа роб'и́ц'иму у до́ма, а ты в'еза́ц'им'еш сноп́ы, вона́ купа́ц'им'е з'иц'а́, мы молоц'и́ц'имом жыто, боγа́то п'иса́ц'им'ец'е, воны́ кос'и́ц'имуц' овйо́с.*

Ужываецца і будучы складаны час з *буду*+інфінітыў, але рэдка, зусім рэдка: *йа бу́ду кас'иц'* і г. д. ва ўсіх асобах. **811** *бу́ду роб'йц', роб'йц'иму, ма́йу роб'йц', бу́ду кос'йц', кос'йц'иму, ма́йу кос'йц', бу́ду воз'йц', воз'йц'иму, ма́йу воз'йц', бу́г'е вйаза́ц', вйаза́ц'име, бу́г'е купл'ац', купл'а́ц'име, ма́йе купл'а́ц', бу́дом кос'йц', кос'йц'имо, бу́дуц' п'иса́ц', п'иса́цимуц', бу́дуц' ночова́ц', ночова́ц'имуц'.* **812** *роб'йц'иму, кос'йц'иму, воз'йц'иму, в'еза́ц'им'еш, склада́ц'им'еш, молоц'йц'имо, кос'йц'имо, γороз'йц'имо, посыла́ц'им'ец'е, выγон'а́ц'им'ец'е, п'иса́ц'имуц', ночова́ц'имуц', зайежжа́ц'имуц'.* **815** *раб'йц'му, бу́ду раб'йц', в'аза́ц'м'еш, склада́ц'м'еш, бу́г'еш склада́ц', купл'а́ц'м'еш, малац'йц'м'еш, бу́дам малац'йц', малац'йц'мам, бу́дам выγан'а́ц', выγан'а́ц'мам, п'иса́ц'мам, бу́дуц' п'иса́ц', п'иса́ц'муц'.* **819** *йа за́раз бу́ду йе́с'ц'и, ваз'йц'му, бу́ду жац', раб'йц'иму, бу́ду ра́г'ива слу́хац', склада́ц'му бу́г'еш луза́ц', шче й у п'е́чы пал'йцм'еш, ты йашче́ с'аг'е́ц'м'ьш, п'иса́ц'м'ьш, ты н'и йе́с'ц'им'еш, бурако́ў γул'а́ц'м'е, н'и дай дак имс'ц'йц'м'е, а йон х'иба зна́ц'м'е, у γаршк'й н'е папада́ц'им'е, Л'о́н'а иц'йм'е, γребц'ймам, иц'ймам, склада́ц'мам, γаварыц'м'ац'е, хаг'йц'муц', бу́дуц' г'ал'йц', бу́дуц' каро́ўн'ик будава́ц'.* **823** *бу́ду п'иса́ц', вучыц'мус'а, γл'ьг'е́ц'иму, бу́г'еш уп'йсвац', хаг'йц'м'еш дадо́му, во́з'м'еш кн'йγу и чыта́ц'м'еш, бу́г'е малац'йц', сам и склада́ц'им'е, в'е́дац'мам, бу́дам брац', аб'е́дац' бу́г'ец'е, паγ'йба́ц'имуц', зна́ц'имуц'*. Ужываюцца формы на **-му** і **-іму.** Бытуюць абедзве формы: *буду чытаць* і *чытацьму,* апошняя — традыцыйная форма. **825** *кас'йц'му, раб'йц'му, ваз'йц'му, в'аза́ц'м'еш, кас'йц'м'еш, малац'йц'м'еш, ваз'йц'м'ем, купл'а́ц'м'ем, γу́л'а́ц'м'ем, бу́ду раб'йц', бу́г'еш вучыцца, бу́г'ец'е γул'а́ц'*. Форма на **-му** ўжываецца ў мове старэйшага пакалення, форма з *буду*—у мове малодшага пакалення. **829** *йа кас'йц'му, ты кас'йц'м'еш, йон кас'йц'м'е, мы кас'йц'м'ем, кас'йц'мам, вы кас'йц'м'ец'е, йаны кас'йц'муц', йа бу́ду кас'йц', ты бу́г'еш кас'йц', йон бу́г'е кас'йц', мы бу́г'ем кас'йц', вы бу́г'ец'е кас'йц', йаны бу́дуц' кас'йц'*. Гэтыя формы ўжываюцца амаль у аднолькавай меры; можна меркаваць, што форма з **-му** ўжываецца часцей. **831** *бу́ду кас'йц', кас'йц'му, бу́г'еш кас'йц', кас'йц'м'еш, бу́г'е кас'йц', кас'йц'им'е, бу́г'ем кас йц', кас'йц'мам, бу́г'ец'е кас'йц', кас'йц'м'ец'е, бу́дуц' кас'йц', кас'йц'муц'*. Ужываюцца толькі такія формы. **832** *йа п'иса́ц'му, ты п'иса́ц'м'еш, йон' п'иса́ц'м'е, му п'иса́ц'мо̂м, ву п'иса́ц'м'ец'е, йаны жа́ц'муц'*. Акрамя гэтай формы, ужываецца форма з дапаможным дзеясловам *буду: бу́ду кас'йц', бу́г'еш, кас'йц',* але значна радзей. **840** *бу́ду раб'йц', раб'йц'му, бу́ду в'еза́ц', в'еза́ц'му, бу́ду малац'йц', малац'йц'му, бу́г'еш мало́ц', мало́ц'м'еш, бу́г'е кало́ц', кало́ц'м'е, бу́г'ем капа́ц', капа́ц'мом, бу́дуц' γараг'йц', γараг'йц'муц'.* **841** *бу́ду роб'йц', ма́йу дац', роб'йц'му, бу́ду кос'йц', кос'йц'му, воз'йц'му; ма́йу скоза́ц'*—у значэнні «ёсць што сказаць»; *бу́г'еш в'еза́ц', в'еза́ц'м'еш, бу́г'е купува́ц', купува́ц'м'е, купл'а́ц'м'е, бу́дом молоц'йц', молоц'йц'мом, кос'йц'мом, бу́дом γороз'йц', γен'а́ц'м'ец'е, бу́дуц' мыц', п'е́рац'муц', ночова́ц'муц', бу́дуц' зайежжа́ц'.* **844** *бу́ду раб'йц', раб'йц'му, бу́г'еш кас'йц', кас'йц'му, бу́г'е маха́ц', маха́ц'му.* Гэтыя формы ўжываюцца паралельна. **845** *бу́ду раб'йц', раб'йц'му, бу́ду кас'йц', кас'йц'му, бу́г'еш пра́с'ц'и, пра́с'ц'им'еш, бу́г'ем склада́ц', склада́ц'м'еш, бу́г'е*

*вйезáц', вйезáц'м'е, бýдом үараг'йц', үараг'йц'мом, бýг'ец'е п'исáц', п'исáц'м'ец'а, бýдуц' начавáц', начавáц'муц'.* **846** *сварыц'муса, хог'йц'му, роб'йц'му, бýду п'исáц', бýду м'éрац', ломáц'му, бýг'еш сварыцца, хог'йц'м'еш, роб'йц'м'еш, бýг'еш ломáц', рéзац'м'еш, бýг'еш крác'иц', знáц'м'е, м'éрац'м'е, бýг'е молóц', жáц'м'е, стáц'м'е, варыц'м'е, бýг'е үл'аг'éц', бýг'е мýл'иц', бýдом моўчáц', моўчáц'м'ем, бýдом ворóчац', в'ес'ел'йц'м'емса, л'етáц'мом, крác'иц'мом, лóпац'момса, бýдом з'б'ирáцца, бýг'ем хог'йц'.* **851** *воз'йц'му, купл'áц'му, роб'йц'му, бýду роб'йц', бýг'еш ложыцца, спáц'м'еш, бýг'е круц'йцца, круц'йц'м'ецца, сп'евáц'м'еш, зоробл'áц'м'е, бýг'е үроз'йц', ц'еүнýц'м'е, молоц'йц'мом, бýдом үоворыц', үул'áц'мом, п'исáц'мом, бýдом муц', бýдом шыц', скупц'ймом, к'идáц'мом.* **853** *бýду раб'йц', бýду кас'йц', бýг'еш в'езáц', бýг'е купл'áц', бýдам малац'йц', бýг'ец'е пасылáц', бýдуц' п'исáц'.* Вельмі часта старыя ўжываюць форму на **-му:** *мáц'му отв'êт з Москвы, ц'и займáц'му карôву, йон н'и знáц'м'е, ото Зохáра слýхац'м'ец'е.* Такія формы рэдка ўжываюцца моладдзю. **856** *бýду раб'йц', раб'йц'му, бýг'е п'исáц'.* **867** *бýду крычáц', бýду раб'йц', раб'йц'му, бýду кас'йц', бýду ваз'йц', з'имавáц'му, бýг'еш в'азáц', бýг'еш складáц', хто их п'éц'м'е, карм'йц'мам, бýдам дýмац', бýг'ец'е пасылáц', пасылáц'м'ац'е, бýг'ец'е выүан'áц', выүан'áц'м'ац'е, зайажǯáц'муц', бýдуц' путáц', үан'áц'муц', бýдуц' тарчáц'.* **874** *бýду раб'йц', бýду кас'йц', бýг'аш в'азáц', бýг'а купл'áц', бýг'а саг'йц', кас'йц'му, кас'йц'меш, кас'йц'м'е, кас'йц'м'ем, кас'йц'м'ец'е, кас'йц'муц'.* Формы з **-му** ўжываюць некаторыя з прадстаўнікоў самага старога пакалення. **881** *раб'йц'му, кас'йц'му, ваз'йц'му, в'азáц'м'еш, складáц'м'еш, купл'áц'м'а, саг'йц'м'а, малац'йц'мам, кас'йц'мам, пасылáц'м'ец'а, выүан'áц'м'ац'а, п'исáц'муц', начавáц'муц', зайазǯáц'муц'.* **885** *бýду раб'йц', жыц'м'е, үул'áц'м'е, брáц'м'еш, скучáц'м'еш, бýг'е купл'áц', бýдам в'езáц', бýдам үаварыц', луп'йц'мо, смал'йц'мо, бýдам лав'йц', спáц'м'ец'е, мыц'м'ец'е.* **889** *бýду кас'йц', бýг'еш л'уб'йц', бýг'е вйазáц', бýг'ем тайкц'й, бýг'ец'е ваз'йц', бýдуц' йéс'ц'и, с'ц'ераүц'й, спрыүц'и, кос'йц'иму, мýц'иму, л'уб'йц'иму, үараг'йц'им'еш, малац'йц'им'еш, палóц'им'е, жáц'им'ем, выүан'áц'им'ец'е, үараг'йц'имуц'.* Формы з *буду* вельмі пашыраны, формы з **-му** мала пашыраны, ужываюцца прадстаўнікамі старэйшага пакалення. **921** *бýду раб'йц', бýг'аш ваз'йц', бýг'а купл'áц', бýг'ам малац'йц', бýдуц' п'исáц'.* Рэдка ўжываецца форма на **-му:** *раб'йц'му, пасылáц'м'ем, выүан'áц'м'ем.* **957** *мáйу робыты, бýду робыты, мáиш в'азáты, бýдыш в'азáты, мáйе купл'éты, бýде купл'éты, мáйемо молотыты, бýдемо молотыты, мáите посылáты, бýдете посылáты, мáйут' пысáты, бýдут' пысáты.* Форма будучага часу ўтвараецца і з дзеясловам *мáйу.* **961** *бýду робыты, робытыму, возытыму, бýдеш в'азáты, в'азáтымеш, бýде садыты, садытыме, бýдем молотыты, молотытымо, бýдем косыты, косытымемо, бýдем үородыты, үородытымемо, бýдете посылáты, посылáтымете.* **962** *бýду робыты, робытыму, бýду возыты, возытыму, бýдеш вйазáты, вйазáтымеш, бýдеш складáты, складáтымеш, бýде купл'áты, купл'áтыме, бýде садыты, садытыме, бýдемо моло-*

*тыты, молотымымо, бўдем косыты, косытымымо, бўдем складаты, складатымымо, бўдыте посылаты, посылатымыте.* **964** *бўду роб'йты, роб'йтыму, бўду косыты, косытыму, бўду возыты, возытыму, бўг'еш вйазаты, вйазатымем, бўдемо молотыты, молотйтымо, бўдемо косыты, косытымо, бўдемо γородыты, γородытымо, бўдем молотыты, бўдем косыты, косыт'мем, γородыт'мем, мол'йт'мем.* **966** *роб'йц'иму, кос'йц'иму, жац'иму, жац'им'еш, раб'йц'им'еш, жац'им'е, раб'йц'им'е.* Зрэдку ўжываюцца і формы з дапаможным дзеясловам *быць*+інфінітыў: *бўдом кос'йц', бўдом γороz'йц', кос'йц'им'ец'е, жац'им'ец'е, бўz'ец'е кас'йц', бўдуц' кас'йц', кас'йц'имуц'.* **969** *шо мн'е ц'еп'ер роб'йц'иму, кол'и н'ема ноγ'й, шо мы бўz'ем (бўдом) зайтра роб'йц'имо, вы ус'е жац'им'ец'е, а вы кос'йц'им'ец'е ц'и н'ê?* **971** *роб'йц'му, роб'йц'имом, кос'йц'иму, кос'йц'имом, вйезац'им'ец'е, вйезац'им'е, складац'имуц', складац'им'е, купл'ац'иму, купл'ац'имом, купл'ац'им'ец'е, йа зайтра кос'йц'иму, йа з братом зайтра кос'йц'имом, вы зайтра кос'йц'им'ец'е.* **972** *откўл' бўдам мац', сыпац'иму, прыγлашац'иму, доййц'им'еш, воз'йц'м'е снопов, бўдам мац', бўдам ц'еγнўц', жыц'имо, п'екц'й бўz'ец'е, воз'йц'имуц' жыто, давац'муц' продавац' тут н'е бўдуц', забарачывац'имуц' л'ежака.* **973** *бўду раб'йц'иму, бўду кос'йц'иму, бўду воз'йц'имо.* **974** *кос'йц'му, кос'йц'м'еш, роб'йц'м'еш, роб'йц'м'е, кос'йц'м'ем, роб'йц'м'ем, кос'йц'м'ец'е, роб'йц'м'ец'е, кос'йц'муц', роб'йцмуц'.* Але зрэдку ўжываюцца формы з *буду: у шосты бўz'е хаz'йц'.* **978** *бўду рват, бўду здават, козат'иму... воз'йт'иму, бўд'еш вйезат', вйезат'им'е, бўд'еш складат, складат'ем'еш, бўд'е посылат, посылат'им'е, бўд'е прос'йт, прос'йт'им'е, ит'им'е, крут'йт'им'е, бўд'е с'ед'êт' тут, ж'йт'ем'е, бўдом молот'йт, молот'йт'имо, бўдом кос'йт, кос'йт'имо, плот'йт'имо, бўдут п'исат, п'исат'имут.* **981** *роб'йц'му, кос'йц'му, воз'йц'му, в'езац'м'еш, складац'м'еш, купл'ац'м'е, саz'йц'м'е, молоц'йц'м'ем, кос'йц'м'ем, γороz'йц'м'ем, посылац'им'ец'е, выγон'ац'им'ец'е, п'исац'имуц', начавац'имуц'.* Формы будучага часу ўтвараюцца і шляхам далучэння дзеяслова *буду: бўду роб'йц'.* **982** *бўду роб'йц', бўz'еш в'азац', бўдом молоц'йц', бўz'ец'е посылац', бўz'ец'е выγан'ац', бўдуц' п'исац', так пон'имац'му, йа бўду пон'имац', ты н'е знац'м'еш, йон иц'йм'е, н'е см'ейац'м'ецца, йон вучыц'м'е, н'ихто н'е крычац'м'е, н'ехто жац'м'е; ран'ше йак настайн'ику плац'йц' бўz'ем, тоды йон ц'еб'е учыц'м'е, н'езнац'мом, иц'имуц' машыны, бўдуц' иц'й, давац'муц', в'едац'муц'.* **985** *бўду роб'йц', кос'йц', воз'йц', бўz'еш в'езац', складац', бўz'е купл'ац', соz'йц', бўz'ем молоц'йц', кос'йц', γороz'йц', бўz'иц'е посылац', вуγон'ац', бўдуц' п'исац'.* Ужываюцца паралельныя формы на **-му**. **986** Паралельна ўжываюцца формы будучага складанага часу з дапаможнымі дзеясловамі *буду, маю, иму*: *бўду роб'йц', майу роб'йц', роб'йц'му, бўду кос'йц', майу кос'йц', кос'йц'му, бўду п'екц'й, майу п'екц'й, п'екц'йму, бўду тоўкц'й, майу тоўкц'й, тоўкц'йму, бўду в'езц'й, майу в'езц'й, в'езц'йму, бўz'еш купл'ац', майеш купл'ац', купл'ац'м'еш, бўz'е купл'ац', майе купл'ац', купл'ац'м'е, бўzем саz'йц', майем саz'йц', саz'йц'м'ем, бўz'ец'е саz'йц', майец'е саz'йц', саz'йц'м'ец'е, бўдуц' саz'йц', майуц' саz'йц', саz'йц'муц'.* **987** *бўду раб'йц'му, бўду кас'йц'му, бўду ваз'йц'му, бўz'еш*

*вйазáц'м'е, бýг'еш складáц'м'е, бýг'ем купл'áц', бýг'ем кос'йц', бýдуц' п'исáц'.* **989** *йêхац'му, н'е бáчыц'му, роб'йц'му, кос'йц'му, воз'йц'му, в'езáц'м'еш, складáц'м'еш, мáц'м'еш дакум'éнт, купл'áц'м'е, сог'йц'м'е, н'е γрáц'м'е, молоц'йц'мом, кос'йц'мом, γороґ'йц'мом, бýду п'исáц', бýду ночовáц', бýду зайежžáц', бýдом отдыхáц', бýдом посылáц', бýдом выγон'áц'.* **990** *бýдеш слýхат', бýдам йéхат', бýдам ж'ит', бýдам прóсо жат', бýдете б'êγат', бýдете мойчáт', бýдут' зб'ирáт', бýдут' пр'изнавáт', дóўγо молот'йт'имеш, п'йт'имут'.* Формы на **-імаць** ужываюцца рэдка. **991** *бýду роб'йц', н'е бýду жац', бýг'еш м'ес'йц', бýг'е назáд йéхац', бýг'е воз'йц', бýг'ец'е чытáц', бýдуц' жац', бýдуц', хог'йц', бýдуц' кос'йц', раб'йц'му, кас'йц'му, пытáц'мом, жыц'м'ец'е убáчыц'е, н'е знáц'м'ец'е, нóγ'и бол'éц'муц', до в'éчера с'ег'éц'муц'.* **994** *сварыцца бýду, бýду роб'йт', бýду ход'йт', н'а бýду спат', ты бýдеш спат', вон бýде спат', м'и бýдом роб'йт', в'и бýдете п'исáт', йа роб'йла и роб'йт'иму, йа не пон'имáт'му шо роб'йт', мáйу сказáт', мáйем йéсты.* Формы будучага часу на **-му, -меш** і інш. сустракаюцца вельмі рэдка, больш пашыраны формы з *буду* і рэдка — з *маю.* **995** *бýду роб'йц', кос'йц'му, воз'йц'му, бýг'еш в'езáц', в'езáц'м'еш, бýду складáц', складáц'м'е сог'йц'м'е, йон сочýствовац'м'е, молоц'йц'мом, кос'йц'имом, посылáц'м'ец'е, в'иγон'áц'м'ец'е, п'исáц'имуц', начовáц'имуц'.* **999** *бýду кас'йц', бýг'еш муц', бýг'е вуразáц', бýг'ем палóц', бýг'ец'е шчыпáц', бýдуц' п'исáц', кас'йц'му, мýц'му, палóц'м'еш, калóц'м'еш, л'уб'йц'м'е, раб'йц'мом, жáц'мом, п'исáц'м'ец'е, йéхац'муц', ткáц'муц', мáйу ткац', мáйеш прáс'ц'и, мáйе кас'йц', мáйом п'исáц', мáйец'е чытáц', мáйуц' кас'йц'.* **1000** *раб'йц'му, кас'йц'му, ваз'йц'му, в'азáц'м'еш, складáц'м'еш, купл'áц'м'е, саг'йц'м'е, малац'йц'м'ем, кас'йц'м'ем, пасылáц'м'ец'е, выγан'áц'м'ец'е, γараг'йц'м'ец'е, п'исáц'муц', начавáц'муц', зайазжáц'муц'.* Рэдка ўжываюцца формы з дапаможным дзеясловам *буду: бýду кас'йц', бýду ваз'йц', бýду раб'йц', бýдам малац'йц', бýдуц' пасылáц', бýдуц' вуγан'áц'.* **1004** *бýду кас'йц', кас'йц'и, бýг'еш л'уб'йц', л'уб'йц'и, бýг'е муц', мýц'и, бýг'ем вурезáц', вурезáц'и, бýдуц' ламáц', кос'йц'иму, кос'йц'му, мýц'иму, мýц'му, п'исáц'им'еш, в'езáц'м'еш, л'уб'йц'м'е, купл'áц'м'е, γороґ'йц'имом, прос'йц'мом, кýтац'имом, ву посылáц'м'ец'è, кос'йц'им'ец'è, вуγон'áц'им'ец'è, п'исáц'имуц', γороґ'йц'имуц', мýц'имуц', вувоз'йц'имуц'.* **1011** *роб'йц'иму, кос'йц'иму, кýтац'им'еш, путáц'им'еш, л'уб'йц'им'е, воз'йц'им'е, молоц'йц'имом, ждáц'имом, мýц'имом, посылáц'ем'ец'е, выγон'áц'им'ец'е, γнáц'имуц', прос'йц'имуц', мáйу кýтац' плóта, бýду кýтац' плуот, бýг'еш вйезáц' овйóс, бýг'е лов'йц', бýдом жац', бýг'ец'е л'уб'йц', бýдуц' воз'йц'.* Формы з *буду* больш пашыраны. **1012** *бýду робыт', бýду косыт', бýду возыт', бýд'еш в'езáт', бýд'еш складáц', бýд'е купл'áт', бýд'е садыт', бýд'ем молотыт', бýд'ем косыт', бýд'ем γород'йт', бýд'ет'е пысылáт'; посылáт'мом* — ужываецца часта; *бýд'ете посылáт', бýдут' п'исáт'.* **1013** *бýду робыт, бýду возыт, бýду косыт, бýдеш везáт, бýдеш складáт, бýдем молотыт, бýдем γородыт, бýдете выγан'áт, бýдете посылáт, бýдут п'исáт, бýдут ночевáт.* Сустракаецца форма з *маю: мáйеш складáт.*

## Карта № 167

## НАЦІСКНЫ ГАЛОСНЫ Ў КАНЧАТКУ 1-ай АСОБЫ МНОЖНАГА ЛІКУ ЗАГАДНАГА ЛАДУ ДЗЕЯСЛОВАЎ I СПРАЖЭННЯ

Карта складзена на матэрыяле пытання № 115:

«Як утвараюцца формы загаднага ладу:

У 1-ай асобе множнага ліку: *нясем, нясём, нясом, нясімо* ці *нясемо, вядзем, вядзём, вядом, вядзімо* ці *вядземо, жнем, жнём, жном, жнімо* ці *жнемо..*?»

На гэтай карце картаграфуюцца націскныя галосныя [о], [е], [і], [ы] ў 1-ай асобе множнага ліку загаднага ладу дзеясловаў I спражэння тыпу *жнем : жнім(о) : жнём.*

На карце не ўлічваецца наяўнасць і адсутнасць канцавога галоснага ў канчатку 1-ай асобы множнага ліку загаднага ладу, паколькі гэтай з'яве прысвечана карта № 169. Суіснаванне форм з рознымі тыпамі націскнога галоснага картаграфуецца пэўнай колькасцю знакаў, якія адпавядаюць гэтым тыпам.

Закрытасць [ê] ў 1-ай асобе множнага ліку загаднага ладу адзначана толькі ў невялікай колькасці прыкладаў. Відаць, збіральнікі не заўсёды заўважалі фанетычнае адрозненне формы загаднага ладу ад адпаведнай формы абвеснага ладу тыпу *мы жн'ем(о) жыта* і *пажн'êм йашчé* ў гаворках паўднёва-заходняй зоны (гл. карту № 150). У частцы адказаў прыводзяцца паралельныя формы абвеснага і загаднага ладу тыпу *идéмо, ид'йmo.*

З прычыны ўказанага недахопу сабранага фактычнага матэрыялу пры картаграфаванні не размяжоўваюцца [е] і [ê]: *иz'éм* і *иz'êм* картаграфуюцца адным знакам. Таксама *жн'͡иeм* і *жн'им* абазначаны адным знакам.

Фанетычныя адрозненні націскнога [о] *(жном, жн͡уом)* на карце не абазначаны, паколькі яны звязаны з формай абвеснага, а не загаднага ладу.

Картаграфуемыя тыпы націскнога галоснага ў форме 1-ай асобы множнага ліку загаднага ладу па сутнасці паказваюць захаванне традыцыйнай формы загаднага ладу ў паўднёва-заходняй зоне і поўную адсутнасць яе ў паўночна-ўсходняй зоне.

Карта пабудавана на недастатковым матэрыяле. У адказах звычайна прыводзіцца ў значэнні загаднага ладу словазлучэнне, у склад якога ўваходзіць форма абвеснага ладу і мадальнае слова: *давáй(це) пан'ас'óм, жн'ом хутчэй* і інш. Такая канструкцыя з'яўляецца агульнапашыранай амаль на ўсёй картаграфуемай тэрыторыі. Традыцыйная форма загаднага ладу тыпу *жн'êм* з фанетычнымі варыянтамі націскнога галоснага *(жн'͡иeм, жн'им)* адзначана толькі ў частцы адказаў, якія сабраны ў гаворках паўднёва-заходняй зоны.

Адсутнасць картаграфуемых форм у значнай колькасці адказаў не з'яўляецца доказам канчатковага знікнення іх з мясцовай гаворкі, а вынікае з характару сабранага фактычнага матэрыялу, з яго абмежаванасці.

Картаграфуюцца націскныя галосныя пераважна ў формах з чаргаваннем парных цвёрдых-мяккіх зычных у аснове цяперашняга часу: *ідý — іг'éм, жну — жн'ем.*

Прыцягваюцца і адпаведныя формы дзеясловаў з асновай на заднеязычны.

Заўвагі збіральнікаў да фактычнага матэрыялу ёсць у адказах нас. пп. 428, 445, 769, 795, 988.

Фактычны матэрыял прыводзіцца з тых адказаў: а) дзе ёсць заўвагі збіральнікаў; б) дзе прыклады прыводзяцца ў кантэксце; в) дзе адзначаны формы на **-ем, -êм, -им**, акрамя форм на **-емо, -имо,** якія прыводзяцца ў каментарыях да карты № 169 (гл. фактычны матэрыял да ўказанай карты ў наступных нас. пп.: 496, 511, 513, 514, 522, 556, 559, 653, 656, 659, 661, 680, 687, 689, 691, 695, 696, 698, 700, 737, 772, 773, 890, 920, 955, 959, 963, 965 і інш., дзе адзначаны формы на **-имо(а)** і зрэдку **-иемо(а)** ад дзеясловаў I спражэння). Форма з націскным [о] (тыпу *жн'ом*), якая адпавядае абвеснаму ладу, у каментарыях не прыводзіцца. Поўнасцю змяшчаецца матэрыял з тых адказаў, дзе ёсць тлумачэнні збіральнікаў. **136** *жн'ем ав'óс, памажéм раб'íц'.* **137** *жн'ем хутчéй, в'аг'éм йайé да хáты, памажéм йой жац'.* **141** *н'ас'éм, в'аг'éм, жн'ем.* **142** *н'ас'éм, в'аг'éм, жн'ем.* **146** *н'ас'éм, жн'ем.* **147** *пан'ас'éм йáγады у Вóрнава.* **158** *н'ас'éм, в'аг'éм, жн'ем, в'аз'éм.* **165** *б'арéм.* **175** *н'ас'éм, жн'ем, в'аг'éм.* **234** *с'ц'иражы́м, памажы́м, с'ачы́м.* **341** *в'аг'éм кóн'и.* **345** *н'ас'éм, в'аг'éм, жн'ем.* **346** *н'ас'éм, жн'ем.* **347** *н'ас'éм, в'аг'éм, н'ас'éм да млы́на малóц', в'аг'éм карóву прóдац', γраб'éм хýтко, з'éл'йа хучéй н'ас'éм.* **348** *н'ас'éм, в'аз'éм, жн'ем, γраб'éм.* **349** *н'ас'éм, в'аг'éм, жн'ем.* **350** *н'ас'éм, в'аг'éм, жн'ем.* **351** *пан'ас'éм.* **353** *ну хутчéй н'ас'éм.* **354** *н'ас'éм, в'аг'éм, жн'ем.* **355** *н'ас'éм, в'аг'éм, жн'ем.* **356** *н'ас'éм, жн'ем, в'аг'éм.* **357** *н'ас'êм, давáйц'е пан'ас'éм.* **358** *н'ас'êм, н'ас'éм, в'аг'êм, в'аг'éм, жн'êм.* **359** *н'ас'éм, жн'ем.* **360** *н'ас'éм, в'аг'éм, жн'ем.* **361** *жн'ем, н'ас'éм.* **362** *н'ас'éм, жн'ем.* **363** *давáй пан'ас'éм, пав'аг'éм, жн'ем.* **365** *н'ас'éм, в'аг'éм, жн'ем.* **366** *нажн'éм, в'аг'éм кóн'и, н'ас'éм на пóл'а.* **368** *н'ас'éм, в'аг'éм, жн'éм.* **369** *с'ц'аражéм, памажéм, с'ачéм.* **370** *в'аг'éм, н'ас'éм, жн'ем.* **371** *зан'ас'éм м'ашкá, в'аг'éм карóву на базáр, зажн'éм жы́то.* **372** *н'ас'éм вóду, з'в'аз'éм с'éно, в'аг'éм кóн'ей на начл'éх, давáйц'а сажн'éм йачм'éн', іг'éм на пóл'а г'аўк'í.* **373** *н'ас'éм, в'аг'éм, жн'ем.* **374** *н'ас'éм, жн'ем.* **375** *давáйц'а пав'аг'éм кан'á на балóто, жн'ем хутчéй.* **376** *н'ас'éм, в'аг'éм, жн'ем.* **377** *н'ас'éм, жн'ем.* **378** *н'ас'éм м'ашкá, в'аг'éм кан'á пайíц', давáйц'а пажн'éм ус'о, стáн'мо аддыхн'éм.* **379** *н'ас'éм картóфл'у, в'аг'éм карóву, жн'ем.* **380** *н'ас'éм вóду, пав'аг'éм кан'á, сажн'éм жы́то.* **381** *н'ас'éм скарéй.* **382** *жн'ем скарéй.* **383** *зан'ас'éм саганá у с'éн'и, в'аг'éм кóн'и пайíц', іг'éм падйамó.* **384** *н'ас'éм, жн'ем.* **385** *давáйц'а пан'ас'éм, пав'аг'éм йаγó, сажн'éм γéто жы́то.* **386** *жн'ем жы́то, с'ачéм дрова.* **387** *жн'ем жы́то.* **388** *н'ас'éм, в'аг'éм, жн'ем.* **391** *н'ас'éм, з'аг'éм, жн'ем.* **393** *давáйц'е пан'ас'éм, давáйц'е пав'аг'éм.* **396** *іг'éм, жн'ем.* **397** *н'ас'éм, жн'ем.* **399** *н'ас'êм, в'аг'êм.* **400** *н'ас'éм, жн'ем,*

*в'аг'ем.* **406** *н'ас'ем, жн'ем.* **408** *н'ас'ем, в'аг'ем, жн'ем.* **409** *пай-г'ём.* **412** *иг'ём, клаг'ём, н'ас'ем, в'аг'ем.* **413** *давай н'ас'ем, в'аг'ем, паклаг'ём, жн'ем.* **415** *иг'ём.* **416** *иг'ём.* **418** *н'ас'ем нóшу, жн'ем жы́то.* **420** *памажéм, с'ачéм.* **421** *н'ас'ем.* **423** *н'ас'ем, в'аг'ем, жн'ем.* **425** *н'ас'ем, б'арéм.* **428** *н'ас'ем, н'ас'óм, жн'ем, жн'ом* — ужываюцца ·паралельна. **432** *н'ас'ем, н'ас'óм, жн'ем, жн'ом.* **433** *н'а-с'ем, в'аз'ем, жн'ем.* **434** *н'ас'ем, жн'ом.* **435** *н'ас'ем, иг'ём.* **438** *с'ц'еражéм, памажéм, с'ачéм.* **439** *н'ас'ем, иг'ём.* **441** *дапамажéм, сц'еражéм, пас'ачéм.* **443** *н'ас'ем, в'аг'ем, жн'ем.* **445** *н'ас'êм, в'а-г'êм, жн'êм.* Са словам *давай* часцей ужываюцца такія формы: *давáй пас'ц'аражóм йаүó, давáй патаўчóм.* **447** *в'аз'ем, ваз'м'ем.* **450** *с'ц'а-ражéм, памажéм, с'ачéм.* **453** *н'ас'ем, в'аг'ем, клаг'ём.* **456** *с'ц'ера-жéм.* **459** *запражéм, с'п'ачéм, б'еражéм, с'ц'еражéм, стрыжéм.* **460** *в'аг'ем, н'ас'ем, жн'ем.* **461** *н'ас'êм, давáй пан'ас'óм.* **472** *н'ас'ем, в'аг'ем, жн'ем.* **474** *в'аг'ем, н'ас'ем, жн'ем.* **477** *ваз'м'ем.* **480** *н'а-с'ем, в'аг'ем.* **482** *в'аг'ем.* **485** *в'аг'ем, падйадóм.* **486** *с'ц'еражéм, памажéм, с'ачéм.* **487** *жн'ем скарéй, в'аг'ем кóн'и пáс'ц'иц', н'ас'ем дамóў картóпл'у.* **490** *в'аг'êм, н'ас'êм, жн'êм.* **491** *атдыхн'ем.* **493** *н'ас'êм, жн'êм.* **494** *в'аг'êм, н'ас'êм, жн'êм.* **495** *с'ц'еражéм.* **497** *в'аг'êм, н'ас'êм, жн'êм.* **500** *н'ас'êм, в'аг'êм.* **502** *в'аг'ем, н'ас'ем, жн'ем.* **503** *в'аг'êм, н'ас'êм, жн'êм.* **520** *б'еражéм, с'ачéм, п'ачéм.* **527** *с'ачéм, таўчéм, п'ачéм.* **529** *с'ц'еражéм, с'ачéм, памажéм.* **531** *с'ц'еражéм, памажéм, с'ачéм.* **532** *н'ас'ем(êм), в'аг'ем, жн'ем.* **534** *сц'аражéм, с'ачéм.* **535** *н'ас'ем.* **536** *н'ас'ем, жн'ем.* **549** *н'ас'ем, в'аг'ем, жн'ем.* **555** *падн'ас'ем.* **560** *с'ц'еражы́м.* **561** *с'ц'еражы́м.* **651** *н'исéм, ведéм, жнем.* **652** *нысéм, выдéм, жнем.* **654** *нысéм, вы-дéм, жнем.* **655** *нысéм, выдéм, жнем.* **660** *нысéм, выдéм, жнем.* **664** *нысúм, выды́м, жнúм, стырижúм, сычы́м.* **666** *в'аг'ем кóн'ай.* **667** *в'аг'ем, н'ас'ем.* **668** *н'ас'ем, в'аг'ем, жн'ем.* **669** *клаг'ём, в'аг'ем, н'ас'ем.* **670** *н'ас'ем, в'аг'ем, жн'ем.* **671** *жн'ем, с'ц'еражéм жы́то.* **673** *жн'ем жы́то.* **674** *жн'ем жы́то, памажéм жац'.* **675** *пажн'êм йашчé, пан'ас'ем үéто.* **678** *н'ас'ем, в'аг'ем.* **682** *несéм, ведéм, жнем.* **683** *понысéм.* **684** *несéм, жнем.* **685** *нес'ем, вег'ем, жн'ем.* **686** *ны-сéм, выдéм, жнем.* **688** *сычéм.* **689** *ныс'úм, выд'úм.* **690** *нысéм.* **691** *нысéм, выдéм, жнем.* **694** *давáй понысéм.* **695** *ныс'úм с'úно.* **697** *нысéм, выдéм, жнем.* **699** *ныс'úм, выд'úм, жн'им, сыч'úм.* **700** *выд'úм.* **701** *нысéм, выдéм, жнем.* **702** *нысéм, выдéм, жнем.* **703** *ныс'úм до хáты, жн'им дóбре.* **707** *н'ас'ем, прын'ас'ем.* **709** *н'ас'ем, в'аг'ем, жн'ем.* **710** *давáй украг'ём.* **711** *с'ц'еражéм, памажéм, с'ачéм.* **712** *пав'аз'ем, няс'ем.* **713** *н'ас'êм, в'аг'êм, жн'êм.* **714** *в'аг'ем, н'ас'ем, жн'ем.* **715** *н'ас'ем, жн'ем, в'аг'ем.* **716** *подм'ец'ем, нас'ечéм, пострыжéм.* **717** *н'ас'ем, жн'ем.* **718** *с'ц'еражéм, зов'ем.* **719** *н'ас'ем, в'а-г'ем, жн'ем.* **720** *несéм, ведéм, жнем.* **721** *несéм, ведéм, жнем.* **722** *несéм, ведéм, идéм.* **725** *несéм, ведéм, жнем.* **726** *несéм, ведéм, жнем.* **727** *нысéм, выдéм, жнем.* **728** *видáм, нисáм, жнем.* **731** *давáй заб'а-рéм.* **732** *в'аг'ем.* **733** *нисéм, в'адéм, жнем.* **735** *нысéм, выдéм, жнем.* **737** *нысéм, выдéм, жн'им.* **738** *нысéм, выдéм, жнем.* **739**

*нысём, выдём, жнем.* **741** *нысём, выдём.* **742** *н'асêм.* **744** *б'арêм.* **745** *сц'еражём, с'ачём.* **749** *зб'еражём.* **750** *н'ас'ём, иг'ём, жн'ем, в'ез'ём.* **752** *пан'ас'ём, давáй н'ас'ём, б'арём, аддыхн'ём.* **754** *в'аг'ём, н'ас'ём.* **756** *в'аг'ём, н'ас'ём.* **758** *поможём.* **761** *спачём.* **763** *жнем.* **764** *γрабём, сычём, сычы́м.* **765** *скажём.* **766** *н'ес'ём, в'ез'ём, в'ед'ûм, н'ес'ûм, жн'ем.* **767** *н'ес'ём, в'ег'ём, жн'ем.* **768** *несём, ведём, жнем.* **769** *несём, идóм* — радзей. **770** *давáй несûм, вед'ûм.* **771** *нысём, выдём, жнем.* **773** *несём, ведём.* **774** *жн'êм, н'ас'êм, в'аг'êм, с'ц'еражêм.* **777** *б'арêм, в'аг'êм, н'ас'êм, жн'êм.* **778** *в'аг'ём кóн'и, жн'êм барžéй, пайг'ём, паўз'êм.* **781** *с'ц'ережём, с'ечём.* **782** *сарв'ём, с'ц'еражём, б'еражём, с'ачём.* **783** *жн'ем скарéй, иг'ём, н'ас'ём, с'ечём.* **784** *жн'ем, с'ечём.* **786** *пав'аз'ём, жн'ем, в'аз'ём.* **787** *н'ас'ём, в'аг'ём, с'ц'еражём.* **789** *с'ачём.* **792** *н'ас'ём, с'ц'еражём, памажём, с'ачём.* **794** *в'ег'ём, н'ес'ём, жн'ем.* **795** *в'ез'êм, н'ес'êм, жн'êм, поможêм, с'ечêм, сп'ечêм, пов'езôм, пон'есôм, пакладôм, пов'едôм.* Формы на **-ом** ужываюцца з загаднай часціцай *давай(це): давáй пов'езôм, давáйц'е зб'ерôм.* **796** *иг'ём, в'ег'ём, н'ес'ём, жн'ем, б'ережём, с'ечём.* **798** *с'ц'ережём.* **801** *сп'ачём.* **803** *в'ез'ём, жн'ем, с'ечём.* **805** *нас'ечём.* **806** *нас'ачём, иг'ём, н'ас'ём.* **809** *н'ес'ём, в'ег'ём, клаг'ём, иг'ём, жн'ем.* **812** *с'ц'ережём, с'ечём.* **813** *с'ц'еражём, запражём, п'ачём.* **816** *памажём, с'ачём.* **818** *с'ц'еражём, памажём, с'ачём.* **819** *н'ас'ем, в'аг'ём, в'ажём.* **821** *с'ц'еражём, памажём, с'ечём.* **822** *н'ас'ём, в'аг'ём, жн'ем, памажêм, с'ачём.* **823** *γраб'ём, вьг'ём, жн'ем, памажём, нас'ечём.* **831** *с'ц'еражём.* **834** *н'ес'ём, в'ег'ём, жн'ем, с'ц'еражём, помажём.* **838** *иг'ём.* **840** *н'ес'ём, в'ег'ём, б'ерём, сц'еражём, с'ечём.* **845** *с'ечём.* **846** *в'ег'ём.* **847** *жн'êм шчê, нас'ачём сух'ûх дроў, пастр'ижêм ав'éчк'и.* **848** *с'ечём.* **850** *пожн'êм шчé.* **851** *жн'ем, н'ес'ём, с'ц'ерожём, поможём, с'ечём, п'ечём.* **852** *жн'êм, с'ц'ережём.* **853** *с'ц'еражём.* **858** *с'ц'аражём, с'ачём, памажём.* **860** *жн'ем, с'ачём.* **869** *сц'êражём, памажём, валачём.* **870** *в'аг'ём.* **872** *сц'еражём, паможём, с'ачём.* **873** *помажём.* **876** *н'ас'ём, в'аг'ём.* **886** *н'ес'ём, в'аг'ём.* **887** *н'ас'ём, в'аг'êм, сц'аражêм, с'ачêм.* **891** *н'ас'ём, в'ег'ём, жн'ем.* **908** *с'ц'еражём, памажём, с'ачём.* **919** *с'ц'еражём.* **922** *сц'еражём.* **932** *б'арём.* **934** *рв'ем, жн'ем.* **946** *несём, ведём, жнем.* **947** *нысём, выдём, жнём, сычём.* **949** *жнем, сычём.* **950** *нысём, выдём, жнем.* **952** *нысём, выдём, жнем.* **953** *нысём, в'идём, жнем.* **954** *нысём, вызём, жнем.* **957** *поможы́м.* **958** *понесём, повед'ём.* **960** *нысём, поможём.* **961** *нысûм, ведûм, жним, стырыжûм, поможûм, сычûм.* **963** *выдûм, нысûм, жним.* **964** *несём, ведём, жнем.* **965** *жн'им.* **967** *давáй понесём.* **968** *понесём, поведём, повезём.* **969** *сц'ераγ'ём.* **973** *н'ес'ûм, в'ед'ûм, жн'им.* **974** *н'ес'ём, берём, пожн'ём, в'ег'ём, с'ечём.* **976** *жн'ем скорéй, н'ес'ём, с'т'ережём, поможём, с'ечём.* **977** *в'ед'ём кон'á, поможём йемý.* **978** *н'ес'ём, в'ед'ём.* **979** *помоγём, жн'ем, пол'ём.* **982** *пойг'ём с'áдам.* **984** *н'ас'ём, в'аг'ём, жн'ем, памажём, с'ачём.* **988** *сц'еражём;* рэдка — *сц'ераγóм.* **992** *в'ег'ём, с'ачём.* **995** *н'е брешём.* **997** *н'ас'ём, падажžёмц'е.* **1004** *с'ц'ережем.* **1006** *с'ц'еражём, памажём, с'ечём.* **1007** *идём йéсты, с'ц'араж'ём.* **1008**

*убйем, ɣреб'ем, жн'ем, с'ечем.* **1009** *н'ас'ем, в'аɣ'ем, сц'ераж'ем.* **1011** *жн'ем хутчей, поможем.* **1012** *в'езем, жнем, жанем коровы, стережем, ведем, несем.* **1013** *несем, ведем, жнем.* **1015** *н'ас'ем, в'аɣ'ем, жн'ем.* **1025** *давай пас'ц'аражым.*

## Карта № 168

## НАЦІСКНЫ ГАЛОСНЫ Ў КАНЧАТКУ 1-ай АСОБЫ МНОЖНАГА ЛІКУ ЗАГАДНАГА ЛАДУ ДЗЕЯСЛОВАЎ II СПРАЖЭННЯ

Карта складзена на матэрыяле пытання № 115:

«Як утвараюцца формы загаднага ладу:

У 1-ай асобе множнага ліку: *сп***ем**, *сп***емо** ці *сп***імо**; *сядз***ем**, *сядз***емо** ці *сядз***імо**?»

На гэтай карце картаграфуюцца адрозненні націскных галосных у 1-ай асобе множнага ліку загаднага ладу дзеясловаў II спражэння з нерухомым націскам на канчатку і дзеясловаў з рухомым націскам тыпу *хадзіць (хадзім(о), спім(о) : хадзем, спем : хадзём, спём).*

Выпадкі суіснавання форм з розным тыпам націскнога галоснага картаграфуюцца адпаведнымі знакамі ў тых жа нас. пп.

На карце не адрозніваюцца фанетычныя варыянты націскнога галоснага: формы з [е], [ê] і [͡ие] (апошні толькі ў некалькіх прыкладах) картаграфуюцца адным знакам.

Націскны галосны [е] або [ê] дзеясловаў II спражэння з рухомым націскам і нерухомым націскам на канчатку *(хаɣ'ем* і *сп'ем)* картаграфуецца адным знакам.

Наяўнасць і адсутнасць канцавога галоснага ў канчатку 1-ай асобы множнага ліку на карце не ўлічваецца.

Толькі форма з націскным [и] пры канчатку **-мо(а)** тыпу *хаɣ'имо,* якая тэрытарыяльна супадае з адпаведным тыпам дзеясловаў I спражэння *(жн'имо(а),* картаграфуецца на гэтай карце асобным знакам.

Не ўлічваюцца і адрозненні ў тыпе асновы: *хаɣ'ем* і *ходем, хайем* (нас. пп. 974, 975, 977) картаграфуюцца адным знакам.

Маленькая зорачка з правага боку зверху над лічбай адсылае да каментарыяў, дзе прыводзяцца формы з адзінкавымі адхіленнямі ў тыпе асновы.

Фактычны матэрыял лексічна абмежаваны дзеясловамі непрадуктыўных класаў. У адказах адзначаюцца толькі адзінкавыя прыклады такіх форм; у большасці выпадкаў знак на карце ставіцца на аснове аднаго-двух прыкладаў. У пераважнай частцы матэрыялаў формы такога тыпу не прыводзяцца.

Гэта карта дапаўняе карту № 167. Паўднёва-ўсходняя зона адлюстроўвае захаванне формы 1-ай асобы множнага ліку загаднага ладу на **-ем(-êм)** дзеясловаў II спражэння адпаведна форме дзеясловаў I спражэння пры агульным пашырэнні канструкцыі з мадальным словам у спалучэнні з формай абвеснага ладу тыпу *давай(це) пас'аɣ'им, пастайім*

хоць слова *пу́н'а* з'яўляецца назвай будынка для снапоў, сена, саломы ў наступных нас. пп.: 52, 58, 59, 63, 64, 72—74, 77, 78, 81, 84, 87—89, 92, 93, 98, 100—102, 113, 120, 121, 126, 130, 131, 171, 180, 189, 202, 209, 223, 227, 229, 232, 241, 243, 245, 252, 255, 258, 259, 266, 269, 271, 273, 294, 299, 308, 319, 323, 324, 468, 508, 640, 860, 909.

Па той жа прычыне не наносіцца на карту слова *адры́на* ў нас. пп. 161, 341, 343, 345, 346, 350, 357, 365, 368, 498, 781, 820, 875, 881.

Адводзіцца ад картаграфавання слова *бълγан* (нас. п. 570), якое не мае пры сабе ніякіх тлумачэнняў.

Да слова *γумно́* ў адказах даюцца розныя па зместу паметы збіральніка: а) *γумно́* — будынак, дзе складаюць снапы (нас. пп. 5, 7—10, 25, 30, 33, 34, 43, 44, 115, 169, 173, 248, 249, 260, 262, 283, 298, 302, 304, 313, 326, 331, 347, 349, 372, 379, 389, 416, 422, 459, 469, 480, 481, 486, 503, 511, 526, 530, 531, 534, 556, 558, 565, 566, 596, 628, 636, 638, 642, 672, 761, 779, 783, 784, 794, 799—801, 807, 813, 817, 823, 829, 831, 835, 849, 857, 871, 874, 877, 899, 905, 913, 918, 933, 943, 975, 991, 995, 1008; б) *γумно́* — дзе складаюць снапы, сена (нас. пп. 11, 175, 280, 348, 366, 385, 387, 444, 453, 494, 496, 502, 515, 516, 521, 523, 539, 711, 713, 761, 791, 816, 938, 980, 999); в) *γумно́* — дзе складаюць снапы, сена, салому (нас. пп. 42, 79, 139, 140, 158, 159, 164, 279, 289, 348, 401, 529, 535, 593, 624, 666, 716, 744, 809, 830, 837); г) *γумно́* — дзе складаюць снапы, салому (нас. пп. 6, 24, 129, 192, 278, 525, 536, 706, 795, 797, 825, 826, 832, 897); д) *γумно́* — дзе складаюць збожжа (нас. пп. 20, 183, 274, 389, 430, 445, 495, 567, 819, 824, 897); е) *γумно́* — дзе складаюць жыта (нас. пп. 15, 152, 378, 418, 564, 673, 798, 972, 976); ж) *γумно́* — дзе складаюць сена, салому (нас. пп. 2, 155, 204, 314, 578, 886, 936); *γумно́* — для збожжа, саломы і сена (нас. п. 922); з) салому складаюць у *γумно́* (нас. пп. 208, 212); і) *γумно́* — для збожжавых культур (нас. п. 328).

У многіх адказах ёсць заўвагі збіральніка да слова *ток.* Па зместу гэтыя заўвагі розныя: а) *ток* —дзе складаюць снапы (нас. пп. 2, 12, 23, 32, 35—38, 45, 48, 61, 65, 66, 68, 69, 99, 104—106, 115, 123—125, 133—135, 196, 208, 212, 226, 244, 247, 253, 287, 289, 297, 300, 301, 311, 314, 474, 477, 506, 513, 524, 993); б) *ток* — для снапоў і саломы (нас. пп. 19, 28, 41, 96, 118, 127, 175, 203, 464, 466); в) *ток* — дзе складаюць жыта (нас. пп. 26, 46); г) *ток* — дзе складаюць снапы, сена (нас. пп. 47, 55); д) *ток* — дзе складаюць усё астатняе збожжа (нас. пп. 161, 199); е) *ток* — дзе складаюць снапы, сена, салому (нас. п. 303); ж) *ток* — дзе складаюць дабро (нас. п. 71, 514); з) *ток* — дзе складаюць снапы, жыта (нас. п. 276).

Ёсць таксама паметы збіральніка і пры слове *клу́н'а: а) клу́н'а* — у яе звозяць снапы (нас. пп. 728, 729, 759, 961, 967); б) *клу́н'а* — дзе складаюць снапы і сена (нас. пп. 693, 764, 958, 966); в) *клу́н'а* — будынак, дзе складаюць снапы, сена, салому (нас. пп. 721, 727, 733, 809); г) *у клу́н'и* на вышках складаюць сена, салому (нас. п. 734); д) *клу́н'а*— будынак, дзе складаюць снапы, жыта (нас. п. 760).

Ніжэй прыводзяцца заўвагі збіральнікаў: **23** *ток* называюць яшчэ *γумно́м;* часцей — ток. **25** *ток* або *γумно́.* **30** Снапы складаюць у *пу́н'и* або ў *γумн'е́* — гэта адно і тое ж. **60** *пу́н'а, ток* — у адным значэнні.

**67** *пу́н'а* і *γумно́* — адно і тое ж. **70** Раней было *γумно́.* **75** *γумно́* было раней. **90** *γумно́* — часцей; *пу́н'а* — радзей. **124** Для саломы раней былі *сара́йи.* **134** Раней былі *сара́йи; сара́й* хлебны звалі *ток.* **183** *γумно́, адры́на* — дзе складаюць збожжа, сена, але ёсць розніца: *у γумн'е́* можа быць двое дзвярэй або адны і абавязкова з канца, а ў *адры́н'и* — збоку. **197** Гэта будынак і месца, усё разам: і *ток* і *пу́н'а.* **291** Сустракаецца *γумно́,* але рэдка; часцей складаюць у *таку́.* **296** Па-старому — *γумно́,* а цяпер — *сара́й, нав'е́с.* **302** *γу́мнаў* цяпер амаль няма, былі раней, і асноўнае іх прызначэнне — сушыць снапы, захоўваць іх ад непагоды, захоўваць мякіну. **342** *Дык γе́та йак йака́йа мо́жа γавары́ц'; йак у нас, дык γе́та γумно́.* **507** Рэдка ўжываецца *γумно́.* **516** Некаторыя гаспадары будавалі *γумно́* толькі на збажыну — *ток.* **586** *γумно́* ўжывалася раней; цяпер няма. **593** У *γумн'е́* складалі снапы, салому, сена — раней; цяпер сена, салому складаюць у *пу́н'и.* **678** Калісьці былі *клу́н'и.* **722** Найбольш пашыраным у гэтым значэнні з'яўляецца слова *клу́н'а.* Ужываецца таксама *γумно́,* але яно тут слова новае. **760** Старыя завуць *клу́н'а,* моладзь — *γумно́.* **802** *клу́н'а* — гэта *γумно́.* **808** *клу́н'а, γумно́* — у адным значэнні. **809** *клу́н'а, γумно́* — у адным значэнні. **816** Слова *клу́н'а* разумеюць, але не ўжываюць. **823** *клу́н'а* — гэта *γумно́; γумно́* — традыцыйнае, даўнейшае тут. **835** У малодшага пакалення *с'енава́л* — для сена і саломы. **882** Звычайна — *γумно́;* рэдка — *γумн'и́шча.*

## Карта № 236

## НАЗВЫ БУДЫНКА, У ЯКІМ СКЛАДАЮЦЬ СЕНА

Карта складзена на матэрыяле пытання № 162:

«Як у вас называецца... будынак, дзе складаюць снапы, сена, салому: *гумно́, адры́на, андры́на, адры́нец, пу́ня, клу́ня..?*»

Фармулёўка пытання недакладная: неабходна было ў праграме выдзеліць асобна пытанне: «Як называецца будынак, дзе складаюць сена?» Адсутнасць дакладнасці ў фармулёўцы адбілася на якасці адказаў. Так, даволі часта ў адказах прыводзіцца слова або некалькі слоў без указання на прызначэнне памяшкання, якое называецца гэтымі словамі; у большасці выпадкаў адсутнічае апісанне пабудоў, хоць назваў прыводзіцца некалькі.

Аднак матэрыял увогуле дае магчымасць зрабіць асобную карту назваў будынка, дзе складаюць сена. Акрамя гэтай карты, на матэрыяле пытання «Праграмы» састаўлена карта назваў будынка, дзе складаюць снапы, салому або снапы, салому і сена (гл. карту № 235).

На гэту карту наносяцца назвы, якія найбольш часта сустракаліся ў матэрыялах адказаў. Такіх назваў у асноўным тры: *пу́н'а (пу́н'ка), адры́на (адры́нка, адры́н'ец), с'ан'н'и́ца, (с'ал'н'и́к).*

Зялёным знакам (кружком) картаграфуецца слова *адры́н'а,* якое адзначаецца ў матэрыялах адказаў наступных нас. пп.: 8, 9, 13, 30, 169, 178, 179, 184, 195, 198, 532. Гэтым жа знакам картаграфуецца слова

*андрына* ў наступных нас. пп.: 89, 477, 479, 484, 487—489, 531, 535, 816, 872, 1000.

Як *адрынка* картаграфуецца слова *андрынка* ў нас. пп. 486, 814.

Адсылачным знакам чорнага колеру картаграфуецца слова *шопа.*

З наступнымі заўвагамі збіральнікаў наносіцца на карту слова *пуня* ў нас. пп.: **67** *пун'а* — для снапоў. **121** Снапы складаюць у *пун'и.* **213** *пун'а* — для снапоў. **243** У *пун'и* складаюць снапы. **260** *пун'а* — будынак, дзе складаюць снапы. **262** *γумно́, пун'а* — дзе складаюць снапы. **857** Сена ў *с'енава́л'е,* для саломы — *пун'а.* **972** У *пун'и* складаюць салому.

Не наносіцца на карту слова *адрына* з наступнымі заўвагамі: **161** Салому і снапы складаюць у *адрын'а.* **379** *дрова, жал'еза ўс'акайа ў адрын'а.* **445** *адрынка* — для гаспадарчых прылад. **453** *адрынка* — *дл'а ам'ец'ц'а, м'ак'ины.* **498** У *адрын'е* снапы складае гаспадар. **727** *одрына* — месца перад хлявом, каля дзвярэй у хлеў. **788** *адрына* — дзе ставяць сельскагаспадарчыя прылады, плугі, калёсы і г. д. **844** *адрына* — дзе складаюць снапы.

Не наносяцца на карту словы *сара́й* (нас. пп. 101, 792), *дашча́нка* (нас. п. 69), *бълγа́н* (нас. п. 570), *шыпка* (нас. п. 731), якія не маюць пры сабе пэўных тлумачэнняў.

Адводзяцца ад картаграфавання словы, якія не з'яўляюцца назвамі будынка, дзе складаюць сена: *паднав'е́с* (нас. пп. 242, 311, 467), *пыдлав'е́ц'* (нас. п. 605), *камо́ра* (нас. п. 935), *шаха́* (нас. п. 87), а таксама слова *с'енава́л* (нас. пп. 287, 311, 575, 578, 607, 611, 835, 855, 857), якое не мае пры сабе ўказання на прызначэнне будынка.

Не картаграфуюцца словы *застаро́нак* (нас. пп. 816, 964, 1005, 1013), *в'ишк'и* (нас. п. 1013), якія з'яўляюцца назвамі частак будынка.

У наступных адказах прыводзяцца заўвагі збіральнікаў да слоў, якія наносяцца на карту: **13** *адрын'а* — гэта ў палякаў гаварылі. **25** *пун'а* — дзе складаюць сена і салому. **30** Сена складаюць у *пун'и* або ў *γумн'е́;* гэта адно і тое ж. **37** Сена і салому складаюць у *пун'у.* **43** *пун'а* — складаюць сена і салому. **47** Будынак, дзе складаюць сена і снапы, некаторыя называюць *пун'а.* **48** *пун'а* — для сена і саломы. **49** *пун'а* — для сена і снапоў. **60** *пун'а, ток* — у адным значэнні. **61** Сена і салома ў *пун'и.* **65** *пун'а* — для сена, саломы, рэдка — для снапоў. **66** *пун'а* — для сена, саломы. **68** *пун'а* — складаюць снапы, сена. **71** *пун'а* — складаюць сена, салому. **72** У *пун'у* складаюць сена, салому. **73** Снапы, сена, салому складаюць у *пун'и.* **74** *пун'а* ці *сара́й;* часцей — *пун'а.* **75** *пун'а* сёння мала ў каго ёсць. **78** *пун'а* — складаюць сена, салому. **79** У *пун'и* складаюць сена і салому. **81** Сена складаюць у *пун'и* або ў *хл'е́в'и.* **84** *сара́й* або *пун'а* — для сена. **87** *пун'и был'и́ да вайны́, ц'ап'е́р* — *шаха́.* **89** *пун'а* раней была. **90** *γумно́* — часцей; радзей — *пун'а.* **98** *γумно́* — дзе сушаць снапы перад *пун'ай.* **101** У вялікіх *пун'ах* складалі снапы і сена; *пун'а* і *сара́й* — адно і тое ж. **104** Сена і салому складаюць у *пун'и.* **117** *съра́йи, пун'ь* — для сена. **126** У *пун'и* — сена, салома. **163** *γумно́,* часам — *адрына.* **187** *γумно́, адрына* ўжываюцца паралельна. **202** У *пун'у* складаюць снапы,

але часцей сена і салому. **204** *пу́н'а* — дзе складаюць снапы, але часцей сена і салому. **209** *пу́н'а* — дзе складаюць снапы і сена, грэчку і канюшыну. **215** Часта сена складаюць асобна ад усяго, і гэты будынак называецца *пу́н'ай.* **220** Як абмалоцяць, складаюць у *пу́н'у.* **227** У *пу́н'у* складаюць сена і снапы; снапы — радзей. **230** *пу́н'а* — для сена і саломы. **233** Салому і сена складаюць у *пу́н'и.* **235** *пу́н'а* — для сена і снапоў. **239** У *пу́н'у* складаюць снапы, сена, салому. **248** *пу́н'а*—для сена, саломы. **276** У *пу́н'и* — снапы і сена. **277, 283, 298** *пу́н'а* — для сена і саломы. **302** *пу́н'а*—для снапоў, сена; *пу́н'а* меншых памераў—для сена, хто заве *с'ан'н'йца.* **308** *пу́н'а* — для сена і збожжа. **341** Назва прыводзіцца ў кантэксце: *зачын'й адры́ну.* **347** *γумно́* і *адры́на* — адно і тое ж. **370** Слова *адры́на* ўжываецца вельмі рэдка, малодшае пакаленне нават не ведае значэння гэтага слова. **407** *адры́на* — для сена, але рэдка сустракаецца. **428** *адры́на* ўжываецца радзей. **463** *пу́н'ай* у вёсцы амаль няма. **465** У *пу́н'и* складаюць снапы і сена. **466** *пун'* у вёсцы зараз амаль няма. **493** *γумно́* і *пу́н'а* — адно і тое ж. **496** У *адры́ну* ссыпаюць збожжа, раней складалі сена. **506** *пу́н'а* — для сена і саломы. **509** *с'ан'н'йк* — будынак, дзе раней складалі сена. **511** *пу́н'а* або *с'ан'н'йк;* тут складалі салому, сена. **514** У *пу́н'у* складалі снапы, сена. **523** *адры́на* выйшла з моды; у *адры́н'е* складалі снапы, сена, салому; *пу́н'а; пу́н'ка* яшчэ больш старое слова; тут гаспадар складаў сена. **531** *адры́на* — для сена, саломы; іншы раз такі будынак называецца *с'ан'н'йк.* **532** *пры пана́х был'й адры́н'и.* **536** *пу́н'а* — гумно ў маёнтку. **547** *пу́н'а* ўжываецца рэдка. **564** У *пу́н'у* складаюць сена, салому. **593** У *γумн'е́* складалі снапы, сена, салому; зараз сена і салому складаюць у *пу́н'и.* **599** *пу́н'а — с'ан'н'йца дл'а с'е́на.* **611** У *пу́н'у* складаюць сена, салому. **612** У *пу́н'у* снапы складаюць, а таксама сена, салому. **617** *л'ешча́начка* — невялікая прыбудоўка да *пу́н'и,* дзе захоўвалася на зіму сена; *пу́н'а* прызначаецца галоўным чынам для жывёлы, але ў каго няма гумна, той захоўваў сена і ў *пу́н'и,* для чаго рабілася спецыяльная агарожа. **628** *пу́н'а — йак н'ама́ γумна́, ло́жац' снапы́, с'е́на, сало́му; у пу́н'и стайа́ц' каро́вы, ав'е́чк'и.* **636** У *пу́н'и* складалі сена і салому; калі не было месца, то там, дзе стаялі каровы: па адным баку каровы, а па другім — сена; гэта палавіна завецца *с'ан'н'йца.* **668** Рэдка ўжываецца *адры́на.* **670** *адры́на* ўжываецца рэдка. **682** Раней багатыя гаспадары мелі асобныя памяшканні для сена, якія называліся *с'ел'н'ика́м'и.* **712** *адры́на* — слова новае. **762** *клу́н'а, адры́на* — розніцы ў значэнні няма. **774** *адры́на* служыць для той жа мэты, што і *γумно́.* **783** У *адры́н'е* складаюць сена, жыта, дровы. **813** *адры́на* — дзе складаюць усё: снапы, сена, салому. **818** Слова *адры́на* сустракаецца ў старых. **820** *адры́на* — дзе складаюць снапы, сена, салому. **821** *адры́на* — так звалі раней. **835** *адры́на, с'ел'н'йк* — для сена і саломы; у малодшага пакалення — *с'енава́л* для сена і саломы. **837** *адры́на* — дзе складаюць сена і салому. **858** *пу́н'а* — для сена і саломы. **912** *пу́н'а* сустракаецца ў мове старых. **914** У *пу́н'и* складалі сена і салому. **922** *пу́н'а* — толькі для сена і саломы. **942** *пу́н'а* ра-

ней была толькі для сена. **971** *клу́н'а*; радзей гавораць *үумно́, пу́н'а.* **980** *с'ел'н'и́к* — для сена і саломы, існаваў раней. **988** *пу́н'а* ўжываецца рэдка. **1000** Рэдка ўжываецца слова *андрына.*

## Карта № 237

## ПАШЫРЭННЕ СЛОВА павець І ВЫТВОРНЫХ АД ЯГО

Карта складзена на матэрыяле пытання № 164:

«Як у вас называецца... будынак для гаспадарчых прылад: *паве́ць, падпаве́цце, паве́тка, падпаве́тка, наве́с, падна́ве́с..?*»

На адзначаным матэрыяле складзена карта № 238 «Назвы пабудовы са сценамі для гаспадарчых прылад», на якую нанесены назвы: *пав'е́ц', шо́па, вазо́ўн'а, шур.* Прычым, як *пав'е́ц',* чырвоным контурным кругам на той карце наносіліся назвы *пав'е́тка, падпав'е́тка, падпав'е́ц'ц'е, падпав'е́ц', пав'е́ц'ц'е, пав'е́так, пав'е́тачка, пов'и́тн'а.*

На гэту карту рознымі знакамі наносіцца слова *павець* і вытворныя ад яго *(пав'е́тка, патпав'е́тка, патпав'е́ц'ц'е, патпав'е́ц').*

Адсылачным знакам наносяцца словы: *пав'е́ц'ц'е* (нас. пп. 280, 464, 717, 889), *пав'е́так* (нас. пп. 358, 363), *пав'е́тачка* (нас. пп. 464, 841), *пов'и́тн'а* (нас. п. 950).

Адводзіцца ад картаграфавання слова *пыдпав'е́ц'ц'а* ў нас. п. 338, дзе яно абазначае месца, якое займае павець.

Слова *паве́ць* у нас. пп. 1003 і 1004 наносіцца на карту на аснове кантэксту: *Там л'ежы́ц' у пав'е́ц'и.*

## Карта № 238

## НАЗВЫ ПАБУДОВЫ СА СЦЕНАМІ ДЛЯ ГАСПАДАРЧЫХ ПРЫЛАД

Карта складзена на матэрыяле пытання № 164:

«Як у вас называецца... будынак для гаспадарчых прылад: *паве́ць, падпаве́цце, паве́тка, падпаве́тка, наве́с, падна́ве́с..?*»

Пытанне сфармулявана недакладна. Як паказвае матэрыял адказаў, для гаспадарчых прылад ставяць будынак са страхой, сценамі *(пав'е́ц', шо́па, вазо́ўн'а).* Разам з тым робіцца прыбудова на слупах са страхой, але без сцен, у якой таксама могуць складаць гаспадарчыя прылады *(нав'е́с, паднав'е́с).* У сувязі з такой недакладнасцю ў шматлікіх адказах даюцца ўсе назвы будынка, якія прыведзены ў пытанні № 164, без пэўных памет.

На гэту карту наносяцца назвы будынка для гаспадарчых прылад са сценамі. Матэрыял адказаў дае як больш пашыраныя чатыры назвы: *пав'е́ц', шо́па, вазо́ўн'а, шур.*

Чырвоным знакам картаграфуюцца словы: *пав'е́тка, падпав'е́тка, падпав'е́ц', падпав'е́ц'ц'е* (апошнія як назвы будынка ад слова *пав'е́ц'* выносяцца на асобную карту № 237), а таксама *пав'е́ц'ц'е* (нас. пп. 280,

464, 717, 889), *пав'ётак* (нас. пп. 358, 363), *пав'ётачка* (нас. пп. 464, 841), *пов'йтн'а* (нас. п. 950).

Зялёным знакам картаграфуюцца словы: *шопка* (нас. пп. 345, 348, 370, 380, 486, 498, 517, 666, 678, 681, 683, 686, 690, 693, 696, 697, 699, 700, 702, 703, 720, 721, 723, 725, 729, 737, 841, 965, 970), *патшопка* (нас. пп. 349, 350, 358, 486, 679, 680, 715), *ш'йпочка* (нас. п. 692).

Сінім знакам картаграфуецца слова *шўрык* (нас. пп. 655, 661, 677, 685, 700, 703).

Адсылачным знакам чорнага колеру наносяцца словы: *ґ'ан'йк* (нас. п. 9), *трысотн'ик* (нас. п. 11), *трыс'ц'ен'* (нас. п. 13), *складоўн'а(* нас. п. 39), *тын'анка* (нас. п. 73), *шалаш* (нас. п. 97), *склаґ'ишчъ* (нас. п. 115), *хабўн'къ* (нас. п. 116), *склат* (нас. пп. 170, 229), *склаґ'ик* (нас. п. 191), *падзастрешак* (нас. п. 221), *прыкл'етн'ик* (нас. п. 238), *абарох* (нас. п. 348), *ман'еш* (нас. пп. 477, 755), *падкрылак* (нас. п. 532), *дашок* (нас. пп. 653, 657, 658), *пуддаше* (нас. пп. 662, 663, 846, 847), *стрыха* (нас. п. 701), *прысторенок* (нас. п. 718), *трохс'ц'ен'н'ик* (нас. пп. 723, 725), *ко-лешн'а* (нас. пп. 726, 729, 732, 740, 953, 956, 958, 959), *прыклўнных* (нас. п. 730), *шалашык* (нас. п. 738), *прыстан'йвка* (нас. п. 738), *прыбудуовак* (нас. п. 746), *абожн'а* (нас. п. 777), *древотн'а* (нас. п. 852), *мак'ей* (нас. п. 955), *прыс'ц'енак* (нас. п. 967), *пуддах* (нас. п. 976), *прыгребн'ик* (нас. п. 1022).

Адводзяцца ад картаграфавання як назвы будынка без сцен словы: *нав'ес* (нас. пп. 1, 4, 20, 45, 64, 70, 85, 93, 103, 104, 106, 108—112, 114, 120, 122, 133, 166, 171, 214, 244, 257, 261, 269, 281, 282, 296, 298, 300, 302, 305, 307, 311, 313, 314, 319, 320, 322, 325—328, 339, 340, 348, 350, 412, 413, 432, 452, 461, 463, 483, 510, 523, 527, 529, 530, 532, 537, 540, 544, 548, 549, 555, 556, 561, 564, 565, 568, 573, 577, 579, 584, 590—592, 594, 595, 597, 598, 603, 609, 610, 612, 617, 619—621, 629, 631, 632, 638, 640, 642, 643, 645, 647, 648, 652, 654, 668, 685, 660, 662, 664, 684, 687—689, 694, 697, 698, 707, 715, 727, 731, 736, 739, 758, 771, 772, 776, 777, 799, 806, 812, 822, 827, 829, 846, 848, 873, 878, 892, 894, 897, 900—902, 905, 909, 914, 915, 925, 926, 930, 932, 935, 945, 948, 957, 958, 962, 964, 965, 968, 986, 988, 1012, 1019, 1021, 1026); *пад-нав'ес* (нас. пп. 27, 31, 60, 65, 70, 84, 85, 91, 98, 101, 102, 105, 106, 122, 154, 189, 206, 209, 210, 219, 222, 230, 231, 241, 242, 249, 255, 262, 265, 267, 268, 271—273, 275, 284—286, 288, 292, 298, 302, 304, 311—314, 317, 323, 331, 370, 394, 396, 399, 401, 402, 405, 412, 419, 423, 430, 434, 443—445, 448, 467, 468, 474—476, 478, 479, 482, 483, 486, 488, 490, 491, 493, 501, 502, 519, 523, 527, 560, 563, 570, 575, 603, 606, 611, 643, 645, 647, 652, 741, 765, 779, 781—784, 786, 787, 790, 792, 793, 800, 806, 813, 821, 837, 862, 864, 888, 922, 926, 960, 971, 1019); *паднав'еска* (нас. п. 254); *паднав'ес'ик* (нас. п. 443); *нав'ешчык* (нас. п. 642); *занав'ес* (нас. п. 672).

Адводзяцца ад картаграфавання словы, якія не з'яўляюцца назвамі асобнага будынка для гаспадарчых прылад: *адрына* (нас. пп. 6, 162, 457, 461, 717, 741, 788, 801, 1021), *адрынка* (нас. пп. 415, 442, 745, 754, 759), *кладоўка* (нас. пп. 46, 259, 270, 322, 423, 438), *сарай* (нас. пп. 91, 227, 263, 828), *пўн'а* (нас. пп. 130, 511, 566, 914), *пўн'ка(* нас. п. 220), *кл'ец'* (нас. пп. 259, 964, 966, 984), *клўн'а* (нас. пп. 682, 734, 741, 890), *с'ел'н'йк* (нас.

пп. 740, 966, 967), *хл'еў* (нас. пп. 118, 227), *кладо́вайа* (нас. пп. 270, 789), *с'в'и́ран* (нас. пп. 997, 1007), *с'в'е́ран* (нас. п. 363), *с'в'еро́нак* (нас. п. 385), *с'в'и́рнайа* (нас. п. 385), *ɣумно́* (нас. п. 456), *амба́р* (нас. п. 878), *пало́ўн'ик* (нас. п. 416), *пало́ўн'ичак* (нас. п. 748), *древо́тн'а* (нас. п. 852), *кал'идо́рчык* (нас. п. 7), *сыпны́к* (нас. п. 665), *майда́н* (нас. п. 949), *по́ɣр'иб* (нас. п. 571), *с'енава́л* (нас. п. 803).

Ніжэй прыводзяцца заўвагі, пэўныя тлумачэнні збіральнікаў да слоў, якія наносяцца на карту: **7** *пав'е́тка, кал'идо́рчык* — у адным значэнні. **11** *пав'е́тка;* іншы раз скажуць *трысо́тн'ик,* г. зн. дзе трэскі. Там і дровы, і тапор, і сталяруюць пад *пав'е́ткай.* **23** Радзей называюць *пав'е́тка.* **26** *пав'е́тка зав'е́цца, там дро́вы ў нас склада́йуц'.* **32** *пав'е́тка* — прыбудова, у якой хаваюць ад сырасці дровы і іншыя прадметы. **35** *пав'е́тка* будуецца са сценамі і без сцен; у ёй няма дзвярэй. **39** Хто заве *пав'е́тка,* хто — *складо́ўн'а.* **49** *патпав'е́тка* — страха на чатырох слупах. **65** *пав'е́тка* — без сцен на слупах са страхой, абгароджана тынком. **67** *пав'е́ц'* прыбудоўваецца да хаты ці сарая на двух слупах. **73** *пав'е́тка* або *тын'а́нка.* Здаецца, што *тын'а́нка* — гэта *пав'е́тка,* апleценая тынком. **75** *вазо́ўн'а* раней была. **87** *Ран'е́й называ́л'и патпав'е́ткай, паɣаре́ла ўс'о ў вайну́.* **95** *патпав'е́тка — страха́ пам'иш хл'е́вам и анба́рчыкам.* **104** *пав'е́ц'* — страха на слупах. **133** *пътпав'е́ц'* — навес паміж хлявом і клеццю. **200** *пав'е́тка* — паміж будынкамі, без сцен, зімою калёсы хаваюць, каб на дварэ не стаялі; тут дровы клалі. **206** *пав'е́тка* — захоўваюць дровы. **209** *патпав'е́тка* — будынак, прыкрыты стрэшкай. **220** *пав'е́тка* або *пу́н'ка* — усё туды зносяць. **237** *пав'е́ц'; патпав'е́ц'ц'а* ўжывалася раней. **239** *пав'е́ц', патпав'е́ц'ц'а* — гаварылі раней. **248** *пав'е́ц', патпав'е́тка* — дзе раней стаялі розныя гаспадарчыя прылады. **253** *пав'е́тка* — для дроў. **270** *пав'е́ц'* — страха паміж хлявом і сенцамі. **274** *патпав'е́тка* была некалі. **276** *пав'е́ц'и* некалі былі. **305** *пав'е́ц'* — ужываецца вельмі рэдка. **349** Ужываецца *патпав'е́тка* — дзе складаюць дровы. **397** *пав'е́тка* — рэдка сустракаецца. **398** *пав'е́тка*—прыбудова без сцен. **430** *пав'е́тка*—прыбудова для дроў. **433** *пав'е́ц'* — дзе складаюць дровы. **434** *падпав'е́тка* — дзе складаюць дровы. **436** *дро́ўн'а* ці *патпав'е́тка* — прыбудова на слупах без сцен. **440** *патпав'е́тка* — прыбудова без сцен. **442** *адры́нка* — у ёй бывае плуг, сена, воз, барана; *патпав'е́тка* — для дроў. **443** Дровы складаюць у *адры́нку;* некаторыя завуць *патпав'е́тка.* **456** *патпав'е́тка — буды́нак дл'а снапо́ў у б'една'ако́ў.* **474** *патпав'е́тка* — для дроў. **481** *пав'е́ц'* — тут складаюць дровы. **484** У *пав'е́ц'и* дровы складаюць. **485** *патпав'е́тка* — для дроў. **507** *пав'е́тка* — дровы складаюць. **509** *пав'е́ц'* — дзе складаюць дровы. **517** Вельмі рэдка ўжываецца *пав'е́ц'.* **527** *падпав'е́тка* — дзе складаюць дровы. **540** *пав'е́тка* мала хто гаворыць. **546** *падпав'е́ц'ц'е* — будынак, дзе складаюць дровы. **557** *пав'е́ц'* — для дроў. **565** *Ран'е́й пав'е́ц' была́.* **578** *пав'е́тка*—для дроў. **610** *пав'е́тка* — для дроў. **628** Цяпер *пав'е́ц'аў* няма. **682** Асобных будынкаў для гаспадарчых прылад няма. Звычайна прылады складваюць на *нав'е́с'и,* у *кл'е́тцы* або ў *клу́н'и.* **683** У *шо́пку* складаюць дровы, ставяць санкі. **717** *пав'е́ц'ц'е* — для дроў. **740** *сел-*

*нык* — для сена, але часам тут складаюць і гаспадарчыя прылады. **751** *падпав'ёц'* — будынак, дзе складаюць дровы. **752** *пав'ётка* — дзе ляжаць дровы. **754** *пав'ёц'* — для дроў; *одрына* — для гаспадарчых прылад. **766** *пов'ёт'* — для дроў. **767** *шо́па* — для дроў. **780** *патпав'ётка;* у вёсцы гэта слова сустракаецца вельмі рэдка, таму што такога будынка цяпер няма ў гаспадароў. **783** У *пав'ёц'и* дровы складаюць. **784** *пав'ёц'* — дзе майструюць; *патпав'ёц'* — дзе складаюць дровы, пад страхой, без сцен. **787** *пав'ёц'* меншая па памеру, чым *паднав'ёс;* робіцца для дроў. **791** *шо́па;* зараз іх няма. **795** *пав'ёц'* была даўно. **797** *пав'ёц'* была даўно; *у пав'ёц'и* складалі дровы. **799** Раней *пав'ёц'* звалі. **802** *шо́па* — дзе дровы складалі. **804** *пав'ётка* — для дроў. **805** Раней *шо́па* звалі; *пав'ёц' у майʏо́ ба́ц'к'и была́.* **828** Гаспадарчыя прылады складаюць на вышкі ў *сара́йи.* **847** *пав'ёц'* — для дроў. **905** *пав'ёц'* — па-старому. **914** *пав'ёц'* — куды дровы складаюць; *пу́н'а* — куды складаюць плугі, ставяць сані. **932** *падпав'ёц'ц'а* — навес для гаспадарчых прылад. **942** *пав'ёц'* — з трыма сценамі для дроў. **963** *шо́па* — навес на слупах. **969** *пав'ёц'* — вельмі рэдка сустракаецца. **972** *пав'ёц'* — для дроў. **973** *пав'ёц'* — старая назва. **974** *пав'ёц'* — гэта *нав'ёс,* дзе складаюць дровы. **975** *пов'ёт' — там то́л'к'и адны́ дро́вы, лучы́на.* **980** *пав'ёц' — дл'а скла́дк'и дроў.* **993** Дровы складаюць у *пав'ётку.* **1008** *пав'ётка* — для дроў. **1010** *пав'ёц'* — дзе дровы складаюць. **1022** *пав'ёц'* — туды дровы складаюць. **1023** *С'е́на склада́йуц' пат пав'ёц'ц'у, дро́вы ко́л'уц'.*

## Карта № 239

## НАЗВЫ БУДЫНКА ДЛЯ ЗАХОЎВАННЯ ЗБОЖЖА

Карта складзена на матэрыяле пытання № 165:

«Як у вас называецца будынак для захоўвання збожжа: *амба́р, клець, сві́ран*?»

Матэрыял адказаў дае ў асноўным тры назвы будынка: *кл'ёц', с'в'і́ран (с'в'е́ран, с'в'иро́нак), амба́р (имба́р).* Гэтыя назвы наносяцца на карту як распаўсюджаныя на картаграфуемай тэрыторыі ў значэнні асобнага будынка для захоўвання збожжа.

Адсылачным знакам чорнага колеру картаграфуецца слова *шп'их'і́р (шпых'е́р).*

Адсылачным знакам жоўтага колеру картаграфуецца слова *кл'е́тка.*

Як *с'в'і́ран* картаграфуецца слова *с'в'і́ран'* у нас. пп. 465, 475, 479, 495, 512—514, 516, 519, 788, 795, 806, 809, 811, 832, 887, 991, 1006, 1018.

Як *амба́р* картаграфуецца слова *анба́р* у нас. пп. 206, 221, 229, 232, 236, 336, 370, 408, 430, 484—486, 490, 502, 526, 532, 568, 582, 594, 610, 612, 617, 628, 632, 716, 726, 729, 741, 758, 762, 811, 815, 831, 867, 872, 888, 900, 905, 916, 940,

Як *имба́р* картаграфуецца слова *инба́р* у нас. пп. 214, 533, 544, 547, 559, 561, 563, 565, 568, 571, 573, 575, 577, 582, 598, 614, 616—619, 625, 628, 649, 717, 855, 867, 868, 884, 899, 900, 923, 932, 937, 1021, 1022, 1026.

У матэрыялах наступных нас. пп. адзначана, што слова *амбáр* ужываецца як назва будынка для захоўвання калгаснага збожжа: 5, 6, 7, 9, 13, 64, 66, 70, 73, 74, 78, 84, 87, 104, 105, 111, 113 ,115, 127, 128, 209, 213, 226, 228, 243, 253, 264, 271, 298, 299, 334, 337, 338, 421, 434, 453, 456, 464, 521, 530, 531, 586, 601, 604, 613, 636, 642, 682, 687, 707, 711, 723, 725, 728, 755, 791, 795, 798, 805, 814, 816, 819, 823, 824, 894, 906, 909, 912, 914, 918, 934, 936, 955, 958, 966, 999, 1011.

У матэрыялах наступных нас. пп. адзначана, што слова *свíран* ужываецца як назва будынка для захоўвання калгаснага збожжа: 226, 239, 251, 253, 518, 523, 734, 779, 814, 817, 818, 821.

Адводзіцца ад картаграфавання слова *кладóвая (кладавáя),* якое з'яўляецца назвай будынка рознага прызначэння ў матэрыялах наступных нас. пп.: 66, 70, 74, 75, 78, 120, 862, а таксама слова *кладóвая,* пры якім няма пэўных тлумачэнняў у нас. пп. 89, 207, 496, 498, 501, 504, 539, 548, 560, 562, 589, 628, 790, 825, 828, 862, 865, 885, 910, 939, 977, 1013.

Не наносіцца на карту слова *маɣаз'ин* (нас. п. 344), *магазы́н* (нас. п. 532), *маказы́н* (нас. п. 843) — старадаўняя назва грамадскай пабудовы, куды ссыпалася збожжа.

Адводзіцца ад картаграфавання слова *склад,* якое з'яўляецца новым словам для вёскі і абазначае вялікі будынак для захоўвання збожжа ў калгасе. Яно адзначаецца ў наступных нас. пп.: 464, 478, 511, 745, 752, 759, 764, 781, 792, 810, 818, 821, 822, 826, 830, 838, 839, 842, 843, 851, 852, 871, 874, 877, 882, 901, 915, 923, 924, 927, 936, 941, 979, 981, 982, 985, 989, 990, 992, 993, 995, 998, 999, 1002—1004, 1007—1010, 1012, 1014, 1026, 1027.

Не картаграфуецца слова *клець,* калі ў адказах пры гэтым слове ёсць наступныя заўвагі: **452** *кл'ец'* — у значэнні «каморка». **501** *кал'и́ пры ха́ц'е — кл'ец'.* **615** *кл'ец' — ум'е́с'ц'и чы́рас с'е́нцы.* **618** *кл'ец' — чы́рас с'е́нцы.* **676** *кл'ец' — пры ха́ц'и.* **679** *кл'ец'* — перагародка для збожжа, зробленая ў сенцах. **922** *кл'ец'* — адгароджана ў сенцах. **938** *кл'ец'* — цераз калідорчык.

Адводзяцца ад картаграфавання словы, якія не з'яўляюцца назвамі асобнага будынка для захоўвання збожжа: *кладóўка* (нас. пп. 59, 240, 248, 254, 259, 270, 291, 339, 431, 514, 535, 538, 541, 546, 550, 553, 554, 607, 623, 640, 795, 834, 843, 846, 849, 862, 982, 984, 998, 1014); *складóўка* (нас. пп. 765, 966), *кладóвачка* (нас. п. 477); *склáдзік* (нас. п. 350); *камóра* (нас. пп. 153, 345, 450, 514, 522, 651, 683, 686, 694, 724, 734, 741, 812, 840, 844, 942, 944, 951, 955, 958, 972, 975, 977, 983, 986, 994, 996, 998, 999, 1001, 1004, 1007, 1011, 1014, 1023, 1027); *камóрка* і фанетычныя варыянты *ком'ирка, комýрка* (нас. пп. 331, 365, 368, 371, 372, 388, 404, 407, 451, 452, 560, 695, 711, 771, 772, 785, 841, 1023); *чулáн* (нас. пп. 335, 337, 339, 609); *захóт* (нас. п. 503); *прыдз'е́лок* (нас. п. 987); *патпав'е́тка* (нас. п. 79), а таксама словы, якія абазначаюць асобныя будынкі, але гэтыя будынкі не прызначаны для захоўвання збожжа: *стóпкъ, стóбка* (нас. пп. 307, 326, 966), *с'ц'óпка* (нас. п. 851), *истóпка* (нас. п. 591), *клýн'а* (нас. пп. 967, 970), *пýн'а* (нас. п. 216), *ɣумнó* (нас. п. 425), *одры́нка* (нас. п. 997), *палóўн'а* (нас. п. 461), *тôк* (нас. п. 1012).

У некаторых адказах паняцце *будынак* падменена іншым паняццем: часткамі будынка — *зас'е́к* (нас. пп. 33, 53, 365, 368, 370, 420, 477, 487, 575, 611, 625, 737); *закро́м'ен'* (нас. п. 1010) або пасудзінай — *лар* (нас. пп. 951, 957), *скры́н'а* (нас. пп. 652, 699, 1008).

На карту не наносіцца слова *бълγан* (нас. п. 570), якое ў адказе прыводзіцца без усякіх тлумачэнняў.

На карце не адзначана з'ява дысіміляцыі ў спалучэнні **мб** у слове *амба́р.*

У наступных адказах прыводзяцца заўвагі збіральнікаў да слоў, якія наносяцца на карту: **7** *с'в'йран* ужываецца часцей, *амба́р* — новая назва, ужываецца для абазначэння калгаснага свірна. **9** *с'в'йран* ужывалі раней. **10** *амба́р* больш пашырана цяпер. **14** *с'в'йран* — новая назва. **24** *кл'ец'*—гаварылі даўней, *амба́р* — цяпер. **25** *с'в'йран* — рэдка. **26** *анба́р* — некаторыя кажуць. **34** *кл'ец'* — радзей. **35** *кл'ец'* — часцей. **36** *с'в'йран* — гаварылі даўней. **46** *кл'ец'*—па-даўнейшаму. **47** *кл'ец'*— гаварылі даўней. **64** *кл'ец'* — у аднаасобнікаў; *с'в'йран* ранеў быў пры валасці, туды звозілі збожжа на насенне; *амба́р* — у калгасе. **65** *анбар*—гавораць цяпер. **66** *анба́р*—у калгасе. **69** *амба́р*—цяпер і то рэдка. **70** *кл'ец'* — у аднаго *хазяіна, амба́р* — у калгасе. **71** *кл'ец'* —гаварылі даўней. **72** *кл'ец'* раней была; *с'вйран* — цяпер гавораць. **73** *кл'ец', с'в'йрън* — у кожнага *хазяіна.* **74** *кл'ец'* была ў сваёй гаспадарцы, *анба́р* — цяпер у калгасе. **75** *анба́р* — кажуць цяпер у калгасе. **78** *кл'ец'* — у аднай гаспадарцы; *амба́р* — у калгасе. **83** *кл'ец'* — у аднаасобнікаў, *анба́р* — у калгасе. **87** *кл'ец'*; *с'в'йран* — раней. **89** *кл'ец'*— раней, *анба́р* — цяпер. **101** *кл'ец'*—раней; *амба́р*—цяпер. **120** *кл'ец'*— раней была ў калгаснікаў. **124** *кл'ец'*—раней; *анба́р*—цяпер. **125** *кл'ец'*— раней. **127** *кл'ец'* раней была; *анба́р* — цяпер у калгасе. **135** *кл'ец'* — так раней называлі. **178** *с'в'йран* — гэта амбар, куды ссыпаюць жыта, ячмень. **191** *с'в'йран* і *кл'е́ц'* — раней сюды збожжа складалі. **195** *с'в'йран* поўны калгаснага дабра; радзей ужываецца *кл'ец'.* **197** *кл'ец'*— па-старому, *с'в'йран* — цяпер. **209** *амба́р, с'в'йран* — гэта калгасныя будынкі для дабра. **226** *амба́р, с'в'йрън* — у калгасе; *кл'ец'* — старая назва. **228** *кл'ец'*—раней звалі. **229** *ду́жа даўно́ гавары́л'и: пайду́ ў кл'ец', гаво́рац' и анба́р.* **232** *кл'ец'* — гаварылі раней; цяпер — *анба́р.* **236** *кл'ец'* — звалі даўно, *с'в'йран* — нядаўна, *анба́р* — цяпер. **237** *кл'ец', с'в'йран* — казалі раней; *амба́р* — цяпер. **240** *кл'ец', амба́р, кладо́вайа* — дзве апошнія назвы пазнейшага часу. **241** *кл'ец'* — гаварылі раней; *амба́р* — цяпер. **243** *кл'ец'* — у сялян; *амба́р* — у калгасе. **269** *с'в'йрън* раней быў у паноў, а ў калгасе не ўжываецца. **283** Старыя называюць *кл'ец',* моладзь — *амба́р.* **293** *кл'ец'* — раней; цяпер — *амба́р.* **298** *кл'ец'* — раней. **300** *кл'ец'* — па-старому; *амба́р* — цяпер. **302** *амба́р, анба́р*— у калгасе; *кл'ец'* — раней. **308** *амба́р* — цяпер называюць. **311** *амба́р* ужываюць маладзейшыя. **331** *амба́р;* радзей — *кл'ец'.* **332** *амба́р; кл'ец'* — рэдка. **333** *кл'ец'* — раней; *амба́ры* — цяпер. **334** *амба́р* — куды ссыпаюць калгаснае збожжа; *кл'ец'* — невялікі будынак у калгаснікаў. **337** *амба́р* — у саўгасе, а ў двары — *кл'ец'.* **338** *амба́р* — калгасны; *кл'ец'* — у гаспадара. **343** *с'в'йран* — быў ра-

ней, асобна. **407** *амбáр* — рэдка. **421** *с'в'йран* — у асобнага гаспадара; *амбáр* — у калгасе. **444** *с'в'йран* — гаварылі раней; *амбáр* — цяпер. **446** *с'в'йран;* у гаспадара —*с'в'ирóнак.* **496** Цяпер гавораць *с'в'йран.* **502** Цяпер больш называюць *анбáры; кл'ец'* — па-старому; гавораць і *с'в'ирóнак.* **521** *амбáр* — цяпер у калгасе; *кл'ец', с'в'йран, кл'éтка* былі раней. **529** *амбáр* ведаюць, але не ўжываюць. **540** *кл'ец', с'в'йран';* часцей — *кл'ец'.* **586** *кл'ец'* — раней ужывалі, *анбáр* — зараз у калгасе. **601** *с'в'йран* — так у некаторых завецца *γумнó; анбáр* — цяпер; раней часцей ужывалася слова *кл'ец'.* **642** *кл'ец'* — гаварылі раней. **649** *инбáр;* часцей — *кл'ец'.* **692** *св'йрон* — быў у паноў — асабная харомiна. **695** Ужываецца і *с'в'йрон,* але менш пашырана. **700** *амбáр* — цяпер гавораць; *свырóнок* — старое слова. **703** *амбáр* — сучаснае вымаўленне; *с'в'йрон* — старое. **712** *амбáр* — новае слова. **713** *амбáр* — слова новае. **716** *анбáр; амбáр* — новае слова. **722** У гэтым значэнні ўжываецца толькі слова *кл'ет';* словы *амбáр, св'йран* тут звычайна не ўжываюцца. **729** *анбáр* сталі называць маладыя. **742** *с'в'йран;* цяпер ужываецца і слова *амбáр.* **748** Слова *амбáр* ужываецца радзей. **752** *с'в'йран', и кл'ец' былá, ац'ап'éр спрат.* **791** *амбáр* — цяпер сыплюць збожжа ў калгасе; былі *с'в'ирéн'к'и.* **795** Даўней быў *с'в'йран.* **800** *кл'ец';* радзей — *с'в'йран.* **821** *кл'ец'* — гаварылі раней. **823** *амбáр* — гэта слова ведаюць, але не гавораць; цяпер часам калгасны *с'в'йрак* завуць *амбáрам.* **825** *амбáр* — *кладóвайа,* раней называлі *с'в'йрен.* **828** *амбáр* — гавораць старыя, *кладóвайа* — моладзь. **832** *кл'êц'. св'йр'ен'* — розніцы няма. **842** *кл'ец'* — даўно гаварылі. **843** Раней у значэнні слова *амбáр* ужывалася *маказы́н.* **855** *инбáр;* раней — *с'в'йран.* **877** *кл'êц'* калісці была, цяпер — толькі слова. **882** *кл'ец'* ужывалася калісці. **899** *кл'ец', инбáр* — так было раней. **906** *кл'ец'* ужывалася раней. **942** Спецыяльнага будынка з засекамі для збожжа раней не было. **956** Спецыяльнага будынка для захавання збожжа не будуюць. **958** Раней было слова *с'в'йрон.* **971** Незразумелае тлумачэнне, зробленае збіральнікам: *амбáр, кл'ец'* — хазяйка пастройкі ў калгасе. **980** *у пам'éшчыкаў был'й с'в'йрны, амбáр тое ш, што с'в'йран, ужывáйецца рéдка.* **988** *амбáр* і рэдка — *св'йран.* **996** *кл'ец'; камóра, с'в'йран* — былі раней. **1002** Раней гаварылі *с'в'йран.* **1005** *кл'ец'* — так называлі раней *амбáр.* **1007** Раней у іх такіх будынкаў не было.

## Карта № 240

### ПАШЫРЭННЕ СЛОЎ стопка, варыўня, каморка

Карта складзена на матэрыяле пытання № 166:

«Будынак для захоўвання бульбы, гародніны: *стóпка, істóпка, варыўня́..?*»

Трэба заўважыць, што пытанне пастаўлена не зусім удала: не ўлічана, што для захоўвання бульбы і гародніны існуе не адзін від будынка. У залежнасці ад характару пабудовы можна супрацьставіць наступныя назвы: з аднаго боку, *стóпка, вáрыўня́, камóрка* (будуюцца на паверхні

зямлі, часта з печкай) і, з другога боку, *по́граб, склеп, яма* (капаецца яма ў зямлі і над ёю ўзводзіцца дах). Няўдалая пастаноўка пытання пацягнула за сабою і недакладныя адказы. У радзе выпадкаў будынак называецца, але не апісваецца. Акрамя таго, побач з назвамі пабудовы для захоўвання бульбы і гародніны даюцца словы *капец, скапец, бурт, гурт, я́рус, стус, стог.* Гэтымі словамі называюць доўгі або круглы груд бульбы (гародніны), які закрыты саломай і зямлёй ад марозу і дажджу. Словы *капе́ц, скапец, бурт, гурт, стус, я́рус, стог* не картаграфуюцца.

На гэтай карце картаграфуецца пашырэнне слоў *стопка* (і яго варыянта *сцёпка), варыўня* і *каморка,* якія абазначаюць назву будынка для захоўвання бульбы і гародніны, а ў некаторых выпадках назву будынка для захоўвання прадуктаў або сельскагаспадарчых прылад працы.

Таму назвы *склепа (скле́п, по́γрап, л'ох, йа́ма)* — будынка ў зямлі з дахам над зямлёй — адводзяцца ад картаграфавання. Пашыраны такія будынкі на ўсходзе Віцебшчыны і Магілёўшчыны і на захадзе Брэстчыны і Гродзеншчыны. Сустракаюцца і на астатняй тэрыторыі побач з *варыўнёй,* але радзей.

У каментарыях прыводзіцца матэрыял, у якім сустрэліся заўвагі і тлумачэнні збіральнікаў, словаўтваральныя і фанетычныя варыянты, акцэнталагічныя адрозненні, раскрываюцца адсылачныя знакі.

Сустрэліся наступныя варыянты назвы стопкі, сцёпкі: *истопка*—21, 22, 25, 26, 28, 29, 31, 34, 39, 40, 41, 42, 45, 55, 57, 60, 64, 65, 67, 69, 71, 73, 75, 77, 78, 80, 82, 84, 85, 87, 95, 101, 104, 109, 112, 117, 121, 122, 153, 160, 161, 165, 168, 172, 176, 179, 180, 182, 185, 187, 191, 192, 193, 198, 199, 200, 201, 202, 204, 206, 208, 212, 214, 227, 228, 229, 231, 232, 234, 236, 237, 238, 240, 241, 242, 243, 245, 246, 247, 249, 254, 256, 257, 260, 264, 268, 271, 276, 278, 279, 281, 286, 288, 289, 293, 302, 325, 327, 465, 468, 479, 481, 484, 496, 499, 502, 505, 509, 528, 537, 544, 547, 549, 552, 554, 556, 573, 580, 583, 586, 587, 589—592, 603, 620, 638, 640, 822, 903, 908, 910; *сте́пка* — 683, 717, 760, 990, 994, 1009, 1012, 1013; *усц'о́пка* — 720, 752, 780, 795, 977; *высц'о́пка* — 721, 726, 766, 973; *всц'о́бка* — 766; *вусц'о́пка* — 793—795; *висте́бка* — 964; *исц'о́пка* — 751, 776, 784—786, 805;*исте́бка* — 764, 963; *сц'о́бачка* — 804; *стопачка* — 806; *сц'о́па* — 968. Слова *варыўня́* мае яшчэ наступныя акцэнталагічныя варыянты: *ва́ра(ы)ўн'а* — 11, 15, 16, 18, 19, 20, 21, 25, 31, 32, 34, 36, 38, 40, 41, 43—45, 48—51, 65, 68, 71, 75, 79, 80 (і *вары́ўня*), 85, 154, 155, 157, 159, 161, 163, 191—197, 201, 204; *вары́ўн'а* — 5, 8, 171, 360, 388, 437, 439, 452, 470, 506, 510, 554, 558, 620, 889, 909, 999, 1000.

Слова *камо́рка* адзначана ў варыянце *камо́ра* ў нас. пп. 25, 359, 394, 397, 996.

Ніжэй прыводзяцца заўвагі збіральнікаў і матэрыял, які картаграфуецца адсылачнымі знакамі: **5** *варыўн'а́* — абавязкова з печкай. **6** *варыўн'а́* — даўней, як лазня, печку рабілі, бульбу ссыпалі. **14** *сто́пка; варыўн'а* — навейшая назва. **23** *сто́пка* — будынак, прыбудаваны да сенцаў, дзе ставяць жорны і інш. гаспадарчыя прылады. Зімой у *стопцы* трымаюць салёныя гуркі і капусту. **24** *сто́пка* — прыбудова каля дому без вокан, дзе захоўваюць бульбу, гародніну, некаторыя гаспадарчыя

прылады. 25 *камо́ра* — каля сенцаў будыніна, ставяць капусту; *ва́рыйн'а, исто́пка* — тое ж, што і камора, пад адным дахам з хатай. 28 *исто́пка;* вельмі рэдка — *кладо́йн'а.* 32 *сто́пка; ва́рыйн'а* ўжываецца радзей. 47 *исто́пка* — раней; зараз — *варийн'а.* 66 *исто́пка* — цёплае памяшканне пры хаце; *камо́рка* — памяшканне, якое магло быць прыбудавана да хаты, а магло стаяць асобна, недалёка ад хаты. 67 *исто́пка* — курная хата, там захоўваюць бульбу і гародніну зімою. 68 *ва́рыйн'а, исто́пка — имшо́найа будын'ина с п'е́чкай б'ис трубы́ и сып'уц' бу́л'бу ў катух'и́.* 73 Раней быў асобы будынак — *исто́пка.* 78 *исто́пка* сустракаецца вельмі рэдка. 87 Раней называлася *исто́пка.* 104 *исто́пка* — для бульбы і буракоў з печкай. 154 *ва́рыйня* — у будынку. 176 *исто́пка* — цёплы будынак з маленькім аконцам, на земляным палу, пад адной страхой з хатай. 192 *исто́пка* — гаворыць моладзь, а старыя кажуць *ва́рыйн'а.* 200 *исто́пка* — цёплы будынак з печчу. 203 *сто́пка* — цёплы будынак з аконцам, за сенцамі, пад адной страхой з хатай; *варыйн'а́ (с'е́н'и)* — халоднае памяшканне без столі паміж хатай і стопкай. 206 *истопка* — цёплы будынак пад адной страхой з хатай (хата — сенцы — істопка). 209 *варыйн'а́* — будынак, як хата, без падлогі, з печчу без коміна. 213 *варыйн'а́* — наверсе будынак, ёсць грубка. 271 *исто́пка* — цёплая; *камо́рка* — халодная. 276 *исто́пка* — некалі. 359 Асобных будынкаў няма; ёсць *каморка,* якая знаходзіцца ў адной будове з хатай. 388 *вары́йн'а* — аджыўшая. 394 *камо́ра* — кладоўка, адгароджаная ў сенцах. 397 Асобнага будынка няма, гародніна і бульба захоўваюцца ў *камо́ры.* 401 *камо́рка* — кладоўка, адгароджаная ў сенцах. 405 *камо́рка* — кладоўка, адгароджаная ў сенцах. 408 *сто́пка* — для захоўвання бульбы; *камо́рка* — для захоўвання гародніны. 424 *сто́пка* — частка хаты без печкі, дзе складаюць прадукты. 433 *сто́пка* — з гліны. 442 *варыйн'а́* — некалі стаялі гуркі, капуста, бульбу сыпалі. 445 *варыйн'а́* — цёплая невялікая пабудова ў сенцах. 458 *сто́пка* — знаходзіцца ў сенцах, адгароджана дошкамі, мае печ. 463 *варыйн'а́* — прыбудоўваецца пры хаце, але больш ставяць асобна. 464 *варыйн'а́* — прыбудоўвалася пры хаце раней; зараз будуюць асобна. 465 *исто́пка* — цёплы будынак, падобны на невялікую хату. 466 *варайн'а́* — прыбудоўваецца да хаты і будуецца асобна. 471 *сто́пка* — будавалася калісьці, мела выгляд хаты. 480 *варыйн'а́* — калі са сценамі, ставяць яе таксама дзе-небудзь у хаце, у нас яна ў сенцах. 502 *исто́пка* — зараз рэдка ўжываецца. На *вары́йн'у* гавораць *ла́з'н'а.* 503 *с'ц'о́пка — так, йак ха́та сымшана, з'имо́йу но́с'им жар с то́рпу.* 509 *исто́пка, варыйн'а́, сто́б$^{п}$ка* — бывае з печкай і без печкі. 517 *сто́пка* — даўней; зараз — *варыйн'а́.* У стопцы выкопваўся пограб. 521 *варыйн'а;* рэдка — *сто́пка.* 524 *сто́пка*—старая назва *варыйн'и́.* 536 *сто́пка* ўжываецца часцей; *варыйн'а́* — радзей. 556 *исто́пка — незамо́шчанайа йа́ма н'ибал'ша́йа, куды сы́пл'уц' бу́л'бу; варыйн'а́.* 557 *стопка* — пабудавана наверсе. 586 *исто́пка* — будуецца асобна ад дома. 601 *сто́пка*—зробленая з дрэва на паверхні, халодная. 604 *исто́пка; варыйн'а́* — дзе вараць для свіней. 673 *сц'о́пка* — у будынку. 678 *с'ц'е́пка* — зроблена ў сенцах каля печы, каб не памёрзла бульба. 686 *варыве́н'ка.* 711 Звычайна

*сцёпка* пры сенцах. **723** *сц'óбка — у с'éн'ах.* **725** *с'ц'óбка — у с'é-н'ах.* **746** *варýн'а.* **748** *варыýн'á* — на зямлі пабудован маленькі зруб, які накрыт страхою; назва *барак* ужываецца радзей. **750** *стóпка* і *варыýн'á;* часцей — *стóпка.* **781** *стóпка* — рэдка. **791** *с'ц'óпка* — зроблена з дрэва, на дварэ. **795** *вус'ц'óпка* — зроблена з дрэва, звычайна на дварэ, недалёка ад хаты; *ус'ц'опка* — тое ж. **797** *с'ц'óпка* — зроблена з дрэва, недалёка ад хаты. **808** *верыýн'á.* **815** *стóпка* — будынак. **821** *стóпка* — невялікі будынак. **823** *стóпка; варыýн'á* вядома, але не ўжываецца ў гутарцы. **829** *стóпка* — як невялічкая хатка. **836** *стóп-ка* — надбудова над пограбам. **838** *стóпка* — з печкай. **839** *стóпка* — з печкай. **843** Слова *стопка* ўжываецца рэдка. **859** *стóпка* — будынак, які стаіць на дварэ. **871** *стóпка — халóднайа пам'ашчына.* **874** *стóп-ка* — пры доме, у хляве. **877** *стóбка, варайн'á* — асобная пабудова для бульбы, капусты, гуркоў. **909** *стóпка* — для захоўвання клубняплодаў; *варыýн'а* — дзе ставяць кіслую капусту ці гуркі. **920** *стóпка* — асобны будынак. **958** *варывн'á* — як хата, цёплая. **964** *вистéпка* — прыбу-доўваецца да хаты. **974** *с'тц'опка, варыýн'á;* часцей — *с'ц'óпка.* **988** *стóпка;* рэдка — *ист'óпка.* **1004** *с'ц'óбка* — пабудова пры сенцах або ў пограбе. **1011** *стóпка, с'ц'óбка* — асобны будынак на дварэ або ча-сцей пры хаце. **1018** *сц'óбка* — як хатка, але ў зямлі не капаецца; пры-значэнне *сц'обк'и* трохі іншае: сюды ставяць гладышы, зімою ставіцца вядро з жарам, якое абагравае *сц'обку.*

Адводзяцца ад картаграфавання словы *лазня, амшэнь, кладоўня, дашнік,* бо невядома, які від будынка яны называюць.

*Амшанік* і ўтвораныя ад яго словы сустрэліся ў нас. пп. 280, 307, 318, 322, 325, 327, 635, 636, 638, 925 і 940; *лазня* — 495, 502; *(с)кладоўня, (кладовая)* — 28, 43, 102, 344, 971; *дашнік* — у 58.

## Карта № 241

### ПАШЫРЭННЕ СЛОЎ студня, калодзезь (калодзеж, калодзец)

Карта складзена на матэрыяле пытання № 168:
«*Стýдня* ці *калóдзец, калóдзеж..?*»

У каментарыях прыводзяцца матэрыялы з тых нас. пп., дзе ёсць заў-вагі збіральнікаў аб картаграфуемых словах, прыводзяцца адзінкавыя назвы: **3** *калóз'иха.* **7** *стýдн'а* — часцей; радзей — *калóз'иш.* **23** *стýдн'а; калóз'иш* — вельмі рэдка. **57** *калóз'еш; калóз'ез'* — больш ста-ражытнае. **71** *калóз'ис'; стýдн'а* — рэдка. **78** *калóз'ис'* — цяпер за-вуць; *стýдн'а* — раней часцей ужывалася. **86** *стýдн'а* — рэдка; *каló-з'иш.* **141** *стýдн'а;* рэдка — *калóз'еш.* **171** *калóз'ец;* часцей — *стýдн'а.* **174** *калóз'еш;* часцей — *стýдн'а.* **178** *калóз'ец, а п'éрв'и назывáлас'а стýдн'а.* **197** *калóз'ис'; кáжуц' и стýдн'а.* **198** *калóз'ис';* часцей — *стýдн'а.* **204** *стýдн'а;* часцей — *калóз'ис'.* **239** *стýдн'а* — раней; *калóз'ис', калóз'иш*—цяпер. **347** *калóз'ейз'.* **350** *калóз'ис';* часам—*стýдн'а.* **353** *калóз'ис';* радзей — *стýдн'а.* **379** *стýл'н'а.* **388** *калóз'ез'; журав'éл'* —

аджыўшае. **405** *сту́дн'а;* часцей — *сту́н'н'а;* рэдка — *кало́з'ас'.* **407** *кало́з'ис'; сту́дн'а* менш пашырана. **465** *кало́з'еш;* калісьці гаварылі *сту́дн'а.* **512** *кало́з'еж; журав'е́л'.* **527** *сту́дн'а* — часцей; *кало́з'еш.* **613** *кало́з'из'* — гавораць старыя, *кало́з'иж* — моладзь. **722** *кало́д'е́з'.* **773** *коло́з'ез'* — старая назва; шырока ўжываецца *кало́з'ец* — новая назва. **813** *кало́з'ец* — старая назва, *кало́з'еж* — новая. **816** *кало́з'ез', кало́ц'.* **840** *коло́з'ейз'.* **845** *коло́з'ейз'.* **848** *коло́з'ейз'.* **849** *кало́з'ейз'.* **853** *кало́з'ейз'.* **870** *кало́з'еш;* радзей — *кало́з'ис'.* **941** *кало́з'айз'.* **997** *кало́з'.* **1003** *кало́з'ейз'.* **1004** *кало́з'ейз'.* **1018** *кало́з'ейз'.*

## Карта № 242

## НАЗВЫ САХІ Ў СТУДНІ З ЖУРАЎЛЁМ

Карта складзена на матэрыяле пункта «а» пытання № 168:

«Як у вас называецца: *сту́дня* ці *кало́дзец, кало́дзеж...* нарысуйце і абазначце часткі: а) *вілы, саха́..?*»

У частцы нас. пп. няма студні з жураўлём, а ёсць студні або з корбай, або проста зроблены зруб, і дастаюць ваду вядром пры дапамозе вяроўкі ці драўлянай палкі з кручком. Для гэтых нас. пп. на карце ставіцца знак Н.

У некаторых матэрыялах прыводзіцца толькі агульная назва студні без указання яе частак. У такіх выпадках на карце ніякі знак не ставіцца.

Частка адказаў не суправаджаецца рысункамі з абазначэннем частак студні з жураўлём. Аднак гэты матэрыял картаграфуецца ў тых выпадках, калі ёсць ускосныя даныя, якія дазваляюць суаднесці тую ці іншую назву з пэўнай часткай студні. Так, пры адсутнасці рысункаў на карту наносяцца знакі ў наступных нас. пп.: 1, 8, 17, 37, 38, 103, 108, 110—114, 116, 122, 149, 166, 171, 209, 217, 247, 258, 260—262, 266, 268, 272, 277, 309, 312, 316, 317, 319—321, 324, 328, 330—336, 338—340, 357, 390, 391, 395, 400, 414, 460, 475, 482, 499, 501—503, 524, 526, 535, 537, 539, 542—544, 549—552, 560, 562, 571—573, 575, 577, 580—584, 587, 589—592, 594, 595, 597, 603, 605, 606, 608, 609, 613, 615, 618, 619, 621, 623, 626, 627, 629—634, 636—639, 641, 643, 645—648, 650, 665, 674, 726, 748, 751, 767, 768, 773, 775, 779, 785, 798, 809, 811, 826, 879, 887, 893, 895, 898, 900, 903, 906—909, 911, 912, 916—918, 923, 925, 926, 928—931, 934, 944—946, 948, 949, 963, 972, 975, 976, 978, 1016—1018, 1021, 1022, 1025.

У некаторых нас. пп. адсутнічаюць назвы асобных частак студні з жураўлём. У матэрыялах адзначаецца толькі агульная назва для трох частак разам — для сахі, вагі і вочапа. У такіх выпадках на карце ніякі знак не ставіцца.

Так, агульная назва *ас'в'е́р* адзначана ў наступных нас. пп.: 28, 32—35, 55, 57, 213, 214, 216, 219, 233; *ас'в'е́ра* 42; *с'в'иршн'а́* 151; *жо́раў* 60; *жура́в'ел'* 115; *журав'е́л'* 301; *шчо́ɣла* 285, 286, 288.

У некаторых нас. пп. даецца назва для верхняй часткі сахі: **178** *в'и́лы.* **224** *раɣачы́.* **708** *саха́.*

лежна ад культуры, якая на ім расла. У многіх нас. пп. выкарыстоўваецца апісальная форма. На карце такія адказы абазначаюцца агульным адсылачным знакам, а матэрыял прыводзіцца ніжэй: *иржышча (ржышча)* — 50, 53, 139, 154, 156, 158, 159, 164, 207, 280, 306, 317, 329, 377, 418, 423, 425, 446, 613, 742, 744, 775, 780, 782, 783, 789, 868; *ржéўн'ик* — 5, 28, 35, 98, 241, 247, 277, 342, 479, 529, 567, 600, 632, 863, 925, 928, 931; *иржóўн'ик* — 560; *иржын'н'е* — 1, 41, 58, 75; *иржын'н'ик* — 2; *аржыска* — 136, 144, 149, 385, 673; *рзысак* — 5; *иржéн'н'а, иржéн'ишча* — 89; *пóжн'а* — 343, 346, 347, 348, 351, 354, 356, 358, 363, 365, 368, 370, 372, 375, 378, 392, 675, 679, 680, 684, 686, 687, 702, 715, 719, 723, 724, 725, 726, 729, 736, 737, 738, 741, 746, 749, 750, 759, 760, 761, 763, 764, 765, 790, 796, 797, 807, 811, 812, 827, 834, 841, 845, 848, 885, 952, 960, 971, 977, 979, 983, 985, 987, 995, 1007; *жн'éўн'ик* — 525; *жн'йўн'ик* — 1003; *жн'éўйе* — 786; *стырн'á* — 651, 662, 665, 704, 775, 946, 947, 949, 950, 954, 955; *с'ц'óран'* — 884, 898, 936, 940, 944, 1017; *с'ц'óрн'ишча* — 911; *йачм'éннайе ржышча* — 12, 128, 198, 199, 292, 445, 459, 745, 776, 854; *иржын'ишча йáчнайе* — 3; *йачм'éннайе иржын'н'е* — 60; *иржéўн'ик з-пад йачм'éн'у* — 74; *жн'йўн'ик йачм'éнны* — 125, 514, 933; *йачм'éннайе аржыска* — 138, 671; *йáчнайе иржышча* — 196, 202, 230, 271, 304, 328, 331, 337, 576; *йáчны иржéўн'ик* — 246, 585, 625; *йачм'éнны ржéўн'ик* — 273, 275, 478, 496, 508, 859; *йáшныйа ржéн'н'а* — 615; *йачм'éннайа пóжн'а* — 152, 352, 355, 357, 371, 380, 383, 676, 677, 685, 690, 692, 701, 711, 713, 716, 721, 769, 862, 962, 973; *йáчна пýжн'а* — 735, 966; *йачм'éнна стырн'á* — 660, 700, 703; *йачм'éнны с'ц'óран* — 901, 905, 912; *йáчны с'ц'óран* — 1025, 1027; *йаравóйе пóл'е* — 56; *йаравóйе* — 92.

Як *ячнішча* картаграфуюцца: **77**, **111**, **331**, **903**, **965** *ячн'йшча;* **80**, **87** *йачáн'ишча;* **877** *йáчышча.*

Як *ячанне* картаграфуюцца: **103** *йáчън';* **114**, **262**, **285**, **607** *йачын'н'а:* **229**, **250**, **504** *йачéн'н'е;* **245**, **265**, **318** *йачáн'н'а;* **514** *пайáчан'н'е;* **606** *йачын'н'á;* **648** *йачън'н'é.*

Як *ячніска* картаграфуюцца: **387** *йáчын'иско;* **722** *йáчн'ицко;* **758** *йачн'йско.*

Як *ячмéнішча* картаграфуюцца: **169**, **391**, **551**, **784**, **825**, **838**, **994** *йачм'ан'йшча;* **668** *йáчм'ен'ишчо;* **20**, **51**, **155**, **160**, **166**, **173**, **350** *йачм'áн'ишча.*

Як *ячмéніска* картаграфуюцца: **147** *йачм'ан'йшка;* **384** *ачм'ан'йско;* **722** *йачм'éн'ицко.*

Ніжэй прыводзіцца матэрыял з тых нас. пп., дзе адзначаны адзінкавыя назвы: **22** *йачм'éн'н'ик.* **31** *йарышча.* **42** *йарышча.* **193** *йарав'йшча.* **599** *йачм'éн'н'ик.* **608** *йачышчы.* **860** *йáшн'ик.*

## Карта № 273

## НАЗВЫ ЗЖАТАГА ПОЛЯ, НА ЯКІМ РОС АВЁС

Карта складзена на матэрыяле пункта «г» пытання № 192:
«Як у вас называецца зжатае поле па віду культуры, якая расла:
г) пасля аўса: *аўсянішча..?»*

Зжатае поле пасля аўса ў радзе нас. пп. не мае спецыяльнай назвы, а абазначаецца проста *ржышчам, жнеўнікам, аўсянай пожняй* і г. д. і на гэтай карце картаграфуецца агульным адсылачным знакам: *иржын'н'е* — 1, 41, 58, 75; *иржын'н'ик* — 2; *ржéўн'ик* — 5, 28, 35, 247, 277, 342, 478, 529, 560, 567, 600, 632, 863, 928; *рзыса́к* — 5; *ржыска* — 136, 138, 149, 385, 673; *иржышча* — 31, 47, 50, 53, 139, 154, 156, 158, 164, 207, 280, 306, 329, 377, 418, 423, 425, 446, 500, 613, 632, 742, 744, 775, 780, 782, 783; *арзыска* — 136, 385; *аржыска* — 149; *жн'éўн'ик* — 525, 933, 1003, 1004; *жн'éўйе* — 786; *пóжн'а* — 343, 346, 347, 348, 351, 354, 355, 363, 365, 368, 372, 375, 378, 392, 675, 679, 680, 683, 684, 686, 687, 702, 715, 719, 723, 724, 725, 726, 729, 736, 737, 738, 741, 746, 749, 750, 756, 759, 760, 763, 764, 765, 766, 790, 796, 797, 807, 811, 812, 814, 827, 834, 841, 845, 848, 885, 952, 960, 971, 977, 979, 983, 985, 987, 995, 1007; *стерн'á* — 651, 662, 665, 704, 715, 946, 947, 949, 950, 954, 955, 1007; *с'ц'óран'* — 898, 936, 939, 940, 944, 1017; *сц'óрн'ишча* — 911; *иржын'н'е йаравóйе* — 60; *иржын'ишча аўс'áнайа* — 63; *иржéўн'ик с-пад аўсá* — 74; *ржышча аўс'áнайа* — 196, 198, 199, 230, 271, 292, 304, 337, 576, 745; *аўс'áны иржéўн'ик* — 246, 273, 496, 508, 543, 625, 859; *аўс'áнайа иржыска* — 383; *аўс'áнайе арзыска* — 138; *жн'йўн'ик аўс'áны* — 125, 510, 514; *аўс'áнайа пóжн'а* — 152, 347, 349, 352, 357, 370, 676, 685, 690, 692, 701, 711, 713, 716, 721, 735, 761, 769, 862, 962, 966, 973; *стыржн'á овс'áна* — 660; *стырн'á овс'áна* — 700, 703, 775; *с'ц'óран аўс'áны* — 884, 912, 1025, 1026; *йаравóйе пóл'е* — 56; *йаравóйе* — 92.

Як *аўсянішча* картаграфуецца *аўс'éн'ишча* ў нас. п. 129.

Як *аўсянне* картаграфуецца *аўс'ан'н'é* ў нас. п. 648.

Як *аўсяніска* картаграфуецца *гоўс'анúско* ў нас. п. 730.

Як *óўсішча* картаграфуецца *овéсыше* ў нас. п. 957.

Ніжэй прыводзіцца матэрыял з тых нас. пп., у якіх адзначаны адзінкавыя назвы: **31** *йарышча.* **502** *аўс'áн'ик.* **577** *аўс'áн'ик.* **603** *аўс'áн'ик.* **629** *аўс'áн'ик.* **691** *овс'áнка.*

## Карта № 274

## НАЗВЫ СКОШАНАГА ЛУГУ

Карта складзена на матэрыяле пункта «е» пытання № 192:

«Як у вас называецца:

е) скошаны луг: *пакóсішча, пакóша..?*»

У матэрыялах многіх нас. пп. адзначаецца, што для скошанага лугу няма спецыяльнай назвы. У іншых нас. пп. прыводзяцца апісальныя назвы скошанага лугу або формы дзеепрыметнікаў ад дзеяслова *касіць.*

Калі ў адказе ёсць заўвагі аб тым, што для скошанага лугу няма спецыяльнай назвы, на карце знак не ставіцца, а нумары гэтых нас. пп. прыводзяцца ніжэй: 4, 7, 8, 28, 32, 35, 65, 92, 93, 101, 181, 184, 226, 228, 241, 252, 255, 305, 382, 513, 525, 527, 586, 840, 888, 909, 962.

У тым выпадку, калі ў адказах прыводзяцца апісальныя назвы скошанага лугу або формы дзеепрыметнікаў залежнага стану ад дзеяслова

*касіць*, а таксама агульныя назвы *луг, лонка, балота, атава* і некаторыя іншыя, на карце ставіцца агульны адсылачны знак, а матэрыял падаецца ніжэй.

Так, *скóшаны (пакóшаны) луγ* адзначаны ў наступных нас. пп.: 12, 13, 20, 21, 23, 26, 27, 29, 40, 42, 44, 45, 47, 51, 55, 56, 58, 61—63, 68—71, 73, 74, 78, 81; 84, 88, 91, 95, 96, 98, 104, 117—119, 121, 127, 128, 130—132, 152, 165, 176, 192, 197, 198, 203, 204, 211, 223, 232—240, 243, 249, 251, 254, 256, 277—283, 287, 290—296, 298, 302, 308, 311, 313, 314, 316, 318, 320, 321, 325, 326, 330—335, 338, 339, 345, 354, 388, 415, 423, 445, 468, 472, 480, 500, 504, 505, 509, 511, 514, 518, 537—540, 543, 546, 547, 556, 559, 565, 573, 588, 591, 596, 607, 609, 611, 614, 616, 618, 623, 624, 626, 628, 630, 631, 633, 634, 636, 638, 642, 643, 645, 649, 650, 676, 678, 695, 705, 711, 713, 750, 751, 777, 782, 822, 824, 828, 833, 835, 838, 839, 842, 862, 868, 885, 894, 901, 906, 912, 920, 924, 925, 932—934, 938, 942, 952, 954, 955, 965, 966, 976, 996; *скóшанайа (пакóшанайа) пóжн'а* — 11, 12, 18, 23, 27, 34, 43, 48, 70, 105, 191, 297, 602; *с'енажáц' скóшана* — 140, 146, 151, 155, 179, 196, 352, 355, 356, 359, 389; *пакóшаны с'енакóс* — 244, 245, 558, 729, 851; *скóшанайе балóто* — 386, 387, 418, 423, 424, 670; *балóто пакас'úл'и:* 347, 385, 592, 941; *скóшана лóнка* — 685; *атáўны лух* — 275; *скóшана (пакóшана)* — 76, 94, 141, 142, 264, 307, 361, 367, 371, 373, 376, 377, 379, 383, 528, 532, 555, 594, 661, 669, 753, 772, 780, 791, 853, 865, 867, 922, 937, 964; *луγ* — 123, 324; *балóто* — 668, 671, 673, 759; *атáва* — 699, 799, 836; *пóплаў* — 691; *лóнка* — 153.

Як *пакóсіска* картаграфуецца *пакóсвыско* ў нас. п. 652.

Як *пакóсішча* картаграфуюцца *пакóс'в'ишча* ў нас. п. 1018; *пакóшышча* ў нас. п. 491.

Ніжэй прыводзіцца матэрыял з тых нас. пп., дзе ёсць адсылачныя знакі: **224** *пакóс'с'а.* **289** *н'éкас'.* **535** *пакóс'а.* **619** *скос.* **641** *пакóс'ина.* **657** *кóшанка.* **675** *кóша.* **679** *кóша.* **680** *кóшанка.* **688** *косовыско.* **690** *кóшанка.* **696** *кóшанка.* **710** *кóшл'а.* **712** *кóшл'а.* **714** *кошан'úца.* **726** *покóс'ина.* **734** *кошеныца.* **748** *пакóшл'а.* **754** *кóшл'а.* **929** *н'éкас'.* **981** *скóша.* **1025** *кóшанка.*

## Карта № 275

## НАЗВЫ АБЛОЖНАЙ ЗЯМЛІ

Карта складзена на матэрыяле пытання № 193:

«Як у вас называецца пахатная зямля, якая некалькі год не абрабляецца: *я́лавіна, аблóга, дзірвáн..?*»

Тэмай карты з'яўляецца назва ворнай зямлі, якая не апрацоўвалася некалькі год. У сувязі з гэтым адводзяцца ад картаграфавання матэрыялы, у якіх прыводзяцца словы *папáр, пар, параніна, парóха* з паметамі «не апрацоўваецца 1 год», «пад жыта» або без памет наогул. У частцы адказаў слова *папáр* і вытворныя ад яго маюць памету «пахатная зямля, якая не апрацоўвалася некалькі год» або некаторыя іншыя паметы. У такіх выпадках гэтыя словы на карту не наносяцца і даюцца ніжэй:

**181** *г'араван, папар* — ужываюцца паралельна. **188** *г'ирван* — тое ж, што і *папар*. **282** *папар* — незасеянае поле. **397** *йалав'ина;* гавораць таксама *папар*. **401** *папар* — ворная зямля, якая некалькі год не апрацоўвалася. **407** *папар* — зямля, якая не апрацоўвалася год-два. **575** *пир'йн'ина* — зямля ляжыць год-два. **611** *пар'йн'ина* — не апрацоўваецца год-два. **773** *папар* — калі два гады не засявалася. **845** *йалав'ина; попар* — новая назва.

У частцы нас. пп., акрамя спецыяльнай назвы для абазначэння поля, якое некалькі год не апрацоўвалася, існуе таксама апісальная назва: **67** *йалайа з'амл'а.* **68** *з'имл'а п'ирыйалав'ила.* **69** *зал'еүлайа з'имл'а.* **74** *аблóжнайа час' з'амл'и.* **98** *з'амл'а спус'ц'ела, пустайа з'амл'а.* **104** *йалавайа з'имл'а.* **128** *аблóжнайа з'имл'а.* **129** *йалавайа з'имл'а.* **284** *з'амл'а йалав'ила.* **286** *з'амл'а йалыв'ила.* **288** *з'амл'а йалыв'ила.* **303** *зал'ижнъйа з'имл'а.* **372** *уб'йта з'амл'а; зал'еүла з'амл'а.* **645** *пол'а йалыв'ийиц'.* **647** *пол'а йалыв'ийиц'.* **726** *залыүл'е пол'е.* **731** *н'еўдобнайа з'имл'а.* **733** *зал'иүл'и пол'е.* **736** *залъүл'е пол'е.* **737** *йалове пол'е.* **753** *зал'оүла з'амл'а.* **756** *үул'ашча пол'е.* **757** *зал'еүлайа з'емл'а.* **759** *йалавайе пол'е.* **760** *йалово пол'е.* **769** *зал'еүла зымл'а, задырныла зымл'а.* **770** *залыүл'а зымл'а.* **788** *зарóсла пол'е.* **806** *йалов'ейе пол'е.* **841** *ул'ежвано пол'е.* **842** *зал'ежано пол'е.* **848** *пол'е үул'ало.* **862** *аблóжала з'амл'а.* **888** *з'амл'а аблаүуйа.* **968** *зал'еүл'а з'амл'а.* **970** *йалово пол'е.* **973** *зал'еүл'а пол'е.* **977** *облоүуйе пол'е.* **994** *йаловóйе пол'е.*

Як *залеж* картаграфуюцца *зал'ежы* ў нас. п. 1; *зал'ежа* ў нас. п. 578.

Як *залег* картаграфуецца *зал'оү'и* ў нас. п. 65.

Як *аблóга* картаграфуецца *аблóү'и* ў нас. пп. 431, 614, 615, 682.

Як *дзірван* картаграфуюцца *дырван* у нас. пп. 8, 162; *г'ерван* — 35, 221, 463, 466; *г'арван* —17, 143, 158, 169, 173, 181, 184, 199, 430, 474, 519; *г'ирваны* — 23, 36, 682.

Як *ялавіна* картаграфуецца *йалав'ины* ў нас. п. 348.

Як *памёт* картаграфуюцца *пам'оты* ў нас. пп. 41, 63, 109; *пам'ота* — 56, 75; *узм'от* — 117, 268.

Як *старапóль* картаграфуецца *старапол'л'а* ў нас. пп. 862, 890.

Ніжэй прыводзіцца матэрыял з тых нас. пп., дзе адзначаны адзінкавыя назвы ад картаграфуемых слоў (на карце яны паказаны адсылачным знакам адпаведнага колеру), а таксама даюцца іншыя адзінкавыя назвы (на карце паказаны чорнай зорачкай). Прыводзіцца матэрыял з тых нас. пп., дзе ёсць заўвагі збіральнікаў: **5** *залóү'ишча.* **11** *г'ирван; зал'еш* — гавораць цяпер. **13** *йалав'ичына.* **14** *зал'еш* і *г'ирван* — ужываюцца паралельна. **30** *г'ирван; зал'еш — ц'ап'ер хто-н'ебуц' называйе.* **35** *г'ерван;* цяпер пачынаюць называць *зал'еү'и.* **43** *г'орън.* **64** *пам'от — кал'и н'е пахана з'амл'а; г'оран* — месца, дзе зрубілі лес і на зіму будуць араць. **67** *г'ирван* — ворная зямля не апрацоўвалася некалькі год; *йалайа з'амл'а* — зямля, якая пуставала. **70** *папар* — адзін год не аруць; *г'ирван* — ніколі не аруць. **71** *пам'от;* рэдка — *г'ирван.* **74** *цал'ина* — больш новае слова; *аблóжнайа час' з'амл'и.* **80** *г'ирван'н'а.* **85** *г'ирван'н'е.* **86** *г'ирван* — ужываецца

рэдка; *цыл'ина́* — часта. **91** *пус'ц'е́л'а.* **121** *пусты́р, за́л'иж, ɣ'ирва́н* — зусім неапрацаваная зямля. **152** *адлаɣо́н.* **165** *адло́х* — адзін год не аралі; *ɣ'ирва́н* — некалькі год не аралі. **192** *йа́лайка.* **199** *пал'е́так.* **206** *йа́лав'ина* — зямля, якую не аралі год-два; *ɣ'ирва́н* — зямля даўно неараная, пачынае зарастаць маладым бярэзнікам, верасам. **207** *абло́ɣа* — часцей; *за́л'еш* — рэдка. **249** *п'ерало́х* — некалькі год не апрацоўваецца; *абло́ɣа — н'и ра́тайе по́л'е; ɣ'о́ран — йак зарас'ц'е́ц' по́л'е; йа́лав'ина — йе́с'л'и с'о́л'ита н'е аре́цца, так л'ажы́ц'.* **281** *абло́ɣа* — запушчанае месца, дзе не аруць; *абло́жа; йа́лав'инъ* — дзе год ці два не сеюць і не аруць. **302** *по́жын'ка.* **308** *йа́лав'ен'.* **380** *зало́ɣ.* **403** *мурава́.* **405** *п'ерало́х* — так называецца поле, якое некалькі год не аралі; *йа́лав'ина* — так называецца поле, якое не аралі адзін год. **431** *ɣ'ирва́н;* радзей — *абло́ɣ'и.* **436** *ɣ'арма́н.* **468** *за́расн'ик.* **475** *ɣ'арма́н.* **504** *абло́ɣа;* радзей — *цал'ина́.* **521** *йа́лав'ина;* радзей — *за́л'еж.* **530** *му́рава.* **534** *йалайн'а́.* **535** *п'арало́х* — зямля не апрацоўвалася некалькі год; *цал'ина́* — ніколі не апрацоўвалася; *йа́лав'ина* — не апрацоўвалася адзін год. **536** *йа́лав'ина* — зямля пустуе год, а калі больш — *цал'ина́.* **548** *абло́жжа.* **569** *н'иɣо́ɣ'ɣ'а.* **571** *абло́ɣа* — адзін год не аралі; *за́л'иж* — многа год не аралі. **583** *абло́ɣа* — адзін год не аралі; *за́л'иж* — многа год не аралі; *йа́лав'ина.* **588** *пыл'а́дык.* **606** *йа́лав'ина* — год-два не апрацоўваецца, *абло́ɣа* — многа год не аруць. **607** *абло́жына.* **624** *бло́ɣа* — поле, якое зарасце травой; *йа́лав'ина* — не апрацоўвалася два гады. **625** *пал'а́нка.* **638** *йа́лав'ина; абло́ɣа — н'и́зкайе м'е́сца, йако́йе н'е паха́лас'а.* **642** *ɣ'арв'е́н'н'а.* **718** *пу́стош, пусто́паш.* **722** *йа́лова.* **723** *дерно́.* **725** *йа́лов'ина* — многа год не абраблялася; *дерно́* — расце трава. **726** *пол'и́ток.* **727** *пол'и́ток.* **729** *зал'е́ɣлост'.* **732** *залы́ɣ.* **734** *тройакы́.* **738** *пол'и́ток.* **740** *дерно́.* **741** *прыло́ш.* **742** *далав'и́на.* **744** *далав'и́на.* **757** *ɣ'ерно́.* **765** *за́л'еж,* радзей ужываецца *йалов'и́на.* **785** *пласк'и́.* **787** *ɣруд.* **803** *тройен'и́на.* **810** *нав'ина́.* **824** *йа́лав'ина* — некалькі год не абрабляецца; *ɣ'ирва́н* — зямля, якая або вельмі даўно, або ніколі не аралася. **825** *ɣ'о́рна.* **826** *йа́лав'ина* — новая назва; *старапо́л'* — старая назва. **837** *йа́лав'ина — п'ерапа́хана; абло́ɣа — н'епа́хана.* **850** *дерб'ина́.* **853** *йа́лав'ина,* вельмі рэдка — *абло́ɣа.* **862** *ɣ'арба́н.* **868** *лысу́ха.* **901** *л'а́да.* **914** *йа́лайн'а, ɣ'о́ран.* **942** *в'и́пуск.* **961** *дырно́.* **964** *йа́лов'ина; зал'е́ɣл'а* — зямля, якая многа год не аралася; *йалав'ина́* — адзін год ляжала. **965** *пал'а́д.* **976** *пол'е́ток.* **978** *пол'и́ток.* **1021** *нав'ина́.* **1024** *пустадо́л'л'е.*

## Карта № 276

## НАЗВЫ БРУЧКІ

Карта складзена на матэрыяле пытання № 195:

«Назва бруквы: *бру́шка, бру́чка, бру́ква, брю́ква, гры́жана, бу́кса, бу́льба, вэ́мбрух*».

Адзінкавыя назвы ад картаграфуемых слоў даюцца крыжыкам адпаведнага колеру: **7** *ɣры́з'ина.* **56** *бру́чква.* **87** *оɣры́жанка.* **97** *ка-*

*р'ёўка.* **130** *ɣрызанка.* **134** *рыжанка.* **138** *брўка.* **220** *рыжанка.* **259** *р'іж'инка.* **293** *рыжанка.* **295** *рыжынка.* **623** *тр'ўкша.* **633** *бўкса.* **642** *брукувá.* **645** *бўкса.* **648** *бр'ўкъва.* **649** *бўкса.* **701** *брўцве.* **714** *барухá.* **721** *брўхва.* **795** *брўка.* **855** *кáл'ка.* **864** *брычка.* **932** *брўхва.* **944** *буркўха.* **967** *брычка.*

Адзінкавыя лексічныя варыянты з другім коранем даюцца зорачкай чорнага колеру: **298**, **302** — *з'имл'áнка.*

Як *ɣрыжына* картаграфуецца *ɣрыжына* 6, 9; *ɣрыжана* 24, 49, 57, 62, 64, 65, 68, 69, 71, 263; *ɣрыжъна* 43, 226, 228, 231; *ɣрыжáна* 10, 15, 22, 260.

Як *ɣрыжан* картаграфуецца *ɣрыжын* у нас. п. 37.

Як *ɣрыжынка* картаграфуецца *ɣр'іжанка* ў нас. пп. 23, 70, 129, 135, 294.

Як *кáл'иўка* картаграфуецца *кáл'аўка* ў нас. п. 4.

Як *вéндрух* картаграфуюцца *вéнбрух* у нас. п. 491; *вéмбрух* 495, 496.

Адводзяцца ад картаграфавання: **92** *р'éпа.* **212, 480** *рéпа.* **804** *рéпка.* **206, 212, 336, 340, 390, 510, 544** *бўл'ба* (у значэнні «картофель»). **220** *турнéпс* (гэта рэдзька). **796** *турнéпс* (назва бруквы). **947** *тыква.*

У каментарыях прыводзяцца заўвагі збіральнікаў адносна той ці іншай назвы, адносна ўжывальнасці таго ці іншага варыянта: **13** *ɣрыжан; брўчка* — рэдка. **23** *брўква; ɣрыжанка* — амаль не ўжываецца. **24** *ɣрыжана;* рэдка — *кáл'иўка.* **30** *ɣрыжына;* рэдка — *брўква.* **70** *ɣрыжа — кал'й на л'ас'é* (на градзе) *с'аɣ'іц', ɣрыжанка*—калі зварыцца. **87** *брўчка; оɣрыжанка* — гавораць старыя. **89** *брўшка* — вельмі рэдка; *кáл'ика* — часцей. **129** *ɣрыжанка;* рэдка — *брўква.* **135** *ɣрыжанка;* пры размове з гарадскімі гавораць *брўква.* **298** *брўква* — больш завуць расаду; *ɣрыжынка, з'имл'áнка* — завуць карнявішча. **426, 428** *брўшка, брўчка* — ужываюцца паралельна. **430** *брўчка;* гавораць і *бр'ўква,* але гэта па-руску. **458** *брўчка;* часцей — *брўшка.* **491** *брўшка;* некалі гаварылі *вéнбрух.* **495** *брўчка;* гавораць тут і *вéмбрух* — яе ў нас каровам даюць. **496** *брўчка;* яшчэ гавораць *вéмбрух.* **498** *брўчка; бўл'ма* — гавораць старыя. **523** *брўчка;* раней была назва *йáрмуш.* **525** *йáрмуш;* радзей — *брўчка.* **530** *бўл'ма;* рэдка — *брўчка.* **536** *бўл'ма* — у мове некаторых старых; звычайна — *брўква;* часам — *брўчка.* **548** *брўчка;* рэдка — *брўшка.* **593** *брўшка; брўква* — ужываюць людзі, якія прыехалі з горада. **596** *брўква* — па-гарадскому; *брўкша.* **617** *бр'ўкса; бр'ўчка* — стала ўжывацца ў апошні час; часцей ужываецца *брўква.* **633** *брўква;* рэдка — *бўкса.* **636** *бр'ўква; бр'ўчка* — радзей. **713** *брўшка; брўква* — слова новае. **774** *бўл'ма;* пазнейшая назва — *брўчка.* **778** *брўчка;* раней звалі *бўл'ба.* **779** Раней называлася *бўл'ба;* цяпер ужываюцца дзве назвы — *бўл'ба* і *брўчка.* **784** *брўчка;* часцей — *бўл'ба.* **795** *бўл'ба;* вельмі рэдка — *брўка.* **826** *бўл'ма* — завуць старыя; *брўчка* — моладзь. **851** *брўква* — жоўты сорт; белы — *брўчка.* **855** *брўкша;* у старавераў — *кáл'ика.* **913** *брўква* — для жывёлы. **936** *брўчка* — кармавая; *брўква* — што самі ядуць. **988** *бўл'ба* — рэдка; *брўчка.* **990** *брўшка; брўква* — гаварылі раней. **1005** *брыква;* рэдка — *брўчка.*

## Карта № 277

## НАЗВЫ БУЛЬБЫ

Карта складзена на матэрыяле пытання № 199:
*«Бульба, картошка, картопля...»*

На гэтай карце картаграфуюцца назвы бульбы: *бу́льба, карто́шка, карто́фля.*

У тых выпадках, калі ў адказах было адзначана суіснаванне розных назваў бульбы, усе яны адпаведнымі знакамі наносяцца на карту.

Адным знакам аб'ядноўваюцца словы: *карто́фл'и, карто́хл'а(и), карто́пл'а, карто́пл'и(ы), кардо́пл'и.*

Як *бу́л'ба* картаграфуецца слова *бу́л'ва* ў нас. пп. 347, 675, 677—680, 683—685.

Фанетычныя асаблівасці на карце не адзначаюцца.

Ніжэй прыводзіцца матэрыял з тых нас. пп., дзе ёсць заўвагі збіральнікаў, а таксама адзінкавыя назвы, якія абазначаны на карце агульным адсылачным знакам: **6** *бу́л'ба* — сырая, *карто́фл'а* — вараная. **23** *бу́л'ба;* радзей — *карто́шка.* **24** *карто́фл'а;* рэдка — *бу́л'ба, з'имна́к'и.* **25** *бу́л'ба;* рэдка — *карто́шка.* **26** *бу́л'ба, карто́шка; пас'п'ёшка* — ранняя бульба. **34** *бу́л'ба;* рэдка — *карто́фл'а.* **64** *карто́шка;* часцей — *бу́л'ба.* **66** *бу́л'ба;* часта — *карто́шка.* **67** *бу́л'ба;* цяпер гавораць і *карто́шка.* **70** *бу́л'ба;* радзей — *карто́шка.* **71** *бу́л'ба;* радзей — *карто́шка.* **73** *карто́шка;* часцей — *бу́л'ба.* **78** *карто́шка;* часцей — *бу́л'ба.* **83** *карто́шка;* часцей — *бу́л'ба.* **87** *бу́л'ба;* рэдка — *карто́шка.* **98** *бу́л'ба;* радзей — *карто́шка.* **104** *бу́л'ба;* рэдка — *карто́шка.* **106** *бу́л'ба;* рэдка — *карто́шка.* **123** *бу́л'ба,* але часта кажуць — *карто́шка.* **129** *бу́л'ба;* рэдка — *карто́шка.* **136** *бу́л'ба;* радзей — *карто́фл'а.* **153** *бу́л'ба;* радзей — *карто́шка.* **170** *карто́фл'а; бу́л'ба* — часцей. **171** *бу́л'ба;* рэдка — *карто́хл'а.* **198** *бу́л'ба, карто́фл'а;* часцей — *карто́шка.* **213** *бу́л'ба;* часцей—*карто́шка.* **223** *бу́л'ба* — пераважна гавораць жанчыны, *карто́шка* — мужчыны. **227** *карто́шка;* часцей — *бу́л'ба.* **229** *карто́шка;* часцей — *бу́л'ба.* **230** *бу́л'ба; карто́шка* — мала хто кажа. **234** *карто́шка; бу́л'ба* — часцей. **237** *бу́л'ба* — гавораць старыя, *карто́шка* — моладзь. **253** *бу́л'ба;* часцей — *карто́шка.* **298** *бу́л'ба; карто́шка* — па-гарадскому. **300** *бу́л'ба; скарас'п'ёшка* — ранняя бульба; рэдка — *карто́шка.* **303** *бу́л'ба; карто́шка* — гаворыць моладзь. **311** *бу́л'ба; карто́шка* — больш па-руску. **330** *бу́л'ба, карто́шка; курдо́па* — гавораць старыя. **331** *бу́л'ба, карто́шка; курдо́па* — гавораць старыя. **332** *курдо́на, карто́шка;* радзей — *бу́л'ба.* **352** *бу́л'ба;* радзей — *карто́фл'а, з'амн'а́к'и* — па-польску. **396** *карто́шка, карто́пл'а;* старэйшыя гавораць — *бу́л'ба.* **397** *карто́пл'а* — гаворыць старэйшае пакаленне, *карто́фл'а* — малодшае. **407** *карто́пл'а, карто́шка;* рэдка — *карто́фл'а.* **426** *бу́л'ба, карто́фл'а* — ужываюцца паралельна. **445** *карто́шка, карто́пл'и* — больш; *бу́л'ба* — зусім не гавораць. **463** *бу́л'ба;* часцей — *карто́шка.* **464** *бу́л'ба;* больш — *карто́шка.* **484** *карто́шка, бу́л'ба;* часцей за ўсё — *карто́пл'а.* **491** *бу́л'ба,*

*картошка, картофл'а* — зусім па-простаму. **502** *картофл'а, картошка*— гавораць пісьменныя. **515** *картопл'а; картошка* — рэдка. **517** *картошка* — гаворыць малодшае пакаленне; *картопл'а* — гаворыць старэйшае пакаленне. **523** *картопл'а; бу́л'ба* — радзей; *картошка — кал'и хац'им сказа́ц' дал'икатн'ей.* **525** *картопл'а; картошка* — рэдка. **527** *картошка; бу́л'ба* — ужываецца значна радзей. **528** *картошка; картопл'а* — радзей, гаворыць старэйшае пакаленне. **530** *картопл'и; картошка* — гаворыць моладзь. **536** *картофл'а, картопл'а; бу́л'ба* — радзей. **547** *картошка; бу́л'ба* — часцей. **557** *бу́л'ба,* але сустракаецца і *картопл'а.* **601** *бу́л'ба* — усе гавораць; *картошка* — па-гарадскому. **603** *бу́л'ба* — гавораць старыя, *картошка* — маладыя гавораць. **674** *бу́л'ба; картопл'а* — больш. **682** *картошка, картофл'а; бу́л'ба* — часцей за ўсё. **687** *бу́л'ба; картошка* — радзей; *картопл'а* — гавораць некаторыя старыя людзі. **722** *бу́л'ба; картошка* — рэдка. **764** *бу́л'ба;* зрэдку — *картопл'а.* **778** *картофл'а* — найбольш часта; *картопл'а; картошка — па-дал'ика́тнаму.* **779** *картопл'и, картопл'а; картошка* — радзей. **783** *картопл'а; картошка* — менш. **784** *картопл'а; бу́л'ба*—ужываецца ў значэнні 'бру́чка'. **791** *картошка; картопл'и — больш.* **806** *картофл'а, картопл'а;* пазнейшыя, лепшыя — *картошк'и.* **813** *бу́л'ба, картошка; картопл'а* — гавораць старыя. **814** *картопл'а* — агульна для ўсіх людзей; *картошка* — можна пачуць ад вучняў ці адукаваных людзей. **818** *картопл'а, бу́л'ба; картошка* — радзей. **823** *бу́л'ба; картопл'и* — часцей. **826** *картопл'а* — гавораць старыя; *картофл'а* — моладзь. **882** *кардопл'и; бу́л'ба* — вельмі рэдка сустракаецца ў мове старых, а малодшае пакаленне гаворыць часта *навогда, картошка.* **910** *бу́л'ба; картошка* — рэдка. **969** *картошка, картопл'а* — ужываюць наогул. **996** *картопл'а; бу́л'ба* — рэдка. **1005** *бу́л'ба* — раней называлі; *картошка* — рэдка; *картопл'а, картохл'а.*

## Карта № 278

## НАЗВЫ СЦЯБЛОЎ І ЛІСЦЯ ГАРОХУ

Карта складзена на матэрыяле пытання № 200:

«Як называюць сцяблы і лісце гароху: *гарахвя́ннік, гаро́хвіны, гарашыны..?*»

Пры картаграфаванні не ўлічваюцца фанетычныя варыянты слоў.

Як слова *γарохв'ины* картаграфуюцца словы наступных нас. пп.: 136, 146, 149 *аро́хв'ины, аро́хв'ина.* 287 *ро́хв'ины.*

Як слова *γарахв'а́н'н'е* картаграфуюцца словы наступных нас. пп.: 349 *γарахв'е́н'а, арахв'е́н'а.* 350 *γарахав'е́н'о, аро́хав'ин'а.* 510 *γаро́хв'ен'е.* 358 *рахав'е́н'а.*

Як слова *γаро́шыны* картаграфуюцца словы наступных нас. пп.: 137 *арошы́ны.* 348 *γарошвьны.*

Адводзяцца ад картаграфавання словы наступных нас. пп.: *γароха-*

*в'ишча, γарóшышча, γарóшн'ишча, γарахв'áн'ишча, γарóхв'ишча,* таму што няма ніякіх тлумачэнняў адносна высвятлення значэння гэтых слоў. Відаць, яны абазначаюць не лісце і сцяблы, а месца, дзе расце гарох: *γарóхыв'шча* 26, 29; *γарóхав'ишча* 58, 63, 80, 81, 150, 183, 201, 275, 410, 435, 463, 486, 489, 495, 512, 561, 709, 745, 750, 808; *γарохв'óл'шча* 133; *γарóхв'ишча* 226, 444, 548, 568, 590, 793, 870, 910, 991; *γарóхыв'ишча* 339, 644; *γарахв'áн'ишча* 474, 525, 568, 816, 885, 914; *γарóшн'ишча* 711; *γарóшышча* 370, 668, 670, 705, 712, 713, 715; *ħорóхывышче* 950.

Агульным адсылачным знакам адзначаюцца розныя адзінкавыя назвы: 75 *кал'ийе* і *струк'й* гарох мае; 88 *марóчыны;* 768 *тетыва;* 22 *ц'ац'ийó;* 936 *ц'ан'йна;* 623 *ц'ац'йва;* 46, 98, 101, 103, 104, 181, 475, 479, 579, 588, 618, 649, 840, 845, 847, 902, 905, 906, 907, 932, 970, 1018, 1025 *γарóх;* 39, 66, 846, 1017 *кáл'иво;* 64, 75, 941 *кал'йўйа;* 805 *бульн'йк ад γароху.* 238, 239 *гарóхн'ик;* 478, 633, 769, 771, 772, 841, 992 *сц'аблы γарóху;* 799, 829, 834, 877, 1015, 1025 *салóма γарóхава;* 803 *сц'ебáлк'и;* 819, 824 *γарóхаўн'ица;* 394 *γарашм'йны.*

У наступных нас. пп. падаюцца заўвагі збіральнікаў: **34** *γарóхав'иHы* — ужо вымалачаныя, астаюцца толькі сцяблы. **46** *γарóх* — калі расце; *γарóхав'ины* — калі змалоцяць. **65** *γарóхав'ины* — абмалочаны гарох. **69** *γарóхав'ины* — калі абмалочаны; *γарóх* — калі неабмалочаны. **71** *γарóхав'ины* — абмалочаны. **75** *кал'йўйа* і *струк'й* гарох мае, у *струках* гарох ляжыць. **79** *γарóхв'ины* — вялікія, а *γарóху* няма. **88** *γарóхав'ины* — часцей; *марóчыны.* **101** *γарóх*—неабмалочаны; *γарóхав'ины*—абмалочаны. **104** *γарóхв'ины*—пасля абмалоту; *γарóх*—неабмалочаны. **200** *γарóхаўйе*—салома з гароху. **204** *γарóхав'ины, γарахв'áн'ик*— абмалочаны гарох. **209** *γарóхаўе* — абмалочаны гарох. **283** *гарóхв'ины*— як памалоцяць, то застаюцца чыстыя сцяблы. **292** *γарóхв'ины* — як абмалоцяць гарох. **302** *γарóхв'ины* — сухія сцяблы ад гароху; *γорóхв'ица* — адна; *γорóхв'ин'ик* — многа. **759** *у нашым гароху вялікі γарóшн'ик.* **1018** *γарох, γарóхв'ины* — абмалочаныя сцяблы.

## Карта № 279

## НАЗВЫ СЦЯБЛОЎ І ЛІСЦЯ ГУРКОЎ

Карта складзена на матэрыяле пытання № 200:

«Як называюць сцяблы і лісце гуркоў: *гурóчнік..?*»

Пры картаграфаванні не ўлічваюцца фанетычныя варыянты слоў. Пры картаграфаванні назвы сцяблоў гуркоў і лісця ў матэрыялах сустрэлася вялікая колькасць варыянтаў слоў аднаго і таго ж кораня.

Як *аγурóчн'ик* картаграфуецца слова *γурóчн'ик* у наступных нас. пп.: 54, 82, 86, 92, 93, 110, 112, 115, 116, 123, 125, 130, 140, 141, 142, 143, 145, 147, 173, 174, 180, 182, 187, 220, 221, 225, 236, 237, 238, 239, 240, 241, 242, 244, 245, 246, 247, 249, 250, 251, 258, 260, 261, 262, 266, 269, 272, 273, 280, 283, 287, 289, 300, 305, 306, 307, 308, 309, 312, 314, 320, 325, 327, 329, 337, 340, 341. 358, 363, 378, 381, 389, 390, 391, 393, 394, 395, 396, 398,

399, 400, 401, 402, 403, 404, 405, 407, 408, 410, 411, 412, 413, 415, 419, 420, 422, 432, 434, 443, 449, 450, 453, 457, 458, 459, 460, 461, 463, 467, 478, 479, 483, 485, 486, 487, 488, 490, 491, 492, 493, 494, 496, 498, 499, 500, 501, 502, 503, 506, 507, 509, 510, 515, 518, 522, 529, 531, 533, 536, 537, 540, 542, 543, 549, 550, 553, 554, 556, 558, 560, 565, 566, 568, 570, 572, 580, 581, 582, 583, 584, 591, 638, 640, 659, 662, 669, 691, 693, 697, 706, 710, 712, 714, 715, 743, 744, 745, 747, 748, 749, 751, 752, 753, 754, 755.

Як *аүуро́чн'ик* картаграфуецца слова *аүуро́шн'ик* у наступных нас. пп.: 62, 64, 87, 117, 121, 124, 152, 160, 176, 202, 220, 232, 263, 282, 306, 313, 342, 349, 444, 508, 514, 525, 528, 554, 559, 562, 563, 564, 566, 604, 854, 856, 864, 874, 909.

Як *аүуро́чн'ик* картаграфуецца слова *үуро́шн'ик* у наступных нас. пп.: 61, 93, 107, 109, 111, 113, 117, 121, 124, 133, 248, 252, 254, 259, 262, 263, 264, 267, 268, 274, 275, 276, 277, 278, 279, 280, 282, 294, 295, 297, 298, 301, 302, 303, 304, 310, 311, 315, 319, 323, 337, 495, 509, 511, 514, 530, 532, 534, 535, 552, 561, 568, 573, 578, 582, 587, 589, 614, 665, 641, 644, 646, 648, 768, 785, 788, 797, 800, 819, 821, 855, 862, 865, 866, 867, 868, 871, 872, 884, 885, 889, 894, 897, 899, 902, 905, 906, 907, 908, 910, 914, 916, 918, 920, 931, 932, 934, 939, 940, 942, 943, 972, 974, 980, 982, 988, 989, 990, 991, 994, 995, 998, 999, 1002, 1005, 1008, 1009, 1011, 1013, 1014, 1018, 1026.

Як *аүуре́чн'ик* картаграфуецца слова *үуре́чн'ик* у нас. пп. 13, 118, 348, 361, 377, 385, 407, 456, 668, 696, 699, 758, 938.

Як *аүуре́чн'ик* картаграфуецца слова *аүуре́шн'ик* у нас. пп. 4, 28, 49, 52, 59, 60, 63, 66, 70, 74, 88, 89, 94, 95, 98, 101, 104, 105, 106, 120, 126, 127, 129, 135, 243, 296, 299.

Як *аүуре́чн'ик* картаграфуецца слова *үуре́шн'ик* у нас. пп. 56, 96, 119, 131, 134, 610, 612, 617, 900, 995.

Як *үурко́ўн'ик* картаграфуецца слова *аүурко́ўн'ик* у нас. п. 137.

Адводзіцца ад картаграфавання слова *ко́сы,* таму што яно абазначае толькі сцябло ў гуркоў.

Адзінкавыя назвы наносяцца на карту адсылачным знакам: **3** *бата́ўйе.* **29** *батно́ўйе.* **564** *батва́.* **173, 575** *бацв'и́н'н'е.* **658** *бутвы́н'н'е.* **8** *аүу́рн'ик.* **9** *аүуры́н'н'ик.* **167, 446** *ц'ац'и́ўйе.* **451, 454, 711** *ц'ец'ава́* — з гуркоў. **38, 39** *кал'иво́.* **75, 196** *кал'и́ўйа.* **293** *касн'ик'и́.* **941** *үуро́вачн'ик.* **973** *лобу́зн'ик, лобуз'ак.* **970** *ло́бус.* **740, 811, 966** *лабу́з'з'е.* **651** *үурокв'и́н'н'е.* **652** *маты́на.* **897, 1018** *үурко́вайа на-ц'и́на.* **671** *үуркав'е́н'иско.* **683** *мил'и́н'н'е.* **689, 698, 704, 946** *үурк'и́.* **689, 760, 826** *бады́л'л'е.* **692, 694, 959** *бы́л'л'е.* **967** *хм'ел'ино́.* **736, 953** *стеблына́.* **756** *павады́.* **761** *стац'ив'и́на.* **769** *бы́л'нык.* **772** *һур-ковы́ца.* **804** *үуров'ен'е.*

У каментарыях даецца пералік нас. пп. з заўвагамі збіральнікаў ці аб'ектаў абследавання: **173** *бацв'и́н'н'е* — рэдка; *үуро́чн'ик.* **248** *үуро́шн'ик* — пукі гуркоў. **680** Сцяблы гуркоў ніяк не называюць. **706** *үуро́чн'ик; аүуре́чн'ик* — ужываецца часцей. **809** *үуро́чн'ик* — лісце ад гуркоў.

## Карта № 280

## НАЗВЫ СЦЯБЛОЎ І ЛІСЦЯ ГАРБУЗОЎ

Карта складзена на матэрыяле пытання № 200:

«Як называюць сцяблы і лісце гарбузоў: *гарбу́знік*?»

У народных гаворках беларускай мовы ў якасці назвы сцяблоў гарбузоў і лісця найбольшае пашырэнне атрымала слова *γарбу́зн'ик*. Аднак, акрамя яго, ужываюцца і такія словы, як *γарбуз'е́н'н'е, γарбузо́ўн'ик, нац'и́на,* і інш.

Пры картаграфаванні не ўлічваюцца фанетычныя варыянты слоў. Адзначанае ў адказах суіснаванне некалькіх назваў картаграфуецца адпаведнай колькасцю знакаў.

У каментарыях даецца пералік нас. пп., якія адводзяцца ад картаграфавання.

Як *γарбу́зн'ик* картаграфуецца слова *арбузн'ик* у наступных нас. пп.: 120, 139, 162, 358, 567.

Як *γарбузав'е́на* картаграфуецца слова *арбузав'е́на* ў нас. п. 350.

Фанетычныя варыянты слоў *γарбуз'е́н'н'е, γарбуз'е́на* на карце перадаюцца адным знакам; адным знакам адзначаюцца таксама і словы *γарбуза́н'н'ик, γарбуз'е́н'ник* і інш.

Асобныя адзінкавыя назвы, утвораныя ад кораня **γарбу́з-**, адзначаны адсылачным знакам у наступных нас. пп.: **26** *γырбуз'а́н'ишча.* **28** *γарбуз'а́нка.* **25, 37** *γарбуз'а́тн'ик.* **181, 389** *γарбу́з.* **671, 676, 714** *γарбуз'е́н'иско.* **772** *һарбузыца.*

Асобныя адзінкавыя назвы, звязаныя з іншымі каранямі, адзначаны агульным адсылачным знакам: **534** *γарбузо́выйа ладын'и.* **51** *вусы́.* **692, 694** *бы́л'л'е.* **769, 977** *бы́л'н'ик.* **55** *бато́ў'е.* **664** *ботвы́н'н'е.* **129** *батва́.* **71, 196** *кал'и́ўе.* **193** *ка́л'ива.* **76** *ду́тк'и γарбуза́.*

Адводзяцца ад картаграфавання матэрыялы наступных нас. пп.: **663** *хмылы́н'н'е.* **756, 761, 801** *по́вед, павады́.* **405, 740, 811** *лабузо́, лабуз'з'е́.* **807, 812, 973** *лобузн'ик.* **451, 454, 610, 612, 711** *ц'иц'ева.* **948, 951, 952, 954** *дын'н'ик.* **704** *дыновын'н'е.*

У наступных нас. пп. прыводзяцца адказы з заўвагамі збіральнікаў: **181** Асобнай назвы няма, называюць агульнай назвай — *γарбу́з.* **204** *ко́сы* — кажуць косы ў гурках і гарбузах; *γарбу́зн'ик.* **220** *ко́сы* — тоненькія; *γарбу́зн'ик.* **247** *γарбузы* пусцілі *ко́сы; γарбу́зн'ик.* **248** *γарбу́зн'ик — пук'и́ γарбузо́ў.* **477** *ко́сы — у агуркоў і гарбузох, у гарбу́зн'ику.* **489** *ко́сы* — у гуркоў і гарбузоў. **492** *ко́сы* — у гуркоў і гарбузоў. **508** Гарбузы папускалі *ко́сы,* але *γарбу́зн'ик.* **628** *γырбузо́ўн'ик — ко́с'с'е γырбузо́ў.* **943** *ко́сы* — у гарбузоў; *γарбу́зн'ик.*

## Карта № 281

## НАЗВЫ СЦЯБЛОЎ І ЛІСЦЯ БУЛЬБЫ

Карта складзена на матэрыяле пункта «а» пытання № 201:

«Як у вас называецца лісце:

а) бульбы: *бульбя́нік, бульба́шнік, ця́ўнік..*?»

У некаторых адказах адзначаецца розніца ў назве сцяблоў і лісця бульбы. Аднак большасць матэрыялаў не мае такіх памет. У сувязі з гэтым на карту наносяцца словы незалежна ад таго, абазначаюць яны сцяблы, лісце, ці называюць разам і лісце і сцяблы. Заўвагі аб значэнні картаграфуемых слоў прыводзяцца ніжэй.

Пры картаграфаванні не ўлічваюцца некаторыя фанетычныя асаблівасці гаворак, напрыклад пераход зычнага **ф** у **х** і **п** у словах з коранем **картóфл'-**.

Так замест зычнага **ф** у словах з коранем **картóфл'-** знаходзім зычны **х** у наступных нас. пп.: 132, 134, 249, 293, 333, 658, 842; зычны **п** адзначан у наступных нас. пп.: 341, 344, 373, 377, 381, 387, 388, 393, 397, 401, 403, 404, 406, 407, 414, 418, 420—425, 443, 445—447, 451, 454, 458—461, 471, 474, 475, 480, 481, 484, 486, 487, 489, 492, 495, 511, 514—517, 521—525, 528, 530, 532—536, 553, 651, 652, 654—657, 659—661, 663, 665, 668, 670, 681, 688—716, 719—721, 726—733, 735—739, 742—747, 751, 752, 756, 759, 763, 769, 774, 776, 778—784, 788, 789, 791—795, 797, 800, 804, 805, 808, 810, 812, 814—816, 818—820, 822—824, 829—833, 835, 836, 838, 840, 846, 847, 849, 850, 852, 853, 856, 860, 862, 864, 866—869, 871, 872, 874, 876, 879—881, 885—890, 915, 919, 921, 922, 945, 947—950, 952, 954, 956, 958, 969, 972, 975, 979—987, 989—994, 996—1004, 1006—1008, 1010—1014, 1016, 1018, 1020, 1027.

Пры картаграфаванні не ўлічваецца падваенне зычнага **н** у словах *бульбян(н)ік, картафлян(н)ік, бульбавен(н)е, картафлен(н)е, гічан(н)ік*, якое адзначана ў наступных нас. пп.: 1, 2, 21, 22, 53, 58, 74, 110, 144, 145, 213, 216, 226—228, 235, 239, 244, 246, 250, 505, 539, 549, 571, 572, 580—582, 584, 595, 597, 607, 611, 631, 640, 646, 648, 667, 760, 883, 894, 897, 922, 929, 967 *бульбя́ннік;* 137, 147, 152, 357, 367, 441, 687, 716, 722, 723, 725, 771, 772, 953, 955 *бульбаве́нне;* 127, 132, 249, 253, 293, 326, 333, 419, 424, 444, 453, 487, 505, 514, 745, 779, 783, 784, 810, 866, 915, 922, 979, 985, 987, 1016 *картафля́ннік;* 420, 447, 458, 651, 652, 654—663, 665, 672, 681, 688—704, 709, 710, 712, 715, 716, 719—721, 726, 728—730, 732, 736, 738—740, 759, 763, 774, 945, 948—950, 952, 954 *картафле́нне;* 836, 844, 1002, 1011 *гіча́ннік.*

Пры картаграфаванні зроблены наступныя абагульненні.

Як *бульбóўнік* картаграфуецца *бул'баўн'ик* у нас. п. 151.

Як *бульбе́ўнік* картаграфуецца *бул'б'а́ўн'ик* у нас. п. 181.

Як *бульбя́нік* картаграфуюцца ў нас. пп. 66, 74, 81, 213, 227, 239, 244, 250, 967 *бул'б'е́н'(н)'ик;* 167, 513 *бул'м'а́н'ик;* 181 *бу́л'б'ин'ик;* 274, 311 *бул'ба́н'ик;* 347 *бул'в'а́н'ик;* 741 *бул'вын'ик;* 760 *бул'бынньк.*

Як *бульба́шнік* картаграфуюцца ў нас. пп. 177, 934, 937, 941, 943 *бу́л'башн'ик;* 254, 587 *бул'бóшн'ик;* 976, 978 *бул'бóчн'ик.*

Як *бульбя́шнік* картаграфуюцца ў нас. пп. 86, 104, 117, 202, 205, 236, 238, 240, 241, 245, 248, 251, 260, 264, 268, 275, 276, 472, 504, 509, 544, 582, 603, 754, 755, 757, 762, 764, 837, 839, 897, 920, 924, 944 *бул'б'е́шн'ик;* 753, 758 *бул'б'е́чн'ик;* 243, 278, 279, 600, 602, 904, 927, 940 *бу́л'б'ешн'ик;* 894, 930 *бул'б'и́шн'ик.*

Як *бульбавéне* картаграфуюцца ў нас.пп. 347 *бул'вав'éн'а*; 409 *бул'-бав'áн'а*; 679 *бул'вав'ін'е*; 682, 687, 771, 772, 953 *бул'бовы́н'н'е*; 811 *бул'бов'ін'н'е;* 955 *бул'бóв'ен'н'е;* 676, 677, 680, 685 *бул'ов'éн'н'е;* 683, 686 *бул'ов'ін'н'е.*

Як *картафля́нік* картаграфуюцца ў нас. пп. 415, 866, 975, 1022 *картóпл'ан'н'ик;* 424, 445, 745, 752, 804, 972 *картафл'éн'н'ик;* 487, 779, 780, 784, 814, 980 *картофл'ін'н'ик*; 748 *картаф'éл'н'ик.*

Як *картафлéне* картаграфуюцца ў нас. пп. 410, 420, 438, 440, 443, 459 *картафл'áн'е;* 945 *кардоплы́н'н'е;* 651, 652, 654—663, 665, 688—700, 702—704, 713, 719, 726, 729—731, 733, 736, 737, 739, 763, 769, 808, 812, 947—950, 952, 954, 969, 1007 *картаф(п)л'і́ын'н'е.*

Як *картафля́ніска* картаграфуецца ў нас. п. 671 *картафл'éн'иско.*

Як *картóфлішча* картаграфуецца ў нас. п. 791 *картапл'áн'ишча.*

Як *курдóпнік* картаграфуецца ў нас. п. 712 *картóпн'ик.*

Як *нацíна* картаграфуецца ў нас. п. 428 *нац'ін'а бýл'бы.*

Як *цяўнíк* картаграфуецца ў нас. пп. 360, 1011, 1019 *ц'аўн'ік.*

Як *цяцíўе* картаграфуецца ў нас. пп. 1 *ц'ац'иўé;* 807 *ц'ец'éўе.*

Як *бы́льнік* картаграфуюцца ў нас. пп. 56, 89 *был'н'ік;* 805 *бул'н'ік;* 974, 975, 977 *бýл'н'ик.*

Як *бы́лле* картаграфуюцца ў нас. пп. 770, 963 *был'л'é;* 964 *был'йó.*

Як *гіч* картаграфуецца ў нас. п. 799 *γ'ича.*

Як *гічáнік* картаграфуецца ў нас. пп. 818 *γ'ичн'ік;* 841 *γ'ичáл'н'ик;* 845, 847 *γ'ичáрн'ик.*

Як *калíўе* картаграфуецца ў нас. п. 263 *кáл'иўе.*

Ніжэй прыводзіцца матэрыял з тых нас. пп., у якіх ёсць заўвагі збіральнікаў аб ужывальнасці або значэнні картаграфуемых слоў, раскрываюцца ўсе адсылачныя знакі: **24** *картафл'áн'ик;* радзей — *бул'б'éў-н'ик.* **28** *батóўе.* **47** *дýдк'и.* **64** *был'ін'н'ик.* **67** *бул'éн'н'ик;* радзей — *бул'бáшн'ик.* **136** *бул'б'áнка.* **152** *бул'бав'éн'н'ик.* **174** *бул'-б'áн'ик, картафл'áн'ик;* часцей — *бул'бóўн'ик.* **184** *бул'бóўн'ик;* пераважае *бул'б'áн'ик.* **198** *бул'б'éўн'ик*; зрэдку — *картафл'áн'ик.* **210** *бул'éшн'ик.* **215** *бул'éўн'ик.* **217** *бул'б'áк.* **231** *бал'іўк'и.* **245** *ка-л'іўн'ик, а на кал'іўн'ику л'іс'ц'а — бул'б'éшн'ик.* **249** *бул'бóўн'ик;* зрэдку ўжываецца *картахл'áн'н'ик.* **257** *бул'б'áн'н'е.* **269** *бул'б'éн'н'е.* **282** *батóўйа.* **311** *бул'б'áн'ик* — лісця; *бул'бóўн'ик* — усё сцябло. **323** *бул'бóўйа.* **329** *ц'ац'іўн'ик.* **342** *бул'бóвашн'ик.* **346** *бул'б'áн'иско.* **348** *картафл'іска.* **350** *картафл'іска.* **364** *бул'б'áн'иска.* **387** *картопл'іска.* **456** *картафл'áн'иско* — як пасохне; *картафл'éн'о* — як зялёнае. **460** *ц'áўн'а.* **497** *ц'áв'ина.* **503** *ц'áўйе.* **523** Для лісця бульбы няма асобнай назвы; лісце разам са сцяблом называецца *картапл'áн'ик, бул'бóўн'ик.* **548** *бул'éўн'ик, бул'éшн'ик.* **564** *батвá.* **565** *кал'ів'ашн'ик.* **599** *бул'б'áн'ишн'ик.* **617** *ц'ац'ивá.* **642** *ц'иц'ивá.* **649** *ц'иц'ивá.* **652** *маты́н'н'е.* **664** *хмылы́н'н'е.* **675** *бул'вав'éйка.* **678** *бул'вав'éнка.* **683** *бул'óўн'ик.* **684** *бул'бóв'иско.* **701** *стыбéл'л'е.* **713** *ґ'аγ'іл'л'а.* **717** *д'иγал'л'é.* **724** *бады́л'л'е.* **727** *картóплыско.* **734**

*былына.* **735** *картоплына.* **740** *лабуз'е́.* **749** *бул'о́н'н'ик.* **757** *лапк'и́.* **761** *был'и́на.* **766** *бады́л'н'ик.* **775** *ц'а́ўйа.* **801** *γ'ича́н'ик* — сцяблы бульбы. **803** *стац'и́ўн'ик.* **805** *лобу́з'йе.* **826** *γ'ича́й* — лісце бульбы. **827** *бац'в'и́н'н'е.* **921** *картапл'а́шн'ик.* **936** *батва́.* **950** *картофлыско.* **959** *γы́чка.* **960** *хмылына.* **962** *бе́т'т'е.* **964** *бады́л'л'е* або *был'йо́.* **966** *лабу́з'з'е.* **967** *б'е́л'йе.* **968** *бады́л'л'е.* **970** *ло́бус.* **973** *лабу́з'н'ик.* **986** *картапл'а́шн'ик.* **989** *картапл'о́шн'ик.* **999** *картапл'а́шн'ик.* **1000** *картапл'а́шн'ик.* **1001** *картапл'а́шн'ик.* **1003** *картапл'а́шн'ик.* **1018** *бул'б'а́н'ик, кал'и́ўн'ик, картапл'а́н'ик; кал'и́ўн'ик* — ужываецца часцей. **1025** *кал'иўйа́н'ик.*

## Карта № 282

## НАЗВЫ СЦЯБЛОЎ І ЛІСЦЯ БУРАКОЎ

Карта складзена на матэрыяле пункта «б» пытання № 201:

«Як у вас называецца лісце:

б) буракоў: *націна, бацвінне, бура́чнік..?*»

Пры картаграфаванні не ўлічваюцца фанетычныя асаблівасці, якія не разыходзяцца з фанетычнай сістэмай гаворак (падваенне **н** у словах *бацвінне, бурачанне, націнне;* вымаўленне **ш** замест **ч** у слове *бурачнік* і некаторыя іншыя).

Аб'яднаны ў адпаведных знаках адзінкавыя словаўтваральныя варыянты ад картаграфуемых слоў. Пры картаграфаванні не ўлічваецца месца націску ў словах. Увесь гэты матэрыял прыводзіцца ў каментарыях.

Як *бацві́нне* картаграфуюцца ў нас. пп. 364, 419, 675, 676, 761 *бац'в'е́н'е;* 608 *бац'в'ин'н'а́.*

Як *батва́* картаграфуецца ў нас. п. 649 *ба́тва.*

Як *бато́ўе* картаграфуецца ў нас. пп. 57 *батло́ўе;* 538 *бата́ўйа.*

Як *буракаве́не* картаграфуюцца ў нас. пп. 668 *буракав'ен'о́;* 665 *бурако́вын'н'е;* 651, 652, 655, 656, 663, 686, 688, 763, 960 *бураков'и́(ы)н'н'е;* 722 *бурако́в'ен'н'е.*

Як *бурачкаве́не* картаграфуюцца ў нас. пп. 410 *бурачкав'и́н'а;* 732 *збурак'ивче́н'н'е.*

Як *бура́чанне* картаграфуюцца ў нас. пп. 349 *бурачан'н'е́;* 424 *бурачйа́н'о;* 658, 731, 736 *бурачы́н'н'е;* 676, 681, 682, 684, 720, 721, 947 *бураче́н'е.*

Як *гіча́нне* картаграфуюцца ў нас. пп. 441, 443, 447 *γ'ичан'н'о́;* 810, 968 *γ'ичов'и́н'йе.*

Як *гічэ́ўе* картаграфуецца ў нас. п. 393 *γ'ичо́ўйо.*

Як *цяці́ўе* картаграфуюцца ў нас. пп. 195, 409 *ц'иц'иўйо́;* 367, 371, *ц'ац'и́в'е;* 387 *ц'иц'е́ўйа.*

Як *ця́ўнік* картаграфуецца ў нас. пп. 480, 482 *ц'а́ўн'ик.*

У матэрыялах наступных нас. пп. пры словах *націна, націнне* ёсць словы *бураковая, бурачная* і некаторыя іншыя: **1** *нац'и́на бурако́вайа.*

65 *нац' йна ад буракоў.* **74** *бурáчнайа нац'йна.* **459** *нац'йна буракоў.* **614** *нац'йна буракоў.* **933** *нац'йна буракоў.*

Ніжэй прыводзіцца матэрыял з тых нас. пп., у якіх ёсць заўвагі збіральнікаў адносна ўжывальнасці або значэння картаграфуемых слоў, раскрываюцца адсылачныя знакі: **17** *батóўк'и.* **29** *бурáчн'ишча.* **65** *батóўйе* — як вырвуць; а як расце — *бац'в'йн'н'е, нац'йна ад буракоў.* **67** *батóўн'ик,* гаворацьі *бац'в'йн'н'е, бурáшн'ик.* **69** *бац'в'йн'н'е, батóўйе;* рэдка — *нац'йн'н'е.* **87** *бац'в'йн'н'е* — часцей; *бурáчн'ик* — рэдка. **88** *бурáчн'ик* — часцей; *был'н'ик.* **89** *бурáшн'ик;* рэдка — *нац'йна.* **91** *бурáчн'ик;* вараны бурак — *бац'в'йн'н'а.* **104** *батóўйе* — сырое; *бац'в'йн'н'е* — зваранае. **125** *батóўн'ик.* **126** *бурáшн'ик;* рэдка — *нац'йна.* **137** *лашб'ак'й.* **148** *бац'в'йн'ик;* часцей ужываецца *бурáчн'ик.* **150** *бурáчн'ик, нац'йна* — ужываюцца паралельна. **152** *ламб'ак'й буракоў.* **184** *бурáчн'ик;* рэдка ўжываецца *бац'в'йн'н'а.* **186** *бац'в'йн'н'а;* моладзь гаворыць *бурáчн'ик.* **196** *ц'ац'йўйе* — лісце; *бац'в'йн'н'е* — сцябло бурака без лісця. **200** *бац'в'йн'н'е* — лісце і сцяблы разам, самі лісты называюцца — *ц'ац'йўйе.* **202** *ц'ац'йўйа* — лісце, *бац'в'йн'н'а* — сцяблы. **233** *кáл'иўйе.* **243** *бурáчн'ик;* вараць *батóўйа.* **246** *вáрыва.* **248** *вáрава.* **249** Часцей за ўсё гавораць *вáрава;* рэдка — *бурáчн'ик, бац'в'йн'н'е, нац'йна.* **254** *вáрыва.* **261** *буракóўн'ик.* **264** *бурáшн'ик* — часцей; *бац'в'йн'н'е.* **270** *варóўн'ик.* **275** *вáрыва ў нас завýц' ц'и бац'в'йн'н'а.* **278** *вáрыва.* **279** *вáрыва.* **281** *буракóўн'ик.* **282** *нац'йнъ* — агульная назва; *бац'в'йн'н'а.* **291** *вáрава.* **298** *св'акóл'н'ик.* **303** *батóўн'ик.* **305** *бац'в'йн'н'а* — маладое, *батóўйе* — старое лісце. **307** *батóўн'ик.* **348** *бац'в'йн'иска.* **353** *бац'в'йн'ишча.* **354** *ц'ец'ев'éн'н'е.* **361** *ц'иц'ав'éн'е.* **370** *бурáчышча.* **376** *бац'в'йн'н'иско.* **377** *ц'иц'ав'éн'о.* **384** *бац'в'йн'иско.* **386** *бац'в'йн'ишчо.* **396** *бац'в'йн'н'е;* старэйшыя гавораць *ү'ичáн'о.* **407** *бурáчн'ик* — сустракаецца рэдка; *ү'ичáн'о.* **413** *бурачáн'ишчо.* **417** *бац'в'йн'иско.* **427** *ү'ичаны.* **452** *ү'ичаны.* **454** *бурáчнайо л'йс'ц'о.* **455** *бурачв'áн'ик.* **458** *бурачйó.* **490** *ц'ав'йна.* **494** *ц'áўйа.* **503** *ү'йчка.* **509** *бурáчн'ик;* маладое лісце — *бац'в'йн'н'а.* **536** *бурáчн'ик;* часцей — *бац'в'йн'н'е.* **539** *бац'в'йн'н'а;* радзей — *бурáчн'ик.* **546** *вáрыва.* **550** *бац'в'йн'н'е* — для свіней; *вáрыва* — для сябе; *нац'йна* — лісце ўсёй гародніны. **553** *вáрыва.* **569** *кал'йўйа.* **573** *кал'йўйа.* **579** *бац'в'йн'н'е;* рэдка — *нац'йна.* **628** *бурáшн'ик, бац'в'йн'н'а, буракóўн'ик, нац'йна* — *бурáшныйа л'исты.* **643** *буракóўн'ик, св'акóл'н'ик.* **645** *быракóўн'ик, св'акóл'н'ик.* **647** *быракóўн'ик, св'акóл'н'ик.* **667** *ү'ичаны.* **670** *бац'в'йн'ишчо.* **671** *бурачкав'éн'иско.* **672** *ботвын'е, боц'в'йн'е, бурачыен'е;* часцей за ўсё — *бурачéн'е.* **699** *үыче.* **701** *үычце.* **705** *бац'в'йн'ишчо.* **711** *бац'в'йн'ишча.* **714** *бурáчн'иско.* **726** *бадéл'л'е, хмелына.* **729** *үáн'н'е* — лісце ад буракоў. **731** *натына* — часцей; *бурачын'е.* **738** *үéчка.* **740** *үычкы.* **751** *бацв'йн'иско.* **762** *буракв'йнн'ик* — часцей; *ботв'йнн'ик.* **767** *буракóўнык.* **778** *ү'иц'йé.* **785** *ү'йчка.* **793** *буракóвайе л'йс'ц'йе.* **795** *ү'ичáн'н'ик.* **825** *бац'в'йн'н'е* — маладое лісце, *бурáчн'ик* — старое лісце. **831** *ү'ичýўн'ик.* **958** *үычка.* **988** *бац'в'йн'н'е;* рэдка — *бурáчн'ик.* **993** *ү'ичáрн'ик.*

## Карта № 283

### НАЗВЫ ПЛОСКУНЯЎ

Карта складзена на матэрыяле пытання № 202:

«Як у вас называецца: *пласко́нне, пласканіна, пласкуны́, зама́шкі, браніцы, ма́ніцы..?*»

У сувязі з тым, што асноўнай тэмай карты з'яўляюцца назвы мужчынскай асобіны канапель, адводзяцца ад картаграфавання словы, якія абазначаюць жаночую асобіну канапель.

У частцы адказаў прыводзіцца агульная назва каноплі, а таму знак на карце адсутнічае ў наступных нас. пп.: 19, 141, 142, 159, 192, 533, 693, 714, 792, 812, 866.

Знак не ставіцца і ў тым выпадку, калі ў матэрыялах ёсць заўвагі: «не ўжываецца», «канапель не сеюць» і да іх падобныя: 92, 162, 171, 306, 382, 394, 407, 411, 418, 659, 660, 663, 664, 665, 666, 667, 671, 673, 680, 681, 682, 687, 694, 695, 698, 700, 703, 729, 732, 749, 807, 947, 952, 960.

Як *пло́скуні* картаграфуюцца ў нас. пп. 724, 738, 741, 760, 768, 770, 776, 794, 961, 963, 964, 967 *пло́скуны;* 892, 894, 905, 914, 923, 926, 927, 929, 930, 931, 933, 935, 938, 940, 942, 987 *пло́сканні;* 931 *пло́скадні.*

Як *по́сканні* картаграфуюцца ў нас. пп. 550, 932 *по́скан'и;* 583 *па́скан'н'и;* 596, 617 *по́скадн'и.*

Як *пласко́ні* картаграфуюцца ў нас. пп. 23, 117, 139, 140, 153, 169, 199, 206, 216, 226, 231, 235, 275, 278, 281, 884, 896, 897, 900, 985 *пласко́н'н'и;* 512, 860 *пласку́н'н'и.*

Як *пласкуні* картаграфуюцца ў нас. пп. 96, 102, 237, 258, 260, 271 *пласкан'н'и́;* 349, 351, 353, 354, 360, 391, 405, 409, 413, 414, 415, 416, 420, 422, 441, 450, 454, 456, 458, 461, 497, 505, 560, 566, 639, 652, 657, 670, 676, 677, 683, 686, 689, 696, 705, 707, 708, 721, 726, 727, 730, 731, 734, 735, 737, 739, 744, 746, 762, 763, 764, 767, 768, 769, 771, 772, 773, 775, 780, 785, 793, 802, 803, 814, 821, 863, 871, 872, 908, 913, 962, 988, 1009, 1013, 1016, 1027 *пласкуны́;* 447, 817, 837 *пласку́ны;* 535, 965 *пл'аскуны́;* 701 *пласцуне́;* 658 *пл'искун'е́.*

Як *пасканí* картаграфуюцца ў нас. пп. 125, 128, 129, 133, 259, 290, 297, 305, 308, 624, 647 *паскан'н'и́;* 311, 641 *паскадн'и́,* 121, 292 *п'искан'и́;* 644 *пыск'ин'н'и́.*

Як *паско́ні* картаграфуюцца ў нас. пп. 294, 319, 322 *паска́н'н'и;* 326, 327, 576, 588, 606, 615, 643, 645 *паска́н'и.*

Як *пласко́нне* картаграфуецца ў нас. п. 26 *плыска́н'а.*

Як *пласканне́* картаграфуецца ў нас. пп. 88, 90 *пласкан'н'о́,*

Як *пло́скунь* картаграфуецца ў нас. пп. 388, 787 *пласку́н'.*

Як *выбіра́нцы* картаграфуецца ў нас. пп. 393, 401 *вы́б'ирн'ицы;* 404 *вы́б'ирын'ицы.*

У матэрыялах даюцца заўвагі аўтараў адказаў адносна картаграфуемых слоў.

У адказах наступных нас. пп. ёсць заўвагі аб тым, што картаграфуемыя словы абазначаюць назву тых канапель, якія «не маюць семя»,

## Карта № 292

### НАЗВЫ ПАКЛАДАНАГА КАБАНА

Карта складзена на матэрыяле пытання № 211:

«Як у вас называецца палягчаны кабан: *кабáн, парсю́к, выпру́к..?*»

У выпадку суіснавання некалькіх назваў, на карту наносяцца адпаведныя гэтым словам знакі.

Як *кабáн* картаграфуюцца *кабáнч'ик* у нас. пп. 420, 447, 459, 1025; *кабан'éц* — 906; *кабанок* — 25, 30, 49, 227.

Як *парс'у́к* картаграфуецца *парс'учóк* у нас. пп. 441, 509, 784, 814, 906; *парасюк* — 49, 514, 601, 795, 798, 815, 839, 886, 938, 972, 997, 1018.

Як *парш́ук* картаграфуецца *парашу́к* у нас. п. 803.

Як *в'апрук* картаграфуецца *выпру́к* у наступных нас. пп.: 654, 655, 656, 657, 660, 661, 662, 663, 665, 683, 689, 690, 691, 692, 693, 694, 695, 696, 698, 699, 700, 701, 702, 703, 704, 762, 952, 959, 960, 961.

Як *вап'éр'* картаграфуюцца *ву́п'ер* у нас. п. 128; *вап'ера* — 308.

Як *бóраў* картаграфуецца *бъравóк* у нас. п. 105.

Як *пóтсв'инак* картаграфуецца *патсв'йнак* у нас. пп. 64, 117, 562, 625, 636, 888, 981, 991; *пу́дсв'йнок* — 652, 1004.

Адсылачным знакам (зялёным крыжыкам) картаграфуюцца *пар* у нас. п. 85; *пар'у́к* — 16, 111.

Жоўтым крыжыкам картаграфуецца слова *вéпр* у нас. п. 761.

Агульным адсылачным знакам картаграфуюцца *кастрáт* у нас. п. 135; *к'ишку́н* — 1011.

Не заўсёды ў матэрыялах прыводзіцца адказ з тлумачэннямі. Бывае цяжка вызначыць, да пакладанага або непакладанага кабана адносіцца тая ці іншая назва. Таму на карту не наносяцца матэрыялы наступных нас. пп.: **100** *храк.* **114, 144, 344, 552, 664, 688, 759, 939, 946, 951** *кнур.* **241** *к'илу́н.* **275, 490, 522** *кныр.* **290** *курду́к.* **293** *склáɣ'ены.* **351** *к'ирнóс.* **478** *кныр, хр'ак.* **491** *кныр, кнóрас.* **610, 612** *хл'ак, кнур.*

У наступных нас. пп. падаюцца заўвагі збіральнікаў: **30** *парс'у́к — йак пахóжы ўжо, в'ал'ик'и; кабанóк — малы, к'ило п'аɣ'ис'áт.* **49** *парас'ук* — вялікі; *кабанóк* — малы. **64** *парс'у́к, патс'в'йнак — мáлый, злóжаны.* **65** *парс'у́к; кабáн* — яшчэ невялікі. **68** *парс'у́к; къбáн* — як маленькі. **71** *кабáн* — меншы, а *парс'у́к* — вялікі. **73** *парс'у́к; кабáн* — меншы. **78** *парс'у́к — бал'шый, кал'и дру́ɣ'ий ɣод, а да ɣоду — кабáн, кабáнчык.* **87** *кабáн; парс'у́к* — часцей. **115** *кабáн; парс'у́к* — невялікі кабан. **117** *къбáн* — вялікі; *патс'в'йнък* — малы; *парс'у́к.* **127** *парс'у́к,* а вельмі вялікі — *бóров.* **129** *кабáн;* больш — *в'апру́к.* **135** *бóръў; къстрáт* — на калгаснай ферме. **155** *кабáн* — да году; *парс'у́к* — больш года. **163** *кабáн;* вялікі — *парс'у́к.* **169** *кабáн, парс'у́к* — ужываюцца паралельна. **170** *кабáн; парс'у́к* — вялікі. **196** *парс'у́к* — вялікі; *кабáн* — падростак. **198** *парс'у́к* — кормлены; *кабáн* — невялікі. **227** *парс'у́к; кабанóк* — невялікі. **249** *парс'у́к, кабáн* — больш завуць. **282** *кабáн* — кормны; *парс'у́к.* **302** *кыбáн* — кормлены, вя-

лікі, жырны; *потс'в'инак* — няма году. **333** *вап'ер; кыбан* — рэдка. **349** *паршук* — кабан кормны. **372** *паршук* — кормны. **378** *паршук* — кормны. **383, 385** *паршук* — кормны. **404** *кабáн; паршук* — мала ўжываецца. **421** *парс'ук; паршук* — больш ужываецца. **430** *парс'ук; кабáн* — часцей. **484** *парс'ук,* але некаторыя завуць *йапруком.* **499** *кабáн — палягчаны; йапрýк* — гэта кормны, кормяць на сала. **501** *кабáн — палягчаны; в'апрýк* — як стары; *парс'ук* — малады. **502** *вылягчаны кабáнчык; йапрýк — палягчаны* кабан, якога кормяць на ўбой. **515** *кабáн; парас'ук* — малы. **536** *кабáн;* тут вядома *йапрýк,* але не гавораць. **539** *кыбáн* — вялікі; *парс'ук* — невялікі кабан. **601** *парас'ук* — малы; *кабáн* — вялікі. **604** *кабáн; парс'ук* — маленькі. **614** *кыбан; парс'ук* — радзей. **636** *кабáн* — вялікі; *кыбáн, патс'в'йнак* — меншы. **702** *кабáн; выпрýк* — большы. **712** *йапрýк; паршук* — больш пашырана. **750** *в'епрýк,* а цяпер — *кабáн.* **777** *йапрýк, в'апрýк*; больш пашырана *кабáн.* **780** *йапрýк — кабан на сала.* **783** *кабáн, йапрýк; парас'ук* — невялікі кабан. **795** *кабáн* — вялікі; *парас'ук* — невялікі. **798** *кабáн; в'епрýк* — калісьці звалі; *порос'ук* — маленькі. **800** *кабáн; в'епрýк* — калісьці людзі звалі. **814** *кабáн, парас'учóк; в'апрýк* — малы. **815** *кабáн* — кормны; *парас'ук* — маленькі; *потс'в'инак.* **839** *къбáн; пърас'ук* — малы. **874** *кабáн* — кормны. **886** *кабáн; парс'ук* — малы. **888** *кабáн; пас'в'инáк* — 6 месяцаў. **900** *кабáн* — кормны, надворны. **912** *парс'ук* — някормлены; *кабáн* — кормлены. **966** *кабáн* — якога паставілі на адкорм; *в'епрýк* — якi ходзіць па двары. **968** *кобáн; порс'ук* — да года. **970** *кобáн; опрýк* — худы. **972** *кобáн; порос'ук* — малы; *йепрýк* — дзікі. **975** *кобáн; парс'ук* — меншы. **981** *кабáн, пóдс'в'инак* — калі *палягчаны,* малога ўзросту. **991** *кабáн; пóдсв'инак* — сярэдні. **997** *кабáн* — вялікі; *парас'ук* — невялікі. **1018** *кабáн; парас'ук* — маленькі (рэдка). **1019** *кабáн* — гадаваны на сала.

## Карта № 293

## АГУЛЬНЫЯ НАЗВЫ СКАЦІНЫ

Карта складзена на матэрыяле пытання № 212:

«Агульная назва жывёлы: *скацíна, жывёла, худóба, тавáр..?*»

Заўвагі збіральнікаў і адзінкавыя назвы прыводзяцца ў каментарыях: **14** *скац'ина, скот* — ужываюцца паралельна. **23** *бы́дла;* рэдка — *скац'йна.* **24** *бы́дла;* радзей — *скац'йна.* **28** *скац'йна; скот* — радзей. **34** *бы́дла; скац'йна* — рэдка. **63** *скот; бадл'á* — рагаты скот. **71** *скац'йна; скот* — рэдка. **74** *жыв'óла* — часцей; вельмі рэдка — *скац'йна.* **78** *скот;* рэдка — *скац'йна.* **82** *скац'йна* — часцей ужываецца, але кажуць і *бы́дла.* **87** *скац'йна, жыв'óла;* часцей — *скот.* **96** *жывац'йна.* **98** *скот; жыв'óлу пакарм'йц'* (аб куранятах); *жыв'óлай* называюць карову ветэрынары. **128** *скот* — агульная назва жывёлы; адна якая-небудзь жывёла называецца *скац'йна.* **139** *жыв'ела.* **141, 142** *жыв'óла;* рэдка — *скац'йна.* **184** *скац'йна;* часцей — *жыв'óла.* **190** *жыв'óла; скац'йна* — толькі каровы. **222** *скац'йна, жыв'óла; бы́дла* —

каровы. **234** *жыв'ола;* часцей — *скац'йна.* **247** *быдл'á.* **295** *скот; жыв'óла* — менш. **298** *скот* — многа жывёлін; *скац'йна* — адна жывёліна. **357** *жыв'óла;* часам гавораць і *скац'йна.* **362** *бы́дла;* рэдка гавораць *жыв'óла* ці *скац'йна.* **374** *бы́дла* — гурт кароў; *скац'йна* — жывёла наогул. **386** *жы́в'ал.* **411** *скац'йна;* сустракаецца рэдка і слова *бы́дло.* **421** *жыв'óла;* іншыя словы не ўжываюцца, але па-руску *скац'йна;* зрэдку — *жыв'óла.* **523** *скац'йна;* радзей *скот.* **525** *скац'йна;* радзей *жыв'óла.* **529** *скац'йна;* радзей — *скот.* **531** *тавáр;* ведаюць назву *хвóст* у значэнні 'жывёліна'. **534** *скац'йна* — гэта і каровы, і свінні, і авечкі; *γаўйáда* — гэта толькі каровы. **541** *скац'йна; жыв'óла* — больш. **547** *жыв'óла;* шмат жывёлін — *тавáр.* **559** *скац'йна, худóба, жыв'óла, тавáр.* **562** *скот, скац'йна, жывйóла, тавáр* (каровы), *худóба.* **565** *жыв'óла, скот, тавáр, худóба;* старыя гавораць *тавáр.* **586** *скац'йна, скот* — ужываюцца паралельна. **592** *скац'йна;* рэдка — *шарс'ц'йна.* **604** *скац'йна; тавáр* — рагаты скот; *худóба* — старое слова, ужываецца часцей. **611** *скац'йна* — адна жывёліна; *скот.* **636** *скот; скац'йна* — адна жывёліна. **642** *скот, скац'йна, жыв'óла.* **643**, **645**, **647** *скац'йна, шарс'ц'йна.* **671** *скац'йна;* часцей — *бы́дло.* **674** *слабадá.* **702** *скст́ына, бы́дло; худóба* — радзей. **712** *скац'йна; слабадá* — больш пашырана. **722** *скот; скот'йна, жыв'óла* — ужываюцца радзей. **732** *скотé.* **808** *худóба; товáр* — толькі каровы. **810** *товáр* — толькі дойныя каровы; *худóба* — агульная назва жывёлы. **813** *скац'йна; жыв'óла* — называе «шляхта»; *худóба* — старое слова; *тавáр* — нямногія называюць кароў. **814** *скац'йна;* радзей — *жыв'óла; γаўйá.* **817** *тавáр* — толькі рагатая жывёла; *скот* — агульная назва для жывёлы. **821** *тавáр* — каровы. **829** *жывйóла, скац'йна* — агульная назва; *тавáр* — каровы. **831** *жыўйóла* — агульная назва; *тавáр* — каровы. **832** *жывйóла* — агульная назва; *тавáр* — толькі каровы; *скац'йна* — калі адна жывёліна. **843** *тавáр; скац'йна, жыв'óла* — рэдка. **851** *худóба, товáр;* рэдка — *скот.* **873** *скац'йна, тавáр, худóба, жыв'óл'ина.* **894** *скот* — часцей; *жыв'óла.* **901** *худóба* — уся жывёла; *тавáр* — *стáда карóў.* **909** *худóба* — агульная назва хатняй жывёлы; *тавáр* — буйная рагатая жывёла. **912** *худóба* — уся жывёла; *тавáр* — каровы, быкі. **937** *тавáр* — рагаты скот; *скац'йна.* **963** *тавáр* — каровы; *худóба.* **967**, **970** *товáр* — каровы. **973** *товáр* — часцей; даволі рэдка — *худóба.* **975** *товáр* — назва буйнай рагатай жывёлы. **977** *товáр* — каровы. **981** *худóба* — агульная назва для ўсёй хатняй жывёлы; *тавáр* — для буйнай рагатай жывёлы. **988** *скац'йна;* рэдка — *тавáр.* **989** *скот* — больш; яшчэ завуць *тавáр.* **992** *товáр;* радзей — *худóба.* **993** *товáр* — буйная рагатая жывёла; *худóба* — агульная назва жывёлы. **997** *скот; худóба* — уся скаціна; *тавáр* — буйная рагатая жывёла. **1004** *худóба, тавáр* — каровы, валы; карову могуць назваць *худóба;* цяпер могуць сказаць *скот.* **1005** *товáр, худóба;* рэдка — *скоц'йна.* **1011** *тавáр, худóба* — рагаты скот; *скот.* **1018** *скац'йна, жывйóла, худóба; тавáр* — каровы. **1024** *скот; тавáр* — каровы.

## Карта № 294

### НАЗВЫ ПЕЎНЯ

Карта складзена на матэрыяле пытання № 213:

*«Пéвень, пятýх, пяю́н, пявýн, кабáн..?»*

На гэтай карце картаграфуюцца назвы пеўня: *пятýх, пéвень, пявýн.*

Там, дзе ў адказах было адзначана суіснаванне розных назваў пеўня, усе яны адпаведнымі знакамі наносяцца на карту.

Ніжэй прыводзіцца матэрыял з тых нас. пп., дзе ёсць заўвагі збіральнікаў, а таксама адзінкавыя назвы, якія на карце абазначаны агульным адсылачным знакам: **6** *п'атýх;* радзей — *кóгут.* **14** *п'атýх, п'атóк.* **23** *п'атýх, кóгут.* **24** *п'атýх;* радзей — *кóгут.* **59** *п'атýх;* рэдка — *п'éв'ен'.* **214** *п'атýх;* рэдка — *п'éв'ен'.* **298** *п'атýх;* часцей — *п'éв'ен'.* **302** *п'éв'ен'* — часцей у размове; *п'атýх; п'авýн.* **338** *п'атýх;* радзей — *п'éв'ен'.* **341** *п'атýх, кóгут.* **392** *кóгут.* **430** *п'éв'ен';* часцей — *п'авýн, п'атýх.* **464** *п'авýн* — усе гаворацъ, а *п'éв'ен'* — рэдка. **509** *п'éв'ен'* — усе гавораць; *п'атýх — н'е ӡ'ерав'éнскайе слóва, рéдка.* **523** *п'éв'ен'*; радзей — *п'атýх.* **548** *п'éв'ен';* радзей — *п'атýх.* **565** *п'éв'ен';* радзей — *п'атýх.* **604** *п'атýх;* часцей — *п'éв'ен'.* **614** *п'атýх;* радзей — *п'éв'ен'.* **730** *п'éв'ен';* рэдка — *п'атýх.* **758**, **761**, **765** — *кабáн.* **820** *п'атýх* — рэдка; часцей — *п'éв'ен'.* **936** *п'атýх; п'éв'ен'* — гавораць старыя. **988** *п'éв'ен';* рэдка — *п'атýх.* **996** *п'атýх;* часцей — *п'éв'ен'.* **1005** *п'éв'ен';* рэдка — *п'атýх;* **1018** *п'атýх;* часцей — *п'éв'ен'.*

## Карта № 295

### НАЗВЫ КУРЫЦЫ, ЯКАЯ ВОДЗІЦЬ КУРАНЯТ

Карта складзена на матэрыяле пункта «в» пытання № 214:

«*Квактýха, квакýха, квóчка...* Ці няма розніцы ў назве курыцы: а) якая збіраецца сесці на яйкі, б) якая сядзіць на яйках, в) якая водзіць куранят?»

На гэтай карце картаграфуюцца назвы курыцы, якая водзіць куранят.

Там, дзе ў адказах было адзначана суіснаванне розных назваў, усе яны адпаведнымі знакамі наносяцца на карту.

Як *куравóдка* картаграфуюцца словы ў наступных нас. пп.: **180** *куравáтка.* **424**, **443**, **447** *курóватка.*

Як *мáтка* картаграфуецца слова *мáтачка* ў нас. п. 437. Адсылачнымі знакамі абазначаюцца адзінкавыя назвы ў наступных нас. пп.: **94** *ӡ'ац'íха.* **189** *курáчн'ица.* **219** *куртáшн'ица.* **224** *курáтн'ица.* **243** *ӡ'ац'íн'ица.* **256** *ӡ'иц'авóӡ'ица.* **273** *ск'ал'áтн'ица.* **295** *ӡ'ац'íн'ица.* **459** *куравóдн'ица.* **466** *курчавóдка.* **469** *куравóтн'ица.* **503** *куран'áтна кýрыца.* **540** *ӡ'ац'íвуха.* **696** *кýрыца с куран'áт'мы.* **784** *куран'áтна кýра.* **785** *куран'áтна.* **866** *ваӡ'íц'илка.* **888** *курá.* **914** *ӡ'ац'íвадка.* **920** *ӡ'ец'íвадка.* **933** *д'ат'ивóдка.* **976**, **978**, **979**, **983**, **987** *квóкл'а.*

## Карта № 296

## НАЗВЫ КУРАНЯТ

Карта складзена на матэрыяле пытання № 215:

*«Кураняты, цыпляты, цыпляняты, цуканяты...»*

На гэтай карце картаграфуюцца назвы куранят: *кураняты, курчаты, курчаняты, курчукі, цыпляты, цыпляняты, цыплюкі, піскляты, пыляняты, цівяняты.*

Там, дзе ў адказах было адзначана суіснаванне розных назваў куранят, усе яны адпаведнымі знакамі наносяцца на карту.

Фанетычныя асаблівасці на карце не адзначаюцца.

Як *цыпл'аты* картаграфуецца слова *цыпл'атк'и; курчучк'й* як *курчук'й* ў нас. п. 6.

Як *п'искл'аты* картаграфуецца слова *п'ишкл'аты* ў нас. п. 204.

Ніжэй прыводзіцца матэрыял з тых нас. пп., дзе ёсць заўвагі збіральнікаў, а таксама адзінкавыя назвы, якія абазначаюцца на карце агульным адсылачным знакам: **6** *курчучк'й, ц'ипл'атк'и, курчаты* — ужываюцца паралельна. **23** *курчаты;* радзей — *ц'ипл'аты.* **25** *ц'ипл'ата, курчата — үета адно, инакш н'е кажуц'.* **30** *ц'ипл'аты,* а як большыя — *курчаты.* **33** *курчаты* — большыя, *ц'ипл'аты* — як выходзяць з яек. **34** *ц'ипл'аты, курчаты — ус'о адно, начай н'е называйуц'.* **46** *п'искл'аты; курчак'й* — больш; *крап'йўн'ик'и* — калі курыца нанясе яек і высядзіць. **47** *курчук'й* — радзей; часцей — *п'искл'аты.* **55** *ц'ипл'аты;* радзей — *куран'аты.* **73** *ц'ипл'аты; курчаты* — гавораць старыя. **150** *куран'аты, курчаты* — паралельна. **161** *цыпл'аты* — найбольш пашырана; *пыл'ук'й.* **174** *куран'аты;* часцей — *курчаты.* **181** *курчаты, куран'аты* — паралельна. **184** *курчаты; куран'яты* — пераважна. **198** *п'искл'аты* — маленькія; *курчаты* — калі падрастуць. **199** *пыл'ук'й, пыл'аты.* **204** *цыпл'аты, куран'аты, п'ишкл'аты;* часцей — *курчаты.* **220** *куран'аты;* часцей — *пыл'ан'аты.* **227** *цыпл'аты;* часцей — *п'искл'аты.* **243** *пыл'атк'и.* **311** *куран'аты; цыпл'аты; п'искл'аты* — вельмі пашырана. **481** *цыпл'ата;* часцей — *пыл'ан'аты.* **517** *куран'аты* — рэдка; часта — *пыл'ан'аты.* **548** *пыл'ан'ата* — часцей; *куран'ата, цыпл'ата.* **550** *п'искл'аты;* рэдка — *куран'аты.* **687** *куран'аты;* радзей — *цыпен'ата.* **706** *куран'аты;* радзей — *цыпл'ата.* **739** *цыпукы.* **784** *куран'аты;* радзей — *цыпл'ан'ата.* **795** *ц'ип'ан'ата; куран'ата* — калі трохі большыя. **801** *куран'ата* — агульная назва; *цыпл'ан'ата* — калі водзіць і калі не водзіць курыца. **835** *куран'ата;* радзей — *цыпл'аты.* **973** *ц'ипл'ук'й; куран'ата* — большыя; *цыпл'ата* — малыя. **977** *молодўшк'и* — падрослыя; *цыпл'ата* — малыя. **986** *цыпл'ата* — толькі што выveліся; *куран'ата* — 2—3-месячнага ўзросту. **988** *куран'ата;* рэдка — *цыпл'ата.* **1011** *пыл'ан'ата* — маленькія; *куран'ата* — большыя. **1027** *цыпл'ата;* радзей — *куран'ата.*

## Карта № 297

## НАЗВЫ КАЧКІ

Карта складзена на матэрыяле пытання № 216:

«*Ка́чка, ву́тка..?*»

Ніжэй прыводзіцца матэрыял, які картаграфуецца адсылачнымі знакамі, матэрыял з заўвагамі збіральнікаў і носьбітаў дыялекту, заўвагі аб адрозненнях у назвах свойскай і дзікай качкі: **6** *ву́тка;* радзей — *ка́чка.* **24** *ву́тка;* радзей — *ка́чка.* **30** *ву́тка;* рэдка — *ка́чка.* **40** *ка́чка—бол'ий ны дыма́шн'ийу, а ву́тка — на г'икуйу.* **50** *ка́чка; ву́тка* — дзікая. **86** *ка́чка* — рэдка; *ву́тка.* **98** *ву́тка, ка́чка;* часцей — *ву́тка.* **104** *ву́тк'и;* рэдка — *ка́чк'и.* **160** *качка́.* **165** *ву́тка* — маленькая; *ка́чка* — вялікая. **192** *ка́чк'и;* гавораць і *ву́тк'и; ка́чка* — дзікая; *ву́тка* — свойская. **210** *ка́чка;* радзей — *ву́тка.* **234** *ка́чка, ву́тка;* часцей — *ву́тка.* **317** *ву́тка; ка́чка* — дзікая вутка. **430** *ка́чка* — гавораць старыя; *ву́тка* — больш пашыранае, па-руску. **434** *ка́чка, ву́тка;* часцей — *ву́тка.* **481** *ка́чк'и, у́тк'и* — ужываюцца як раўназначныя. **509** *ву́тка і ка́чка* — ужываюцца паралельна. **514** *ка́чка;* радзей — *ву́тка.* **563** *ка́чка; ву́тка* — дзікая. **565** *ка́чка, ву́тка.* **586** *ву́тка;* рэдка — *ка́чка.* **686** *качкы́.* **753** *вутва́* — лясная; *дама́шн'их ка́чак н'ама́.* **774** *ка́чка* і іншы раз—*ву́тка.* **779** *ка́чка* — часцей; *ву́тка.* **783** *ву́тка;* радзей — *ка́чка.* **784** *ву́тка* — часцей; *ка́чка.* **788** *ву́тка;* часцей — *ка́чка.* **791** *ву́тка;* часцей — *ка́чка.* **798** *ка́чка;* радзей — *ву́тка.* **814** *ка́чк'и; ву́тк'и* — дзікія. **816** *ка́чка;* часам гавораць і *ву́тка.* **823** *ка́чка;* рэдка — *ву́тка.* **825** *ка́чка;* рэдка — *ву́тка.* **834** *ка́чка; ву́тка* — дзікая. **864** *качка́.* **882** *ка́чка; ву́тка* — дзікая. **977** *ка́чка* — дамашняя; *вутва́* — дзікая. **1005** *ка́чка;* рэдка — *ву́тка.* **1012** *ка́чка;* ужываецца і *ву́тка.* **1016** *ка́чка;* рэдка — *ву́тка.* **1021** *ву́твы.*

## Карта № 298

## ПАШЫРЭННЕ СЛОЎ акацілася І ягнілася (У АДНОСІНАХ ДА АВЕЧКІ)

Карта складзена на матэрыяле пытання № 218:

«Авечка *ко́тная...* Як скажуць: авечка *ягнілася* ці *акацілася..?*»

У народных гаворках побач са словам *акацілася* (амаль на ўсёй тэрыторыі Беларусі) сустракаецца слова *ягнілася,* якое займае невялікую частку поўначы Беларусі. На карце картаграфуецца пашырэнне гэтых слоў. Калі ў адказах было адзначана суіснаванне розных слоў, то адпаведнымі знакамі ўсе яны наносяцца на карту.

Фанетычныя варыянты слоў перадаюцца адным знакам: 204, 209, 227, 496 *пакац'йлас'.* 320 *скац'йлыс'а.* 503 *пако́чвал'ис'а.* 950 *обкоты́лас'а.* 85, 107, 111, 112, 113, 119, 120, 121, 123, 124, 125, 126, 127, 129, 130, 131, 133, 135, 171, 228, 250, 258, 270, 295, 304, 309, 310, 324, 328, 330, 331, 332, 333, 334, 336, 338, 340, 352, 355, 375, 386, 434, 496, 578, 588, 594, 598, 603, 605, 608, 609, 614, 616, 619, 621, 623, 624, 626, 627, 628, 630, 631, 633,

634, 635, 639, 644, 646, 648, 650, 672 *кац'йлас'а.* 82, 204, 220, 227 *пакац'йл'ис'а.* 655, 657, 693, 697, 704 *укутылас'а.*

Агульным адсылачным знакам абазначаюцца розныя адзінкавыя назвы: 11, 195, 499, 502, 956 *прыв'алá йаγн'áты.* 128 *ац'ал'йлас'а.* 195, 536 *раґ'йла.* 350, 474 *абл'изн'йлас'а* — калі прывяла двайню. 957 *обродылас'а.*

У каментарыях прыводзіцца матэрыял з заўвагамі збіральнікаў: **7** *ав'éчка акац'йлас'а;* рэдка — *айаγн'йлъс'а.* **128** *ав'éчка кац'йлас'а.* Калі прывядзе адно ягня, то кажуць — *ав'éчка ац'ал'йлас'а.* **210** *ав'éчка акац'йлас'а; айаγн'илас'а* — рэдка. **243** *ав'éчка акац'йлас'; йаγн'йлас'* — старая назва.

## Карта № 299

### ДЗЕЯСЛОЎ ржэ (АБ КАНІ) І ЯГО АДПАВЕДНАСЦІ

Карта складзена на матэрыяле пытання № 219:

«Конь *ржэ, ржэць, рагóчыць...*»

На гэтай карце картаграфуюцца дзеясловы *ржэ, рагóча, рэ́хча, гагóча, вішчыць.*

Ніжэй прыводзіцца матэрыял з тых нас. пп., дзе ёсць заўвагі збіральнікаў, а таксама адзінкавыя назвы, якія абазначаюцца на карце агульным адсылачным знакам: **5** *иржéц' кабыла с кóн'м'и; гагóчац' кабыла з жараб'óм.* **12** *кóн' иржéц'; γаγóчыц', йак п'йц' хóчыц'.* **13** *кóн' иржéц', γаγóчыц' кабыла па жараб'áц'и.* **23** *γаγóчыц';* радзей — *йиржéц'.* **25** *кóн' γаγóчыц'; кабыла иржéц'.* **28** *γаγóчыц';* радзей — *ржéц'.* **32** *кон' раγóчац'; жараб'ó иржéц'.* **35** *иржéц'; раγóчыц'* — радзей. **64** *кон' иржéц'; жарабóк γаγóчыц'.* **65** *кон' иржéц'; жараб'éц γаγóчыц'.* **71** *кон' иржéц'; жараб'éц γаγóчыц'.* **133** *иржéц'; γаγóчыц'* — ад злосці. **135** *ржéц'; γаγóчыц'* — ад злосці. **193** *йиржéц'* — калі многа коней. **274** *кон' ржéц'; жараб'éц раγóчыц'.* **302** *раγóчыц';* часцей — *ржéц'.* **305** *кон' иржéц'; жараб'óнач'ик р'аγóч'иц'.* **530** *рéхча* — гавораць старыя; *иржé* — моладзь. **568** кон' *ржé, рéмжа.* **721** кон' *ржé, раγóча, рéмжа.* **756** кон' *ржé, рéмжа.* **787** *иржé;* часцей — *раγóча.* **849** *рéмже.* **892** *рéмжа.* **901** *ржé, рéмжа.* **950** *верешчыц'.* **981** *м'ирγ'йче.*

## Карта № 300

### ПАШЫРЭННЕ ДЗЕЯСЛОВАЎ раве, рыкае (АБ КАРОВЕ)

Карта складзена на матэрыяле пытання № 220:

«Як у вас называецца: карова *мычыць, равé, рыкае, мýкае?*»

Адводзяцца ад картаграфавання такія словы, як *мычыць, мукае, мыкае* і інш., якія, як відаць з заўваг, маюць іншае значэнне.

У каментарыях прыводзіцца матэрыял з заўвагамі збіральнікаў ці носьбітаў гаворкі аб значэнні картаграфуемых слоў і адзінкавыя словы, якія абазначаюцца на карце адсылачнымі знакамі: **2** Карова — *рав'éц'; м'ичыц'* — як целіцца. **6** Карова — *рав'éц';* калі ціха — *м'ичыц'.*

**7** *мычыц'* — ціха; *рыкáйец'* — моцна. **8** *мычыц'* — ціха; *рав'éц'* — моцна. **9** *рав'éц';* як целіцца — *м'ичыц'.* **11** Карова — *рав'éц', рыкáйец';* часцей — *рав'éц'; рыкáйец' — памáлу, кал'и́ чу́йе γаспадарá.* **12** Карова — *м'ичыц'* памалу; *рав'éц* — моцна *рыкáйиц'.* **13** Карова — *рыкáйиц'; рав'éц' на ус'ý γлóтку; мычыц'* — памалу. **23** *карóва йак крéпка — рав'éц'; ц'и́ха — м'ичыц'.* **25** *рав'éц' — йак крéпка; м'ичыц' — ц'и́ха, тóка мыкайиц', а н'е рав'éц'.* **30** *рав'éц' на ув'éс' γóлас; м'ичыц'.* **31** Карова — *рав'éц';* цялё — *мычыц'.* **34** *м'ичыц'* — карова; *рав'éц', йак крéпка.* **35** *рав'éц'; мычыц'* — калі раве памалу, слаба. **42** *рыкайит', мич'и́т'.* **46** *рыкайиц'; мычыц'* — як піць хоча. **57** *рав'éц'* — моцна; *мычыц'* — ціха. **63** *м'ичыц'* — ціха; *рав'éц'* — моцна. **64** Карова — *рав'éц'; м'ичыц'* — ціха. **65** *рыкáйиц' — йак йéс'ц'и хóчыц', йак ц'ал'óнка прымуц'; м'ичыц' — кал'и́ ц'ал'óнак атх'ин'éцца.* **66** Карова — *рав'éц'; м'ичыц', кал'и́ ц'и́хан'ка.* **67** Карова — *мычыц'; рав'é — γрóмка.* **68** Карова — *рыкáйиц'; м'ичыц', йак йéс'ц'и хóчыц'; карóвы равýц', йак бадýцца.* **69** *м'ичыц'* — ціха; *рыкáйиц'* — моцна. **70** *м'ичыц'; рав'éц'* — больш моцна. **71** Карова — *рав'éц' и рыкáйиц', йак п'иц' ц'и йéс'ц'и хóчыц'; м'ичыц' — йак ц'éл'ицца.* **72** Карова *рав'éц' на ув'éс' γóлас, а мычыц' — ц'и́хан'ка п'ерат ц'óлам.* **73** Карова — *рав'éц'; нóччы м'ичыц'* — ціха. **74** Карова — *рав'óц'; а кал'и́ ц'и́ха — γавóруц' м'ичыц'.* **78** *ц'и́хън'ка м'ичыц', а йак γрóмка — рав'éц'.* **80** Карова — *м'ичыц', рыкáйиц', рав'éц'; м'ичыц' — каγдá у йайé ц'ал'óначак.* **87** Карова *рав'éц' — γромка; м'ичыц'* ціха — *кал'и з малы́м ц'ал'óнкам.* **88** *рав'éц'* — моцна; *мычыц'* — ціха. **91** *мычыц', рав'éц'; мычыц' — кал'и́ ц'éл'ица.* **95** *рав'éц' — йак γрóмка, йак ц'и́хан'ка — м'ичыц'.* **99** *мычыц'* — ціха; *р'ив'éц'* — моцна. **101** Карова — *рав'éц'; кала ц'ал'óнка мычыц'.* **104** Карова — *рав'éц'; па ц'ал'óнку мычыц'.* **117** *рав'éц' — у пóл'и; м'ичыц' — у хл'ав'é.* **119** *р'ив'éц'; м'ичыц' — кал'и́ йес' хóч'иц'.* **125** Карова *р'ив'éц'; у хл'éв'и — м'ичыц'.* **126** Карова — *мычыц', р'ев'éц'; м'ичыц' дýжа ц'и́ха.* **129** *р'ив'éц' — γрóмка; м'ичыц' — ц'ихóн'ичка.* **130** Карова — *р'ев'éц'; м'ичыц' — н'аўпóлный γóлас.* **133** Карова *мычыц' — ц'и́ха; р'ив'éц' — γрóмка, γрóзна.* **134** *м'ичыц', рав'éц'.* **135** *мычыц'; р'ив'éц' — γрóмка.* **179** *рав'éц'* — моцна; *мычыц' — ціха.* **181** Карова *мычыц'; рыкáйа — γóласна.* **184** Карова — *рыкáйа, рав'é, м'ичыц';* ужываюцца паралельна. **192** Карова — *м'ичыц'; рав'éц' — γрóмка.* **195** Карова — *рав'éц'; м'ичыц'* — цішэй. **214** *рыкáйе, мычыц', м'и́кайа* — ціха. **215** *рыкáйа, мычыц'.* **220** Карова — *мычыц'; рав'éц' дык йéс'л'и зγýб'ицца.* **222** *мычыц'* — ціха; *рав'é, рыкáйе.* **227** *м'ичыц'* і *рав'ец'; м'ичыц' — γéта трóшку.* **235** Карова — *рав'éц'; м'ичыц', йак ц'éл'ицца.* **237** *м'ичыц'* — ціха; *рыкáйиц'* — моцна. **242** *мычыц'* — ціха; *рав'éц'.* **244** Карова *рыкáйа* — моцна, а *м'ичыц' памал'éн'ку.* **246** Карова — *рав'éц', а ц'ал'óначак рыкáйа.* **249** Карова — *рав'é; йак памал'éн'ку ў хл'éв'е — кáжуц' мычыц'; рыкáйе.* **253** Карова — *рыкáйе,* радзей ужываецца *мычыц'.* **265** *мычыц'* — ціха; *рав'é.* **269** *рав'éц'* — моцна; *рыкáйе, м'ичыц'* — ціха. **274** *мыкайиц'* — ціха; *рыкáйиц'* — моцна. **280** *рав'éц';* ціха — *мъчыц'.* **283** *мычыц'* — ціха; *рав'é* — моцна. **289** *рыкáйе; рав'é* — як нядоеная; *мычыц'* — ціха. **295** *мычыц'* — ціха;

*рав'єц'* — моцна. **296** *р'ав'єц', м'ичыц'* — *н'ема.* **297** *рав'єц' н'ечъүа карова, п'иц' хочыц'.* **298** Карова *мычыц'* — не адкрываючы пысу; *рав'єц'* — голасна і адкрыўшы шырока пысу. **300** *рав'єц'* — моцна; *м'ичыц'* — ціха. **301** *мычыц' — ц'их'ин'ка; рав'єц'* — моцна. **302** *мычыц'* — калі пыса закрыта, просіць есці; *р'ав'єц'* — пысу адкрыўшы і гучна; *кр'ичыц'* — тое ж, што і *р'ав'єц'.* **313** *рав'е* — моцна; *мычыц'* — ціха. **338** *р'ав'єц'; мычыц' — ц'иха р'ав'єц'.* **369** *рыкайа; рав'е* — калі карова галодная. **372** *карова үаладн'утка прышла — рыкайа.* **379** *карова рыкайа и рав'е, йак вады захоча.* **419** *рав'е, рыкайа* — у адным значэнні. **421** *рав'е, рыкайе* — розніцы няма. **426** *мычыц', рав'е, рыкайе* — ужываюцца паралельна. **430** *рыкайе* — хоча есці; *рав'е* — ёй дрэнна. **442** *рыкайа, мычыи'; рав'е* — са злосці. **464** *рыкайа; м'икайе* — калі целіцца. **474** Карова *рыкайа; ц'ал'о мычыц', мукайе, м'екайе.* **481** *мукайа; мычыц'* — ціха; *рыкайа* — моцна. **484** *рыкайе* — моцна; *м'икайе* — памаленьку. **487** Карова *мукайа, м'икайа* — ціха; *рав'е* — моцна. **501** *рыкайе; рав'е, йак ц'ал'атка зарежуц'.* **516** Карова *рыкайе; буүай рав'е.* **518** Карова *мычыц'* — ціха; *рыкайа* — моцна. **540** *рыкайа* — калі астанецца; *рав'е* — калі кроў убачыць; *мычыц'* — цялё. **547** *мычыц';* рэдка — *рыкайе.* **588** *р'икайе, рав'єц'; м'ичыц' — йак йесц'.* **596** *рав'е* — моцна; *рыкайе* — ціха. **601** *мычыц'* — ціха; *рыкайе, рав'е.* **604** *рав'е, рыкайе* — моцна; *мукайе* — ціха. **633** *мычыц'* — ціха; *р'икайиц'.* **651** *рыче.* **661** *мычыт, рычыт.* **676** *мычыт* — як целіцца; *рав'е* — па цяляці; *рыкайе* — хоча есці. **678** *мычыт; рыкайе* — моцна. **679** *рыкайе* — моцна; *мычыт* — ціха. **730** *коровы рыкайут', волы рывут'.* **770** *рыкайе — үолосно; мыркайе.* **785** *рыкайе; м'икайе* — есці хоча. **795** *рыкайе — ад стада астан'єцца; м'ичыц' — да ц'ел'ац'и иг'е.* **798** *рыкайе;* радзей — *мукайе.* **800** *рыкайе* — моцна; *м'икайе, мукайе* — ціха. **805** *рыкайе, м'икайе* — хворая ці да цяляці хоча. **815** *рыкайа* — моцна, *м'икайе* — ціха. **817** *рыхкайе.* **819** *рыкайе; мукайе* — гаворыць малыя дзеці; *м'икайе* — хворая. **818** *рыкайе* — моцна; *мукайе* — ціха. **821** *рыкайе* — моцна; *м'икайе* — ціха. **822** Карова *рыкайа; ц'ал'а рав'е.* **823** *рыкайе; м'икайе* — як хворая; *рав'е — кал'и знойг'е падлу.* **832** *рыкайе — иг'е дадому в'ас'олайа; рав'е — йак хоча бадацца; м'икайе — кал'и ц'ел'ицца.* **850** *рыкайе* — ціха; *рев'е* — моцна. **900** *рыкайе; мычыц'* — ціха. **914** *рыкайет; мыч'ет* — ціха. **950** *мычыц', рычыц'.* **955** *телетко мекайе; корова реве, мукайе.* **958** *рове;* часцей — *рыкайе.* **993** *м'икайе; реве* — моцна.

## Карта № 301

### ДЗЕЯСЛОЎ мяўкае (АБ КОШЦЫ) І ЯГО АДПАВЕДНАСЦІ

Карта складзена на матэрыяле пытання № 221:
«Кошка *мяўкае, мяўчыць, яўкае, каўкае..?*»

На гэтай карце картаграфуюцца дзеясловы *мяўкае, каўкае, курняўкае, яўкае, няўчыць, княвае.* Картаграфуецца таксама дзеяслоў *крычыць* (хоць гэты дзеяслоў наогул мае больш шырокае значэнне), па-

колькі ён, як указваецца ў матэрыялах некаторых нас. пп., з'яўляецца адзіным.

Фанетычныя асаблівасці на карце не адзначаюцца.

У наступных нас. пп. адводзяцца ад картаграфавання дзеясловы, якія не адпавядаюць адказу на пытанне: **28** *курчыць*. **191** *міркóча*. **350** *мруџыць, мурчыць*. **401**, **501**, **838** *мурлыча*. **474**, **502** *мармыча*. **467** *ёнчыць*. **548, 550, 795, 864** *бурчыць, вурчыць*. **722** *ячыць*. **716**, **799**, **834**, **836**, **837** *рáўкае*. **932** *мікае*. **959** *мураўчыць*. **971** *мерчыць*. **976**, **977**, **978** *мáркае*.

Ніжэй прыводзіцца матэрыял з тых нас. пп., дзе ёсць заўвагі збіральнікаў: **25** *курн'áўкаиц', кáўкаиц', м'áўкаиц'; крычыц'* — як б'еш; больш пашырана — *курн'áўкайиц'*. **63** *курн'áўкайиц'* — як у хату просіцца. **74** *крычыц'; курн'áўкайиц'* — пяе. **90** *кáўкайец'* — гавораць старыя; *м'áўкайец'* — моладзь. **210** *курн'áўкайа* — як дзеці гуляюць; *м'áўкайа*. **249** *кáўкайе; курн'áўкайе* — калі ляжыць і паціхенечку пяе. **614** *м'áўкыйиц';* часцей — *кáўкыйиц'*. **924** *м'áўкайа;* радзей — *кáўкайе*. **1016** *кáўкайе;* рэдка — *м'áўкайе*.

## Карта № 302

## ДЗЕЯСЛОЎ бляе (АБ АВЕЧЦЫ) І ЯГО АДПАВЕДНАСЦІ

Карта складзена на матэрыяле пытання № 223:

«Авечка *бляé, крычыць...*»

На гэтай карце картаграфуюцца дзеясловы *бляé, бэ́кае, мэ́кае, блэ́кае, крычыць, бычыт*.

Там, дзе ў адказах было адзначана суіснаванне некалькіх варыянтаў, усе яны адпаведнымі знакамі наносяцца на карту.

Фанетычныя асаблівасці на карце не адзначаюцца.

Ніжэй прыводзіцца матэрыял з тых нас. пп., дзе ёсць заўвагі збіральнікаў, а таксама адзінкавыя назвы, якія абазначаюцца на карце агульным адсылачным знакам: **42** *кричúт';* часцей — *бл'айéт'*. **67** *бл'акóчыц'*. **105** *маркóчыц'*. **125** *крычыц', маркóчыц'*. **131** *маркóчыц'*. **135** *м'аркóчыц'*. **197** *бл'айéц'; м'иркóчыц'* — да ягняці. **407** *бл'айé; крычыц'* — ноччу. **601** *бл'айé* — гавораць усе; радзей — *крычыц'*. **760** *м'еүéче*. **764** *м'еүéче* — часцей; радзей — *бл'айé*. **823** *бл'áўкайе, з'в'áүайе*. **979** *йéкайе*. **769**, **771**, **772**, **859**, **959** *блéкайе*.

## Карта № 303

## ДЗЕЯСЛОЎ квакаюць (АБ ЖАБАХ) І ЯГО АДПАВЕДНАСЦІ

Карта складзена на матэрыяле пытання № 226:

«Жабы *квáкаюць, крýмкаюць, квóкчуць...*»

На гэтай карце картаграфуюцца дзеясловы *квáкаюць, квóкаюць, крýмкаюць, кýмкаюць, квóкчуць, крэ́кчуць, крáхаюць, крычáць, турчáць, сквярýцца*.

Там, дзе ў адказах было адзначана суіснаванне некалькіх варыянтаў, усе яны адпаведнымі знакамі наносяцца на карту.

Як *крýмкайуц'* картаграфуюцца словы: 184 *крумкóчуц'*. 754 *крáмкаюц'*.

Фанетычныя асаблівасці на карце не адзначаюцца.

Ніжэй прыводзіцца матэрыял з тых нас. пп., дзе ёсць заўвагі збіральнікаў, а таксама адзінкавыя назвы, якія абазначаюцца на карце агульным адсылачным знакам: **11** *жáбы квóкчуц'; йáк идýц' на нóрасты — крéкчуц'; кукýйуц'*. **12** *жáбы квóкчуц' в'аснóй;* рэдка — *трýб'ац'; кукýйуц'* — летам. **14** *ɣ'арýцца.* **32** *квóкчуц';* часцей — *крáхайуц'*. **98** *квóкчац', крычáц'; жáба скв'арéцца — надсáдна крычыц'*. **132** *тарóчуц', журлычуц'*. **135** *квóкчуц'* — рэдка; часцей — *квáкайуц'*. **149** *ц'áўкайуц'*. **174** *квóкчуц';* часцей — *крéкчуц'*. **184** *крýмкайуц';* часцей — *турчáц'*. **241** *трáхайуц'*. **249** *жáба крáхайе;* радзей — *квóкча*. **369** *рáўкайуц'*. **406** *кýмкайуц';* часамі гавораць — *квáкайуц'*. **430** *крýмкайуц'* — на пагоду; *кувéкайуц'* — на дождж. **438** *квáкайуц', кýркайуц'*. **443** *квáкайуц', кýркайуц'*. **485** *крýмкайуц', кул'íкайуц'*. **496** *крýмкайуц', кýмкайуц', кóкайуц'*. **560** *кáўкайуц'*. **565** *квóкчуц';* часцей — *крýмкайуц'*. **586** *кýкайуц'*. **587** *квóкчуц', кýкайуц'*. **609** *кóхыйуц'*. **628** *ɣ'арýцца*. **651** *кравчáт'*. **660** *квáкайуц', крамчáт*. **682** *квáкайут;* рэдка — *крýмкайут*. **696** *жáбы квáкайут', рáйкайут'*. **706** *крáўкайуц'*. **743** *кýркайуц'*. **754** *крýмкайуц'; крáхайуц'* — вечарам; *кýмкайуц'* — днём. **800** *крýмкайуц', г'ерг'éчуц', крáчуц'*. **805** *крýмкайуц', квáкайуц', скараɣáчуц' жáбы*. **872** *крýмкайуц';* радзей — *кýмкайуц'*. **938** *квáкайуц'; крýмкайуц'* — перад дажджом. **950** *крач'áц' жáбы* — вечарам; *кýмкайуц'* — днём. **953** *кровчýт'*. **956** *кýмкайут'* — вясной; *райкóт'ат'* — вечарам. **976** *жáб'и кýмкайут', кр'éкчут', г'éгайут'*.

## Карта № 304

## ПАДЗЫЎНЫЯ СЛОВЫ ДЛЯ КАРОЎ

Карта складзена на матэрыяле пункта «б» пытання № 227:

«Падзыўныя словы:

б) для кароў: *цёсь-цёсь-цёсь, тпрусь-тпрусь;* па клічцы: *лыска-лыска...*»

Ніжэй прыводзіцца матэрыял з тых нас. пп., дзе ёсць заўвагі збіральнікаў, а таксама адзінкавыя назвы, якія абазначаюцца на карце агульным адсылачным знакам: **14** *пс'ýх-пс'ýх-пс'ýх*. **674** *пус-пус-пус*. **738** *в'ис'-в'ис'-в'ис'*. **749** *п'е-п'е-п'е*. **769** *тыл'ú-тыл'ú, бéц'у-бéц'у;* па клічцы. **785** *пс'é-пс'é, с'éпка-с'éпка*. **795** *кс'о-кс'о-кс'о;* маладых — *ц'елýх-ц'елýх*. **969** *с'ок-с'ок-с'ок*. **983** *нйá-нйа-нйа*. **992** *тас'-тас'-тас'*.

## Карта № 305

## ПАДЗЫЎНЫЯ СЛОВЫ ДЛЯ АВЕЧАК

Карта складзена на матэрыяле пункта «в» пытання № 227:

«Падзыўныя словы:

в) для авечак: *шу-шу-шу, шут-шут-шут, шýркі-шýркі...*»

Там, дзе ў адказах было адзначана суіснаванне розных падзыўных слоў для авечак, усе яны адпаведнымі знакамі наносяцца на карту.

Ніжэй прыводзяцца адзінкавыя назвы, якія абазначаюцца на карце агульным адсылачным знакам: **2** *баша-баша-баша.* **67** *б'е-б'е-б'е.* **128** *тпрош-тпрош, лабон'-лабон-лабон'.* **292** *баше-баше-баше.* **303** *с'ур-с'ур-с'ур.* **330** *с'ур-с'ур-с'ур.* **334** *с'ур-с'ур-с'ур.* **336** *туп-туп-туп.* **338** *тут-тут, шуту-шуту.* **339** *с'ур-с'ур-с'ур.* **573** *пас'-пас'-пас'.* **652** *шун'и-шун'и-шун'и, баз'у-баз'у.* **808** *пше-пше-пше.* **840** *с'ц'и-с'ц'и-с'ц'и.* **966** *па-па-па, бурос'ка-бурос'ка.* **971** *па-па-па.* **985** *тайе-тайе-тайе.*

## Карта № 306

## ПАДЗЫЎНЫЯ СЛОВЫ ДЛЯ КУРЭЙ

Карта складзена на матэрыяле пункта «г» пытання № 227:

«Падзыўныя словы:

г) для курэй: *ціп-ціп-ціп...*»

Там, дзе ў адказах было адзначана суіснаванне розных падзыўных слоў для курэй, усе яны адпаведнымі знакамі наносяцца на карту.

Ніжэй прыводзіцца матэрыял з тых нас. пп., дзе ёсць заўвагі збіральнікаў, а таксама адзінкавыя назвы, якія абазначаюцца на карце агульным адсылачным знакам: **58** *ц'ип-ц'ип-ц'ип; шыш-шыш-шыш.* **184** *пул'-пул'-пул', ц'ип-ц'ип-ц'ип* — ужываюцца паралельна. **441** *кыц-кыц-кыц.* **478** *кыц-кыц-кыц.*

## Карта № 307

## ПАДЗЫЎНЫЯ СЛОВЫ ДЛЯ ГУСЕЙ

Карта складзена на матэрыяле пункта «д» пытання № 227:

«Падзыўныя словы:

д) для гусей: *це-це-це, цэга-цэга...*»

Ніжэй прыводзіцца матэрыял з тых нас. пп., дзе ёсць заўвагі збіральнікаў, а таксама адзінкавыя назвы, якія абазначаюцца на карце агульным адсылачным знакам: **7** *ту-ту-ту.* **51** *куц'-куц'-куц'.* **62** *ц'и-ц'и-ц'и.* **66** *ц'и-ц'и-ц'и.* **78** *ц'и-ц'и-ц'и.* **299** *к'е-к'е-к'е.* **411** *тас'-тас'-тас'.* **533** *куц'-куц'-куц'.* **718** *γаз-γаз-γаз.* **773** *кес-кес-кес.* **840** *сц'и-сц'и-сц'и.* **950** *тас'-тас'-тас'* гавораць усе.

## Карта № 308

## НАЗВЫ ВАВЁРКІ

Карта складзена на матэрыяле пытання № 231:

«*Белка, вавёрка...*»

Фанетычныя асаблівасці на карце не адзначаюцца.

У каментарыях прыводзіцца матэрыял з тых нас. пп., дзе ёсць заўвагі збіральнікаў, а таксама адзінкавыя назвы, якія абазначаюцца на

карце агульным адсылачным знакам: **23** *вав'όрка*; радзей — *в'ėкша.* **28** *б'ėлка;* радзей — *вав'όрка.* **57** *вав'όрка* — старая назва; *б'ėлка* — пазнейшая форма. **61** *б'ėлка;* радзей — *вав'όрка.* **64** *б'ėлка* — пераважна, але многія зараз гавораць *вав'ýрка.* **66** *б'ėлка* — часцей, але называюць *вав'ýрка.* **67** *б'ėлка; вав'ýрка* — пераважна ў мове старых. **69** *вав'όрка;* вельмі рэдка — *б'ėлка.* **71** *б'ėлка* — рэдка; часцей — *вав'όрка.* **78** *б'ėлка;* часцей — *вав'όрка.* **87** *вав'όрка; б'ėлка* — больш у мове старых. **91** *б'ėлка;* радзей — *вав'όрка.* **128** *б'ėлка;* радзей — *вав'όрка.* **129** *вав'όрка; б'ėлка* — гавораць старыя. **189** *йайόрка;* радзей — *вав'όрка.* **190** *вав'όрка;* радзей — *б'ėлка.* **193** *б'ėлка;* вельмі рэдка — *вав'όрка.* **210** *б'ėлка;* радзей — *вав'όрка.* **214** *б'ėлка;* рэдка — *вав'όрка.* **216** *б'ėлка;* часцей — *вав'όрка.* **298** *вав'όрка;* часцей — *б'ėлка.* **300** *вав'όрка* — гавораць пісьменныя; *б'ėлка* — старыя. **302** *б'ėлка* — часцей; *вав'όрка* — гавораць пісьменныя. **311** *б'ėлка* — гаворыць моладзь; *вав'όрка* — старыя. **357** *вав'όрка;* часам — *б'ėлка.* **368** *вав'όрка* — гаворыць моладзь; *йайόрка* — старыя; *в'ив'όрка.* **428** *б'ėлка, вав'όрка* — ужываюцца паралельна. **431** *вав'όрка;* радзей — *б'ėлка.* **450** *в'ийόрка.* **451** *б'ėлка;* часцей — *йайόрка.* **453** *вав'όрка;* рэдка — *б'ėлка.* **464** *б'ėлка;* рэдка — *вав'όрка, йайόрка* — старое слова. **498** *б'ėлка;* радзей — *вав'όрка.* **509** *б'ėлка* — гавораць усе; *вав'όрка* — школьнікі. **511** *б'ėлка; вав'όрка* — гавораць і думаюць, што гэта парусску. **521** *б'ėлка;* радзей — *вав'όрка.* **523** *б'ėлка; вав'όрка — па кн'ижцы зав'ом.* **596** *б'ėлка* — мала хто гаворыць; часцей — *вав'όрка.* **623** *вав'όрка;* радзей — *б'ėлка.* **668** *б'ėлка;* ужываецца і *йайόрка.* **682** *б'ėлка* — часцей за ўсё; аднак старыя гавораць *воўйýрка.* **711** *вав'όрка, ваўйόрка;* часцей — *б'ėлка.* **772** *веве́рыца.* **784** *вав'όрка* — па-навуковаму; часцей — *б'ėлка.* **824** *б'ėлка; вав'όрка* — ведаюць, але ўжываюць толькі некаторыя старыя. **828** *б'ėлка* — гаворыць моладзь, *вавйόрка* — старыя. **914** *б'ėлка;* рэдка — *вав'όрка.* **988** *б'ėлка;* рэдка — *вав'όрка.*

## Карта № 309

## НАЗВЫ ЗЯЗЮЛІ

Карта складзена на матэрыяле пытання № 232:
«*Кукýшка, кукýля, зязю́ля...*»

На гэтай карце картаграфуюцца словы *зязю́ля, кукýшка, кукýля.*

Там, дзе ў адказах было адзначана суіснаванне розных назваў зязюлі, усе яны адпаведнымі знакамі наносяцца на карту.

Як *з'аз'ýл'а* картаграфуюцца словы: *з'аз'ýл'ка* ў нас. пп. 30, 65, 66, 152, 166, 168, 364, 428; *зогзýл'а* — 961; *з'еўз'ýлка, з'аўз'ýл'а* — 805; *з'аўз'ýл'а* — 819, 823, 888, 1005; *зовзýл'а* — 774.

Як *кукýл'а* картаграфуецца слова *кукýлка* ў нас. пп. 6, 24, 74, 87, 229, 232, 524.

Ніжэй прыводзіцца матэрыял з тых нас. пп., дзе ёсць заўвагі збіральнікаў: **6** *з'аз'ýл'а;* радзей — *кукýлка.* **13** *з'аз'ýл'а* — рэдка; часцей — *кукýшка.* **24** *кукýлка;* часцей — *з'аз'ýл'а.* **25** *з'аз'ýл'а;* часцей —

*кукушка.* **30** *з'аз'ўл'ка;* рэдка — *кукушка.* **32** *кукушка; з'аз'ўл'а* — часцей гаворац старыя. **42** *з'аз'ўл'а;* часцей — *кукушка.* **49** *кукушка;* рэдка — *з'аз'ўл'а.* **66** *з'аз'ўл'ка;* зрэдку — *кукушка.* **70** *з'аз'ўл'а* — часцей; радзей — *кукушка.* **73** *кукушка;* радзей — *з'аз'ўл'а.* **74** *кукулка;* радзей — *з'аз'ўл'а.* **78** *з'аз'ўл'а;* часцей — *кукушка.* **87** *кукушка* — гаворыць моладзь; *кукулка* — старыя. **88** *з'аз'ўл'а;* часцей — *кукушка.* **95** *з'аз'ўл'а;* часцей — *кукушка.* **166** *кукушка; з'аз'ўл'ка* — гаворац старыя. **189** *з'аз'ўл'а, кукушка* — паралельна. **190** *з'аз'ўл'а, кукушка* — паралельна. **253** *кукушка; з'аз'ўл'а* — часцей. **300** *кукушка;* рэдка — *з'аз'ўл'а.* **333** *з'аз'ўл'а;* радзей — *кукушка.* **357** *з'аз'ўл'а; кукушка* — гаворыць моладзь. **407** *з'аз'ўл'а;* рэдка — *кукушка.* **413** *кукушка; з'аз'ўл'а* — гаворац старэйшыя. **428** *з'аз'ўл'ка, кукушка* — паралельна. **464** *кукушка* — гаворыць моладзь; *з'аз'ўл'а* — больш пашырана. **475** *кукушка;* часцей — *з'аз'ўл'а.* **509** *кукул'а, з'аз'ўл'а* — гаворац старыя. **518** *кукушка, кукул'а;* часта старэйшыя называюць *з'аз'ўл'а.* **536** *кукул'а; з'аз'ўл'а* — сустракаецца ў мове старых. **601** *з'аз'ўл'а;* рэдка — *кукушка.* **657** *кукул'а, кукушка* — паралельна. **713** *кукушка;* часцей — *з'аз'ўл'а.* **774** *зовзул'а;* іншы раз — *кукушка.* **780** *з'а'з'ўл'а;* радзей — *кукушка.* **816** *кукул'а* — часцей; *з'аз'ўл'а, кукушка.* **817** *з'аз'ўл'а* — гаворац старыя; *кукушка* — гаворыць моладзь. **819** *кукул'а; з'аўз'ўл'а* — амаль выходзіць з ужытку. **823** *кукушка; з'аўз'ўл'а* — пераважае. **894** *кукушка;* рэдка — *з'аз'ўл'а.* **910** *кукул'а, з'аз'ўл'а; кукушка* — мала хто гаворыць. **914** *з'аз'ўл'а;* рэдка — *кукушка.* **988** *кукушка; з'аз'ўл'а* — рэдка. **1005** *з'аўз'ўл'а;* рэдка — *кукул'а.*

## Карта № 310

### ПАШЫРЭННЕ СЛОЎ каршун, шуляк, ястраб

Карта складзена на матэрыяле пытання № 233:
«*Каршун, ястраб, шуляк...*»

У адказ на пастаўленае пытанне прыведзены розныя назвы драпежных птушак: *каршун, коршун, коршак, каршак, каршук, ястраб, шуляк, сава* і інш. З іх на карце картаграфуюцца толькі *каршун, коршун, коршак, каршак, каршук, ястраб, шуляк,* паколькі гэтымі назвамі ў мясцовых гаворках абазначаецца адзін і той жа від драпежнай птушкі, якая дзярэ курэй.

Астатнія назвы пры картаграфаванні не ўлічваюцца.

Ніжэй прыводзіцца матэрыял з тых нас. пп., дзе ёсць заўвагі збіральнікаў, а таксама адзінкавыя назвы, якія на карце абазначаюцца агульным адсылачным знакам: **14** *каршун* — малы; *йястраб* — вялікі. **74** *каршун — такі, як арол, але толькі меншы.* **273** *каршун* — вялікі; *йястрап* — малы. **298** *йястр'ип;* часцей — *каршун.* **331** *каршун* — радзей; *йястр'иб.* **373** *каршун* — жывіцца дзікімі птушкамі; *шул'ак* — хватае курэй. **399** *каршун* — часцей; *йястрап.* **441** *каршун — мал'ен'к'и; йястрап — в'ал'ик'и.* **451** *шул'ок.* **657** *йястрыб, шул'ак* — розніцы няма. **695** *шул'ак* — вялікі, які крадзе курэй, і малы, які ловіць дзікіх

птушак. **719** *шуля́ш.* **755** *шул’а́к;* радзей — *каршу́н.* **824** *каршу́н; ко́ршак* — больш старое слова. **914** *ко́ршык* — вялікі; *йа́страб* — малы; *ко́ршун; карша́к.* **948** *ко́ршун, йа́страб, шул’е́ка.* **954** *шул’а́ка.* **956** *шуле́н’.* **957** *е́стрыб, шуле́ка.* **959** *шуле́ка.*

## Карта № 311

## НАЗВЫ МАЛАНКІ

Карта складзена на матэрыяле пытання № 240:

«Як у вас называецца: *мала́нка, бліскавіца..?*»

У беларускіх народных гаворках словы *бліскавіца (блыскавіца)* і *маланка, маладня* і інш. часцей за ўсё ўжываюцца ў значэнні 'молния'. Аднак сустракаюцца выпадкі, калі збіральнікі дыялектных матэрыялаў робяць заўвагі: *бл’искав’йца* — «без грому», «водбліскі ў ясную ноч»; *мала́нка* — «на пагоду», «без грому». У большай частцы матэрыялаў гэтыя словы прыводзяцца без тлумачэнняў. У сувязі з гэтым на карту наносяцца ўсе словы, а матэрыялы, дзе ёсць заўвагі збіральнікаў, прыводзяцца ў каментарыях.

У частцы нас. пп. на поўдні Беларусі і часткова ў Гродзенскай вобласці няма адпаведных назоўнікаў для абазначэння маланкі. Гэта з'ява прыроды называецца пры дапамозе дзеясловаў і на карце абазначаецца кружком адпаведнага колеру з перакрэсліваннем.

Дзеяслоў *блі́скае* адзначаны ў наступных нас. пп.: 346, 371, 375, 670, 675, 678, 679, 683, 702, 717, 722, 723, 725, 726, 731, 734, 759, 761, 762, 767, 801, 822, 947, 949, 951, 959, 969.

Дзеяслоў *бліска́е* адзначаны ў наступных нас. пп.: 663, 689, 692, 694, 695, 738, 753, 765, 766, 769, 773, 777, 780, 784, 798, 803, 811, 828, 847, 850, 852, 919, 950, 952, 955—957, 966, 976, 982, 984, 991, 994, 995, 1002, 1024, 1025.

Дзеяслоў *міга́е* адзначаны ў наступных нас. пп.: 737, 739, 962, 966, 967.

Дзеяслоў *зіха́е* адзначаны ў наступных нас. пп.: 1004, 1008, 1011, 1013.

Як *зіха́е* картаграфуюцца 976 *с’с’а́йе.* 978 *с’иха́йе.*

У нас. п. 866 адводзіцца ад картаграфавання слова *мала́йа.*

Як *ма́лання* картаграфуецца *мо́лан’н’а* ў нас. пп. 91, 104, 105, 125, 129, 134, 135, 938.

Як *мо́лнія* картаграфуецца *мо́лнайа* ў нас. п. 522.

Як *мала́ння* картаграфуецца *мылы́н’н’а* ў нас. п. 643.

Як *мала́нка* картаграфуецца *мало́нка* ў нас. п. 869.

Як *бліскавіца* картаграфуецца *вл’искав’йца* ў нас. п. 13.

Як *блыскавіца* картаграфуецца *блы́скав’ица* ў нас. п. 392.

Ніжэй прыводзіцца матэрыял з тых нас. пп., дзе ёсць заўвагі збіральнікаў, падаюцца адзінкавыя ўтварэнні ад картаграфуемых слоў, а таксама іншыя адзінкавыя словы: **6** *малан’йа́* — толькі блішчыць; *блыскав’йца* — блішчыць, а пасля яе гром. **8** *бл’иска́в’йца* — маланка з громам: *рга́* — маланка без грому. **9** *бл’искав’йца*—з громам; *малан’а́*— без грому. **10** *мо́лн’ийа, бл’искав’йца; пры мо́лн’ийи γром н’е γрым’йц’.* **11** *мала́нка* — часцей; *бл’искав’йца.* **13** *мала́нка* — *кал’й в’иха́йец’*

*апшырна; вл'искав'йца — кал'й у з'амл'ў пайаском бйец'.* **14** *бл'искав'йца* — у час грому; *маланка* — на пагоду. **15** *маланка* — без грому; *бл'искав'йца* — з громам. **16** *маланка* — без грому; *бл'искав'йца* — з громам. **20** *маланка* — без грому; *бл'искав'йца* — з громам. **23** *мълан'йа* — калі трошкі паблісквае; *блыскав'йца* або *бл'искав'йца* — моцна блішчыць і суправаджаецца громам. **24** *малан'а* — толькі блішчыць; *блыскав'йца* — перад громам. **25** *бл'искав'йца — йак бл'йс'н'ец' рас, тады друγ'й накрыж;* а *малан'а — паласом так'йм с'в'ец'иц'.* **26** *мылын'а — с'в'ец'иц', а бл'искав'йца — зыгзагам'и и γром γрым'йц'.* **27** *малан'а* — без грому; *бл'искав'йца* — з громам. **30** *малан'а — ас'в'ешчайец'; бл'искав'йца — тол'к'и бл'йскайе.* **31** *бл'искав'йца йес'л'и бл'ишчыц' и γрым'йц'; малан'а — кал'й тол'ка бл'ишчыц'.* **33** *бл'искав'йца — йак п'арун ударыц'; а йак так то — малан'н'а.* **34** *малан'а — тока с'ачец', бл'ис', бл'ис'; а бл'искав'йца — ударайиц', йак п'арун.* **36** *бл'искав'йца — уг'ен', йак γрымоты; уночы — малан'йа.* **66** *малан'н'а;* гавораць і *бл'искав'йца.* **69** *малан'н'а;* вельмі рэдка — *бл'искав'йца.* **126** *молан.* **131** *маланка* — перад дажджом; *бл'искав'йца* — у ясную ноч водбліскі. **138** *маланка* — без грому; *бл'искав'йца* — з громам. **139** *маланка — проста пал'иц'; бл'искав'йца — п'ерад бурай.* **143** *маланка* — без грому; *бл'искав'йца* — з громам. **153** *бл'искав'йца* — з громам; *маланка* — без грому. **155** *маланка; бл'искав'йца* — пасля яе гром. **157** *маланка* — бліскае і грыміць; *бл'искав'йца* — недзе далёка бліскае, але грому не чуваць. **162** *бл'искав'йца* — з громам; *маланка* — без грому. **170** *бл'йскав'ица, маланка* — рэдка. **184** *маланка, блыскав'йца* — ужываюцца паралельна. **185** *маланка, бл'искав'йца* — ужываюцца паралельна. **188** *маланка* — без грому; *бл'искав'йца* — з громам. **195** *маланка* — без грому; *бл'искав'йца* — з громам. **197** *маланка* — кажуць старыя; *бл'искав'йца* — гаворыць моладзь. **198** *бл'искав'йца* — з громам; *маланка* — без грому. **218** *маланка* — без грому; *бл'искав'йца* — з громам. **219** *маланка;* часцей — *бл'искав'йца.* **223** *маланка, молн'ийа;* радзей — *бл'искав'йца.* **235** *бл'искав'йца* — без грому; *малан'н'а* — з громам. **250** *бл'искав'йца;* радзей — *маланка.* **252** *бл'искав'йца;* вельмі рэдка — *маланка.* **269** *мъланка* — радзей; *мълан'н'а.* **337** *мыладн'а* — гавораць старыя; *маланка* — гаворыць моладзь. **372** *бл'йскав'ица; маланка* — без грому. **385** *бл'искав'йца* — з громам; *маланка* — без грому. **404** *молна.* **431** *бл'искав'йца* — з дажджом; *маланка — йак бл'искав'йца, ал'е б'ез дажǯу.* **435** *маланка; бл'искав'йца — з дажǯом.* **437** *молна.* **439** *маланка — з дажǯом; бл'искав'йца— б'ез дажǯу.* **500** *бл'йскала.* **536** *маланка;* часам гавораць *бл'йскав'ица.* **539** *маланка; малан'н'а* — гавораць старыя. **593** *маланка* — часцей; радзей — *молн'ийа.* **655** *бл'искан'н'е.* **682** *бл'йскав'ица;* часам — *маланка.* **700** *блыскот'т'е.* **703** *блыскот'т'е.* **704** *блыскан'н'е.* **713** *маланка* — часцей; *бл'искав'йца.* **717** *молна.* **755** *молна.* **760** *бл'искоты.* **761** *бл'йскайе; маланка* — гаворыць моладзь. **766** *бл'искоты.* **801** *маланка; бл'искав'йца* — радзей, без дажджу. Для маланкі ў час дажджу назвы няма, гавораць — *бл'йскайе.* **821** *бл'искав'йца* — гавораць часта; *моланка, молн'ийа.* **823** *маланка;* радзей — *бл'йскав'ица.*

*л'оўка* — летнія хусткі; *канапл'áнка* — зімовая, цёплая; *кашм'ирóўка, таранóўка* — хусткі з кветкамі і кутасамі. **419** *хýстка — кашм'ирóва, канапл'áнка.* **421** *хýстка — кýпленая; канапл'áнка* — вялікая і цёплая. **424** *хýстка — кашм'ирóвая, бац'истóвая; канапл'áнка* — суконны платок; *платок.* **429** *хýстка* — цяпер носяць жанчыны. **430** *хýстка, пласкóнка* — цёплая хустка; *платóк* — больш святочны і гавораць часцей маладыя, а старыя — *хýстка.* **431** *хýстка* — вялікая, суконная, шаўковая або з другога віду матэрыі. **433** *хýстка; канапл'áнка* — цёплая, *чатырохвугольная.* **434** *хýстка* — вялікая *канапл'áнка,* цёплая. **438** *хýстка* — паркалёвая; *вал'оўка — хýстка з шэрсці,* вельмі вялікага размеру. **440** *хýстка* вязаная з воўны. **450** *хýстка — канапл'áнка; хýстк'и* — суконныя вялікія. **451** *хýстк'и — канапл'áнка,* суконная, паркалёвая; *кашм'ирóўка, бац'истóўка.* **453** *хýстк'и — канапл'áнка,* паркалёвая, *бацістóвая,* шаўковая. **459** *хýстка — канапл'áнка,* вязаная, *кашмірова;* хýстка ў кветкі — *шоўкавы платóчак; платок.* **461** *хýстка — канапл'áнка бацістóвая.* **476** *хýстка* — вялікая; *платóк* — малая хустка. **479** *хýстка* — малая; *хýста* — вялікая. **492** *платóк* — белы, з матэрыі; *хýстка.* **494** *хýстка — таранóўка; платк'ú з мацерыі* робяць. **496** *таранóўка — шарсцяная хýстка, павязваецца кругом галавы.* **499** *хýстка* — суконная, вялікая; *платóк* — меншы. **500** *хýстка* — на галаву завязваюць. **501** *хýстка-таранóўка — бальшая* хустка, *накругла насілі, ззаду махры віселі.* **502** *хýстка* — для старухі; *платóк* — для моладзі. **509** *хýстка* — гаворацъ усе, *хýста, платóк* — па-гарадскому. **511** *платóк, хýстка; хýста* — вялікая. **516** *хýстка, платóк* — адначасова і насавая хустачка. **518** *платк'ú* — усе белыя малыя, летнія і *з каймой або цвятамі; хýстк'и* — зімнія, вялікія і летнія, але цёмныя. **523** *хýстка; хýстачка* — маленькая. **525** *хýстк'и — просценькія, шарсцяныя, валёныя.* **529** *хýстк'и — кашам'úрка, абкрывáнка* — просценькая; *платóк.* **530** *алóмка* — вялікі суконны платок, якім *бабы абхінаюцца ці накідаюць на плечы.* **535** *хýста* — малая і вялікая. **546** *хýста — цвятная; платóк* — белы. **550** *хýста-п'ан'кóўка,* цёплая; *платóк.* **559** *хýстк'и — кашам'úрка, абкрывáнка,* просценькая; *хуста.* **571** *хýстка* — без махроў; *платóк* — з махрамі. **578** *платóк* — гаворыць моладзь; *хýстка* — старыя. **583** *хýстка — самадзельная; платóк* — фабрычны. **586** *хýстка* — не ўжываецца; *платóк* — белы, невялікі; *хýста* — прыгожая, *шарсцяная.* **593** *хýстка* — гавораць старыя; *платóк* — моладзь. **596** *хýстка, платóк, абкрывáнка.* **601** *хýстка; ап'анáл'н'ик* — вялікі цёплы *шарсцяны* платок, з махрамі. **614** *хýстка;* радзей — *платóк.* **616** *хýста, хýстка; платóк* — гаворыць моладзь; *рýдна* — старыя. **628** *γáрус — шарсцяны* платок, з махрамі; *хýста — на галаву абматываюць.* **636** *хýстка* — радзей; часцей — *платóк.* **642** *хýстка, платóк, кушум'úрка.* **649** *хýстка; платóк* — лёгкі. **652** *хýстка; шаныл'úўка — шарсцяная* хустка, з кветкамі; *колопн'ýшка* — цёплая хустка. **662** *хýстка з чатырма канцамі.* **666** *хýстка* — белая, суконная, простая. **671** *хýстка — каз'м'арóва.* **673** купіла *хýстку* — іншых назваў няма; *хýстка* — летняя,*зимняя; конопл'ýха.* **685** *хýстка — конопл'ýха* — зімовая. **689** *хýстка — шалын'óўка, охыл'анка, батыстóўка.* **693** *хýстка* — цёплая, летняя. **694** *плат* — насілі плат;

*хўстка* — тоўстая, вялікага размеру, якой пакрываюцца паверх верхняй вопраткі. **696** *хўстка* — вялікая. **701** *хўстка* — суконная, зімовая, *пакрыўная.* **704** *хўстка, хўста — ухыл'анка, нахыл'енка* — вялікая хустка. **707** *хўстка — канапл'áнка* — цёплая хустка. **716** *хўста-конопл'áнка* — цёплая, суконная; *шал'инóўка* — шаўковая. **729** *хустка-опына* — плечы пакрываюць. **740** *хўстка-ɣопынка* — вялікая зімовая хустка. **758** *хустка — крўчванка, наб'ивáнка;* апошнія дзве — самаробныя. **764** *хўстк'и* — ужываюцца цяпер, завязваюцца *кругом галавы.* **766** *хўстка — в'йртаначка* — цёплая хустка. **768** *хўстка, клынóчок, к'ибáлка.* **769** *хўстк'и лучковы, налóбн'икы, платы.* **774** *хўстка* — вялікая, цёплая; *таранóўка* — квяцістая. **776** *хўстка-тарынóўка — шарсцяная,* з кветкамі. **777** *хўстка-кас'м'ирóўка; платóк* — маладыя носяць; *хўстка* — простая, з паркалю; *кас'н'ерóўка* — тонкая *шарсцяная* хустка, з кветкамі; *канапл'áнка* — простая, клятчастая хустка, баваўняная; *рóбл'ена хўстка* — вязаная пруткамі, вялікая. **778** *платóк* і *хўстка* — розніцы няма, але хустка ўжываецца часцей. **781** *хўстка, платóк — тарынóўка* — вялікая *цвятная; поўтарынóўка* — меншая, з малымі кветкамі. **784** *хўстк'и — канапл'áнк'и, мал'инóўк'и, таранóўк'и, прóўк'и, каўтунóўк'и.* **787** *хўстка* — больш пашырана і розных размераў; *таранўка — цвятная,* з вялікімі кутасамі, надзяваюць звычайна на свята. **791** *хўстка* — маленькая; *таранўўка — шарсцяная; канапл'áнка* — зімовая, вялікая; *платóк* — ужываецца зусім рэдка. **794** *платóк* — маленькі; *хўстка — цвятны платок.* **795** *хўстка-оп'инáнка* — вялікая зімовая хустка; *платóк* — ужываецца вельмі рэдка. **798** *хўстка* — турэцкая; *хўсты* — харошыя; *шал'инóўка — у цвятах,* з махрамі, суконная; *таранóўк'и* — простыя хусты; *мусл'инóўка — белая без цвятоў, дарагія і харошыя.* **800** *хўста, платóк; хўстка* — шаўковая; *шал'инóўка — шарсцяная, з цвятамі длінными; мусл'инóўка — тонкая, бліскучая, харошая і даражэйшая.* **804** *хўстка-абйáзванка* — вязаная хустка. **805** *хўста, путáнк'и, сорнáнка.* **806** *хўстка; платóк* — гаворыць моладзь. **810** *хўстка-оп'йнанка.* **813** *хўстка* — рэдка; *платóк* — новае слова. **814** *платóк* — малы; *хўстка* — вялікая. **816** *хўстка;* рэдка — *платóк; ап'инáха* — вялікая суконная хустка. **818** *хўстк'и, платк'й* — вышытыя, толькі *тарынóўка* з махрамі. **820** *хўстк'и* — лёгкія, летнія; *канапл'áнка — зімняя.* **821** *хўстка — цвятная; тал'инóўка — шарсцяная,* з вялікімі прыгожымі кветкамі; *платóк* — белы; *хўстка-канапл'áнка — зімняя* вялікая хустка. **823** *хўстка* — агульная назва; маленькую беленькую называюць *хўстачкай, платкóм; ап'ин'áнка* — вялікая суконная хустка. **824** *хўстк'и* — падзяляюцца толькі па віду ткані; *вóп'инка* — вялікая, звычайная *шарсцяная* хустка, якою *абкрываюцца ў дарозе; хўстачка; платóк* — белы *з каймой* і без яе. **825** *хўстка — вáл'енка* — цёплая хустка. **829** *платóк, хўстка* — адно і тое ж; *канапл'áнка* — зімовая хустка. **831** *хўстка* — звычайная; *канапл'áнка* — вялікая хустка, метры паўтара, *зімняя.* **832** *хўстка* — звычайная летняя; *оп'инáка* — вялікая *зімняя* хустка; *платóк*—менш ужываецца. **841** *хўстка* — кашміравая; *торнóўка; ліпскія хўстк'и.* **843** *хўстк'и — бап'ин'éнка — валеная* хустка, якой *абкрываюць* плечы; *укрўчванка* — цёплая хустка для галавы. **844** *таранóўк'и, ап'йн'енк'и, падрéзанк'и.* **851**

*хўстк'и* — маленькія; *платк'ӣ — бальшыя,* суконныя; *тарноўк'и.* **865** *хўстка* — з беражком; *платок* — з паркалю. **871** *хўстк'и — мал'иноўк'и, р'ёзанк'и, поўшарс'ц'анк'и.* **877** *хўстка, хўста-канапл'анка — зімняя; ап'инистайа — ёю ўкручваюцца жанчыны.* **882** *хўста-канапл'анка*—зімняя, вялікая; *хўстка* — летняя. **897** *хўста* — бальшая, *хўстка* — малая. **898** *платок* — гарусны, пяньковы, кортавы; *нап'инка.* **912** *хўстка* — цёплая; *платок — сіццавы або паркалёвы.* **919** *хўстка* — малая; *ап'инатка* — вялікая. **920** *платок, хўстка* — цёплая і тонкая, летняя; *канапл'анка* — зімовая, цёплая; *абап'инаха* — вялікі платок; *шарсц'анка.* **922** *хўста* — вялікая; *γарусоўка — з шэрсці; платок.* **932** *хўстка — γаруска, кушам'ерка.* **934** *хўстка* — гарусавая, *шарсцяная; платок, абмўтка; хўста* — вялікая. **943** *хўста — касц'инка, кашым'ирка.* **946** *хўстка-опыночка, шаныл'ивка.* **952, 954** *хўстка-охыл'анка* — вялікая хустка. **955** *хўстка* — вялікая, ёю пакрываюць плечы. **959** *хўстка — кунупл'енка.* **964** *хўстка* — і больш нічога не сустракаецца. **969** *хўстка* — звычайная летняя і зімовая вялікая; *оп'инанка.* **971** *хўстка-оп'инанка*— зімовая; *к'ибалк'ӣ, латка* — скручаная хустка, павязаная на галаву, а над ёю яшчэ адна хустка, рагі якой падкручаны пад першую хустку. **972** *хўста — хўстка, торноўка* — прыгожая хустка. **973** *хўстка* — вялікая, малая. **975** *хўстка-тарн'оўка.* **981** *хўстка* — розных размераў; *оп'ин'инка* — вялікая па размеру, якая накідваецца звычайна на плечы; *платок — куплены,* звычайна белага колеру. **983** *хўстк'и* — не адрозніваюцца па размерах і па матэрыі, з якой яны зроблены. *Хўстк'и* — часцей; *платок* — звычайна бывае белага колеру. **986** *платок, хўстка* — розніцы ў значэнні няма. **998** *хўстка* — вязаная з *воўны.* **1004** *хўстка, платок* — па-руску. **1009** *хўстк'и* — бываюць розных відаў. **1012** *хўстка-терноўк'и* — тонкія *шарсцяныя,* у кветкі; *поўтерновочк'и.* **1014** *хўстка* — простая і вязаная з воўны. **1018** *хўстка-канапл'анка* — цёплая, носяць зімою; *кашм'ерка — шарсцяны платок з кашмеравым берагам.* **1025** *платок* — суконны; *хўстка-канапл'анка, тарноўка.*

## Карта № 333

## НАЗВЫ ШАРСЦЯНЫХ ВЯЗАНЫХ РУКАВІЦ З АДНЫМ ПАЛЬЦАМ

Карта складзена на матэрыяле пытання № 265:

«Рукавіцы з адным пальцам: *рукавіцы; вязёнкі, рукаўкі, дзянкі...»* Словы *пярчаткі, пальчаткі* як назвы рукавіц з пяццю пальцамі пры складанні гэтай карты не ўлічваліся.

На карце картаграфуюцца толькі назвы вязаных шарсцяных рукавіц з адным вялікім пальцам.

У наступных нас. пп. адпаведныя знакі ставяцца на аснове адзначанай у матэрыялах формы назоўнага склону адзіночнага ліку картаграфуемых слоў: **1** *испотка.* **2** *испотка* — з адным пальцам. **26** *спотка.* **106** *йиспотка.* **121** *испотка* — з адным пальцам. **200** *испотка — с анным пал'цам.* **284, 285** *испотка.* **291** З адным пальцам — *спотка.* **305**

*спо́тка — в'а́заныйа.* **307** *испо́тка* — з адным пальцам. **315** *испо́дка.* **322** *спотка* — калі адзін палец. **446** *рукав'йца* — з адным пальцам. **556** *испо́дка, рукав'йца.* **566** *рукав'йца.* **590** *в'аз'о́нка.* **600**, **618**, **629** *рукав'йца.* **628** *в'аз'о́нк'е, рукав'йца — кал'и то́л'ка аг'йн па́л'ец.* **665**, **700** *рукавыц'а.* **734** *руковыца.* **757** *рукав'йца — з па́л'ечн'иком.* **761**, **775** *рукав'йца* — з адным пальцам. **857** *рукав'йца — з адны́м па́л'цам.* **947** *рукавыца.*

Адзінкавыя назвы шарсцяных рукавіц з адным вялікім пальцам даюцца агульным адсылачным знакам: **5** *пл'о́тк'и.* **88** *г'а́начк'и;* часцей — *рукав'йцы.* **90** *испо́тк'и, г'анк'й* — рукавіцы з адным пальцам. **272** *ва́рушк'и.* **293** *ва́р'ешк'и.* **401** *ва́рашк'и* — рукавіцы з адным пальцам. **541** *ва́рушк'и.* **599** *курав'йцы.* **836** *ма́н'ки.* **914** *γанчуγа* — з адным пальцам.

Адводзяцца ад картаграфавання назвы рукавіц з пяццю пальцамі, назвы, якія абазначаюць шытыя рукавіцы са скуры, аўчыны і іншага матэрыялу, а таксама адзінкавыя словы, значэнне якіх у адказах не раскрыта, у выніку чаго нельга высветліць, якія рукавіцы (вязаныя ці шытыя, з адным ці з пяццю пальцамі, з шэрсці ці з іншага матэрыялу) яны абазначаюць: **1** *рукав'йцы* — з пяццю пальцамі. **3** *рукав'йцы* — шыюцца са скуры і ўжываюцца пераважна зімой. **23** *спо́тка* — суконная; *рукав'йцы — ко́жаныйа; г'а́нк'и.* **28** *пал'ча́тк'и* і *рукав'йцы* — калі маецца пяць пальцаў. **30** *рукав'йцы — кожаныйи.* **32** *рукав'йцы* — скураныя спокі. **35** *рукав'йцы* — пашыты са скуры. **36** *з во́ўны — испо́тк'и, а с кажуха́ — рукав'йцы.* **37** *рукав'йцы — з аўчы́нк'и.* **38** *скураны́йа — рукав'йцы наг'айу́цца на испо́тк'и, кап испо́тк'и н'и дра́л'ис'а.* **42** *па́л'цы разам — испо́дк'и; на йих з'имо́й наг'ивайут скураны́йа рукав'йцы.* **57** *рукав'ицы* — брызентавыя або хромавыя, надзяваюцца на вязаныя. **63** *рукав'йцы — с п'ац'й па́л'цам и з двум па́л'цам.* **64** *рукав'йцы — ко́жаныйа; спо́тк'и* — надзяваліся пад *рукавіцы,* цёплыя, з палатна ці чаго іншага. **65** *испо́тк'и — на йих рукавйцы ко́жаныйе с аве́ччай шку́рк'и.* **68** *на шерсц'а́ныйа испо́тк'и мо́жна наг'е́ц' рукав'йцы скура́ныйа.* **69** *рукав'йцы — з кожы, з адны́м па́л'цам.* **71** *рукав'йцы — скура́ныйа.* **72** *рукав'йцы шу́бныйи, с аўчыны.* **74** *ко́жаныйи с адны́м па́л'цам — рукав'йцы.* **75** *ко́жаныйи с адным па́л'цам — γе́та рукав'ицы.* **78** *ко́жаныйа з адным пал'цам — рукав'йцы.* **81** *рукав'йцы мушчы́нскийа шыйуц' с кажуха́, с анны́м па́л'цам; рам'е́нныйа у л'ес йезг'иц', то́жа с анны́м па́л'цам.* **83** *испо́тк'и, рукав'йцы;* як першыя, так і другія — са скуры. **91** *рукав'йцы — з аўчыны.* **95** *рукав'йцы — шы́тыйа з аўчы́ны, з адны́м па́л'цам, пав'е́рх аг'ава́йуц'.* **96** *рукав'йцы — шы́тыйа з шу́бы.* **101** *рукав'йцы — ко́жанныйа, п'ирча́тк'и з пяццю пальцамі.* **102** *рукав'йцы — шы́тыйа.* **104** *рукав'йцы — шыйуцца з йако́γа-н'е́буц' матерыйа́лу, наг'ейу́цца на испо́дк'и.* **105** *рукав'йцы* — з аўчыны. **119** *рукав'ицы — ко́жаныйа бувайуц'.* **120** *рукав'йцы — пашытыйа з аўчы́н.* **125** *рукав'йцы — с ко́жы, мац'ерйа́ла.* **129** *рукав'йцы — ц'о́плыйи, с шу́бы шйуцца, в'азо́нк'и — платк'й ц'о́плыйа на з'иму́.* **135** *рука́в'йцы* — з аўчыны. **163** *рукав'йцы* — шыюцца з сукна. **191** *рукав'йцы* — шыюць са скуры з адным пальцам. **192** *рукав'йцы — ко́жа-*

*ныйа з адны́м пал'цам.* **227** *рукав'іцы — шы́йуц' из сукна́, ко́жы.* **229** *испо́дк'и — в'а́заныйа; рукав'іцы — шы́тыйа.* **243** *рукав'іцы* — з кажуха. **278** *рукав'іцы* — з адным пальцам, шыюць з сукна. **300** *рукав'іцы — бруз'е́нтавыйа бува́йуц'.* **302** *рукав'іцы* — з адным пальцам, шытыя з шубы, сукна і г. д. **305** *рукав'іцы — шы́тыйа.* **318** *ɣал'іцы — з аўчы́нк'и.* **330** *испо́дк'и; рукав'іцы* — з сукна. **332, 333** *рукав'іцы* — з сукна, аўчыны. **338** *рукав'іцы — шы́л'ис'а с сукна́ ц'и шу́бы.* **570** *рукав'іцы*—з двума пальцамі. **586** *рукав'іцы—ко́жаныйа, надз'ава́йуцца на испо́дк'и.* **593** *рукав'іцы ко́жаныйа.* **601** *рукав'іцы* — з двума пальцамі. **603** *рукав'іцы* — мехавыя. **607** *рукав'іцы* — шубныя. **614** *рукав'іцы* — з аўчынкі і сукна. **625** *рукав'іцы* — абшытыя палатном або пашытыя з аўчыны. **636** *рукав'іцы — з йак'е́й шу́бы, с сукна́, з за́йчыны.* **642** *рукав'іцы шы́йуцца с чаɣо́-н'е́буɣ', ныɣ'айу́цца ны в'аз'о́нк'и, штоб н'и ц'о́рл'ис'а.* **649** *рукав'іцы — шы́тыйа с сукна́, шу́бы.* **898** *в'аз'о́нк'и — с п'аці'у́ па́л'цам'и.* **909** *в'аз'о́нк'и* — з двума, трыма і пяццю пальцамі. **938** *в'аз'о́нк'и — с' п'аці'и́ па́л'цам'и.*

Ніжэй прыводзіцца матэрыял, які змяшчае заўвагі збіральнікаў і носьбітаў дыялекту аб картаграфуемых словах: **3** *испо́тк'и* — вяжуцца з пражы. **6** *з адны́м па́л'цам — рукав'іцы, а ко́жаныйа рукав'іцы называйуцца у́шмалы.* **12** *спо́тк'и* — часцей. **24** *з адны́м па́л'цам — рукав'іцы або спо́тк'и.* **25** *рукав'іцы и спо́тк'и — адно́; сло́ва рукав'іцы ужыва́йуц' редка.* **30** *испо́тк'и — шарсц'аны́йи з во́уны.* **34** *испо́тк'и — суко́ныйи, са́м'и ро́б'уц'; рукав'іцы што испо́тк'и.* **37** *испо́тк'и — зв'а́заныйа з ше́рсц'и.* **38** *испо́тк'и — з н'і́так.* **55** *испо́тк'и, рукав'іцы* — з адным пальцам. **66** *рукав'іцы* — з адным пальцам; *ɣ'е́лал'ис' пашы́ры, йаны́ нав'е́рх наɣ'ива́л'ис'е, а падн'іс испо́тк'и в'а́заныйе пруткáм'и.* **67** *испо́тк'и* — вязаныя з адным або з пяццю пальцамі. **69** *з'имо́й у рукав'іцы уɣ'айу́цца испо́тк'и* (зроблены з авечай шэрсці). **70** *спо́тк'и — час'ц'е́й в'а́заныйи.* **71** *испо́тк'и* — з воўны. **72** *спо́тк'и — с шарсц'аны́х н'і́так.* **75** *испо́тк'и* — з адным пальцам; *в'а́заныйа ш ше́рс'ц'и ав'е́чак.* **77** *испо́тк'и* — рукавіцы з адным пальцам, вязаныя. **78** *в'а́заныйа з адн'і́м па́л'цам — испо́тк'и.* **81** *испо́тк'и — су́конныйа с анны́м па́л'цам.* **84** *спо́дк'и* — рукавіцы з адным пальцам. **101** *йспо́тк'и* — рукавіцы з нітак, надзяваюцца пад кожаныя. **104** *испо́тк'и — в'а́заныйи з' н'і́так ав'е́ччый ше́рс'ц'и.* **118** *йиспо́тк'и — ш'ирс'ц'аны́йи с адн'і́м па́л'цам.* **122** *в'аз'о́нк'и* — рукавіцы з адным пальцам. **163** *в'аз'о́нк'и* — з авечай шэрсці. **197** *рукав'іцы, испо́дк'и* — адно і тое ж, маюць адзін палец. **234** па даўнаму *испо́тк'и;* цяпер — *рукав'іцы.* **236** *испо́тк'и, рукав'іцы* — адно і тое ж, з адным пальцам. **238** *спо́тк'и — с анны́м па́л'цам, з двума́ па́л'цам'и — рукав'іцы.* **300** *спо́тк'и* — з воўны, з даматканага сукна. **307** *испо́тка* — з адным пальцам. **328** *испо́дк'и* — з адным пальцам, носяць жанчыны; *рукав'іцы* — носяць мужчыны, вязаныя або суконныя. **421** *рукав'іцы;* другіх слоў няма. **429** *рукав'іцы* — з двума пальцамі ці адным. **509** *рука́ўк'и; рукав'іцы* — радзей. **514** *рука́ўка — з анны́м па́л'цам, з во́уны, с кажуры́ны шы́йуц', с сукна́ шы́йуц'; сло́ў рукав'іцы, в'аз'о́нк'и, ɣ'ан'к'і́ — у нас са́ус'ім н'і́ма.* **516** *руко́ўк'и* — з адным пальцам, сяды-

тады кажуць і *рукав'йцы.* **518** *рукáўк'и* — абшытыя палатном, у іх мужчыны ездзяць у лес; *рукав'йцы* — больш нежныя, як мужчынскія, так і жаночыя. **534** *рукав'йцы* і *рукáўк'и* — з адным пальцам. **565** *рукав'йца — с адным пáл'цам; с ус'йм'и пáл'цам'и — пал'чáтка.* **593** *рукав'йцы кóжаныйа; спóдк'и* — з адным пальцам. **624** *в'аз'óнк'и* — з адным пальцам. **636** *в'аз'онк'и — сымаг'éлк'и, з адным пáл'цам.* **673** *рукав'йцы;* іншых назваў няма. **722** ужываецца толькі слова *рукав'йцы.* **750** *рукав'йцы* — з адным пальцам і з пяццю. **805** *рукав'йцы* — без пальцаў ці з адным пальцам. **885** *рукав'йцы* — без пальцаў і з пальцамі.

## Карта № 334

## ПАШЫРЭННЕ СЛОЎ гаспадар, хазяін (хадзяін, хаджаін)

Карта складзена на матэрыяле пытання № 268:

*«Гаспадáр, гаспадыня, хадзяін, хаджáін, хадзяйка, хаджáйка...»*

На гэтай карце картаграфуюцца наступныя словы: *гаспадáр, аспадáр, хазяін, хадзяін, хаджáін.*

У тых выпадках, калі ў адказах было адзначана суіснаванне некаторых з вышэй прыведзеных слоў, усе яны адпаведнымі знакамі наносяцца на карту.

Ніжэй прыводзіцца матэрыял з тых нас. пп., дзе ёсць заўвагі збіральнікаў, а таксама адзінкавыя назвы, якія на карце абазначаюцца агульным адсылачным знакам: **11** *γаспадáр;* часцей — *хаз'áйин.* **12** *γаспадáр;* радзей — *хаз'áин.* **13** *γаспадáр* — часцей; рэдка — *хаз'áин.* **23** *хаз'áин;* радзей — *γаспадáр.* **32** *хаз'áин;* радзей — *γаспадáр.* **34** *хаз'áйин;* радзей — *γаспадáр.* **64** *γаспадáр;* радзей — *хаз'áин.* **68** *γаспадáр;* рэдка — *хаз'áйин.* **69** *хаз'áин;* рэдка — *γаспадáр.* **71** *хаз'áйин;* радзей — *γаспадáр.* **131** *хаз'áйин;* рэдка — *хаг'áин.* **157** *γаспадáр;* радзей — *хаг'áин.* **189** *хаз'áин; хаз'áйка* — уладальнікі хаты; *γаспадáр, γаспадын'а* — вядуць гаспадарку. **193** *аспадáр,* рэдка — *хаг'áин.* **198** *γаспадáр, аспадáр;* рэдка — *хаз'áин.* **222** *γаспадáр;* радзей — *хаз'áин.* **226** *хъз'áин; γъспъдáр* — гавораць старыя. **229** *γаспадáр;* часцей — *хаз'áйин.* **237** *γаспадáр* — гаварылі раней; *хаг'áин* — цяпер. **239** *γаспадáр* — раней; *хаг'áйин* — цяпер. **249** *хаг'áин;* раней называлі — *γаспадáр.* **271** *γаспадáр* — рэдка; часта — *хаг'áин.* **279** *хаг'áин* — гаспадар хаты. **298** *γаспадáр* — радзей; часцей — *хаз'áин.* **388** *γаспадáр; хаз'áин* — шырэй. **396** *γаспадáр;* рэдка — *хаг'áин.* **445** *γаспадáр;* некаторыя гавораць *хаз'áин.* **447** *хаз'áин;* раней гаварылі *γаспадáр.* **463** *хаз'áин; γаспадáр* — раней. **466** *хаз'áин; γаспадáр* — раней. **518** *γаспадáр* — гаворыць старэйшае пакаленне; *хаз'áин* — маладшае. **528** *хаз'áин, хаг'áин;* часта — *γаспадáр.* **562** *хаг'áин;* радзей — *γаспадáр.* **570** *хаг'áин; хаз'áин* — гаворыць моладзь. **604** *хаз'áин;* рэдка — *γаспадáр.* **662** *хаз'áин;* рэдка — *γаспадáр.* **693** *γаспадáр; хаз'áин* — гаворыць моладзь і людзі сярэдняга ўзросту. **695** *γаспадáр* — гавораць старыя; *хаз'áин* — моладзь. **702** *γаспадáр* —

часцей; радзей — *хаз'айн.* **706** *үаспадáр;* раней больш часта гаварылі *хаз'áин.* **716** *үаспадáр;* рэдка — *хаг'áин.* **722** *хаз'áин;* часцей — *үаспадáр.* **752** *хаҗ́айн;* радзей — *үаспадáр.* **767** *чолов'йк.* **774** *хаг'áин;* радзей — *үаспадáр.* **781** *үаспадáр* — у значэнні 'муж'; *хаŭáин* — чалавек, які вядзе гаспадарку. **809** *үаспадáр, хаз'áин* — у адным значэнні. **817** *хаг'áин* — гаворыць моладзь; *хаŭáин* — старыя. **819** *үаспадáр* — хазяін і муж; *хаŭáин* — сустракаецца зрэдку. **821** *үаспадáр* — у значэнні 'муж'; *хаŭáин* — у значэнні 'гаспадар'. **823** *үаспадáр* — старое слова; *хаг'áин, хаŭáин.* **825** *үаспадáр* — гаворыць старэйшае пакаленне; *хаг'áин* — малодшае. **831** *үаспадáр* — раней; часта — *хаŭáин.* **852** *үаспадáр;* часцей — *хаг'áин, хаз'áин.*

## Карта № 335

## НАЗВЫ ПОКУЦІ

Карта складзена на матэрыяле № 272:

«Ці ўжываюцца ў вас словы і ў якім значэнні... *кут, пóкуць*?»

На значнай тэрыторыі покуць не мае спецыяльнай назвы: слова *кут* там ужываецца як для абазначэння пачэснага кута, так і для абазначэння астатніх кутоў, аб чым сведчаць і шматлікія аўтарскія заўвагі.

Як *кут* картаграфуецца *кутóк:* 5, 12, 22, 30, 40, 51, 88, 90, 91, 176, 182, 192, 200, 201, 216, 220, 382, 453, 666, 738.

Як *пóкуц'* картаграфуецца *пóкут:* 443, 909, 978, 1008.

Як *нáкуц* картаграфуецца *нáкут:* 11 і *нáкац':* 195.

Адзінкавыя выпадкі на карце адзначаюцца зорачкай: **41** *вýүал.* **49** *уүóл.* **70** *бажн'йца.* **76** *ýүал.* **78** *крáсный кут; бажн'йца.* **114** *вуүóл.* **117** *ýүъл.* **124** *вуүóл; уүóл.* **182** *вýүал.* **683** *вуүлó.* **694** *покýтн'ий кутóк.* **735** *покýтный кутóк.* **736** *уүóл.* **737** *уүóл.* **1019** *вóкуц'.* **1024** *крáсны кут.*

У каментарыях прыводзяцца заўвагі збіральнікаў і носьбітаў гаворак: **6** *кут* — вугал у хаце. **8** *кут* — так называецца кожны кут у хаце. **11** *кут* — любы кут у хаце; упрыгожаны кут завецца *нáкут.* **21** *кут* — вугал у доме. **28** *кут* — вугал у хаце, упрыгожаны вышытымі ручнікамі. **32** *кут* — вугал у хаце; слова покуць няма. **36** *у хац'е чатыры куты.* **42** *кутóм у нас завецца абы які кут.* **44** *крáсны вýүал.* **48** *кут* — пачэсны вугал у хаце, дзе вісяць партрэты. **52** *кут* — у значэнні *'крáсны кут'.* **58** *кут* — *крáсны кýт у хáц'е.* **61** *кут* — *крáсны вýүал.* **64** *кут* — відны кут, на ўсход сонца, астатнія цёмныя. **65** *кут* — упрыгожаны, астатнія — *кутк'й.* **68** *кут* — *крáсны вýүал,* а астатнія куткі. **69** *кут* — *крáсны вýүал,* а любы іншы — *кутóк.* **73** Кожны вугал у хаце завуць *кут.* **74** Усе *вуүлы* ў хаце называюць *кутамі.* **85** *кут* — упрыгожаны пярэдні вугал у хаце. **88, 90, 91** *кут* — упрыгожаны, дзе стаіць стол; *вуүлы* — усе астатнія куткі ў хаце. **93** *кут* — пачэснае месца. **96** *кут* — галоўны вугал у хаце. **98** *кут* — у значэнні *'крáсны вýүал'.* **101** *кут* — усе чатыры куты хаты. **104** *кут* — дзе партрэты вісяць, і астатнія таксама называюцца *куты.* **105** *кут* — вугал

у хаце. **106** *кут* — упрыгожаны; усе астатнія — *вуɣлы́.* **111** *кут* — які прыбіраецца, у час дажынак ставіцца сноп жыта. **120** *кут* — галоўны вугал у хаце. **123** *кут* — тое месца, дзе сходзяцца дзве сцяны. **125** У хаце чатыры *куты́.* **127** *кут* — у значэнні 'покуць'. **129** *кут* — дзе стол стаіць, астатнія — вуглы. **131** У *куту́* стаіць стол. **139, 140, 141, 142, 152** *по́куц'* — прыбраны кут; *кут* — усе астатнія вуглы ў хаце. **144** *ку́т* — галоўны вугал у хаце. **145** *по́куц'* — пярэдні вугал з левага боку. **150** *покуц'.* **155** *на́кут* — вугал, дзе стаіць стол. **157** *кут* — ужываецца і ў значэнні *'кра́снаɣа кута́'.* **158** *кут* — кожны вугал у хаце. **164** *кут — кра́сны кут.* **171** *кут — кра́сны кут.* **175** *кут* — месца ў хаце, якое знаходзіцца супраць парога; там стаіць стол. **176** *куто́к — кра́сны кут.* **179** *кут* — вугал, дзе стаіць стол. **193** *на́куц'* — упрыгожаны кут; *кут* — кожны кут. **194** *кут* — галоўны кут, які ўпрыгожваюць **196** *на́кут* — упрыгожаны кут, а астатнія куткі. **198** *на́кут; куто́к* — толькі вугал у хаце. **200** *куто́к* — упрыгожаны, а астатнія — *вуглы́* **202** *на ку́ц'и* свата садзяць. **207** *кут* — пярэдні вугал. **213** Гасцей садзяць на *куц'е́.* **222** *кут* — дзе стаіць стол; *куто́к* — любы вугал. **225** *кут* — любы вугал у хаце. **235** *кут* — у значэнні *'кра́сны ву́ɣал'.* **236** *кут — кра́сны ву́ɣал.* **241** *кут — кра́сны кут.* **242** *кут — кра́сны ву́ɣал; куток* — звычайны вугал. **244** *кут* або куток у хаце і *ву́ɣал* — на дварэ **246** Стол стаіць на *куц'е́,* астатнія — *кутк'и́.* **247** *кут* — дзе стаіць стол; дзе смецце — *куто́к.* **248** *кут* — вугал у хаце, дзе стаіць стол. **253** *ву́ɣал* — знадворку; у хаце — *кут.* **254** *кут; на куц'е́ сва́ц'йа с'аɣ'и́ц'.* **269** *кут* —упрыгожаны вышытымі ручнікамі; *куто́к* — за печкай. **270** *кут* — дзе стаіць стол. **275** *у ха́ц'и то́л'к'и аɣ'и́н кут, а то — уɣо́л.* **276** *кут — кала стъла́.* **278, 279** *кут* — галоўны вугал у хаце. **281** *кут — кра́сны ву́ɣал* у хаце. **283** *кут* — у хаце; дзе стаіць стол; покуць не ўжываецца. **292** *кут — кра́сны куто́к.* **296** *кут — кра́сны.* **297** Усе чатыры *куты́* называюць. **299** *кут* — пярэдні вугал у хаце. **301** *кут* — цэнтральнае месца за сталом у самым вуглу; *куто́к* — цёмны *вуɣо́л'чык.* **302** *кут, по́куц' — кра́сны кут;* акрамя таго кут — любы ў хаце вугал **307** *кут — кра́сны;* астатнія — *вуɣлы́.* **326** *кут* — любы вугал у хаце. **328** *кут* — упрыгожаны, а так — *вуɣо́л.* **344** *ɣ'е с'м'е́ц'ц'о, то — кут, а кал'а стала́ — по́куц'.* **346** *по́куц'* — упрыгожаны кут; *кут* — цёмны куток. **347** *у по́куц'и ста́йиц' стол; сва́т с'ада́йа ў по́куц'и.* **352** *по́куц'* — галоўны кут; астатнія проста *куты́. Два снапе́ — аспада́р и аспады́н'а — у по́куц'и ста́в'аццa, а кал'и́ жы́то во́з'ац' у ɣумно́, то йаɣо́ п'е́ршаɣо заклада́йуц'.* **353** *по́куц' — кра́сны ву́ɣал.* **354, 355, 357** *по́куц'* — упрыгожаны кут; усе астатнія — *куты́.* **361** *по́куц' — кра́сны ву́ɣал* у хаце. **362** *по́куц'* — адзін з кутоў у хаце. **363, 365, 368** *по́куц' — кра́сны кут; кут* — любы вугал у хаце. **370** *по́куц'* — месца, на якое садзяць паважаных гасцей і маладых. **371** *паста́в'ил'и снапо́к на по́куц'и.* **372** Лава і стол стаяць у *по́куц'и;* першы сноп ставяць у *по́куц'и.* **375** *с'е́но кладу́ц' на по́куц'и на кал'а́ды; йак зажына́йуц', то п'е́ршы снапо́к н'асу́ц' на по́куц', ɣе́ты снапо́к, йак жац' канча́йуц', то заб'ира́йуц' и кладу́ц' у клац'.* **380** *у по́куц' стаўл'а́йуц' зажа́ты сноп, йак зажы́нк'и, а айк дажы́нк'и, то в'ано́к уйу́ц'.* **383** *етаже́рка або стол*

*стайац' у покуц'и.* **384** *покуц'* — кут у хаце, дзе стаіць стол. **385** *маладыйа с'ел'и на покуц'и.* **387** *стол стайиц' у покуц'и.* **388** *кут* — любы вугал хаты; *покуц'* — упрыгожаны кут. **392** Адзін з вуглоў называецца *покуц'.* **393, 394** *покуц'* — ужываецца ў значэнні *'красны вугал'*, а ўсе астатнія — *куты.* **395** *покуц'* — цэнтральнае месца ў хаце. **396, 398, 399** *покуц' — красны вуҮал;* астатнія — *куты.* **400** *кут* — унутраны вугал у доме. Пры адным з кутоў стаіць стол; верхняя частка гэтага кута называецца *покуц'. Покуц'* звычайна ўпрыгожваецца зелянінаю. Месца за сталом, якое знаходзіцца пад *покуц'ц'у,*— пачэснае: тут сядзяць маладыя ў час вяселля, а таксама паважаныя госці. Ніжняя частка *кута* называецца *кутком.* **401, 402, 403, 404, 405** *покуц'— красны вуҮал;* астатнія — *куты.* **406** *покуц'* — упрыгожаны кут у хаце каля стала. **411** *покуц'.* **420** *покуц'* — галоўны кут у галоўным пакоі. **422** *покуц'* — вугал, дзе стаіць стол. **424** *покуц'.* **425** *покуц'* — кут у хаце, дзе стаіць стол. **430** *кут* — вугал у хаце, дзе стаіць стол — ганаровае месца. **431** На *куц'е* госця садзяць. **435** *кут — у хац'е пачотнайе м'еса.* **439** *на куц'е* садзяцца малады з маладою. **442** *покуц'* — рэдка гавораць; часцей — *кут.* **449** *покуц' — красны вуҮал* у хаце, дзе стаіць стол. **458** *покуц'* — дзе стаіць стол; астатнія — *куты.* **459** *на покуц'и маладу пасаґ'ил'и.* **461** *покуц'* — вугал, дзе стаіць стол; іншыя вуглы называюцца *кутам'и.* **469** *кут* — у хаце *красны кут.* **475** *кут — красны кут* у хаце; астатнія — *кутк'и.* **477** *кут* — упрыгожаны; *покут* — дзе качарэжнік. **485** *покуц'; мыц'ал'ны куток.* **488** *кут — красны вуҮал; мыц'ал'н'ик* — вугал, дзе стаіць пасуда. **508** Маладую з маладым пасадзілі на *кут.* **515** У хаце чатыры *куты.* **516** *кут* — кожны вугал хаты. **519, 520** *куток — красны уҮал.* **522** *кут* — дзе стаіць стол. **528** *кут* — дзе партрэты, а астатнія — *кутк'и.* **531** *кут — красны вуҮал.* **536** *покуц'* ведаюць, але ўжываюць рэдка; *кут* — у значэнні *'красны кут'.* **550** *кут* — у хаце, дзе стаіць стол. **613** *кут* — вугал за сталом. **623** *маладыйа ус'иҮда ны куц'е.* **624** *кут — красны кут;* астатнія — *вуҮлы.* **661** *покутте* — месца, дзе ляжыць *м'артв'ец.* **666** *куток; покуц'* — ужываецца рэдка. **675, 678, 679** *покуц'* — самае ганаровае месца ў хаце. **682** *покуц'* — месца каля сцяны, дзе стаіць стол; тут кладуць *пакойн'ика.* **693** *в кутовы стуйит' ст'ил; покут'* — месца на печы. **694** *покут'; покутн'ий куток.* **706** *покуц'* — дзе стаіць стол; астатнія — *кутк'и.* **708** *покуц' — красны вуҮал.* **710** *покуц' — красны вуҮал.* **718** *покуц' — красны кут;* астатнія — *куты.* **727** *покут'т'е — красны вуҮал.* **728** *покут'е — де л'ижыц' м'иртвац'.* **739** *покут'т'е* — месца на кухні супраць печы. **746, 749** *покуц' — красны вуҮал.* **753** *покуц'* — лепшы вугал у хаце. **759** *покут'е* — дзе стаіць стол. **764** *покут'т'е* — дзе стаіць стол. **765** *покуц' — красны кут.* **766, 769, 770** *покут'т'е — красны кут.* **778** *кут,* дзе стаіць стол, называецца *покуц'.* **781** На *покуц'и* сядзяць маладыя. **783** *покуц'* — чысты вугал. **785** *покуц'* — упрыгожаны вугал у хаце. **796** *покуц'* — упрыгожаны вугал у хаце, дзе размяшчаецца стол. **797** *покуц'.* **801** *покуц'* — упрыгожаны кут у хаце, дзе стаіць стол. **820** *кут* — кожны вугал хаты. **825** *покуц'* — кут, дзе стаіць стол. **833** *покуц' — красны кут у хац'е.* **838, 839, 840,**

**845, 848** *по́куц' — кра́сны ку́т.* **885** *кут — кра́сны ку́т;* астатнія — *кут-к'и́.* **904** *кут, по́куц'* — у хаце, дзе стаіць стол. **909** *по́кут — кра́сны ку́т.* **910** *на куту́ набо́жн'ик'и, хв'ира́нка.* **911** *кут* — месца ў хаце, дзе стаіць стол. **912** *по́куц' — кра́сны ку́т.* **932** *кут* — вугал у хаце, дзе стаіць стол. **957** *по́кут'* — адгароджаны вугал. **964** *по́кут'е* — вугал, дзе знаходзяцца партрэты. **972, 973, 975** *по́куц' — кра́сны ку́т.* **976** *по́кут'йе* — дзе стаіць стол. **977** *по́кут'йе — кра́сны кут,* дзе стаіць стол. **986** *по́куц' — кра́сны куто́к.* **989** *по́куц'ц'е* — дзе стол стаіць. **991** *по́куц'* — вугал каля стала. **995** *по́куц' — кра́сны кут у ха́ц'е.* **996** *кут — г'е в'е́шайуц' палац'е́нца.* **999** *кут* — упрыгожаны; астатнія тры — *ву́γлы.* **1002** *по́куц'* — красны кут. **1025** *кут — г'е набо́жн'ик'и (набо́жн'ик — до́ўγ'и ручн'и́к, а уц'ира́л'н'ик — каро́тк'и).* **1027** *кут* — красны; астатнія *у́γлы.*

## Карта № 336

## НАЗВЫ ПАДЛОГІ

Карта складзена на матэрыяле пункта «а» пытання № 274:

«Ці ўжываюцца ў вас словы і ў якім значэнні:

а) *падло́га*?»

На карце атрымалі адлюстраванне словы, якія абазначаюць назвы падлогі: *падлога, мост, памост, пол.*

У цэлым радзе адказаў не ўказваецца значэнне картаграфуемых слоў. Так, не ўказваецца значэнне слова *мост* у наступных нас. пп., аднак яно наносіцца на карту, таму што адзначаецца на тэрыторыі, дзе пашырана слова *мост* у значэнні 'падлогі': 324, 325, 327, 339, 514, 538, 539, 540, 542, 547, 548, 552, 555, 573, 577, 582, 583, 587, 589, 590, 606, 607, 615, 626, 629, 637, 644, 846, 859, 861, 863, 877, 879, 882, 890, 895, 902, 905, 906, 907, 908, 915, 922, 923, 926, 928, 930, 934, 935, 939, 940, 988, 1015, 1020, 1022, 1023.

Не картаграфуецца слова *мост* у наступных нас. пп.: 411, 439, 482, 715, 757, 772.

У частцы адказаў не ўказана значэнне слоў *пол, падлога, памост, падмосткі,* таму яны не картаграфуюцца ў наступных нас. пп.: 629, 882, 890, 902, 906, 922, 934, 1015 *пол;* 582, 583, 890 *падло́γа;* 983, 984 *само́ст;* 988 *падмо́стк'и.*

Адсылачным знакам (зорачкай) даюцца адзінкавыя назвы падлогі: **764** *зем.* **799** *дол.* **812** *долуо́ўка.* **868** *падмо́ст.*

Маленькая зорачка ставіцца ў тых выпадках, калі адзначаныя варыянты маюць іншае значэнне: **384** *падло́γа* — гэта пол у хаце; *мост* — падмосткі, дзе кладуць неабмалочанае збожжа. **559** *мост* ужываецца ў значэнні 'пол'; *падло́γа* — броўны, якія кладуць пад мост. **564** *мост* — гэта пол; *мост* кладуць на *падло́γу.* **566** *мост* — гэта пол; *падмо́стак, падло́γ'и* — падклад пад палом. **592** *мост; пад масто́м падмо́с'н'ик'и.* **601, 604** *мост* — ужываецца ў значэнні 'пол': *падло́γа* — падкладаецца пад мост.

У нас. п. 534 як *памо́ст* картаграфуецца *падмо́ст.*

У матэрыялах сустрэліся наступныя заўвагі збіральнікаў адносна ўжывальнасці : пашырэння аднаго з варыянтаў: **75** *падлóуа; пол* — гавораць часцей. **78** *пол;* радзей — *падлóуа.* **87** *падлóуа;* часцей — *пол.* **128** *мóст* у значэнні *'падлóуа'* цяпер ужываецца рэдка; звычайна гавораць *пол.* **132** Раней гаварылі *мост,* а цяпер — *пол.* **133** *мост* у значэнні 'падлога' ўжываецца толькі старымі. **135** *мост,* але часцей кажуць *пол.* **174** *падлóуа,* але ўжываецца і слова *пол.* **193** *падлóуа; пол* — новае слова. **213** *падлóуа,* радзей — *пóл.* **229** *падлóуа;* часцей — *пóл.* **234** *памóст* ужываецца ў значэнні 'падлогі', але вельмі рэдка. **293** *пол;* раней — *мост.* **328** *мост;* радзей — *пол,* гаворыць у асноўным моладзь. **437** *падлóуа;* радзей — *пол.* **501** *падлóуа* — цяпер сталі гаварыць; *пол* — гэта ў хаце; *мост* — на ганку. **502** *падлóуа* — раней; цяпер — *пол.* **509** *мóст* і *памóст* — падлога. Так заўсёды гаварылі раней; цяпер часцей гавораць *падлóуа.* **511** *падлóуа* — часцей. **514** *мóст, падлóуа.* **523** *мóст* у значэнні 'падлога' ўжываецца рэдка; цяпер часцей гавораць *пóл.* **530** *памóст* — часцей; рэдка — *пол, падлóуа.* **566** *пол;* часцей — *памóст.* **570** *мост;* рэдка — *падлóуа.* **578** *мост* — старое слова. **778** *падлóуа* — часцей; *пол.* **799** *пол* — гаварылі раней; *пудлóуа* — цяпер і *дол, памóст.* **909** *мост* у значэнні 'падлога' ўжываецца рэдка. **1025** *мост;* культурней — *пол.*

Акрамя заўваг падобнага характару маюць месца і іншыя: **57** *мост* — падлога ў хаце і ў хляве. **345** *мост* — у каморы; дома — *падлóуа.* **366** *падлóуа; пол* без дошак — *ток.* **372** *падлóуа* — драўляная; з гліны — *ток.* **400** *падлóуа* — калі з дрэва, а так — *ток.* **768** *помýст* — у клеці; *падлóуа* — у хаце.

## Карта № 337

## ПАШЫРЭННЕ СЛОВА ляда І ЯГО ЗНАЧЭННЕ

Карта складзена на матэрыяле пытання № 281:

«Ці ўжываюцца ў вас словы і ў якім значэнні: *ляда* — а) высечаны ўчастак лесу, які раскарчоўваецца пад поле; б) сарнякі ў абмалочаным збожжы; в) набіліцы ў кроснах?»

Адказы на гэта пытанне паказалі, што слова *ляда,* акрамя прыведзеных вышэй значэнняў, можа выступаць таксама ў значэнні: 1) прылады (рычага), пры дапамозе якой падымаюць цяжкія прадметы (часцей за ўсё бярвенні); 2) драўлянага карыта ў сячкарні; 3) беспарадку, шкоды і некаторых іншых.

Адводзяцца ад картаграфавання матэрыялы, у якіх зафіксавана слова *ляда (лядь)* без указання яго значэння ў наступных нас. пп.: 53, 108, 132, 172, 261, 268, 272, 277, 290, 297, 318, 321, 322, 324, 327, 335, 339, 426, 482, 524, 526, 542, 560, 573, 574, 575, 576, 577, 579, 584, 585, 587, 590, 591, 592, 594, 597, 607, 609, 620, 626, 629, 638, 641, 644, 674, 686, 719, 737, 757, 758, 860, 861, 878, 879, 891, 892, 893, 902, 903, 907, 908, 916, 917, 923, 935, 961, 988, 1006, 1020.

Знак Н, які паказвае на адсутнасць слова *ляда,* ставіцца на аснове адказаў «няма», «не ўжываецца», «не ведаюць», «не гавораць» і інш. У частцы адказаў замест прамога ўказання на адсутнасць слова *ляда,* прыводзяцца такія словы, як *палянка, прасека, смецце, азаддзе, набіліцы, набілкі,* і некаторыя іншыя. У такіх выпадках таксама ставіцца знак Н.

У адпаведнасці з пастаўленым пытаннем асноўным адрозненнем, якое паказана на карце, з'яўляецца значэнне картаграфуемага слова. Словаўтваральныя і граматычныя адрозненні на карце не атрымалі адлюстравання. Гэты матэрыял прыводзіцца ніжэй. Як слова *ляда* картаграфуюцца ў нас. пп.: 2, 3, 13, 23, 31, 36, 63, 69, 71, 106, 111, 114, 117, 131, 142, 259, 260, 403, 418, 436, 444, 445, 446, 456, 461, 499, 522, 690, 727, 731, 733, 734, 735, 738, 748, 897 *л'áды* (pl. tantum); 662, 683, 723, 770 *л'ад;* 948, 952 *л'аz';* 948, 957 *л'аz'ўх;* 958 *л'адéй;* 110, 889 *л'адá*; 1009 *л'адó;* 586, 588, 618 *пал'áдак.*

Як *ляда* ў значэнні 'высечаны ўчастак лесу, які раскарчоўваецца пад поле' картаграфуецца няпоўны адказ *ляда* — у значэнні 'высечаны ўчастак лесу' ў наступных нас. пп.: 1, 28, 43, 44, 49, 58, 59, 61, 66, 77, 94, 106, 128, 130, 133, 135, 156, 161, 191, 193, 226, 228, 230, 232, 234, 240, 241, 243, 248, 252, 258, 259, 260, 262, 263, 267, 271, 274, 275, 278, 283, 289, 291, 293, 294, 295, 296, 299, 301, 303, 306, 310, 315, 323, 326, 328, 329, 336, 401, 420, 511, 515, 525, 529, 538, 539, 570, 586, 593, 596, 599, 603, 606, 611, 621, 622, 624, 625, 649, 709, 721, 785, 826, 837, 855, 858, 864, 866, 868, 875, 876, 882, 894, 901, 909, 913, 915, 918, 927, 928, 933, 938, 968, 973, 980, 999, 1003, 1007, 1008, 1014.

Чырвоным кружком картаграфуюцца і некаторыя іншыя значэнні слова *ляда,* аднак блізкія да значэння 'высечаны ўчастак лесу, які раскарчоўваецца пад поле', у наступных нас. пп.: **2** *л'áды* — у значэнні 'пасека'. **75** *л'áда — йéта кал'й ал'ёшн'ик выс'акуц'; на л'áz'и с'éйац' мóжна.* **78** *л'áда* — зямля, якую ачышчаюць з-пад лесу. **94** *л'áда* — дзе цярэбяць малады лес. **105** *л'áда* — высечаны лес або хмызняк. **106** *л'áда* — высечаны лес. **245** *л'áда — сн'имáйецца л'ес, п'éрвы γод л'áда.* **499** *л'áды* — высечаныя кусты або лес.

У знаку (аранжавы кружок) аб'яднаны адказы, дзе слова *ляда* набывае эмацыяльнальную афарбоўку і адзначана ў значэнні 'беспарадак, шкода' і г. д.: **11** *л'áда* — ужываецца ў значэнні 'шкода'; *кóн'и на пóл'и параб'йл'и л'áда.* **12** *кóн'и с'óн'н'а л'áда параб'йл'и* (шкоды); *брáтка, скóка там л'áда нарóбл'ина.* **13** *л'áдаў,* г. зн. шкоды, *нараб'йла бýра, скац'йна.* **14** *л'áда* — ужываецца ў значэнні 'беспарадак'. **19** *л'áда* — непрыбранае месца ў лесе, дзе секлі дрэвы, суччa. **27** *у хáц'е йак л'áда* — калі нічога няма ў хаце. **28** *л'áда* — беспарадак, паломаныя платы, парасчыняныя дзверы. **30** *л'áда* — шкода. **31** *л'áды* — беспарадак. **37** *л'áда* — беспарадак; *у хáц'е ўс'ó л'áдам уз'алóс'а.* **42** *л'áда* — беспарадак. **47** *л'áда* — калі навалена многа дрэў у лесе, нельга прайсці. **55** *л'áда* — беспарадак у хаце, непрыбрана. **71** *на-*

*рóбл’ина йак у л’áдах* — калі беспарадак. **73** *л’áда* — беспарадак; *у хáц’е йак у л’áz’е.* **79** *л’áда* — калі коні патапталі засеянае поле. **175** *л’áда* — беспарадак у пакоі. **235** *л’áда* — вытаптанае жывёлай месца ў пасевах.

Акрамя асноўных значэнняў, якія на карце адзначаюцца кружочкамі рознага колеру, у адказах прыводзяцца адзінкавыя значэнні картаграфуемага слова. На карце яны паказаны адсылачным знакам: **6** *л’áды* — дзікае месца. **25** *л’áда* — *γéта так’й малажн’áк у л’éс’и.* **27** *л’áда* — будынак, у якім ніхто не жыве. **38** *л’áда* — участак пожні, дзе нічога не расце, пасвяць жывёлу. **42** *л’áда* — *былá пóжн’а з с’енакóсам.* **56** *л’áда* — *дл’а пáхаты.* **62** *л’áда* — сучча ў лесе. **64** *л’áда* — месца, дзе высеклі лес і нічога не пасеялі. **65** *л’áда* — толькі назва ўрочышча, зарослага кустарнікам. **68** *л’áда* — расцярэбленая плошча для пашы. **70** *л’áды* — назва ўрочышча. **86** *л’áда* — участак зямлі, на якім некалькі год нічога не сеялі, а цяпер раскарчоўваюць пад лён. **98** *Зал’áдz’е* — назва вёскі. **102** *л’áда* — кусты з вадою. **125** *л’áда* — пусташ. **168** *л’áда* — паша. **196** *л’áда* — назва ўрочышча. **198** *л’áда* — мала лесу; *л’áда* — стаіць чубок лесу сярод поля. **204** *л’áда* — цёмны лес без травы. **247** *л’áда* — *запýшчанайо пóл’а, л’асóк рас’ц’é.* **249** *л’áда* — запушчанае поле, зарослае. **331** *л’áда* — зямля, якая ніколі не аралася. **363** *л’áда* — назва ўрочышча. **372** *Л’áды* — назва сяла. **412** *Л’áда* — у церніцы. **471** *Крывóйе л’áда* — назва аднаго з палеткаў. **487** *Л’áды* — назва пасёлка. **502** *л’áда* — *у нас м’éсца, там кагдá-та быў л’ес, съчáс тры дýба стайц’ тóл’к’и, былó рáн’ша балóц’истайе м’éсца, ц’ап’éр йаγó назывáйуц’ л’áда.* **508** *Л’áды* — назва вёскі. **535** *л’áда* — кавалак поля, размешчаны далёка ад вёскі, круглаватай формы. **652** *л’éда* — прагаліна. **662** *л’ад* — прагаліна на полі, дзе не ўзышло збожжа або бульба. **680** *л’áдо* — калода, на якой рэжуць касой салому для жывёлы. **742** *л’áда* — у значэнні ’шчакет ад плота’. **754** *л’áдо* — месца, дзе растуць ягады. **790** *л’áда* — ужываецца для абазначэння новага месца, якое зарасло густым маладым лесам. **841** *л’áдо* — назва ўрочышча. **852** *л’áда* — поле, урочышча. **865** *л’áда* — зямля, якая доўга не апрацоўвалася. **868** *л’áда* — цаліна. **871** *л’áда* — кавалак зямлі. **872** *л’áда* — сухадольны лес. **877** *л’áда* — *арýц’ пóплаў ц’и с’енажáц’, z’е в’ек н’е пахáлас’а, а ус’аγдá трáвы.* **887** *бал’шéйа л’áдо зан’áў пóл’а ц’и с’енакóсу.* **888** *л’áда* — назва ўрочышча. **919** *л’áда* — частка поля, на якім сеюць. **942** *л’áда* — вялікая плошча, тое ж, што і майдан. **966** *л’áдо* — каля рэчкі луг, або высечаны ўчастак лесу, куды вывозяць з лесу дрэвы. **970** *Л’áда* — назва хутара. **974** *л’áда* — назва ўрочышча. **976** *л’áдо* — *л’êс, у том л’есý рост’é б’ерóза, в’éр’ес, йегóдн’ик, брусн’ика; высóко м’éсто ў л’éс’и.* **978** *л’áдо* — *харóшы л’êс.* **986** *л’áдо* — участак лесу, на якім расце сасняк. **989** *л’áдо* — *ч’йста пол’áна ў л’éс’и ц’и паўз болóто.* **996** *л’áда* — участак лесу. **1010** *л’áдо* — *пóл’е н’е спáхано; γавóраць: ц’в’óрдо, йак л’áдо.* **1023** *Л’áда* — назва вёскі. **1026** *Л’áды* — назва вёскі. **1027** *л’áда* — кавалак засеянага поля.

## Карта № 338

### ПАШЫРЭННЕ СЛОЎ вяселле, свадзьба

Карта складзена на матэрыяле пытання № 285:

«Ці ўжываюцца ў вас словы і ў якім значэнні: вясе́лле?»

Побач са словам *в'ас'е́л'л'е* як літаратурнай нормай у матэрыялах адзначана слова *сва́з'ба.* Слова *в'ас'е́л'л'е* распаўсюджана на тэрыторыі Брэсцкай, Гродзенскай, на поўдні Гомельскай і частцы Мінскай абл. На астатняй тэрыторыі адзначана паралельнае суіснаванне двух слоў: *в'ас'е́л'л'е* і *сва́з'ба.*

На карце картаграфуецца пашырэнне гэтых слоў. У тых выпадках, калі ў адказах было адзначана суіснаванне прыведзеных слоў на карце, картаграфуюцца яны абодва.

Адводзяцца ад картаграфавання словы *бал, гул'а́нка, запо́йины, б'ас'е́да* і інш., паколькі яны ўжываюцца ў іншым значэнні з картаграфуемымі словамі (адведзеныя ад картаграфавання словы прыведзены ў каментарыях). У каментарыях таксама прыводзяцца адказы і тлумачэнні картаграфуемых слоў з боку асоб, ад якіх запісан матэрыял або з боку таго, хто яго запісваў. Так, напрыклад, у матэрыялах часта адзначаецца, што некаторыя з картаграфуемых слоў не ўжываюцца, сустракаюцца рэдка, пераважаюць у мове старэйшага пакалення або моладзі, ужываліся раней або цяпер: **3** *в'ас' е́л'л'е;* часцей — *сва́з'ба.* **6** *в'асе́ла* — рэдка; часцей — *сва́з'ба.* **9** *в'ас'е́л'л'а* — калі замуж выходзяць; *сва́з'ба* — ужываецца таксама. **12, 23, 24** *в'ас'е́л'л'е* — часцей; *сва́з'ба.* **25** Калі ў нас бывае *сва́з'ба,* то гавораць *в'ас'е́л'л'е.* **26, 27** *сва́з'ба* і *в'ас'е́л'л'е* — паралельна. Але калі сядзяць за сталом і п'юць, то кажуць — *в'ас'е́л'л'е;* калі едуць, то гавораць — *сва́з'ба.* **67** *в'ас'е́л'л'е* — калі людзі весяляцца, іграюць, танцуюць, п'юць. **70, 73** *в'ас'е́л'л'е* — ужываецца часцей, чым *сва́з'ба.* **78** *в'ас'е́л'л'е* — часцей; *сва́з'ба.* **88** *сва́з'ба* — калі жэняцца людзі; *в'ас'е́л'л'е* — не ўжываецца. **99** *в'исе́л'л'а* — быць вясёлым. **100** *сва́з'ба* — ужываецца часцей, чым *в'ис'е́л'л'а.* **101** *в'ас'е́л'л'а* — раней, а цяпер — *сва́з'ба.* **105** *што на цябе в'ас'е́л'л'а нейкае найшло?* **139** *в'ас'е́л'л'а* і *сва́з'ба* — ужываюцца як сінонімы, але *в'ас'е́л'л'а* — часцей. **140** *в'ас'е́л'л'а;* радзей — *сва́з'ба.* **216** *в'ас'е́л'л'а;* радзей — *сва́з'ба.* **220** *сва́з'ба* — радзей; *в'ас'е́л'л'а.* **234** *сва́з'ба* — часцей; *в'ас'е́л'л'а.* **237** *в'ас'е́л'л'а* — гавораць старыя; *сва́з'ба* — моладзь. **252** *в'ас'е́л'л'а* — ужываецца рэдка і гавораць старыя; *сва́з'ба* — больш пашырана і гаворыць моладзь. **295** *в'ас'е́л'л'а* — гулянка, дзе сабяруцца людзі і гуляюць. **300** *сва́з'ба* — часцей; *в'ас'е́л'л'а.* **302** *в'ас'е́л'л'а* — радзей, гавораць старыя; *сва́з'ба* — больш пашырана. **326** *в'ас'е́л'л'е* — гавораць старыя; *сва́з'ба* — моладзь. **337** *в'ас'е́л'л'е* — ужываецца радзей, чым *сваз'ба.* **407** *в'ас'е́л'л'е* — радзей *сва́з'ба.* **442** *в'ас'е́л'л'е* — часцей; *сва́з'ба* — таксама гавораць. **463** *в'ас'е́л'л'а; сва́з'ба* — больш распаўсюджана. **464** *в'ас'е́л'л'а* — раней было больш пашырана; *сва́з'ба* — цяпер больш ужываецца. **466** *в'ас'е́л'л'е;* часцей — *сва́з'ба.* **481** *в'ас'е́л'л'а* — гавораць старэйшыя; *сва́з'ба* — малодшыя. **499** *в'ас'е́л'л'е* — калі замуж ідуць ды гуляюць;

*сва́з'ба* — у тым жа значэнні, але ўжываецца рэдка. **500** *в'ас'е́л'л'е; сва́з'ба* — цяпер маладыя гавораць. **501** *сва́з'ба* — цяпер; *в'ас'е́л'л'е* — даўней. **509** *в'ас'е́л'л'а* — звычайна кажуць, але зараз ужываецца і *сва́з'ба.* **510** *в'ас'е́л'л'е; сва́з'ба* — ужываецца радзей, гавораць маладыя. **528** *в'ас'е́л'а* — рэдка; часцей — *сва́з'ба.* **529** *в'ас'е́л'л'а* — часцей; *сва́з'ба.* **550** *в'ас'е́л'л'е* — часцей; радзей — *сва́з'ба.* **562** *сва́з'ба; в'ас'е́л'л'а* — гаварылі раней. **592** *сва́з'ба;* часцей — *в'ас'е́л'л'а.* **604** *в'ас'е́л'л'е; сва́з'ба* — гавораць маладыя. **608** *бал.* **614** *в'ас'е́л'л'а;* часцей — *сва́з'ба.* **623** *сва́з'ба;* рэдка — *в'ас'е́л'л'ла.* **636** *сва́з'ба;* радзей — *в'ас'е́л'л'е.* **642** *сва́з'ба;* рэдка — *в'ас'е́л'л'а.* **702** *выс'и́л'л'е* — калі хто-небудзь жэніцца; рэдка — *сва́з'ба.* **706** *в'ас'е́л'л'о; сва́з'ба* — цяпер. **784** *в'ас'е́л'л'е;* радзей — *сва́з'ба.* **798** *б'ес'е́да.* **800** *в'ес'и́л'л'е;* радзей — *сва́з'ба.* **813** *в'ас'е́л'л'е; сва́з'ба* — новае слова. **816** *в'ас'е́л'л'е;* побач — *сва́з'ба.* **818** *в'ес'е́л'йе;* часцей — *сва́з'ба.* **822** *барыш — вып'иўка пры згодзе, запо́йны — запіваюць нявесту аб пасагу і вяселлі.* **823** *в'ьс'е́л'л'е, сва́з'ба;* першае слова старэйшае, яшчэ і цяпер пераважае ва ўжытку над словам *сва́з'ба.* **824** *в'ас'е́л'л'е* — ужываецца ў значэнні рускага 'свадьба'. **825** *в'ас'е́л'л'а;* радзей — *сва́з'ба.* **870** *в'ас'е́л'л'е* — рэдка; часцей — *сва́з'ба.* **871** *в'ас'е́л'л'а;* часцей — *сва́з'ба.* **885** *в'ес'е́л'л'е* — гавораць старыя; *сва́з'ба* — моладзь. **889** *в'а́с'е́л'л'е* — раней было, а цяпер — *в'е́чар.* **898** *сва́з'ба; в'ас'е́л'л'е* — зборышча. **911** *в'ес'ел'л'е; сва́з'ба* — гаворыць моладзь. **913** *в'ас'е́л'л'а* — гаворыць моладзь. **1020** *сва́з'ба;* рэдка — *в'ас'е́л'л'а.* **1021** *в'ас'е́л'л'а;* часцей — *сва́з'ба.*

---

# ЗМЕСТ

Размеркаванне аўтарскай работы

Уступны артыкул «Да тэарэтычных пытанняў лінгвістычнай геаграфіі» напісан *Р. І. Аванесавым*. Уступны артыкул «З гісторыі распрацоўкі лінгвістычнай геаграфіі беларускай мовы»: раздзел «Беларуская дыялекталогія і лінгвістычная геаграфія к пачатку работы над «Дыялекталагічным атласам беларускай мовы» напісан *Я. М. Рамановіч,* другі раздзел — «Работа над «Дыялекталагічным атласам беларускай мовы» і ўступны артыкул «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» напісан *Ю. Ф. Мацкевіч*. «Даведачныя матэрыялы» складзены *А. П. Груцо*. «Бібліяграфія да «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» складзена *Я. М. Рамановіч*.

Складанне карт і каментарыяў да іх было размеркавана паміж аўтарамі наступным чынам: *А. У. Арашонкава* — карты № 33, 74—76, 79, 84—88, 95—109, 180, 181, 200—202, 221, 241—245, 249, 251, 265, 272—275, 281—283, 311, 321, 322, 325, 337; *М. В. Бірыла* — № 28—32, 34, 35, 37—48, 50—57, 61, 62, 64, 264; *Н. Т. Вайтовіч* — № 1—24, 26, 269—271, 284; *І. М. Гайдукевіч* — № 25, 59, 60, 224, 255, 256, 320, 323, 324; *А. П. Груцо* — № 58, 131, 220, 232—234, 248, 326, 333; *З. Ф. Крайчанка* — № 27, 231, 278—280, 290—292, 298, 315, 317, 331, 332, 338; *А. А. Крывіцкі* — № 49, 63, 132—142, 186, 187, 205, 219, 227; *Ю. Ф. Мацкевіч* — № 36, 148—179, 203, 204, 316; *А. Р. Мурашка* — № 77, 78, 91, 92, 110—130, 209—212, 217, 225, 257—259, 276, 285, 293, 300, 328, 329, 335, 336; *Я. М. Рамановіч* — № 182—185, 188—199, 235—239; *А. І. Чабярук* — № 65—73, 89, 90, 143—147, 206—208, 213—216, 218, 222, 223, 226, 228, 230, 240, 247, 254, 260—263, 266, 267, 287—289, 297; *В. М. Шэлег* — № 80—83, 93, 94, 229, 246, 250, 252, 253, 268, 277, 286, 294—296, 299, 301—310, 312—314, 318, 319, 327, 330, 334.

